# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА, МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

ОРГАН ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

*КНІГА ВОСЬМАЯ*



ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
МЕНСК — 1936

# РОДНЫ, ЛЮБІМЫ ІОСІФ ВІСАРЫЁНАВІЧ!

Гневам, усё нарастаючым, усё знішчаючым магутным гневам—напоўніліся сэрцы 170-ці мільённага народу, калі даведаўся ён з матэрыялаў абвінаваўчага заключэння аб усіх агідных злодзействах мярзотнікаў з контррэволюцыйнай трацкісцка-зіноўеўскай банды, прадаўшых душу сваю і цела германскай фашыстоўскай ахранцы, з жахлівым цынізмам і разлікоўнасцю рыхтаваўшых замах на самае дарагое, што ёсць у народа, на яго правадыроў.

Пачуццё вялікага болю, нянавісці да ворагаў агарнула нас, калі даведаліся мы, што тройчы прэзрэнныя Троцкі, Зіноўеў і Каменеў адабралі ад народа палкага правадыра, чалавека вялікага сэрца—Сяргея Міронавіча Кірава.

Ледзяным жахам павеяла на нас, калі даведаліся мы, што трацкісцка-зіноўеўскія вырадкі рыхтавалі замах на Вашае жыццё—жыццё, якое належыць усяму працоўнаму чалавецтву, жыццё, за якое мы—сыны вялікага народу Саюза Советаў—гатовы аддаць сваю кроў.

Родны Іосіф Вісарыёнавіч!

Вы—правадыр працоўнага чалавецтва, яго бацька і настаўнік. Вы—сонца, пад якім квітнее комуністычнае грамадства ў нашай краіне. Вы і лёс комунізма—непарыўнае цэлае. Вось чаму народы Совецкага Саюза поўны да Вас высокай любові, вось чаму яны, абкружаючы Вас, свайго роднага і любімага генія і ўсіх Вашых саратнікаў жалезнай сцяной, недаступнай для ворага і здраднікаў аднадушна заяўляюць:

Смерць бандыцкім вырадкам, якія замахнуліся на самае дарагое, што ёсць у рэволюцыі—на яе мозг, сэрца,—на Сталіна!

Выпаліць і да канца раскрыць усе змяіныя гнёзды трацкісцка-зіноўеўскай контррэволюцыі!

Родны Іосіф Вісарыёнавіч!

Мы яшчэ больш узмоцнім нашую пільнасць, рэволюцыйную непрымірымасць да ворагаў народа. Вы-ж беражыце сябе, беражыце сваё здароўе, жывіце ў добрым здароўі многа-многа год на радасць і шчасце чалавецтва.

Беларускія совецкія пісьменнікі выказваюць Вам сваю гарачую любоў і адданасць і заканчваюць словамі з ліста беларускага народа да Вас:

„Хай смутак вачэй тваіх добрых не росіць,  
Ці сонейка захад, ці сонейка ўсход.  
Прымі прывітанне, якое прыносіць  
Табе, правадыр, беларускі народ“.

Ад імя Саюза Совецкіх пісьменнікаў БССР:

Янка Купала, Якуб Колас, Андрэй Александровіч, Міхась Лынькоў, Пятрусь Броўка, Платон Галавач, Ільля Гурскі, Якаў Бранштэйн, Міхась Чарот, Пятро Глебка, Ізі Харык, Кандрат Крапіва, Эдуард Самуйлёнак, Кузьма Чорны, М. Кульбак, Ал. Кучар, Барыс Мікуліч, Змітрок Бядуля.

# ПАТРАБАВАННЕ НАРОДУ ВЫКАНАНА

*Рэзалюцыя схода савецкіх пісьменнікаў БССР*

Прыгавор Ваеннай Калегіі Вярхоўнага Суда СССР па справе трацкісцка-зіноўеўскай фашысцкай банды забойцаў і шпіёнаў вынесены.

Меч пролетарскай дыктатуры абрушыўся на галовы ашалелых забойцаў, страціўшых чалавечае аблічча ў сваёй звярынай нянавісці да партыі большэвікоў, да соцыялізма, да совецкага народу, да нашага роднага Сталіна.

Расстраляць вырадкаў усіх да аднаго—патрабаваў увесь совецкі народ, патрабавала 170 мільёнаў будаўнікоў соцыялізма, якія пачалі жыць шчаслівым, радасным жыццём пад кіраўніцтвам вялікага Сталіна.

Патрабаванне народа выканана.

Дарма крывавы кат Троцкі і яго змяіны вырадак Седоў разлічваюць схавацца ад гнева працоўных пад крылом фашысцкіх ахраннікаў. Іх усюды насцігне караючая рука народа.

Крывава-брудны вузел здрадніцтва, вераломства і цынізма рассечаны. Але асталіся яшчэ не разблытанымі ніці, якія вядуць ад трацкісцка-зіноўеўскай банды да Бухарына, Рыкава, Радэка, Пятакова і інш.

Мы просім совецкі суд неадкладна расследваць гэтыя сувязі, каб ніводнае змяінае гняздо бандыцкай контррэволюцыі не асталося на нашай совецкай зямлі. Гэту зямлю мы палівалі свяшчэннай крывёю барацьбітоў за пролетарскую дыктатуру. Мы—уладарныя гаспадары совецкай зямлі, і мы не дазволім панам з другога Інтэрнацыянала навязаць нам свае мярзотныя хадайніцтвы, мы не дазволім нікому выгарадзіць злейшых ворагаў чалавецтва—трацкісцка-зіноўеўскіх вырадкаў.

Усё, што ёсць культурнага і чэснага ў чалавецтва, разам з совецкім народам з палёгкаю ўздыхне, даведаўшыся аб тым, што банда фашысцкай контррэволюцыі знішчана.

Цалкам і поўнасцю адабраючы прыгавор Ваеннай Калегіі Вярхоўнага Суда СССР па справе трацкісцка-зіноўеўскай контррэволюцыйнай шайкі, мы, совецкія пісьменнікі БССР, выказваем сваю безгранічную любоў да роднага Сталіна—вялікага нашага настаўніка і друга.

Жыві наш бацька і геніяльны правадыр, многія-многія годы, на страх ворагам народа і на радасць усяму працоўнаму чалавецтву.

Мы клянемся сцерагчы цябе і тваіх слаўных саратнікаў, як зяніцу вока.

Мы клянемся мацаваць нашу пільнасць так, каб ніякі гад контррэволюцыі не пранік у наш квітнеючы сад, які ўзрошчаны клопатам і доглядам вялікага садоўніка соцыялізма—Сталіна.

Няхай жыве таварыш Сталін!

*Андрэй Александровіч*

## АДЗІН ПРЫСУД—РАССТРЭЛ

Майстры крывавай, воўчай справы,
Наш меткім быў заўжды прыцэл;
Усіх, чаргой, з падсуднай лавы
Мы павядзем вас на расстрэл!

Вы ўсе нянавісцю авіты,
На вас ляжыць крыві пячаць.
Ніякай літасці! Бандытаў
Прысуд народны:—расстраляць!

Хацелі ў сэрца ўлезці лапай,
Асіраціць хацелі нас.
Мы б'ем без промаху у Гестапо—
Калі мы б'ем, забойцы, вас!

* *
*

Маўчыць гісторыя,
Вякі жыцця не знаюць
Такіх раз'юшаных людской пароды псоў.
Я гневам бацькаўшчыны горда заяўляю—
Апошні час мярзотнікам прышоў!

А наша сонца нам ярчэй заззяла,
Узнялося ўвысь,
І разлілося ўшыр.
Вядзі наперад нас, вядзі нас вал за валам,
Наш родны Сталін, бацька, правадыр.

Табе—любоў, табе—магутнасць наша,
Жыццё свае мы зложым за цябе.
Ты—зодчы шчасця ў барацьбе бясстрашнай,
Ты—кліч, ты—сцяг у лютай барацьбе.

* *
*

Сям'ёй стосемдзесятмільённай
Мы йдзем дарогай перамог.
Разбіць наш поступ, мур калонаў
Ні ў чым, нідзе ніхто не змог.

Не трацім пільнасць мы ў паходах,
Заўсёды меткі наш прыцэл.
Хто рвецца сэрца ўзяць народа
Таму адзін прысуд—расстрэл!

*Пятрусь Броўка*

## ХАЙ НАД ВАМІ ПАВІСНЕ ПРОЛЕТАРСКІ МЕЧ!

Мы ганарымся—
Сталін з намі!
Ён даў нам
ясны роўны шлях—
Мы ў Крэмль
плылі ўсе ручайкамі,
а акіянамі
з Крэмля—
Хто з кайлам,
хто з сярпом,
хто з ромбам
Прыняўшы ясных думак
дар...
А вы?
Вы клалі
усюды бомбы,
Зладзюгі вы
з-пад чорных хмар!
Над светам
віслі навальніцы...
а Сталін
рыхтаваў адказ—
Рэспублікі каваў
граніцы
і разбіваў
няшчадна вас!
Каналы вёў
праз багну, лесам—
Наш правадыр
народных мас.
Ён будаваў
нам Дніпрогэсы
і разбіваў
няшчадна вас!
Сталёвых птушак
слаў брыгады,
далей і вышэй
кожны раз...

Даваў нам шчасце,
сілу, радасць,
і разбіваў
няшчадна вас!
А вы двудушшам
абманулі,
змяіны сыкаў
ваш язык...
І Кіраў паў
тады ад кулі,
і мы стрымалі
болю крык.
І цвёрда сэрца
быццам камень,
Вам літасці
нідзе не мець—
Даволі, хопіць!
Хай над вамі
павісне
пролетарскі меч!
Куды вы йшлі
з шалёнай пенай?
Мы будзем біць
няшчадна вас!

Наш Сталін—
Ленін,
наш Сталін—
Энгельс,
наш Сталін—
Маркс!

19 жніўня 1936 г.
г. Менск

*Мікола Хведаровіч*

## ПРАКЛЯЦЦЕ

Праклятыя, подлыя, хцівыя гады,
Падонкі фашысцкіх бандыцкіх клік.
Нідзе не знайсці вам ніякай спагады
На ўсёй ўстрывожанай нашай зямлі.

Наш гнеў распякаючым полымем рвецца,
Абураным сэрцам радзіма дрыжыць.
Вы цэлілі ў мудрае роднае сэрца,
Якому вякі няўміручыя жыць.

Якое нам свеціць, як яснае сонца,
У цёмныя ночы, і радасны дзень,
Якое шчаслівай дарогай бясконцай
Да новага шчасця краіну вядзе.

Мы сёння сцяною жалезнай пасталі,
Пітомцы квяцістае свежай вясны.
Спакойна працуй, родны бацька наш Сталін,
Мы кроў ад крыві, твае дзеці—сыны.

Народ сваё слова рашучае скажа,
Над залай суда гневу носіцца гуд.
Фашысцкім лакеям, Іудам прадажным
Выносіць прысуд ўсенародны наш суд.

Праклятыя, подлыя, хцівыя гады,
Падонкі фашысцкіх, бандыцкіх клік.
Нідзе не знайсці вам ніякай спагады
На ўсёй ўстрывожанай нашай зямлі.

22. VIII-36 г.
г. Менск.

*Ал. Дудар*

## ВОРАГІ

Забойцам літасці няма!
Зямля не зносіць подлых гадаў.
Ў іх сэрцы каінава цьма,
Ў іх думках каінава здрада.

Нічога людскага ў вачах
Псоў, што ад злосці ашалелі,
Каго благаславіў ў вяках
Халодны звер Макіавелі.

Блудлівых мар сваіх рабы,
Пахолкі смерці і прыгону!
Адзіны лозунг іх—„Забі!"—
Параграф воўчага закону.

У строй даверлівых людзей
Паўзуць вужамі злыя цені:
На вуснах—шчырасці алей,
Забойства зброя—у кішэні.

Якім праклёнам праклінаць
Агіднейшую пошасць гэту,
Што руку важылася ўзняць
На цвет людзей, надзею свету?..

Мільёны галасоў жывых
Прысуд свой вынеслі суровы:
Злятаюць са звяроў ліхіх
Услед за маскамі галовы.

Мы хочам жыць, тварыць і пець,
Мы хочам шчасце свету бачыць—
Даволі гадзіну цярпець,
Што шлях наш прагнула з'іначыць.

Шлях вольны ў сонечную шыр,
Над чорнай зграяй крыж пастаўлен!
Вядзі-ж далей нас, правадыр,
Вядзі, наш мудры, родны Сталін.

Ставокай пільнасцю наш строй
Цябе затуліць ад напасцяў,
Садоўнік радасці людской
У садзе хараства і шчасця.

*А. С. Пушкін*

## ДА МОРА

Бывай, свабодная стыхія!
Астатні раз перада мной
Ты гоніш хвалі ў даль марскія
І гордай зіхаціш красой.

І нібы друга нараканні,
Бы кліч яго ў растання час,
Твой сумны шум, шум заклікання
Пачуў я у астатні раз.

Маёй душы рубеж жаданы!
Як часта берагам тваім
Блукаў я ціхі і туманны,
Адданы марам дарагім!

Я так любіў тваё гучанне
Прадоння голас з глыбіні,
І час вячорнай цішыні
І прымхі смелых парыванняў!

Пакорны парус рыбароў,
Твайму свавольству падуладны
Плыве пад подыхам вятроў:
Ты-ж разгуляешся няшчадны;
І тоне зграя караблёў.

Мне не пашчасціла пазбыцца
Маўклівых сумных берагоў,
З табою ў радасці забыцца
І воляй шчаснаю упіцца
Паміж крутых тваіх хрыбтоў.

Ты клікаў, ты чакаў... скаваной
Была тады душа мая:
Жаданнямі зачараваны
Ля берагоў застаўся я.

Аб чым тужыць? Свае імкненні
Куды-б цяпер я скіраваў?
Адзін прадмет ў тваёй пустэльні
Маю душу-б усхваляваў.

Адна скала, грабніца славы...
Там патанаў ў халодны сон
Ўспамін былога велічавы:
Там угасаў Напалеон.

Там ён сканаў сярод мучэнняў.
І ўслед за ім, як буры шум,
Другі ад нас схаваўся геній,
Другі ўладар усіх нашых дум.

Ён знік, аплаканы свабодай,—
Яго-ж вянец гарыць між хмар.
Шумі, усхвалюйся непагодай:
Ён быў, о мора, твой пясняр.

Твой вобраз жыў ў ягоных словах
Ён духам створан быў тваім:
Як ты магутны і суровы,
Як ты нестрыманы ні ў чым.

Свет апусцеў... У даль якую
Мяне-б ты вынес, акіян?
Скрозь люд нясе тугу цяжкую:
Дзе добра, там яго цікуе
Адукаванасць ці тыран.

Бывай жа, мора! Не забуду
Твае ўрачыстае красы,
Мне доўга-доўга чутны будуць
Твайго прыбою галасы.

Табою повен, адзінокі
Перанясу праз пустак даль,
Цень скал тваіх, твае затокі,
І бляск, і змрок, і гоман хваль.

***

Для берагоў айчыны дальняй
Ўнікала ты зямлі чужой.
Ў час незабыўны, развітальны
Я доўга плакаў прад табой.
Мае знясіленыя рукі
Цябе стараліся стрымаць,
Журботы страшнае разлукі
Мой стогн маліў не супыняць.

Але на горач развітання
Не адказалі вусны мне:
З краіны змрочнага выгнання
Ты звала ў іншы край мяне.
Ты гаварыла—ў дзень спаткання
Пад неба дзіўнаю красой
Мы пацалункі і каханне
Паўторым зноўку, дружа мой...

Ды толькі там, дзе неба ззяе
У бляску вечнай пекнаты,
У цяні аліў, ў далёкім краю
Апошнім сном заснула ты.

Твая краса навек схавана
Магілы змрочнай цішынёй—
Усё-ж пацалунку на спатканні
Чакаю я; ён за табой...

*Пераклаў А. Звонак.*

*В. Сташэўскі*

# САМСОН І ЛЮДМІЛА

*П'еса ў 3-х карцінах*

## АСОБЫ:

ЛЮДМІЛА—дзяўчына, лепшая цялятніца ў калгасе.

САМСОН—малады, чарнявы плытнік, былы беспрытульнік.

ПАНАСІК—комсамолец, загадчык фермы ў калгасе. Прыземісты, рухавы.

ГЕНАДЗІ—тонкі, рослы комсамолец, рахункавод, начытаны.

ПУПЕЙКА—калгаснік, шчуплы чалавек гадоў 50.

МІХАЛІНА—калгасніца, крыклівая жанчына, жонка Пупейкі.

МАКАР ІВАНАВІЧ—рослы чалавек гадоў 42. Пляменнік Міхаліны. Паштовы служачы.

КАРПЕЙ—пажылы, энергічны, жыццярадасны чалавек, стары плытнік.

## КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Пачынаецца пры закрытай заслоне—харавой песняй. Песня аддаляецца. Павольна падымаецца заслона. Вуліца. Нізенькія штакеты. Калітка ў садок Людмілы. Лаўка. Людміла стаіць на лаўцы, глядзіць у той бок, з якога яшчэ крыху чуваць песня, махае кветкаю. Каля яе Генадзі.

Генадзі. А добра, што ў нашым калгасе арганізаваўся такі хор.

Людміла. І дрэнна, што ты ў ім не прымаеш ніякага ўдзелу.

Генадзі. Як гэта ніякага ўдзелу? Я-ж першы прасіў настаўніка, каб навучыў.

Людміла. А спяваць не хочаш?

Генадзі. Хачу спяваць, Людміла. Кожны чалавек хоча спяваць. Ды нават кожны пяе, але не кожны можа быць у хоры. Трэба-ж мець больш-менш прыемны голас і слых. Слухаць харавыя песні, музыку я ўмею. У мяне ўзбуджваюцца харошыя думкі.

Людміла. Я ведаю, якія гэта думкі.

Генадзі. Ну, якія?

Людміла. Кінуць калгас, ды паехаць вучыцца.

Генадзі. Паехаць вучыцца мне, а асабліва табе—гэта нядрэнная думка, і гэта не значыць кінуць калгас. Я хачу сказаць табе, Люда, аб другім.

Людміла. Можа пра жаніцьбу думаеш?

Генадзі. О, не. Я магу думаць пра сяброўства хлапца і дзяўчыны, дапускаю некаторыя моманты кахання. Я, Люда, часамі думаю пра такія часы чалавецтва, калі людзі не будуць ведаць што такое мана, зайздрасць, рэўнасць; не будуць падстаўляць адзін аднаму ножку. Я ўжо не кажу пра такое з'явішча, як зладзейства.

Людміла. Генадзі, у якой гэта кнізе ты прачытаў пра гэта?

Генадзі. Людміла, ты ведаеш, што пасля сканчэння сямігодкі я не мала прачытаў кніжак.

Людміла. І занадта пачаў выдумляць.

Генадзі. Выдумляць? Ха-ха! Наша сёнешняе жыццё, уся работа нашай вялікай краіны дае мне права марыць аб гэтым.

Людміла. Ці мала аб чым можна марыць...

Генадзі. Ну, аб чым марыш ты, наша знатная комсамолка?

Людміла. Я?.. У нашай ферме 210 кароў. Праз зіму, на весну ў маёй гасцініцы 207 новых пашпартаў. Ух вы, рыжанькія мае пасажыры!

Генадзі. Чаму 207, а не 210.

Людміла. А таму, што Марцэлю, Сівуху, Каліну ўвосень будуць прадаваць.

Генадзі. Та-ак. Ну, а далей хіба твае мары не ідуць?

Людміла. Ідуць. У канюшні восемдзесят матак, на весну— восемдзесят жарабятак. Растуць, растуць... Пяцьдзесят коней—падарунак Чырвонай арміі...

Генадзі. О, гэта здорава. Малайчына Людміла.

Людміла. Некаторыя думаюць, што з калгаснага цялятніка, ці з канюшні нічога не відаць? Смешныя яны людзі. Ведаеш, Генадзі, гэтымі днямі паклікала мяне Міхаліна. Я зайшла. А да яе прыехаў на дачу пляменнік. Ён ужо даўно не быў тут. Недзе далёка на пошце.

Генадзі. Ён-жа заходзіў да нас у канцэлярыю, ведаю.

Людміла. Ну, вось. Я ледзь устрымалася, каб не пырснуць ад смеху. Ён думае, што гэта тая самая старая няграматная вёска. Пачаў гаварыць пра палітыку, дык аж няёмка.

Генадзі. Памойму ён нейкі дзівак.

Людміла. Так. Ён нават падобны да цябе.

Генадзі. Як гэта падобны? Ён-жа пажылы чалавек.

Людміла. Але ён таксама не адразу кажа тое, што хоча сказаць, а здалёк, кругом падыйдзе.

Генадзі. Я не разумею, Люда. Ты пра што?

Людміла. А ты чаму не пайшоў з хлопцамі і дзяўчатамі?

Генадзі. Ды так, э-э... мне прыемна пабыць з табою.

Людміла. Доўга хочаш пабыць?

Генадзі. Ды гэта залежыць ад цябе.

Людміла. Ну добра. (*Села на лаўку*). Сядай, Генадзі. (*Генадзі сеў*). Ну вось, а цяпер пытайся.

Генадзі. Што пытаць?

Людміла. Пытайся, ці кахаю я цябе.

Генадзі (*схапіўся*). Ты сур'ёзна ці жартуеш?

Людміла. Ха-ха-ха, разумей як хочаш.

Генадзі (*пасля паузы*). Не, Люда, сёння я хачу запытаць пра другога чалавека, калі дапусціць, што і злодзей—чалавек.

Людміла (*сур'ёзна*). Ты пра каго?

Генадзі. Пра плытніка.

Людміла. Якога?

Генадзі. З якім ты ўчора ля рэчкі была.

Людміла. Што ён у каго ўкраў?

Генадзі. Гусака ў калгасніцы Міхаліны.

Людміла. Маніць яна. А ты-ж супроць маны. (*Пачуліся гукі гармоніка.*)

Генадзі. І супроць зладзейства асабліва.

Людміла. Самсон гусака не браў.

Генадзі. Яго зваць Самсон?

Людміла. Ага (*выглядае*).

Генадзі. Можа гэта Самсон іграе?

Людміла. Гэта ён.

Генадзі. Людміла, я бачу ты радуешся гэтым гукам гармоніка, ты напэўна запрасіла яго сюды. Памятай, што будуць непрыемнасці. Комсамол не дапусціць, каб кожны гарманіст, хоць бы нават з прыгожай шэвелюрай, сваімі антыграмадскімі паводзінамі ганьбіў цябе. (*Змоўклі гукі гармоніка.*)

Падыйшлі Самсон і Карпей.

Людміла. А, плытнічкі. Новы плыт гоніце?

Самсон (*вітаецца*). Новы і без гусака.

Генадзі. Ну вось, чуеш, Людміла. (*Пайшоў.*)

Людміла (*прыкра*). Навошта ты ганьбіш сябе?

Самсон. Чым?

Людміла. Гусаком, няшчасным гусаком.

Самсон. Людміла, ды я-ж пажартаваў. Даю табе слова—я не браў.

Людміла (*паказала на Карпея*). А ён?

Карпей. Я? Гусака? Дзіўлюся, паненачка, хто на мяне, старога плытніка, можа ўзводзіць такі паклёп. Карпея Буешку ведае траха не ўвесь свет.

Людміла. Ого. А я дык вас бачу другі раз.

Карпей. Шкада, шкада.

Людміла. Вы заўсёды ў такім убранні?

Карпей. А пакуль не зносіцца, ха-ха. Гэта, мілая мая, мундзір генерала Петухоўскага, швагер падарыў пасля смерці.

Людміла. Ваш швагер быў генералам?

Карпей. Не, купіў на рынку ў генеральшы за тры фунты сала.

Людміла. А, ха-ха-ха.

Карпей. Хо-хо, важнае сукенца.

Людміла. Кіньце вы яго ў рэчку.

Карпей. Што вы, што вы. Гляньце, як на мне сядзіць. (*Павярнуўся, Люда і Самсон смяюцца.*) Вам смешкі, а адзін генерал, калі ў рэволюцыю матросы прыперлі яго—на каленях стаяў і прасіўся: усё, кажа, забірайце—душу і цела забірайце, а мун-

дзіра не чапайце. Так жонка апранутага і палажыла ў дамавіну. Ну і прапала тры фунты сала.

Людміла. Пацешны вы чалавек.

Карпей. У маткі не было спавівача, ну то брыкаў нагамі, як сам хацеў.

Людміла. Ха-ха-ха, ну вы пасядзіце крышку на лаўцы, я прыбяру ў хаце, ды запрашу вас да сябе.

Карпей. Калі ласка, мы пачакаем. (*Люда пабегла. Карпей сеў на лаўку, напіхае люльку.*) Сядай, Самсонік.

Самсон (*нездаволена*). Што садзіцца? Уцякаць нам трэба.

Карпей. Вось табе і на. Садзіся, кажу. Уцякаць ад такой дзяўчыны?

Самсон (*прысеў*). Не добра выходзіць, Карпей.

Карпей. А што?

Самсон. Ідзем да такой харошай дзяўчыны, а марка ў нас— зладзюгі.

Карпей. Ты-ж не краў.

Самсон. Але, здаецца, крадзенае спажываў.

Карпей. Адкуль-жа ты мог ведаць? А можа я, каб пачаставаць цябе, дваццаць рублёй уляляшчыў.

Самсон. Не добра, Карпей, не добра.

Карпей. Жывот-жа не баліць, дык чаму не добра. (*Азірнуўся.*) У мяне брат, на кожны рэйс палагаецца адзін гусак і не думай абы чый. За свае 18 гадоў плытагонства на гусаках я здаецца ні разу не памыліўся. Я ведаю, хто ў вёсцы самая злосная і языкастая баба—яе гусака і бяру. Падыме лямант, збярэцца народ, бывае, што і я падыйду паслухаць. Не спачувае народ—значыцца, гусак быў узяты правільна.

Самсон (*ківае галавою*). Не, Карпей, не.

Карпей. Што не, не, а яшчэ беспрытульнікам лічыцца.

Самсон (*горача*). Беспрытульнікі не зладзеі.

Карпей. Ого.

Самсон. Ды я-ж не беспрытульнік. Я плытнік.

Карпей. Ну, гэта ўжо чалавек.

Самсон. І гэтаму чалавеку брыдка паказацца ў калгас.

Праходзіць Пупейка.

Пупейка (*спыніўся*). Добры дзень. Ці не плытнікі будзеце?

Карпей. Не, мы музыкі.

Пупейка. Музыкі. А ў каго-ж вяселле? Здаецца, не чуваць.

Карпей. Чакай, ці не Пупейка?

Пупейка. Канешне. Аваспан? О-о-о, Буешка!

Карпей. А як-жа. Здароў, браток. (*Вітаецца.*)

Прыбегла Людміла.

Людміла. Ну, пойдзем у хату. Што, знаёмыя?

Карпей. А як-жа. Я думаў, ён ужо капытамі накрыўся, ажно бач ты.

Пупейка. Не, браце, трымаюся яшчэ.

Карпей. Вы ідзіце, а я з таварышом крышку затрымаюся, ад царскай вайны не бачыліся.

Людміла. Пойдзем, Самсон. *(Да Карпея.)* Дык вы прыходзьце. *(Самсон і Людміла пайшлі.)*

Пупейка. То ведаеш, браце Буешка, а мы давай пойдзем да мяне.

Карпей. Мо далёка?

Пупейка. Ды не, у тым канцы мая хата. Пойдзем, пагамонім, ды мо якога і паўлітра, як той казаў...

Карпей. Ды, яно-ж, калі, як той казаў, столькі не бачыліся, то яно-ж вядома... *(Пайшлі).*

Выходзяць Панасік і Генадзі.

Панасік. Што гэта за тып пайшоў з Пупейкам?

Генадзі. Плытнік.

Панасік. Дык вось, Генадзі, я табе кажу, што на дачах і дачніках трэба паставіць крыж. Даволі!

Генадзі. Што даволі?

Панасік. А тое, што ў нас калгас, а не дача.

Генадзі. Адно другому не перашкаджае.

Панасік. Затое адно другое дапаўняе. Мы працуем, а яны рыбку ловяць.

Генадзі. Ну і што-ж?

Панасік. Слухай, Генадзі, з нашых комсамольскіх кадраў на нашых вачах вырываюць з нашых радоў лепшых таварышоў.

Генадзі. Як гэта вырываюць? Хто вырывае?

Панасік. Дач-ні-кі. Соню летась забралі за няньку, яе няма. А цяпер новы факт. (*Паказаў пальцам на дом Людмілы*) Скора не будзе і Люды, не будзе гордасці нашай комсамольскай арганізацыі, лепшай цялятніцы ў раёне і БССР.

Генадзі. Куды, па твойму, яна збіраецца.

Панасік. На гэты раз—замуж.

Генадзі. За каго, па твойму, яна збіраецца выходзіць?

Панасік. За дачніка.

Генадзі. Ха-ха! Дапусцім, што гэта так. Хоць гэта і не так.

Панасік. Я, браце, маю пэўныя весткі.

Генадзі. Ну добра. Дык чаму-ж дачнік не можа быць жаніхом?

Панасік. Няхай сабе жэніцца, але-ж ферма і калгас трацідь лепшую работніцу, комсамолку.

Генадзі. Та-а-к... Як загадчык фермы ты маеш рацыю не пускаць яе з фермы. Тут у цябе грамадская лінія.

Панасік. Так, раз комсамол мяне вылучыў на загадчыка, дыкжа дапамагайце.

Генадзі. Правільна. Але, ідучы па гэтай грамадскай лініі, трэба лічыцца з інтарэсамі асобы.

Панасік. Якое асобы?

Генадзі. Кожнае.

Панасік. А што гэта будзе, калі кожная твая асоба пачне рабіць тое, што ёй захочацца?

Генадзі. Я не пра гэта. У кожнага з нас ёсць асабовыя інтарэсы, якія не парушаюць грамадскай лініі. Скажам: ты парашыў жаніцца...

Панасік. Э-э, ты ўжо закідаеш. Я пра гэта ніколі і не думаў, няма чаго.

Генадзі. Ну, не ты, а скажам, я, другі, трэці, хоць і табе прыдзецца падумаць—парашыў жаніцца. Маю-ж я права выбраць па свайму сэрцу.

Панасік. Калі ласка.

Генадзі. Дык вось і Людміла, з нашай ласкі, можа выбраць. І тут мы з табою падымаем рукі ўгару—мы не ваякі.

Панасік *(схіліў галаву)*. Значыцца—ідзі сірата Люда на ўсе чатыры стараны.

Генадзі. Люда—комсамолка, а сірата—паняцце капіталістычнае. У калектыве няма сірот. А скажы, пра якога, фактычна, дачніка мы гаворым?

Панасік. А гэта і ёсць фактычна пляменнік Міхаліны.

Генадзі. Вось яно што? Гэты паштовы чалавек?

Панасік. Ага, ён.

Генадзі. Слухай, Панасік, для чаго гэта ты ўсё выдумаў?

Панасік. Я выдумаў? Ты мне не верыш?

Генадзі. Не.

Панасік. Сямікласны комсамолец!

Генадзі. Слухай, Панасік, наколькі мне вядома, у комсамоле няма такое класіфікацыі. Калі ты хочаш падняць мяне на высокую вучоную ступень, дык улічы, што я прайшоў курсы калгасных рахункаводаў і за тры гады самаадукацыі, а значыцца на сённяшні дзень прачытаў 7880 старонак палітычнай, філасофскай і мастацкай літаратуры. Пойдзем, дружа, не ў той бок глядзіш.

Панасік. Я гляджу правільна. Вунь ідзе Міхаліна. Вось ты ўбачыш, што яна заверне сюды, да Люды. Ну вось давай схаваемся ў садку, давай.

Генадзі. Ну' ладна, хоць гэта і не далікатна. (*Схаваліся. Праз некаторы момант падыходзіць Міхаліна да каліткі і ўглядаецца ў садок.)*

Міхаліна *(гукае)*. Людачка! Людачка, ты дома? Людачка!

Голас. Дома *(Міхаліна паглядзела ў адзін бок, у другі, прачыніла калітку, хоча зайсці. Прыбегла Людміла.)*

Людміла. Што вы, цётачка, хацелі?

Міхаліна. Я была на рэчцы, цыляткі пасуцца хораша. Я гэта там гусі адганяла, бо тыя-ж зладзюгі ізноў плыт гоняць, цяпер ужо трасцу ўхопяць. Праз гадзінку можа будзеш там, дык мо сама падгоніш цыляткі да броду.

Людміла. Добра, цётачка, я зараз там буду.

Міхаліна. Ну так. А ўчора, Людачка, мы цябе чакалі. Макар-жа Іванавіч доўга сядзеў і мы пілі чай з мармаладамі. Яшчэ ў яго чатыры каробкі стаіць. Успаміналі цябе... За такім чалавекам кожная жыла-б і дзякавала-б.

Людміла. Напэўна.

Міхаліна. Хваліць бога і грошай у яго хапае, бо колькі-ж

гадкоў халастым на пошце. Гэта нічога, што ён крыху паджылы, але жыць за ім будзеш і добрым словам успамінаць мяне, каб я так жыла.

Людміла. Ха-ха! Дык што, вы сапраўды, сватаеце мяне?

Міхаліна. Людачка мая, навошта-ж табе з гэтымі цялятамі пэцкацца. (*Азірнулася.*) Ці не лепей-жа ў горадзе прайсціся ў кооператывы, у тэатры, на трамваі?

Людміла (*прыкідваецца наіўнаю*). А без цялят мне сумна будзе.

Міхаліна А, каб ты скісла, ха-ха-ха!

Людміла. Вось што, цётка Міхаліна, ну, калі-б я пайшла за яго, дык якое-ж у нас будзе жыццё?

Міхаліна. Ой, Людачка, ён-жа мацнейшы за цяперашніх маладых. Сама-ж ведаеш, як некаторая старая адзежына носіцца. З выгляду здаецца крыху пацёртая, а возьмеш у рукі—дык гэта-ж сукенца.

Людміла. Ха-ха-ха, ды я не пра гэта. Ён-жа гарадскі, адукаваны, а я—калгасная цялятніца.

Міхаліна. Цяпер-жа на гэта ніхто не зважае. Ты думаеш камісаршы вялікія пані. У-у. А не захочаш у горадзе, дык ён-жа можа і тут застацца.

Людміла. Як тут?

Міхаліна. А так, што рахункавод наш хоць і комсамолец, але доўга не ўтрымаецца. Ён-жа ўсё кніжачкі чытае, а свае работы не вельмі пільнуецца.

Людміла. Не, цётка, у Генадзія работа пастаўлена добра.

Міхаліна. Дарма, а калі возьмецца Макар Іванавіч, дык гэта-ж будзе канцэлярыя на ўсе канцэлярыі. Але-ж я не хачу цябе ўгаварваць. Пабудзь тут, Людачка, у садочку, ён зараз будзе ісці рыбу лавіць. Ён тут спыніцца і вы хорашанька пагаворыце. Ён зараз, Людачка, зараз. (*Пайшла.*)

Людміла. Ой, пацеха, ха-ха-ха! (*Пабегла і знікла ў садку.*)

Вылезлі Панасік і Генадзі.

Панасік. Ну, чуў?

Генадзі (*папраўляе акуляры*). І нават бачыў.

Панасік. Ты чуў яе планы?

Генадзі. Па мойму, распрацаваны ён не дрэнна, ніякіх паправак зрабіць не магу. Мне падабаецца ідэя стварэння канцэлярыі на ўсе канцэлярыі. А я, такім чынам, змагу паехаць у горад і даць нырца ў тоню філасофскіх навук. (*Падняў руку ў гару.*) Вітанне універсітэту!

Панасік. Вось як? Я разумею... Комсамолец Генадзі згодзен пасадзіць на сваё месца хоць чорта, толькі, каб самому ўцячы. Інтарэсы асобы! А ў мяне адзін інтарэс: наш калгас, наш комсамол.

Генадзі. І Люда.

Панасік. І Люда, як член нашай сям'і, як лепшая работніца.

Генадзі. І гэтая работніца, такім чынам, застаецца на ферме і табе застаецца вітаць такога дачніка.

Панасік. Ну дык я-ж яго прывітаю.

Падыходзіць Макар Іванавіч, на ім капялюш, на плячах вуды.

Макар. Ів. Добрага дня, маладыя калгаснікі. Каго збіраецеся вітаць?

Панасік. Так, аднаго знаёмага.

Макар. Ів. Калі заслужыў—трэба прывітаць. *(Да Генадзія.)* Вы здаецца ў канцэлярыі працуеце?

Генадзі. Пакуль што ў канцэлярыі.

Макар Ів. Так, так. Скора пачнецца касьба?

Панасік. Так, так, скора пачнецца касьба.

Макар Ів. Вясёлая пара.

Генадзі. Надзвычайна.

Макар Ів. Копы пахучага сена... і каля аднэй з іх з дзяўчынкаю, га? Ха-ха! *(Пахлопаў Панасіка па плячы. Панасік глянуў на Генадзія, на Макара Іванавіча, здаецца гатовы размахнуцца і ўдарыць—стрымаў сябе).*

Панасік. З дзяўчынаю? Любата.

Макар Ів. Комсамолец?

Панасік. Абудвы. А вы?

Макар Ів. Я? Вось пайду накапаю чарвячкоў ды на рыбку.

Генадзі. У агародзе бузіна, а ў Кіеве дзядзька?

Макар Ів. Малады чалавек, у маім комсамольскім узросце людзі былі не такімі суровымі і злымі.

Генадзі. Гэта было тады, калі „по небу полуночи ангел летел, и тихую песню он пел. Он пел о блаженстве безгрешных духов под кущами райских садов“.

Макар Ів. І нябошчык Пушкін беспартыйным пайшоў у зямлю.

Генадзі. І Лермантаў таксама.

Макар Ів. У вас сёння што: выходны дзень?

Генадзі. Выходны.

Панасік. І заўтра таксама.

Макар Ів. А, разумею—зацішша перад кананадай, у наступленне рыхтуецеся.

Генадзі. Правільна, а вы з намі ці супроць?

Макар Ів. Хо-хо, я заўсёды з вамі, люблю маладосць. Адпачнеш на лоне прыроды—хочацца разам з вамі падурэць з дзяўчатамі.

Панасік. Дык чаму-ж.

Макар Ів. А ёсць тут у вас слаўныя.

Генадзі. Напрыклад?

Макар Ів. Ну хоць бы узяць Людачку—і фігурка і вочкі.

Панасік. Вочкі? Каб гэтыя вочкі ды добра бачылі.

Макар Ів. А што вы кажаце, няўжо ёсць ненармальнасць?

Панасік. Увечары амаль нічога не бачыць. І сэрцам дзяўчына добрая, каб не парок гэтага самага сэрца.

Макар Ів. Што вы кажаце, у такія гады...

Панасік. Шкада дзяўчынкі, але-ж нічога не зробіш. Пойдзем, Генадзі.

Макар Ів. Так, так.

Генадзі *(адыходзячы)*. І заўважце, гэта-ж не проста калгасніца, а выдатнейшая. Таму мы прасілі-б вас не казаць ёй аб гэтым. *(Пайшлі.)*

Макар Ів. Ды не, што вы. Як-жа гэта я не заўважыў. (*Стаіць, думае.*) Гм. Шкада дзяўчынкі.

Ціха падышла Міхаліна.

Міхаліна. Макар Іваныч, ну як?

Макар Ів. А, гэта вы, Міхаліна Сямёнаўна? Усё ў парадку.

Міхаліна. У парадку? Я вельмі рада, вельмі рада. Будзеш жыць...

Макар Ів. Буду жыць і вас праклінаць.

Міхаліна. Макар Іванавіч! Хто цябе пакрыўдзіў?

Макар Ів. Прырода!

Міхаліна. Як гэта прырода?

Макар Ів. Яна ўзнагародзіла мяне цёткаю, а цётка хоча ўзнагародзіць мяне сляпою, з парокам сэрца, жонкаю.

Міхаліна. Макар Іванавіч!

Макар Ів. Даволі! Макар Іванавіч жартаваў з вамі наконт жаніцьбы. Макар Іванавіч 42 гады трымаўся халасцяцкай лініі. Я ведаю, што я і Людачка не пара. А цяпер я пастараюся стаць бацькам гэтай няшчаснай дзяўчынкі. Я аддам усе свае сродкі, каб яна стала здаровай і шчаслівай. І не для мяне і не для вас, цётушка Міхаліна Сямёнаўна. (*Пайшоў.*)

Міхаліна. Макар Іванавіч! Што-ж гэта з ім зрабілася? (*З садка пачуліся вясёлыя гукі гармоніка.*) Што гэта? Ці не плытнічак? (*Углядаецца ў садок.*)—Ён, зладзюга, ён. Пабягу паклічу людзей. (*Павярнулася, а ёй насустрач ідуць Карпей і Пупейка, падвыпіўшы*). А, і ты тут, певень афрыканскі. (*Да мужа.*) Чаго ты з ім? Сваяка знайшоў? Вось зараз навяду старшыню. (*Пабегла.*)

Карпей. Каго яна абазвала афрыканскім пеўнем, га?

Пупейка. Братка, мусіць цябе, бо мяне так ніхто не заве.

Карпей. Ну, то ліха яе бяры. Чакай, здаецца тут жыве дзяўчынка Людміла?

Пупейка. Тут, браце.

Карпей. Ну то і Самсон мой тут. А, братка Пупейка, ніколі не думаў спатканца з табою.

Пупейка. (*Сцверджальна.*) Ніколі.

Карпей. Ад цара аж дагэтуль не бачыліся. А за што ваявалі? Чорт яго ведае.

Пупейка. Так-жа мы і ваявалі. Дома дзеці, жонка, кароўка, а там немец газ пушчае.

Карпей. У абозе йшлі, але не кажы, фронт трымалі. З крыжыкам на шапцы хо-хо, ды з песняю. (*Заспяваў.*)

Салавей, салавей
пташачка.

Пупейка. Канарэечка.

Абудвы. Жалабна паёт (*крок на месцы*).

Карпей. Раз, два...

Пупейка. Гора не беда...

Абудвы. Канарэечка жалабна паёт.

Карпей. Імперыялістычная вайна! А з царом Мікалаем...

*(Стукнуў ногцем аб ногаць і ляснуў языком. Падняў палец угару.)* Большэвікі.

Пупейка. Мой-жа сын у Чырвонай арміі здаў экзамен на камандзіра і ў большэвіках састаіць.

Карпей. І правільна.

Пупейка. А за што мяне легіёны секлі? Вось тут (*паказвае рукою з-заду*) рубцы сядзяць і сёння. Магу, братка, паказаць, магу. (*Хоча расшпільвацца.*)

Карпей. Не трэба, не трэба, братка. Веру табе. А значыць за сваю чыстакроўную совецкую ўладу мы пойдзем не ў абозе, Пупейка. (*Абняў яго.*) У першай лініі, Пупейка...

Пупейка. Разам з сынам пайду, усім калгасам пойдзем.

(*У часе гэтай гутаркі пачуўся гоман мужчыны і празрысты голас Міхаліны:* „паабіраліся валацугі з усяго свету. Я вам кажу, што ні ў кога не будзе гусей“. *Голас мужчыны:* „кіньце лапатаць“).

Карпей. Хто гэта там лемантуе?

Пупейка. Бабы канешне.

Падыходзяць: Міхаліна, Панасік, Генадзі, дзяўчынка.

Міхаліна. Вось адзін стаіць. Гляньце які арыштант. А чарнамазы недзе ў хаце ў Люды.

Панасік. Дык каторы-ж па вашаму ўзяў гусака?

Міхаліна. Альбо гэты, альбо той.

Карпей. Пра гусака мадам пытаецца. (*Да Генадзія і Панасіка.*) Хлопцы, я-ж ёй яшчэ на рэчцы казаў: шэрага гусака я з роду не ем. Гэта ж факт: чорнага бычка і шэрага гусачка не бяру ў рот.

Міхаліна. Дык-жа белага і ўзяў.

Карпей. Белага? За чыстую манету.

Міхаліна. Дык плаці.

Карпей. І заплачу. (*Дастае грошы.*)

Міхаліна. Давай грошы.

Карпей. Калі ласка. Вось табе 20 рублёў. А магу даць і трыццаць.

Міхаліна. Давай. (*Хоча браць грошы.*)

Карпей. Давай-жа гусака.

Міхаліна. Дык гэта-ж за таго.

Карпей. За таго, што рабін свянціў, а ксяндзова жонка з'ела? Вазьмі з іх. (*Схаваў за пазуху грошы.*)

Міхаліна. А каб цябе разарвала, гэта-ж падумайце, што ён кажа...

Панасік. Ціха, даволі!

Пупейка. От лапоча баба.

Панасік (*да Карпея*). Дзе твой таварыш?

Карпей (*паказвае на Пупейку*). А вось ён.

Пупейка. Правільна, разам на немца ішлі.

Міхаліна. І ён там яшчэ вякае.

Панасік. Ціха! Разыйдзіцеся ўсе. Самі высветлім. Чаго сабраліся. (*Да Генадзія.*) Зайдзем да Люды.

Генадзі. Можна. (*Пашлі. За імі, азіраючыся, пайшла Міхаліна. Засталіся Карпей і Пупейка.*)

Карпей. Вось, браце, баба,—гэта-ж паветра нейкае.

Пупейка. Канешне.

Карпей. Вось некаму бог усунуў жонку.

Пупейка Дык гэта-ж мая жонка.

Карпей (*вырачыў вочы, раскрыў рот*). Твая жонка?..

Пупейка. Канешне, а чыя-ж.

Карпей. А братка-ж ты мой, прабачай (*цалуе яго*). А я думаю, чаму ты мяне не зазваў у хату, а за гумно прынёс паўлітра.

Пупейка. Бо лаецца, каб не піў.

Карпей. Так, так. Кажуць, што палагаецца наперад выпіць, а пасля закусіць гусаком, а ў мяне вышла наадварот. Прабачай, братка, яшчэ раз.

Пупейка. Не, яна гаспадыня добрая, толькі канешне злосная. Раней, дык часамі біла мяне, але сын строга ўмяшаўся.

Карпей. Цяпер не б'е?

Пупейка. Цяпер не. Толькі часамі хвігі дае. (*Да іх вярнулася Міхаліна.*)

Выходзяць: Панасік, Самсон, Люда і Генадзі.

Самсон. У чым справа?

Панасік. А справа ў тым, што адзін з вас забраў у калгасніцы гусака.

Самсон. Ніякага гусака я не браў. (*Карпей падцягнуў штаны, дастаў тытунь, напіхае люльку.*)

Людміла. Панасік, я таксама магу сказаць, што ён тут ні пры чым. Я тады была на беразе рэчкі, бачыла яго, а гусі крычалі, хадзілі далей.

Панасік (*да Самсона і паказвае на Карпея*). А ён?

Самсон. А ён настолькі дарослы, што сам можа адказаць.

Міхаліна. Адна-ж хэўра, дзе-ж ён выкажа...

Панасік. Ды сціхнеце вы...

Міхаліна. Што сціхні! Старшыня ў раёне, ты яго замяшчаеш, я цябе пазвала. Чаму ты не праверыш дакументаў, хоць бы ў гэтага цыгана?

Панасік. Ты цыган?

Самсон. Не ведаю.

Панасік. Пакажы дакументы.

Самсон. Калі ласка (*дае пасведчанне*).

Панасік (*прачытаў*). Самсон Літвін?

Самсон. Самсон Літвін.

Міхаліна. Ну, дык яўрэй.

Панасік. Ды перастаньце-ж вы.

Пупейка. І я скажу, ну дык што, калі яўрэй.

Самсон. Я ведаю адно, цётка, што я—чалавек.

Панасік. Правільна.

Генадзі. А „человек—гэта звучит гордо“, вядома, калі ён не злодзей.

Панасік. Каго ты ведаеш у Леспрамгасе?

Самсон. Усіх ведаю.

Панасік. Напрыклад?

Самсон. Ваньку Кручкова, Мішу Шэйна...
Генадзі. А Міша не паехаў на вучобу?
Самсон. Быў яшчэ там.
Панасік. Комсамолец?
Самсон. Буду. *(Панасік аддаў пасведчанне).*
Пупейка. Ну, вось і ўсё. *(Да Міхаліны).* Пойдзем, баба, не сором людзей. Бывай здароў, таварыш.
Карпей. Усяго добранькага.
Міхаліна. (*Падыходзячы да Карпея*). Гэта шчасце ваша, што я добра не бачыла, але пападзешся ў другі раз. *(Пайшлі.)*
Карпей. У другі раз вы самі запросіце ў госці.
Панасік. (*Да Самсона*). Гармонік твой?
Самсон. Мой.
Карпей. Падарунак яму далі за добрую музыку.
Панасік. Вечарынку нам калі-небудзь пайграеш?
Самсон. Калі буду ў гэтым баку—з прыемнасцю.
Панасік. А ты, Люда, не забывайся, што ты—знатная калгасніца і комсамолка. Комсамол адказвае за цябе.
Генадзі. Правільна.
Людміла. Ведаю і перш за ўсё я сама адказваю за сябе.
Панасік. *(Падыходзячы да Людмілы).* Ну глядзі. *(Адыходзіць.)* Але як толькі выходны дзень, дык абавязкова што-небудзь здарыцца.
Самсон. Не добра, Карпей, выходзіць з гусаком. (*Сурова.*) Не люблю цябе за гэта.
Карпей. Чаму? Нічога.
Самсон. Ну, бывай, Люда, можа спаткаемся, а можа і не.
Людміла. Я думаю, што спаткаемся. Заходзь. (*Да Карпея.*) Заходзьце і вы, дзядзька.
Карпей *(развітваецца ласкава).* Да цябе—зойдзем. Давай, Самсон, марш. Пройдзем па вуліцы, каб звінела! *(Пайшлі. Зайграў гармонік урачысты марш. Люда прыхілілася да штакета, альбо да дрэва, глядзіць ім услед. Памахала рукою. Музыка аддаляецца. Павольна закрываецца заслона. Музыка яшчэ зводдаля чуваць).*

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

Пачынаецца пры закрытай заслоне. Песня на гармоніку. Гармонік сціхае—мы чуем жаночы голас—гэтая-ж самая песня. Падымаецца заслона—луг, кусты, Людміла збірае ў букет луговыя кветкі, пяе:

Ой, на двары дзень беленькі,
Ці не прыдзе мой міленькі!
Ой на двары дзень світае,
А мілая ў мілога пытае:
— Дзе-ж ты мілы валачыўся,
Што па пояс замачыўся.

На песню гэтай-жа мелодыяй адгукваецца гармонік. Людміла некаторы момант слухае, пасля ізноў пачынае спяваць, тады змаўкае гармонік. Пасля такой пераклічкі з'яўляецца Самсон.

Самсон. Люда, Люда, ты прышла?
Людміла. Не. На парашуце спусцілася. Хіба ты не бачыў?
Самсон. Не.

Людміла. Значыцца, ты не глядзеў? Мяне не чакаў?

Самсон. Я чакаў, я слухаў цябе...

Людміла. Новы плыт будзеце вязаць?

Самсон. Заўтра думаем пачаць, хоць мне не хочацца... Звяжам. Дык жа трэба гнаць. А пакуль вернемся—пройдзе тыдні тры.

Людміла. Ну дык што?

Самсон. Табе нічога. Ты мяне чакаць не будзеш. Ніхто нідзе мяне не чакае.

Людміла. А Карпей.

Самсон. Карпей? Праўда, мы з ім падружыліся. Нават больш таго. Нас парадніла плытніцкая саламяная будка, наш агульны кацялок.

Людміла. Пакуль вы вяжаце плыты—дык вы-ж маглі-б асталявацца ў каго ў хаце, а не ў будцы.

Самсон. Не прывычны я да хаты. Ніколі ў мяне яе не было. Э, ды мусіць і не будзе... *(Пасля паузы.)* Пойдзем, Люда, у наш плытніцкі палац. У нас ёсць свежая рыба. Смачную Карпей варыць юшку. Пойдзем, Люда. *(Люда маўчыць, адкусвае губамі пялёсткі кветак у букеце.)* Люда, ты не хочаш?

Людміла. Я... я мала ведаю цябе. Але я пайду. Толькі ты мне больш раскажы хто ты, адкуль.

Самсон. Адкуль?.. Я, Люда, на гэтае пытанне ніколі не адкажу. Гэта таямніца для мяне самога і нават на ўсё жыццё.

Людміла. Та-ак... Ты беспрытульнік...

Самсон. Цяпер я—плытнік. Цяпер я ведаю рэчышча і плыву ў пэўным напрамку... Пайдзем, Люда. Там нехта ідзе.

Людміла. Ды гэта нашы калгаснікі. Сёння апошні дзень гуляем, а заўтра на балота, на сенажаць!..

Самсон. Ты-ж не паедзеш?

Людміла. Паеду і я, уся моладзь паедзе. Можа і ты з намі?

Самсон. А хто мяне возьме? Пакажыся толькі—ізноў пачнуць крычаць „гусака ўкраў, арыштант".

Людміла *(ласкава)*. Глупства ўсё гэта, Самсон. *(Узяла пад руку)*. А я ведаю, што ты не краў. Можа раней, калі быў беспрытульнікам... а цяпер ты не можаш, не можаш, Самсон?

Самсон. Я не магу ўспамінаць пра тое, што было... Люда.

Людміла. Ну што?

Самсон. Пойдзем варыць юшку. Пабудзь сёння гаспадыняй у нашай плытніцкай хаце і... і самай дарагой госцей.

Людміла. Пойдзем, Самсон. *(Пайшлі. Самсон гукае:* „Карпей, госця ў нас! Карпей, чуеш?" *Чуваць голас Карпея:* „го-гоў! Зараз іду!")

З вудамі з'яўляецца Макар Іванавіч.

Макар Ів. *(спыніўся, углядаецца ў той бок, куды пайшлі Самсон і Людміла)*. Мне хочацца ўважна паглядзець у вочы гэтай няшчаснай дзяўчынкі. Што гэта яна з плытнікамі пасябравала? Ці мо' сваякоў знайшла! Але-ж яна круглая сірата.

З-за куста ўзнялася постаць Карпея.

Макар Ів. Хто гэта? Адкуль вы?

Карпей. А вы?

Макар Ів. Ды я вас пытаюся.
Карпей. Дык вось я і прышоў.
Макар Ів. Я пытаюся, хто вы такі?
Карпей. Я? Карпей.
Макар Ів. Не ведаю.
Карпей. Не ведаеце плытніка Карпея?
Макар Ів. Ах, вы плытнік, чуў пра вас. Гусей сплаўляеце?
Карпей. Гусей? А ведаеце, што за такія словы я магу сплавіць вас.
Макар Ів. Дазвольце, я кажу тое, што чуў.
Карпей. І вы паверылі?
Макар Ів. Сказаць па праўдзе—я спачатку паверыў, а цяпер, паглядзеўшы на вас, таксама можна паверыць...
Карпей. Што, што?
Макар. Ів. Я хачу сказаць: можна паверыць, што людзі ўмеюць выдумляць.
Карпей. А, праўда, цяпер добра кажаце, добра. Хочаце забачыць майго ляшча *(паказвае развязаную торбу. Макар Іванавіч углядаецца).*
Макар Ів. Ну, ведаеце, вы-ж выдатны рыбак.
Карпей. А вы думалі?
Макар Ів. Як-жа гэта вы яго?
Карпей. На тры валасінкі.
Макар Ів. І не мог ён парваць?
Карпей. Гэты не мог.
Макар Ів. Чаму гэты не мог?
Карпей. Яму абрыдзела жыць. Сам на юшку папрасіўся.
Макар Ів. Бачыце, як яно ў вас выходзіць *(голас Самсона:* „Карпей! Давай сюды! Чуеш).
Карпей. Іду, браце, іду. (*Да Макара Іван.)* Юшку любіце? Пойдзем да будкі.
Макар Ів. Ды я з прыемнасцю. А там хто ў вас?
Карпей. Мой таварыш Самсон, ну і відаць дзяўчынка падыйшла. Гэта першы раз.
Макар Ів. Ведаеце, таварыш—э, Карпей, вы ідзіце і папрасіце падыйці да мяне тую дзяўчынку, скажыце, толькі на адну хвілінку.
Карпей. А калі яна не захоча?
Макар Ів. Ну, гэта ўжо справа яе.
Карпей. Ды я паклічу. *(Адыходзіць і гукае.)* Людміла, Людмілачка!
Макар Ів. Ды, што вы крычыце? Вы ціхенька скажыце. Ай, прастата. Так яна можа і не прыйсці. Ляшчу абрыдзела жыць, хе-хе. Сам пайшоў на зазубень. Калі дапусціць, што іменна гэты чалавек узяў гусака маёй цётушкі Міхаліны Сямёнаўны, дык усё-такі яму можна дараваць. Ідзе Людачка, мая няшчасная дзяўчынка... Жорсткая прырода. Дала хараство душы і цела, здольнасці, а здароўе адняла ў самым росквіце.

Падыйшла Людміла.

Людміла. Вы клікалі мяне, Макар Іванавіч?

Макар Ів. Так, гэта я. Добры дзень, Людачка *(дае руку і ўглядаецца ў вочы)*.

Людміла. Што вы так углядаецеся.

Макар Ів. Нічога, Людачка. Я па бацькаўску. *(Ззаду іх за кустом з'явіўся Самсон. Яны яго не бачаць.)* Я хачу прасіць вас, не зварачайце ўвагі на захады мае цётушкі Міхаліны Сямёнаўны, на яе дзікую фантазію выдаць вас замуж за мяне. Я забараніў ёй успамінаць ваша светлае імя. Тым не менш я хачу сказаць вам, што зараз медыцынская практыка пайшла вельмі далёка.

Людміла. Я чула—амалоджваць старых.

Макар Ів. Пакуль што я не пра гэта. У мяне ёсць адзін знаёмы, дык у яго натуральны хрусталік у воку заменены штучным. Медыцына ўстанавіла, што хвароба вачэй катаракта хрусталікавая часцей бывае ў старых і чорнавокіх, а катаракта сумачная—у маладых і светлавокіх. Без аперацыі не абыйсціся.

Людміла. А што ў вас з вачыма і чаму вы мне аб гэтым гаворыце.

Макар Ів. Людачка, у маладосці людзі часта робяць непапраўныя памылкі, калі яны хаваюць ад людзей і медыцыны свае фізычныя недахопы.

Людміла. А чаму-ж вы хавалі?

Макар Ів. Людачка, я крышку памятаю вашага бацьку, толькі прыехаўшы сюды я дазнаўся пра трагічны выпадак, калі дрэва ў лесе забіла яго.

Людміла. Я тады невялічкаю была.

Макар Ів. Напэўна гаравала, дзяўчынка. Цяпер я маю сродкі. Жыву адзін. Я хачу вам даць поўную мажлівасць паехаць у Маскву, паказаць свае вочкі лепшай прафесуры і зрабіць аперацыю, тым больш, што вы знатная калгасніца. А з сэрцам—на Каўказ ў Кіславодск.

Людміла. Макар Іванавіч, што гэта вы наплялі?

Макар Ів. Людачка, мне сказалі, што ў вас дрэнна з вачыма...

Людміла. Хто?

Макар Ів. Людзі прасілі не казаць.

Людміла. Ха-ха-ха! Макар Іванавіч, мне няёмка, што хлопцы пажартавалі з вас, з такога бывалага чалавека. Пойдзем да плытнікаў. Там ёсць гармонік. Патанцуем з вамі.

Макар Ів. Дазвольце, Людачка, а як у вас з сэрцам?

Людміла. Калі пытаецеся пра каханне, дык няхай будзе пакуль што сакрэт. Пабягу я, Макар Іванавіч. Мяне чакаюць. *(Пабегла.)*

Макар Ів. Гм, хлопцы пажартавалі... У маім комсамольскім узросце таксама часамі жартавалі, але гэта называлася—ганьбіць дзяўчынку.

Вылез Самсон.

Самсон. Таварыш, Макар Іванавіч.

Макар Ів. Што такое? Хто вы?

Самсон. Дазвольце ручку.

Макар Ів. Ручку? З сабою няма. Аловак магу даць.
Самсон *(дае руку)*. Вашы пяць пальцаў.
Макар Ів. Ага *(дае руку)*. Ну, што з гэтага?
Самсон. Дзякую за ўвагу да Люды, за вашы клопаты аб ёй. Спадзяюся—гэта было шчыра і па-бацькаўску, так?
Макар Ів. Толькі так.
Самсон. Тады дазвольце сказаць вам, як бацьку: Людмілу кахаю я! пойдзем са мною, мы пачастуем вас смачнай юшкай.

Падыйшла Міхаліна.

Міхаліна. Макар Іванавіч, з кім ты водзіш кампанію?
Самсон. Заходзьце, Макар Іванавіч, чакаем. *(Пайшоў.)*
Міхаліна. Гэта той плытнічак. Прыстаў да нашага берага, гусакі крадзе, на гармоніку грае і за Людаю ўлягае, а ты?
Макар Ів. А я, цётушка Міхаліна Сямёнаўна, заўтра пакіну ваш дом.
Міхаліна. Звар'яцеў.
Макар Ів. Найму сабе дачу, запрашу гэтых плытнікаў да сябе, запрашу Людмілу. Куплю і ўсмажу двух гусакоў і тады пасмяемся мы з вас, хо-хо! Гэта будзе цікавей, чым ваша сватанне мяне і Людмілы. Я на дачы і маю права дазволіць сабе што-небудзь арыгінальнае. Напрыклад: Зараз іду да іх есці юшку! (*пайшоў, гукае:* рэбяткі, іду-ду! *Пачуўся марш на гармоніку*).
Міхаліна. Э, юшку. Захацелася юшкі. Здурнеў на старасці гадоў. Дажываў-бы век у калгасе і гора не знаў-бы.

Ідуць Панасік і Генадзі.

Панасік. Глянь, глянь, як пайшоў. (*Убачыў Міхаліну.*) А, цётка Міхаліна. Гусі пільнуеце?
Міхаліна. А што-ж будзеш рабіць? Вам-жа гэта не абыходзіць.
Панасік. А скажыце, цётка, як сватанне праходзіць, удала?
Міхаліна. Пра якое гэта сватанне чаўпеш?
Генадзі. Панасік, кінь ты пра гэта...
Міхаліна. І я скажу. Палюбуйся вунь на кампанію. Комсамол. (*Пайшла. Чуваць лірычная мелодыя на гармоніку. Хлопцы ўглядаюцца на рэчку, на будку плытнікаў.)*
Генадзі. Я табе сказаў, Панасік, прыгледзься да плытніка Самсона.
Панасік. А можа ты і праўду кажаш. Тады мяне дзівіць Людміла. Зусім невядомы хлопец...
Генадзі. Чаму? Крыху вядомы: па гусаку калгасніцы Міхаліны.
Панасік. Дык гэта-ж страшна, Генадзі. Ганьба і ёй і нам.
Генадзі (*са скрытай іроніей*). Так, Панасік, я думаю пайсці на бераг рэчкі і заплакаць.
Панасік. Ты? Ты ізноў з усмешкаю? Няма ў цябе комсамольскай чуласці да таварыша, няма чалавечнасці.
Генадзі. Ты пра якога таварыша? Ці не пра сябе?
Панасік. Я пра Людмілу?
Генадзі. Прыгледзься да плытніка Самсона. Так, як я да цябе

Самсон вядомы нам стаў па гусаку Міхаліны. Ты сказаў, што гэта страшна.

Панасік. Страшна, што Людміла з такім знаёмства водзіць.

Генадзі. А факт крадзежа, хоць бы гэта быў каробачак запалак.

Панасік. У нашай краіне гэта—ганебны факт.

Генадзі. Ну вось. А калі чалавек пад выглядам сяброўства, комсамольскай чуласці, прыкрыўшыся інтарэсамі фермы, хоча ўпарадкаваць свае асабістыя інтарэсы, дык гэта не страшна, гэта не ганебны факт?

Панасік. Ты думаеш, што я...

Генадзі. Ты сам хочаш жаніцца з ёю, і калі кахаеш—ідзі і перад усімі скажы: (*крычыць*) Людміла! Людачка!

Панасік. Чаго ты крычыш, яна-ж чуе.

Генадзі (*ціха*). Я... цябе... кахаю... А калі хто будзе перашкаджаць, пазыч у міліцыянера шаблю, станавіся рыцарам на ганку яе дома.

Панасік. Ха-ха, нагаварыў. Скажы, Генадзі, ну, а ты не кахаеш?

Генадзі. Нельга сказаць, што кахаю, але люблю.

Панасік. Ну і я, э-э... як таварыша, а-а каб жаніцца дык я і не думаў.

Генадзі. Ніколі?

Панасік. Ніколі.

Генадзі. Вунь паўзе вожык. Тут нікога няма, прысядзь на вожыка, ну хоць бы ў трусіках на дзве мінуты—тады паверу.

Прыбегла Людміла.

Людміла. Хто мяне клікаў? Вы, хлопцы?

Генадзі. Мы. Ты ведаеш, што сёння нанач наша маладзёжная брыгада выязджае на балота на сенажаць?

Людміла. Меліся-ж заўтра.

Панасік. А парашылі сёння.

Людміла. Ну і добра. Я гатова.

Панасік. Тады пойдзем?

Людміла. Яшчэ рана. Пойдзем да рэчкі. Там мы варым юшку.

Генадзі. Юшку?

Людміла. Юшку.

Генадзі. А мо' там, што-небудзь мацнейшага зварыце?

Людміла. Можа і зварым.

Панасік. А на закуску гусака ўсмажыце?

Людміла (*з горачу*). Панасік, і ты, Генадзі, сорамна, брыдка, што вы з-за гусака не бачыце чалавека, не бачыце таварыша. Я не памятаю свае маці, я крышку памятаю бацьку, а Самсон зусім не ведае сваіх бацькоў. Невядома, што было-б з кожным з вас, калі-б вы так як ён гадаваліся ў беспрытульнікаў. Я пазнаёмілася з ім нядаўна, але я адчуваю ў ім харошага чалавека. Чуласць патрэбна, хлопцы, вось, што я вам скажу.

Панасік. Асабліва дзявочая.

Людміла. Так, і дзявочая, Панасік. Мы не маленькія.

Генадзі. Так-к. Панасік, а мо' Люда і праўду кажа.
Панасік. Не ведаю, можа і так.
Генадзі. Тады пойдзем пасёрбаем юшкі.

Прыбег Карпей.

Карпей. Людачка, чакаем. Таварышы калгасныя начальнікі, просім на юшку, раз прышлі сюды. З музыкаю сустрэнем. (*Пачуліся гукі гармоніка.*)
Людміла. Пойдзем, хлопцы. (*Пайшла, Генадзі за ёю.*)
Генадзі. Пайшлі, Панасік. (*Пайшоў.*)
Карпей (*да Панасіка*). А ты там, што стаіш?
Панасік. Я не пайду.
Карпей. Чаму? Мо' жывот баліць, дык вылечу. Той у капялюшы сербнуў дзве лыжкі ды ўжо чыхае. (*Панасік павярнуўся і пайшоў у другі бок.*) Бач ты, мусіць за гусака злуе. Эх, дзе мяне маці не радзіла! (*Пайшоў.*)

ЗАСЛОНА

## КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

Пачынаецца амаль пры той-жа дэкарацыі, што другая, толькі з'явілася саламяная плытніцкая будка. Перад ёю на шырокай калодачцы чыгун з юшкаю. На высокай калодачцы сядзіць Макар Іванавіч. Людміла і Генадзі прыселі на карачкі. Самсон рэжа хлеб. Карпей палез у будку.

Самсон. Лыжак толькі дзве. Бярэце хлеб. Ну як?
Макар Ів. Надзвычайна.
Людміла. Крыху пячэцца.
Макар Ів. Зусім натуральна (*з будкі вылез Карпей*).
Карпей (*да Макара Іван.*). Чакайце крышку, таварыш, я вам налью ў гэтую люміневую місачку.
Самсон. Карпей, што ты?
Карпей. А што? Чысценькая, як люстэрка. (*Налівае.*)
Макар Ів. (*аддае лыжку Генадзію*). Пасёрбайце вы, малады чалавек.
Генадзі. Давайце.
Макар Ів. Вы, Людачка, не адчуваеце, што тут крышку занмога солі, нават перцу.
Людміла. Адчуваю.
Карпей. Не можа быць.
Макар Ів. (*да Карпея*). Калі ласка, мне кавалачак рыбкі.
Карпей. Галаву паважаеце, ці хвост?
Макар Ів. Усёроўна. Ну вось дзякую.
Карпей. Чакайце. (*Прытрымаў місачку, наліў, пакаштаваў, аддаў Макару Іванавічу. Да Людмілы.*) Ты галубка, перац сыпала?
Людміла. Сыпала.
Карпей. То ўсыпаў-жа і я. А саліла?
Людміла. Саліла.
Карпей. То пасаліў-жа і я.
Макар Ів. Хо-хо-хо (*пачаў чыхаць*).

Самсон. Ну што ты, Карпей, нарабіў?

Карпей. А што? Юшка так і любіць. Каб сербануўшы, значыцца, чалавек мог чыхаць.

Людміла (*пырснула ад смеху*). На здароўе, Макар Іванавіч.

Макар Ів. На здароўе і вам. А ведаеце, надзвычайная прымета. Перасол, ды яшчэ з перцам, ха-ха! Важная прымета.

Людміла. А якая?

Макар Ів. Гаспадар закаханы.

Генадзі. Безумоўна. І я ведаю ў каго?

Макар Ів. Адкрывайце, калі не сакрэт.

Генадзі. Адкрываю.

Людміла. Самсон, чаму ты не прабуеш юшкі? На лыжку.

Генадзі. Спакойна. Адкрываю: гаспадар закаханы ў таго, каму пададзена асобная алюміневая місачка.

Людміла. Ага, праўда, праўда.

Макар Ів. Праўда не заўсёды трапляе па адрасу. (*Глядзіць на Карпея.*) Тым не менш...

Карпей. Я вам менш? Давайце падбаўлю.

Макар Ів. Хопіць, хопіць. А слаўныя вы людзі, калі вось так паглядзіш на вас на прыродзе. Дазвольце мне за ваша здароўе. (*Дастаў з бакавое кішэні чацвяртушку.*)

Карпей. Ну? то чаму вы да гэтае пары трымалі ў кішэні? Давайце пастаўлю ў халодную вадзіцу. (*Узяў.*) Даставайце другую.

Макар Ів. З сабою больш няма. Чарачка ёсць. (*Дастаў.*)

Карпей. То налівайце так.

Макар Ів. (*налівае*). Дазвольце мне падняць кілішак. За незвычайныя з'явы нашага жыцця, за харaство дум чалавечых!

Генадзі. Брава, Макар Іванавіч, брава!

Макар Ів. І за вас, Людачка, асабліва (*выпіў*).

Людміла. Дзякую, Макар Іванавіч.

Макар Ів. Каму ж цяпер?

Самсон. Карпею.

Людміла. Дзядзьку Карпею.

Карпей. Факт што мне, па старшынству (*узяў чарку*). Дай божа вам. Не, мусіць гэта па старому.

Генадзі. Давайце як умееце.

Карпей. Не, не, трэба па новаму. (*Падцягнуў левай рукой папружку*). Дай божа вам, комуністы: каб у полі радзілася, у хляве пладзілася...

Падышла Міхаліна.

Карпей. Не не дасць-жа чалавеку ні выпіць ні слова сказаць. (*Усе павярнуліся, бачаць Міхаліну.*)

Міхаліна. Адбіраць не буду. Пі, можа не разарве.

Карпей. Ніколі. Бывае часамі, што арганізма супраціўляецца, а каб разарваць—не. Я да вас, мадамачка:

Чарачка поўная
Рот мо не вузкі—
Няхай жа гадуюцца
Качкі і гускі.

Усе. Брава! Брава!

Міхаліна. За добрае слова можна і падзякаваць.

Карпей (*паднёс Міхаліне чарку*). Проша піць, можа не разарве, як адна баба казала.

Міхаліна. Бач які злапомны. (*Узяла чарку*.) А я дык і пра гусака забылася.

Людміла. Вось гэта, цётка, разумна.

Макар Ів. Яшчэ каб пра адну справу забылася—тады можна лічыць, што вы зусім свядомая жанчына.

Міхаліна. А, рабі сабе як хочаш.

Самсон. Бярыце, цётка, рыбку.

Макар Ів. Калі ласка, Міхаліна Сямёнаўна, з мае міскі. (*Дае рыбу*.)

Карпей. Частуйцеся, мадамачка, вуды стаяць на шчупака, падкіну свежанькай. Я-ж быў у вас у гасцях, хоць вас і дома не было.

Міхаліна. Я ўжо ведаю. Прышла я ўчора дадому, дык мой стары і ўссеў на мяне.

Макар Ів. Як гэта?..

Міхаліна. Ну пачаў сварыцца за тое, што я накінулася на гэтых плытнікаў. Гэты Карпей яго вялікі сябра.

Карпей. Тры гады ў абозе з немцам ваявалі.

Людміла. Вось яно што?

Міхаліна. Ага-ж, падумала я, як яны бедныя пакутвалі і як мы тут гаравалі, дык вось усё і адлягло і ён (*паказвае на Карпея*) нібы родным мне стаў.

Макар Ів. Надзвычайна, Міхаліна Сямёнаўна, надзвычайна.

Міхаліна (*да Людмілы*). Трэба-ж пахваліць, дык мо' цалейшыя будуць гусі.

Людміла. Самсон, зайграй што-небудзь.

Самсон. Я зараз (*устаў, дастаў з будкі гармонік, ускінуў на плячо*).

Макар Ів. Скажыце, малады чалавек, нешта вы не па гадах пахмуры.

Самсон (*усміхнуўся*). Нічога, Макар Іванавіч...

Макар Ів. А так, так, так, я разумею, прабачайце, успомніў. (*Самсон зайграў*: „Віюць вітры, віюць буйны". *Усе, кожны, ў сваей позе, слухаюць. Людміла без слоў мясцінамі падпявае. Скончыў*.)

Макар Ів. Вы надзвычайны музыка. Скажыце, ваш бацька напэўна іграў?

Самсон. Не ведаю, можа і ўмеў іграць.

Макар Ів. Умець мала. Трэба мець музычную душу, і ў вас яна ёсць.

Генадзі. Макар Іванавіч, а што, каб мы з вамі запрасілі дам і патанцавалі?

Макар Ів. А што вы думаеце? Толькі дам у нас—можна сказаць адна.

Генадзі. Каго вы не лічыце?

Макар Ів. Ну цётушка мая—усё-такі... ўжо хе-хе.

Міхаліна. Што ўжо, хе-хе? Папытайся ў Генадзія, колькі я надойваю літраў, у яго ў канцылярыі запісана. А за што мне кожны год даюць „прэмія". Не ведаеш?

Макар Ів. Ведаю. Вы добрая даярка. У вас добрыя рукі. А танец вымагае трываласці і спрыту ў нагах.

Міхаліна. Ну і што ж? (*Да Самсона*). Зайграй, сынок, полечку, а мы з Карпеем па ўдарнаму.

Карпей. Го, давай, мадамачка! Трымайце нас на швару на барбару, на гартоль.

Самсон (*рашуча паставіў гармонік, устаў і да Міхаліны*). Сынок? Адкуль вы мяне ведаеце?

Міхаліна. Чаго ты? Як адкуль? Сам-жа ведаеш.

Самсон. Вы мяне бачылі маленькім беспрытульнікам, калі мяне большыя дражнілі „сынок"?

Міхаліна. Ніколі я цябе не бачыла. Людачка, што гэта з ім.

Людміла (*падыйшла да Самсона*). Самсон, у нас тут ніхто не ведае, як цябе дражнілі, калі ты быў беспрытульнікам, ды гэта нам не цікава. А сказала цётка Міхаліна „сынок", дык у яе-ж сын у Чырвонай арміі камандзірам. Сынок, гэта ласкавае слова маці. Табе яно незнаёма, як мне „дачушка".

Генадзі. Ёсць яшчэ ласкальныя словы як: каток, галубок.

Макар Ів. Зусім зразумела, я нават чуў песню: „Спі, сыночак міленькі, галубочак сівенькі".

Самсон. Тады прабачайце, я не зразумеў. Прабачайце, цётка Міхаліна. Якую полечку зайграць?

Карпей. Давай нам „Ёлачкі і палачкі" (*Самсон адразу ўрэзаў полечку. Карпей шырока расставіў рукі, прыгнуўся, схапіў Міхаліну і закружыўся з ёю*).

Людміла. Бачыце, Макар Іванавіч.

Макар Ів. (*пасунуў акуляры на лоб*). Надзвычайна. Ударніца і тут. (*Калі скончылі польку, Міхаліна звярнулася да Макара Іванавіча.*)

Міхаліна. Выходзь на спаборніцтва.

Генадзі. Правільна, цётка Міхаліна.

Людміла. Давайце, Макар Іванавіч, з вамі. (*Падбегла, бярэ за руку.*)

Макар Ів. О, не, не. З вамі зусім рызыкоўна.

Карпей. Не бярыся, Макар Іванавіч, не бярыся. Я ведаю з практыкі.

Людміла. Дзядзька Карпей, няўжо стаміліся.

Карпей. А што ты, галубка, думаеш? Скажу па праўдзе, плыты боміць з выспы мне лягчэй.

Макар Ів. Ну вось бачыце.

Самсон. Не мані, Карпей, не мані.

Карпей. Я кажу пра сябе. Узаб'еццца плыт на мелкае месца, я злажу ў ваду, падкладваю адзін канец бомы пад плыт, а другі кладу на плячо і пачынаю ціснуць. Трашчыць плыт, жылы трашчаць і, калі ў каго слабы пуп—ён не плытнік. Год, два паездзіць і ў брак. А ў мяне, ведаеце—адмысловы пуп. Калі я нарадзіўся, дык бабка перавязала стальным дротам.

Міхаліна. Ох-ха-ха, бадай яго цяляты з'елі.

Макар Ів. Надзвычайна! *(Устаў, ідзе да Карпея.)* Не магу каб не пацалаваць вас. *(Цалуюцца.)*

Карпей. Ведаеце, Макар Іванавіч, я для вас зайграю лёгкі, далікатны танец.

Макар Ів. А вы можаце іграць?

Карпей. Го-го, паслухайце. *(Бярэ у Самсона гармонік.)* Чардаш! Гэта ўжо ён навучыў (*паказаў на Самсона. Зайграў*).

Макар Ів. Надзвычайна. (*Павярнуўся да Людмілы і Самсона.)* Я лічыў-бы, гэты танец вы павінны танцаваць, сур'ёзна.

Людміла. Давай, Самсон.

Самсон. Не, я не магу.

Людміла. Я навучу.

Самсон. Не, Людміла. Можа Генадзі.

Людміла. Давай, Генадзі, з табою. *(Генадзі моўчкі устаў, паправіў рубашку, акуляры, палажыў кніжку і пайшоў з Людмілай танцаваць. Самсон падыйшоў, узяў кніжку, разглядае і кідае позірк на Людмілу).*

Макар Ів. Сябры мае! Надзвычайна! *(Людміла і Генадзі пакінулі танцаваць).* Мне хочацца ээ... (*Дастаў з кішэні недапітую чатвяртушку.)* Здаецца тут крышку засталося. (*Наліў у чарку.*) Падняць гэтую чарачку... *(глянуў на Самсона і Генадзія).* Прабачайце, што я не прапаную вам, бо тут капля.

Самсон. Ды вы самі.

Генадзі. Калі ласка, Макар Іванавіч.

Макар Ів. Ну так, мы яшчэ спаткаемся. Дык вось: я не пазнаю вёскі.

Міхаліна. Бо шмат гадоў не прыязджаў, новыя хаты пастаўлялі, калгасныя будынкі.

Макар Ів. Гэта таксама змянілася, але я хачу сказаць, што я не пазнаю людзей, асабліва моладзь.

Міхаліна. Дык дзіва, павырасталі.

Макар Ів. Правільна, але я хачу сказаць не пра фізічны рост, а пра культурны рост. Вось зараз я бачыў сапраўдны бальны чардаш.

Генадзі. Хіба толькі ў гэтым вы бачыце наш культурны рост?

Макар Ів. Пачакайце. Стаць знатным чалавекам, гадуючы цялят на ферме—гэта таксама трэба быць да некаторай ступені культурным, прынамсі, надзвычай свядомым.

Генадзі. Правільна.

Макар Ів. Ну вось, а вы, малады чалавек, вы—сапраўдны філосаф.

Генадзі. Ды што вы?

Макар Ів. Я з вамі крышку пагутарыў у канцэлярыі і я зразумеў, што вы не дрэнна знаёмы з энцыклопедыяй Брокгауза і Эфрона.

Генадзі. У малую Совецкую таксама крыху заглядаў.

Макар Ів. Правільна, ёсць такая, на вакзале бачыў.

Людміла. У нашай бібліятэцы таксама ёсць. *(Самсон прагна і не без зайздрасці сочыць за гэтай гутаркай.)*

Макар Ів. Ну, вось бачыце, у вас усё ёсць. А ў маім комса-

мольскім узросце нічога не было. *(Крыху ўсхвалявана.)* Знатнымі людзьмі былі дармаеды, а не людзі працы.

Міхаліна. Праўду кажа.

Макар Ів. Я недзе чытаў „да жыцця прыйшлі новыя майстры, нарадзіліся падмайстэр'і". Хто-ж гэтыя майстры і падмайстэр'і, падумаў я? Большэвікі і комсамольцы, чэрці ха ха! Э-э, вы прабачайце. Я гэта па любоўнаму. Я аднаго шкадую, што не жаніўся ў свой час. Можа былі-б і дзеці... А цяпер позна. Позна, цётушка, Міхаліна Сямёнаўна.

Міхаліна. Не ведаю, глядзі сам.

Макар Ів. Нічога, але я радуюся маладому пакаленню, дзецям узыходзячага сонца, кветкам пякучай расы. А ўзяць бы... *(Падыйшоў Панасік.)* Ну вось падыйшоў малады чалавек.

Людміла. А, Панасік.

Макар Ів. Загадчык фермы. Гэта-ж па старому чыну—упраўляючы маёнткам.

Генадзі. Чуеш, Панасік.

Макар Ів. *(глянуў на Карпея).* А вы...

Карпей. Я не малады чалавек. Я патомственны плытнік, мяне не чапайце. Самсон маладзейшы.

Макар Ів. Самсон... На жаль, вас я не ведаю. Ігра ваша на гармоніку мне падабаецца, я так—прабачайце, не ведаю.

Самсон. Я сам скажу.

Панасік. Цётка Міхаліна, ваш стары шукае вас і лаецца.

Міхаліна. Пачакае, такой бяды.

Генадзі. Ціха вы.

Самсон *(пачаў спакойна).* Нарадзіўся я ў тысяча дзевяцьсот трыццаць першым годзе, у сакавіку.

Міхаліна *(да Панасіка).* Што ён вярзе? *(Усе глянулі на Міхаліну, яна здэтанавалася).*

Самсон. У трыццаць першым годзе я ўхапіўся за жыццё. Часта самому не верылася, што ўтрымаюся. Асеў. Пакуль што на плытах, вось у такой мілай хатцы *(паказаў на будку),* я быў беспрытульнікам. *(Да Міхаліны)* не пужайцеся, цётка Я... умеў красці, інакш бы не ведаю ці жыў бы. Ды не ўсе з маіх таварышоў і выжывалі... Пакалечыліся, а каторыя памерлі, а мо хто і знатным стаў. Прытулкаў я баяўся. Уцякаў я ад іх. А хатаю маёй былі: *(схіліў галаву),* вакзалы—Оршы, Саратава, Мелітопаля, Кіева; прыстані—Волгі, Дняпра, Дона; тармазы хуткіх, паштовых паяздоў... Усяго не пералічыш.

Макар Ів. І не трэба, зразумела—гэта не лёгка.

Самсон. Трапіў я на будкі плытнікаў—здружыўся з імі, сам стаў плытнікам.

Людміла. А як ты апынуўся тут, у нашым баку?

Самсон. А я прабіраўся з Харкава ў Менск. У Асіпавічах высадзілі. Я падняў бузу, сабраўся натоўп. І вось чую з натоўпа голас: „сынок, ході" А гэта азначае: „за мною". Я шмыгнуў. І на ганку станцыі я пазнаў свайго таварыша, добрага друга.

Людміла. Таксама беспрытульнік?

Самсон. Быў. Цяпер—комсамолец, працуе ў леспрамгасе. Цэлую ноч расказваў ён мне пра свае новае жыццё, пасля пазнаёміў са сваімі таварышамі, комсамольцамі і на сходзе. І... вось я і застаўся. Гэта было ў сакавіку.

Людміла. Чуеш, Генадзі.

Самсон. Працую. Зарабляю. Жыву.

Людміла. А цяпер не хочацца вандраваць?

Самсон. Скажы проста—бадзяцца? Не. Цяпер хочацца пабыць на комсамольскім сходзе, дома за сталом пачытаць кнігу, а ў вольны час (*канфузліва і з гараччу*), пасядзець у садку... сярод кветак.

Генадзі (*да Панасіка*). Панасік, ты зразумеў?

Панасік. Зразумеў.

Генадзі. Калі судзіць па тону, дык зразумеў ты не зусім правільна. (*Падыйшоў да Самсона.*) Самсон, дай руку. Я хачу быць тваім найлепшым таварышом. (*Самсон дае руку.*)

Людміла (*падбегла да Самсона*). Ну, вось бачыш, Самсон... ды што-ж гэта ты. (*Схілілася.*) Няўжо плачаш?

Самсон (*узяў яе руку, прыціснуў да сваіх губ, адпусціў руку*). Не, Люда, я так... я ніколі не плачу. А цяпер... цяпер я танцаваць буду! (*Карпей зайграў „Яблычка", Самсон пайшоў танцаваць, майстэрскі, з усёй палкасцю. Раптам Карпей абарваў музыку*).

Карпей. Ой, я-ж і забыўся, вуды на шчупака паставіў... (*пабег*).

Міхаліна. Пабягу-ж да хаты. (*Пайшла.*)

Макар Ів. Надзвычайна. Вы мне нагадалі аднага артыста. Ён называўся Кім. Была такая карціна.

Генадзі. Не Кім, а Кін. А інакш яшчэ гені і беспутства.

Макар Ів. Так, так. Ну, ведаеце, у вас такія пазнанні... Правільна Кім, гэта—Комуністычны саюз моладзі, о, так.

Людміла. Комуністычны інтэрнацыянал моладзі.

Макар Ів. Правільна, і з вамі не спрачаюся. Скажыце, калі пачынаецца касьба?

Панасік. Заўтра.

Макар Ів. Што вы кажаце.

Панасік. Сёння нанач выязджае маладзёжная брыгада.

Макар Ів. І далёка.

Панасік. На балота за кілометраў 8.

Макар Ів. Вы, Людачка, не едзіце?

Людміла. Еду.

Макар Ів. Вы-ж на ферме.

Людміла. На ўборку выходзім усе.

Макар Ів. Шкада, я думаў заўтра запрасіць вас усіх да сябе.

Людміла. Няхай-бы раней. А цяпер застаецца нам запрасіць вас паехаць з намі.

Генадзі. Правільна, Люда.

Макар Ів. Паехаць не выпадае, а вось калі будзе ўборка блізка—з прыемнасцю падыйду. Люблю калі луг ус[illegible]аўл[illegible]ы капа[illegible]і і „бабы с граблями, рядами ходят, сено шевеля".

Генадзі. Макар Іванавіч, начаваць мы будем сёння на балоце, на градзе, у ельніку. Касцёр свой бляск імчыць увысь, а

„ўвысі зорак
Сенажаць вартуе
Месяц і дзед двурогі"

Пісаў Міхась Чарот.

Макар Ів. Не спрачаюся.

Генадзі. Значыцца едзем?

Людміла. А можа паехаў бы Самсон і Карпей?

Самсон. Калі возьмеце—паеду.

Генадзі. Панасік, як ты?

Панасік. Па мне... няхай сабе едзе.

Людміла. Маладзец Панасік! З музыкаю паедзем туды і назад. (*Пачуўся голас Карпея*: „го-го!.. Сюды-а... шчупак узяўся-а-а!" *Самсон адразу пайшоў.*)

Макар Ів. Што, шчупак? Цікава. Пойдзем паглядзім. (*Пайшоў, за ім Генадзі і Люда.*)

Панасік. Люда, пачакай.

Людміла. А што?

Панасік. На адну хвілінку. Ты, Генадзі, ідзі.

Генадзі. О, нешта сур'ёзнае. Ну, ладна. (*Пайшоў.*)

Панасік. Скажы сумленна, па-комсамольскі: што ты думаеш пра замужжаства?

Людміла. Чыё?

Панасік. Сваё.

Людміла. Панасік, як-жа я магла думаць, калі ты ні разу мне пра гэта не казаў.

Панасік. Ды я не пра сябе, я пра іншых: ну, дачніка гэтага, Самсона.

Людміла (*спакойна*). Самсон не зусім звычайны хлопец. Другая можа спужалася-б. А я чамусьці адчуваю у ім харошага чалавека. Мне хочацца, каб ён быў разам з намі...

Панасік. Зразумела. А мне застаецца напіцца?

Людміла. Што ты, Панасік? Як гэта?

Панасік. А вось так.

Людміла. Не раю, Панасік.

Панасік. Не бойся. І п'яным я глупства не зраблю, частаколу ламаць не буду. Хацеў бы прасіць цябе калі можна: ідзі замуж у другі раён, бо не ведаю, як цяпер разам працаваць.

Людміла. Ха-ха. Панасік, нічога. Будзем разам працаваць, кароў, цялятак гадаваць. Малака, мяса дамо дзяржаве!..

Панасік. Баюся, што ты скора дзяцей пачнеш гадаваць.

Людміла. Ну, мілы мой, без гэтага дзяржава таксама не можа абыйсціся.

Панасік. Правільна, вядома...

(З шумам і смехам падыходзяць: Макар Іванавіч, Карпей, Генадзі, Самсон).

Макар Ів. Надзвычайна, цудоўна.

Карпей. А як вы думалі, хо-го! (*Кінуў торбу са шчупаком каля будкі.*)

Генадзі. Шчупак важны.

Карпей. Па рыбаку і рыбка.

Макар Ів. Скажыце, таварыш Карпей, гэтаму шчупаку таксама абрыдзела жыць.

Карпей. О не, гэтага я закілзаў, як неаб'езджанага каня.

Панасік. Пара ехаць. (*Самсон адвярнуўся да будкі, узяў паліто, гармонік.*)

Людміла. Ага, пойдзем, хлопцы.

Карпей. Куды?

Генадзі. На сенажаць, дзядзька Карпей. Самсон таксама едзе з намі.

Карпей (глянуў на Самсона). Ты гэта што, Самсон?

Самсон. Еду, Карпейка.

Карпей. Хадзі сюды, хадзі.(*Самсон падыйшоў.*) Глянь мне ў вочы старому плытніку і скажы: едзеш?

Самсон. Еду. (*Карпей павольна адвярнуўся, ломіць на кавалачкі пруцік, які ў яго ў руках. Маўчанне.*)

Макар Ів. Мне крыху знаёма пачуццё чалавека, які траціць таварыша, друга...

Генадзі (*у тон Макара Іванавіча*). А мне крыху знаёма пачуццё чалавека, які знаходзіць таварыша, друга...

Панасік. Завялі, нібы па касцёлам. Ехаць пара!

Генадзі. Панасік, крыкам спачування да сябе не выклічаш.

Панасік. А пры чым тут я?

Людміла. Дзядзька Карпей, дык можа паехалі-б і вы?

Карпей. Я з плыта не саступлю.

Людміла. Дык не сумуйце, Самсон хутка вернецца.

Карпей. Вернецца, але мусіць не да мяне.

Людміла. Тады вы прыходзьце да яго.

Генадзі. Правільна.

Карпей (*павярнуўся да іх*). Ага... цяпер я разумею (*да Людмілы.*) Я прыду да цябе.

Людміла. Калі ласка.

Карпей. На вяселле прыду, хо-го-го!

Генадзі. Правільна.

Макар Ів. Надзвычайна!

Карпей. А ўсё-ткі гусак мяне падвёў. Але-ж, нічога не зробіш. Ну, за Самсона з вамі, хлопцы—я мог бы пабіцца, а з ёю—не. Дазвольце мне першы раз у жыцці хоць на адзін момант быць бацькам. (*Падыйшоў да Людмілы, пацалаваў у галаву, падыйшоў да Самсона.*)

Самсон. Ды я прыду, Карпей.

Карпей (*ласкава*). Не трэба, сынок (*пацалаваліся.*) Ідзі новай шчаслівай дарогай. Ідзіце. (*Панасік, Генадзі, Людміла, Самсон пайшлі. Самсон зайграў марш.*)

Макар Ів. Надзвычайная моладзь.

Голас Людмілы. Дзядзька Карпей, заходзьце-э-э.

Карпей (*гукае*). Зайду-у-у!.

---

*Алесь Звонак*

# ЛІРЫКА

I

У гарах Аджарыі тваёй прыгожай,
Пад небам сонечным, між скалаў хмурых
Крутымі сцежкамі, высокай кручаю
Мы йшлі з табою ў Махінджауры.

А нейдзе ўнізе на дне праселіны
Бег па каменні струмень шумлівы...
Быў дзень нязвыклы і поўны радасці
У гарах Аджарыі тваёй шчаслівай...

А дзесьці высака пад небасхілам
Арол кранаўся крылом аблокаў...
Так думка вольная імкнецца ў высі
І песні водгуллем ляціць далёка.

У лагчыне лозы вінаграднікаў
На дол схіляліся санліва...
Дзяўчаты смуглыя спявалі песню,
Песню Аджарыі шчаслівай...

І я сказаў: у ціхі верасень
Пад небам родным, пад небам хмурым
Схаваю ў сэрцы твой вобраз ласкавы,
Схаваю ў памяці Махінджауры.

II

На блакітнай бухце човен белы
У даль нязнаную павольна плыў...
Толькі ветры ціха шалясцелі,
Калыхалі ўзрушаную плынь...

Белы човен знік у далячыні
Па-над морам змрок вячэрні паў...
У белым плацці смуглую дзяўчыну
На бяду сваю я напаткаў...

На высокім беразе стаялі,
Цёплы вецер дзьмуў з чужых краёў...
Ты сама ні слова не сказала,—
Усё сказала сэрца мне тваё...

Пасылала мора пырскі скалам,
Зоры падалі на хвалі ніц.
Прачытаў я ўсё ў вачах ласкавых,
У трапятанні вуснаў і расніц...

Толькі сэрца сумам засмылела,
Што не ў час каханая мая,
Знікне так, як у моры човен белы,
У далёкіх сонечных краях...

III

Шумавала мора ў незвычайны вечар,
У зялёных хвалях месяц патануў.
Знае мая памяць шмат такіх сустрэчаў,—
Адбяру наўдачу першую адну.

Не шукаў цябе я ні учора ні сення,
Толькі раз заўважыў, стрэўшыся з табой,
Што ў вачах тваіх іскрыцца сонца поўдня,
А мае авеяны сіняю смугой...

Шумавала мора і ў наступны вечар,
Па крутым ўзбярэжжы мы ішлі ўдваіх...
Сумавала ціхая аб далёкім нечым,
І застыла ўсмешка на губах тваіх...

І тады заўважыў я ў тваім аблічча,
У тваіх вачах, усмешцы дарагой
Вобраз лятуцені, страчанай калісьці
Да цябе падобнае любае другой.

Шумавала мора і у трэці вечар,
У далеч невядомую караблі плылі...
Захаваем, любая, у сэрцы тры сустрэчы,—
Можа і згадае памяць іх калі.

IV

*(Песня)*

Тры гудкі...
Пара адчаліваць...
Смаліць дым
Праз дзве трубы...

Выйдзі, любая, на палубу,—
Штосьці ў сэрцы шмат журбы...
Выйдзі, любая, на палубу,
Белай хустачкай махні,—
Нам з табою не пабачыцца
Да наступнае вясны...

Сумны я
Стаю на прыстані,
Зірк задымлены тугой...
Не чакаў такое ростані
Я з каханай дарагой...
Не чакаў такое ростані
Я з каханаю табой,—
Ты плывеш
На поўдзень сонечны,—
Шлях вядзе на поўнач мой...

У Батуме кіпарысавым,
Калі сэрца сум кране,
Ўспомні любага далёкага,
Адзінокага мяне...
Я таксама
Ўспомню любую
І далёкую сваю.
Да вясны наступнай сонечнай
Ў сэрцы памяць затаю...

І не раз
У вечар восеньскі,
Ў сцюжу снежаньскіх завей
Думка—лебедзь белакрылая
Ў чорнамор'е паплыве...
Думка—лебедзь белакрылая
Ў чорнамор'е паплыве,
Дзе ў Батуме кіпарысавым
Мая любая жыве...

Тры гудкі...
Пара адчаліваць...
Смаліць дым
Праз дзве трубы...
Выйдзі, любая, на палубу,—
Штосьці ў сэрцы шмат журбы...
Выйдзі, любая, на палубу,
Белай хустачкай махні,—
Нам з табою не пабачыцца
Да наступнае вясны.

Чэрвень, 1936 г.

*В. Кудзімаў*

# МАРТЫН ЖЫВАПІСЕЦ*)

* * *

Сёння раніцою ён спыніўся ў ніжнім садзе, здзіўлены гульнёю колераў вады, якая падала каскадамі. Ранішняе сонца залівала святлом пляцоўку перад палацам. На высокай скале выдзялялася манументальная група Самсона, які раздзіраў зяпу шведскага льва. Задыханы звер выкідваў з зяпы высокі дыяментавы смерч. З гранітных бартоў басейна, казачныя жыхары марэй: нераіды, наяды і трытоны трубілі ў ракавіну пра „найвялікшую вікторыю" (перамогу), а краіны свету ў вобразе ільвят, здзіўлена слухалі з логаваў у скале. Гэта была слава самаўладству і яго носьбіту Пятру Першаму. Але якая справа да гэтага прыгоннаму памешчыка Барышнікава? Якія адносіны мае ён да новых гандлёвых шляхоў на Захад, ён, жывапісных спраў вучань Мартын Калінкін?

Зубны боль блытаў думку ды і перашкодзіла нечаканае рыпенне. Два дзесяткі вазоў, нагружаных зямлёй, цягнуліся чарадою па бакавой алеі. У кожны было ўпрэжана па два чалавекі, а трэці дапамагаў ззаду, упіраючыся рукамі ў драбінку калёс. Перавозілі зямлю для ўмацавання нізкіх берагоў сажалкі ад канала, які зноў выкопвалі. Каб капыты коней не псавалі ўтрамбаваных дарожак, зямлю вазілі людзі.

Цяжка было пазнаць людзей у гэтых калматых смаленскіх грабарах. Былі яны худыя, хмурныя і апранутыя ў рыззё. Рыпелі, рэжучы слых, немазаныя колы. Наперадзе, адкінуўшы назад галаву, налягаў шырокімі грудзямі на лямку высокі белагаловы хлопец. Гэта быў знаёмы Мартына — Пятрусь, родам з-пад Оршы. Тыдні два таму назад, мастак выратаваў яго з вялікай бяды і ад таго часу ў іх пачалося сяброўства. Але вось дзіва, як толькі параўнаўся воз з тым месцам, дзе стаяў Мартын, Пятрусь адвярнуўся. Ён апусціў галаву і прайшоў мерным крокам, не прымечаючы прыяцеля. Няўжо зазлаваў? За што? Але зноў заныў зуб, боль зблытаў думкі. І толькі пазней здагадаўся Мартын, седзячы на выступе мармуровага басейна. Ён зразумеў Пятруся і стала ад гэтага на сэрцы сумна. Бо апранут быў Мартын у добры гарнітур, меў на абед не галоўку часнаку і мякінавы хлеб; часам бывалі ў яго і грошы. Ды і ўвесь выгляд Мартына быў не мужыцкі, не

---

*) Урыўкі з рамана. Пераклад з рускае мовы.

абшарпаны і дзікі, як у Пятруся. Таму і адвярнуўся. Але вось зноў рыпанне—пранізлівае, працяглае, пачулася паблізу і ажыла скульптурная група ў басейне. Шумліва лапочучы крыллем па вадзе, адна за другою з кракtаннем пабеглі качкі Адрывіста брэшучы, за імі пагнаўся сабака. Пасярод басейна, пераліваючыся на сонцы, пачалі біць фантаны і хутчэй, хутчэй пабеглі качкі, вось-вось узнімуцца яны, выцягнуўшы даўгія шыі, мацней брэша сабака—зараз вось у гэтую хвіліну ён схопіць крайнюю.

Хрыпаты смех пачуўся за спіною Мартына.

— Гэта забаўна!

— То фабуль эзопы, ваша сфетласць...

Велізарнага росту, чорнавалосы, смуглы мужчына, у багата вышытым мундзіры, стаяў ля басейна. Ён шырока расставіў крывыя ногі і, падпёршы кулакамі бокі, адрывіста смяяўся.

— Калі матушцы да спадобы—пафарбавацьǃ—адрывіста загадаў ён нізенькаму тоўстаму чалавеку, які стаяў ззаду.

— Слюхаю, фаш сфетласць!

У вялікана адно вока было з бяльмом, а другое дужа касіла. Знадворны выгляд ён меў нейкі дзіўны і адштурхоўваючы. Не прымячаючы Мартына, які нізка схіліў спіну, ён крута павярнуўся і салдацкім хуткім крокам адышоўся. Следам за ім падаўся таўсцяк, дробненька перабіраючы нагамі ў панчохах пясочнага колеру. Мартын ведаў, што таўсцяк—кіраўнік Пецергофскай гранільнай фабрыкі, але хто вялікан у портках зялёнага аксаміту, у пышным жабо? Ці не сам гэта Пацёмкін?

І дзіўная справа, ледзь заціхлі крокі—спыніліся крыкі і сабачы брэх, спыніўся фантан, застыгла скульптурная група. Гэта было падобна на сон, але разам з тым усё было вельмі проста. Унізе скалы адчыніліся дасціпна прымайстраваныя дверцы і паказалася галава ў лямцавым мужыцкім калпаку. Чалавек, страшэнна худы, у парваным кажушку, паказаўся напалову з дзверцаў. Ён лёг грудзьмі на парог і зайшоўся ад доўгага зацяжнага кашлю. Глухі і цяжкі быў кашаль. Чалавек пляваў на жоўты пясок крывёю. Ён дыхаў цяжка і прагна, глытаючы паветра, як рыба, выцягнутая з вады. Замест носа на твары яго былі дзве дзіркі ды зрослыя два кавалачкі скуры, якія ўтваралі нарост падобны да дзюбы. Вушэй у чалавека таксама не было. Асеплены сонечным бляскам, ён разгублена міргаў вачыма і нельга было разглядзець гэтых вачэй.

— Пайшлі...

— Хто?—не зразумеў Мартын.

— Ну, паны?..

— Пайшлі...

— Думаў смерць мая... здохну скора...

— Ды ты хто?

— Што?

— Чаму, пытаю, худы такі?

— Пабрашы вазьмі, дзесяць год пакракчы, схудзееш хлапец... А завуць мяне Юстын. А ты з якіх-жа?

— Дваравы. Барын прызначыў вучыцца ў архітэктара.

— Рыхтуецца... царыцу чакаюць,—кіўнуў стары у напрамку да тых, што пайшлі.

— Казалі, хутка наведае,—пацвердзіў Мартын.

— Піры пачнуцца, вясялосць, а мне працы на цэлы дзень.

— Няўжо цэлы дзень брэшаш?

— Цэлы дзянёчак гаўкаю, ад цямна да цямна... За рубель у месяц... А ў мяне хвароба ў грудзях і трасца трасе.

Абодвы змоўклі. Стары хутаўся ў парваны кажушок і жмурыўся ад сонца. Ён нясціхана шавяліў пасінелымі губамі, нешта шаптаў; магчыма малітву, а магчыма праклёны. Мартын здрыгануўся, уявіўшы на момант яго дзесяцігадовую катаржную працу. І нейкім нікчэмным здаўся ўласны боль. Мастака непераможна пацягнула ўніз, туды—у нору старога.

— Дзед, пакажы, як яно там,—ціха запытаў ён.

— Чаго, хлопча?

— Як яно круціцца... Крэкча...

— А-а-а... На турму зірнуць? Зрабі ласку.

Стары нібы чарвяк павольна ўпоўз зноў у дзірку, відаць, яму не хацелася расставацца з цяплынёю.

— Сігай...—глуха дайшлося да Мартына.—Сігай, не бойся,—яшчэ цішэй пачулася з-падзямелля.

Мартын палез. Яго абкружыла густая цемра і, ступіўшы наўздагад, ён моцна стукнуўся аб нешта ілбом.

— Багаты будзеш,—пачуўся голас,—акуратней ступай, гні больш спіну.

Учарэпістая рука лягла на яго плячо і асцярожна павяла ўперад па брудных сходцах. Шуршэла зямля, пахла сырасцю і брудам, недзе звонка падалі кроплі вады. Яны спускаліся ўсё ніжэй і ніжэй, нібы ў магілу. Пахла сажаю і ў цемры нечакана паказаўся маленькі трапяткі агеньчык газоўкі. Слуп, падобны на трубу, падніма́ўся ўгору. На ім было прыстасована гарызантальнае драўлянае кола.

— Моцна бярыся рукамі і, налягаючы грудзямі, хутка бяжы па вытаптанаму кругу. У гэты час там, на версе качкі, узмахнуўшы крыллем, пабягуць, паднімаючы вадзяны пыл, а за імі—сабака. У той-жа час чалавек на-бягу павінен брахаць і крычаць у драўляную дудку, якая кружыцца разам з колам на узроўні рота. Вось і ўся няхітрая ўлада дзеда Юстына. А паспрабуй, пакракчы...

Стары абхапіў яго за плечы рукамі і, нахіліўшыся да самага твару, хрыпата шаптаў:

— Вось яна, сынок, доля, як у крата. Кручуся і лаўлю, як сабака свой хвост, а злавіць сілы няма.—З рота ў яго пахла часныком і гніллю. У грудзях клекатала.

— За дзесяць год ты першы чалавек... Дзе-небудзь, калі-небудзь, каму-небудзь раскажы, сынок, як жыву, як жыў Юстын. Гэта нябожчык барын, калом яму зямля, заправіў мяне сюды. Рвалі ноздры, рвалі вушы, на дыбе вісеў, дваццаць гадоў у капальнях гніў ды дзесяць тут... Барын нябожчык, каб ён на тым свеце сабе месца не знайшоў, упёк мяне...

Мартыну здалося, што стары звар'яцеў і можа задушыць. Ён схапіў яго за руку, адрываючы ад плеч сваіх, і падаўся да выхаду.

— Пойдзем, пойдзем, без прывычкі тут брыдка,—захрыпеў дзед.

Яны падняліся на некалькі прыступак угору і павярнулі кудысьці ўправа. Хвіліны дзве ішлі па вузкаму праходу і зямля ад сырасці плюхала пад нагамі.

— Цячэ кацёл, зал'е мяне вадой,—хрыпеў стары.

Але вось аднекуль пацягнула чыстым паветрам і рэзкая палоска святла ўдарыла Мартыну ў вочы.

— Тут мая святліца, у шчыліну гляджу, калі народ надыходзіць, і бягу круціць кола.

Яны былі ўжо ў штучнай скале. У Мартына кружылася галава. Ён прынік прагна да светлай шчыліны і глыбока дыхаў. Унізе відаць была частка пляцоўкі і басейн. Разгарнуўшы крыллі, на вадзе адпачывалі качкі і, напружаны, гатовы скокнуць на іх, застыў сабака.

— Ты сядзь,—пацягнуў яго ўніз стары.

Мартын апусціўся на гнілую салому і ўбачыў знявечаны твар, асветлены вузкаю палоскаю святла. Юстын сядзеў перад ім на карачках.

— Што ў народзе чутно, хлопча?

— Шмат што...—у тон стараму шэптам адказаў Мартын.

— Што пра бацюхну кажуць. Ці скора ў сталіцу прыбудзе?

Пра каго гэта ён?—не зразумеў Мартын.

— Ну, Емельлю Іванавіча скора чакаюць?

— А—а—а... Пугачова?—кажуць яго разбілі, дзед.

— Брэшуць, сынок. Не дапусціць гасподзь міласцівы.

— Так казалі напярэдадні.

— Не вер, брэшуць паны, будзь яны праклятыя. Будзь яны тройчы анафемы...

Стары хіснуўся і вузкая, як вастрыё нажа палоска святла, на момант асвятліла вочы яго савіныя і нянавісць, якая гарэла ў іх, нянавісць, якая дрыжэла ў хрыпатым шэпце яго—перадалася і Мартыну. Гэта было першае інстынктыўнае абуджэнне моцнага пачуцця. Стала цёпла ў грудзях і сціснуліся губы. Нянавісць! Што можа быць прыгажэй за гэта. Толькі з абуджэннем яго чалавек адчувае моц сваю і пачынае жыць!

* * *

Выйшлі на Мойку. Наперадзе, з левага боку быў Сіні мост з востраканцовымі абеліскамі пры ўездзе. Увесь парапет набярэжнай быў запружан людзьмі. Бліжэй да пляца, што каля палаца Чэрнышовых, людзі сядзелі проста на бруку. Адны з клункаў выцягвалі яду і тут-жа закусвалі; другія, паклаўшы пад галаву кулакі, спалі. Былі гэта находныя, прыгонныя людзі, якія кожнае лета навадняклі сталіцу, каб зарабляць аброк. Тут можна было знайсці і арцель пільнікаў—палачан, маляроў—яраслаўцаў і групу жылістых белагаловых смаленскіх грабароў. Увесь гэты народ у

рваных кажушках, у старых куртках, змардаваныя галечаю, часам хворыя, прыходзіў сюды раніцамі і чакаў часам цэлы тыдзень, каб наняцца і зарабіць грошай. Сярод гэтага натоўпу мільгалі часта постаці ямскіх фурманаў у доўгіх кафтанах, пашытых казачынкаю, карміліц у высокіх какошніках і каляровых душагрэях, садоўнікаў з лейкамі, лакеяў і шмат іншых рабочых людзей.

Вось недалёка ад маста ідзе доўгі торг падрадчыка і старасты арцелі пільнікаў. Пільнікі размясціліся поўкругам, проста на бруку, склаўшы клумкі і лыкавыя кашалі ў кучы. Пілкі і сякеры ляжаць воддаль і пабліскваюць на сонцы. Падрадчык, заклаўшы рукі ў кішэні даўгога кафтана, таргуецца ўжо з гадзіну, імкнучыся „прыціснуць цаной“ і стараючыся ўрваць хоць грыўню. Глухі шум стаіць над гэтым чалавечым торжышчам. Крыкі, смех, праклёны і слёзы чуюцца тут з ранку да вечара, і, зліваючыся, гудзяць як морскі прыбой.

У канцы XVIII стагоддзя пляц гэты каля Сіняга маста з'яўляўся галоўнай „біржаю працы“ ў Пецербургу. Сюды сцякаліся людзі з усіх канцоў Расіі. Беларускія грабары, яраслаўскія муляры і штукатуры, галіцкія цесляры, чухломскія гарбары, пашэхонскія саешнікі і хлебнікі, тульскія канавалы і фурманы, растоўскія гароднікі, уладзімірскія цесляры, цвярскія шаўцы — каго-каго толькі тут ні было. Але на гэтым рынку можна было не толькі наняць слугу альбо фурмана, але і купіць яго „ў вечнае і патомственнае ўладанне“. У правым куце гэтага пляцу і было тое месца, дзе гандлявалі жывымі людзьмі. З пакункамі ў руках, з клумкамі за плячыма стаялі і сядзелі тут: маладыя хлопцы і дзяўчаты, паважныя мужчыны, бабы, старыя і падлеткі. Капітон з Домнаю і Мартынам падышлі і сталі з іншымі. Домна паклала скрутак на зямлю і, усеўшыся побач, пацягнула Мартына за рукаў.

— Сядзь, сынок.

Той паслухмяна сеў, спалохана азіраючыся. Яго ўвагу прыцягнуў нізенькі шчуплы чыноўнік у форменай панскай шынелі. Ён таргаваў маладога, у рабаціннi хлапца з рыжымі, пад гаршчок астрыжанымі, валасамі. Чыноўнік, відаць вельмі хацеў займець „уласнага чалавека“ і бязбожна таргаваўся з прыказчыкам. Ён набаўляў па поўрублю, выкрыкваючы голасна цану і хлопаў з прыказчыкам рука аб руку, як робяць гэта барышнікі, мяняючы коней. Ён хапаў хлопца за руку і круціў яго наўкола. А той толькі ўхмыляўся дурнавата,— яго відаць забаўляў і гэты тлум і пахаплівасць чыноўніка і тое, што за яго гэтыя шляхетныя асобы распачалі такі торг. Прысадзісты, з чорнаю барадою, прыказчык дамагаўся свайго. Чыноўнік лаяўся, адыходзіў і зноў варочаўся і круціў ва ўсе бакі хлапца. Ён мацаў яго мускулы, глядзеў у рот, правяраючы, ці цэлыя зубы. Але вось недалёка ён убачыў прыгожую „дзеўку“, якая таксама прадавалася, і заспяшыўся туды. Праз хвілін пяць ён з дзяўчынаю і яе гаспадаром таропка пайшоў у тракцір рабіць запрадажную.

Побач прадавалі паасобку маладую бабу і двое дзяцей. Баба галасіла, просячы пакінуць з ёю меньшанькага, але купец з усходнім смуглым тварам і вялікім носам, адмоўна ківаў галавою. Баба лавіла яго руку, стараючыся пацалаваць. Тут-жа, недалёка, прадалі

паасобку маладых, а магчыма і брата з сястрою. Маладыя людзі з заплаканымі вачыма абнімаліся ў апошні раз, і, аглядаючыся адзін на аднаго, ішлі з новымі гаспадарамі. А ў пекле гэтага торжышча хадзілі, звонка расхвальвалі свой тавар: саешнікі, квасьнікі, гандляры блінцамі, збіценшчыкі і шмат іншага люду. Прабіраўся ў натоўпе гандляр паветраных шароў, а тыя плылі над натоўпамі, нанізаныя на вяроўку, як незвычайная кістка вінаграду. Ішоў цыган, вядучы за аброць кульгавага каня. Мільгаў манах у рыжай скуфіі, ён пазвоньваў у званочак і нёс бляшанку на жываце. Аднекуль выскакваў у даўгой рубашцы юрадзівы, абвешаны абразікамі, крыжамі і віскліва нешта крычаў. Ішоў высокі, з сівымі вусамі сляпы з павадыром, зрэдку прыходзіў афіцэр у багатым мундзіры і шпагай, альбо матрос з чужаземнага карабля з люлькаю ў зубах. Усё было новым, дзіўным і незвычайным для Мартына і Домны. Абодвы яны сядзелі, прыцішаныя гэтым шумам, гоманам і натоўпам. Але дзяншчык ганарліва і з пагардаю глядзеў на ўсё гэта зборышча. Яго не здзівіла нават фарсістая брычка, якая спынілася амаль побач. У шырачэзным раброне і фіжмах, в прычоскаю накшталт паруснага карабля, вышла з брычкі барыня і паволі пайшла, аглядаючы прыведзеных для продажу. Следам за ёю ішоў лакей у багатай ліўрэі. Мартын не мог адарваць позірку ад дзівоснай прычоскі, убранай рознакаляровымі істужкамі. Карабель, вышынёю амаль на паўаршына, пагойдваўся на галаве ў яе, плывучы над натоўпам апранутага ў рызманы народу. Вось вецер надзьмуў парусы і карабель павярнуў проста туды, дзе сядзеў Мартын з маткаю. Капітон, заклаўшы нага за нагу, абыякава стаяў, прыпёршыся спіною да сцяны і смактаў люльку.

— Зольдат, па чым хлопчык?—пачуўся раптам голас барыні.

Домна ўскочыла і спалохана пацягнула да сябе Мартына.

— Я пытаю, сколькі каштуе хлопчык? Я хацель казачок мець?—паўтарыла пытанне барыня.

Домна паглядзела з нямою мальбою ў твар дзяншчыка. Мартыну здалося, што матка нейк асабліва ўсхліпнула і голасам ціхім, як шолах папрасіла:

— Капітон Іванавіч, бацюхна, не разлучай...

Дзяншчык яшчэ больш нахмурыўся і маўчаў. Для Домны гэтая пауза паказалася вечнасцю. Ёй здалося, што ўвесь шум змоўк у гэты момант, увесь гэты вір людскі заціх на час і чакала ўсё, што адкажа дзяншчык.

А Капітон, не змяняючы позы, нехаця павольна адказаў:

— Адзін не прадажны, значыць, загадана разам.

Барыня фыркнула, здзіўлена падняўшы галаву:

— Цьфу, хамські залдат...

Карабель хістануўся і паплыў у бок.

Капітон пагардліва плюнуў.

— Бач, чорт гарохавы, так і прадаў я табе праваслаўнага чалавека.—І злосна выбіў люльку аб абцас. Домна ўсхліпнула і ціха высмаркалася.

— Не бойся, баба. Сказаў разам прадам—значыць, слова мае, што камень у ваду.

— Дзякуй табе, Капітон Іваныч! Дапамажы табе царыца нябесная. Скажы Мартынка, дзякуй. Пакланіся ў ножкі Капітону Іванычу.

Мартын нічога не разумеючы паглядзеў на дзяншчыка і ўслед за маткаю паўтарыў:

— Дзякуй, дзядзенька Капітон Іваныч. Дапамажы табе царыца нябесная...

Не паспеў ён скончыць словы падзякі, як перад ім спыніўся чалавек сярэдняга росту ў засаленым купецкім кафтане, круглатвары і кірпаты. Уважліва агледзеўшы з усіх бакоў Домну, ён пагладзіў гладка выбрыты падбародак і дзельна запытаў:

— Бабка прадажная, служывы?

Апатыя саскочыла з Капітона і, страпянуўшыся, ён зухавата праказаў:

— Точна так, Іван Сідаравіч, ваша сцяпенства,—як ёсць прадажная.

— А ты адкуль-жа ведаеш мяне, служака?

— Госпадзі божа! Ваша сцяпенства, хто-ж не ведае Барышнікава? Асоба, можна сказаць, дзяржаўная.

Купец самаздаволена пагладзіў падбародак.

— Не прыпамятаю я нешта цябе, браток!

— Яно вядома. Вы мяне і бачылі адзін раз, калі па справах да барына прыходзілі.

— Так, так... Прыпамінаю. Ці не дзяншчык ты паручыка Самічава?

— Так точна, ваша міласць.

— А іх благароддзе зноў загуляў?

— Дух вон і лапці ў гору...

Купец кіўнуў на Домну.

— Значыць бастончык?—дайце карту—прыкупляю. Хе-хе-хе.

— Вядома, ваша міласць. Барын кажа—абавязак гонару... Самі разумееце...

— Як не разумець! Мой Ванька таксама наладзіўся з панамі ў бастон. Колькі-ж ты просіш за бабу?

— З хлопчыкам без запросу—сорак шэсць з паловаю.

— Хлопчык не патрэбен.

— Загадана разам.

— Ай хлусіш, служывы.

— Праваліцца на месцы, прапасці пропадам...

— Ды ў хлопчыку няма патрэбы.

— Ну, што вы, міласцівец, хлопец шустры: па гандлю выкарыстаць, казачком здолее быць, скакаць і песні спяваць здольны, да малявання ахвоту мае.

— Мартынка, паскачы перад панам купцом! Ды ну, жыва! Не бойся, галава цялячая.

Мартын засароміўся раптам і сам не ведае чаму. Нібы ён разумеў усю ганьбу свайго становішча. Але матка ціха шаптала збялелымі губамі:

— Мартынка, паскачы, даражэнькі, пацеш купца. Вой, разлучыць...

Пачырванеўшы, як рак, ён падняўся, паглядзеў на наскі ботаў і паплыў павольна, перабіраючы нагамі, гатовы заплакаць, не смеючы падняць позірку.

— Весялей, Мартын! Рана ў прысядку! Рана, кажу. Прыпеўку давай!—Капітон прытупнуў, нібы і сам хацеў пусціцца ў скокі. Але Мартын зразумеў, што гэта быў цвёрды загад.

Вакол сталі збірацца цікавыя. Гандляры і пакупнікі кінулі справы і натоўп замкнуў іх у цеснае кола. Спяваць было цяжка, голас не слухаўся, дрыжэў, хацелася плакаць...

Ой, бел сокол,
Полетел высоко,
Мимо терема крутого,
Мимо матушкина дома,
И-и-и-х!

— Весялей, Мартынка, весялей, сабачы ўнук!—крыкнуў Капітон.

Ай, жги, ай, жги!
Шинь-пень, ниваргань.
Бей трепака,
Не жалей каблука.

І пайшоў у прысядку, пылячы на выглянцаваныя боты купца.

— Ай да хлапчына! Ну і спявака!—пачуліся галасы глядачоў.

— Чыста скача, як без касцей!

Купец махнуў рукою.

— Будзе! Услужыў... Малайчына белагаловы!

— Самі бачыце, ваша сцяпенства, хлопец шустры...

— Баба на што здольна?

— Паварыха першай рукі.

— Ды ну?

— Дапраўды! Можа і простыя і панскія стравы варыць. Раскажы сама, Домна.

— Усё магу, купец-бацюхна, з маленства навучана па кухоннай справе. Буду старацца дагаджаць, усё што загадаеце зраблю, магу таксама на стол падаць і па кандзіцерскай справе разумею.

— А не хлусіш?

— Вой, ды што вы, міласцівец! Як можна?

— А ну, устань! Павярніся. Прайдзі, не спяшаючыся!

— Ядроная бабачка,—заўважыў нехта ў натоўпе.

Купец цыкнуў.

— Нішкні там! Ну, чаго не бачылі!—У адказ нехта дзерзка запытаў:

— Што за паказ грошы бярэш? Бач аршыннік! Гонару як сала на свінні.

Купец нахмурыўся і, крута павярнуўшыся на голас, падышоў да натоўпу:

— Прэч галота, а то будачніка паклічу!

Той-жа голас адказаў:

— Пакліч, пакліч.

— Ой, страшна, уцякай, браткі...

Народ не разыходзіўся. Адвярнуўшыся, Барышнікаў кіўнуў Капітону:

— Пойдзем у тракцір, там вырашым!—Усе чацвёра скрозь натоўп, які расступіўся, пайшлі ў вядомы тракцір на апраксінскім падворку. Там звычайна рабіліся купчыя на праданых людзей.

Сярод п'янага гаму і шуму Мартын памятае, што купец і Капітон доўга таргаваліся, аглушальна хлопаючы далонямі. Потым з'явіўся чалавек з апухлым тварам і падвязанаю чырвонай хусткаю шчакою. Канцы хусткі на версе галавы стаялі ў яго тарчма, нібы заячыя вушы, а нос быў шыза-барвовы і падобны на пераспелую фігу. Чалавек быў вядомая ў тракціры асоба,— выгнаны са службы прыказны Парфен Лычкін—суцяга і зводнік, якога ведаў увесь Пецербург.

Схіліўшы на пляча галаву і прыкусіўшы ад старання кончык языка, ён рыпеў гусіным пяром, а купец Барышнікаў павольна дыктаваў:

— „Лета тысяча семсот шэсцьдзесят шостага ліпеня пятага дня Рослаўльскі памешчык і прапаршчык артылерыі Бамбардзірскага палка Александр Парфіраў сын Семічаў прадаў яго светласці гвардыі генерал-аншэфу, графу, сенатару і кавалеру Івану Грыгоравічу Арлову*) прыгонную маю бабу з вёскі Кароўнікі, Домну Калінкіну, якая ў мяне ў доме знаходзілася пры кухні, пры якой пякла і варыла розныя простанародныя, а асабліва-ж панскія стравы, а таксама і па кандзіцерскай частцы адпавядала, а год ёй ад нараджэння восем на дваццаць (28 год), а прадаў я, Рослаўльскі памешчык і прапаршчык артылерыі Александр Семічаў, сын, оную бабу разам з яе сынам Мартынам, ад нараджэння якому дзевяць год, гэтага ліку назаўсёды. А ўзяў я за оную маю прыгонную павmasныху і за яе бабінага сына грашыма трыццаць рублёў срэбрам—баба і ёйны хлапец шэсць з паловаю асігнацыямі. А тая мая баба Домна і яе сын Мартын апрача яго светласці гвардыі генерал-аншэфа, графа, сенатара і кавалера Івана Грыгоравіча Арлова нікому не прадана і не закладзена і ні ў якіх прыгонных ні ў кога ні ў чым не напісана і не прымацавана і ў прыданым ні за каго не аддана. А будзе хто ў яго светласці гвардыі генерал-аншэфа, графа, сенатара і кавалера Івана Грыгоравіча Арлова альбо ў сваякоў яго, ці ў дзяцей яго тую бабу і яе сына патрабаваць па якіх-небудзь правах, альбо па чым іншым, то мне, Александру Семічаву, і дзецям маім, яго светласць графа і кавалера Івана Грыгоравіча Арлова ад усякіх прыгонных ачышчаць і страты ні да каго не даводзіць. А што яго светласці графу і кавалеру Івану Грыгоравічу Арлову і дзецям яго ад каго ні ёсць маім неачышчэннем ўчыняцца, якія страты і яго светласці графу і кавалеру Івану Грыгоравічу Арлову і дзецям яго ўзяць з мяне, прапаршчыка Семічова і з дзяцей маіх тыя свае дадзеныя трыццаць рублёў срэбрам і шэсць з паловаю рублёў асігнацыямі і страты ўсе цалкам.

*) Згодна ўказу ад 1746 г., купцы не мелі права купляць і трымаць прыгонных. У гэтым выпадку, да атрымання дваранства Барышнікаў купляў маёнтк і прыгонных на імя графа І. Г. Арлова, з якім быў у дзелавых адносінах.

Да гэтага Рослаўльскі памешчык і прапаршчык артылерыі Бомбардзірскага палка Александр Парфіраў сын, Семічаў руку прыклаў.

Да гэтага давераны яго светласці, гвардыі генерал-аншэфа, графа, сенатара і кавалера Івана Грыгоравіча Арлова вяземскі купец Іван Сідараў, сын Барышнікаў руку прыклаў у тым, што грошы заплаціў, а таксама вышэй паказаную бабу і яе бабінага сына атрымаў.

Пры гэтым сведкамі былі ў чым рукі прыклалі: радавы артылерыі Бамбардзірскага палка Капітон Іваноў, сын Полушкін. Былы пратакаліст Салянога загаду, мешчанін Парфірый Клімаў, сын Лычкін, быў і сваю руку прыклаў".

Барышнікаў выцягнуў з-за пазухі скураны кісет і адлічыў грошы.

— Яго благароддзю перадай—за распісачкай заўтра зайду. А ты калі трапіш у гасцінны,—зайдзі, добрым людзям заўсёды рады.

— Вельмі ўдзячны, ваша міласць!—гаркнуў Капітон.—Зайду абавязкова.

Лычкін лісліва глядзеў на купца.

— Ну, насенне крапіўнае, выпіць хочацца? На!—ён кінуў нейкую дробязь прыказному. А той, сагнуўшыся хуценька цмокнуў Барышнікаву руку.

— За ваша здароўе, з купляю вас, пане купец!—і накіраваўся да стойкі. Барышнікаў цяжка падняўся.

— Пойдзем, баба!—і першы пайшоў да дзвярэй. Домна падышла да дзеншчыка.

— Бывай, Капітон Іванавіч!

— Не гневайся,—глуха сказаў Капітон і апусціў галаву.

— Дай табе божа, што ты захочаш за тваё дабро.

— Спасі хрыстос, Домна, і табе таксама,—голас яго задрыжэў і рыжыя вусы сумна апусціліся.

Домна першая абняла яго і тры разы крыж на крыж пацалавала.

— Эх, доля сабачая, прападзі ты пропадам!—хрыпла прагаварыў дзяншчык.—Як Іуда, за трыццаць срэбранікаў прадаў я цябе, баба.

Домна толькі глыбока ўздыхнула і, выцершы слёзы, згінаючыся пайшла да дзвярэй. Мартын ухапіўся за спадніцу маці, не разумеючы таго, што адбылося, усміхнуўся Капітону, і пайшоў з ёю побач.

*М. Сямашка*

# МАЦЕРЫ

Стаіўшы ў сэрцы думак рой
(сабе так жыва я ўяўляю),
ты над калыскаю маёй
з пяшчотай матчынай спявала.

Была ў той песні сум-туга,—
за лёс мой цмяная трывога,—
аб шчасці дальніх берагах,
аб вузкіх ў свет маіх дарогах.

Ї ўпала не адна сляза
з вачэй тваіх, як тая восень,
як агартаў цябе твой жаль
ў трывогах за жабрачы лёс мой.

Мы ўтрох сыны ў цябе былі
(і я між іх малодшы самы),
адзін надзел пустой зямлі
ты падзяліць магла між намі.

Ты сэрца мне дала яшчэ—
кавалак крыўды набалелай,
нясмелы гнеў сваіх вачэй...
А больш?.. Ты большага не мела.

Ї як з-за дальніх гор крутых
прыходзіў вечар абшарпаны,
маліла прад іконай ты
каб ціхім рос твой сын, слухмяным...

За досціп дужых рук маіх
за мой пакор і ціхі нораў
ўзялі-б мяне у пастухі
(хоць знала—хлеб батрацкі горак).

І ўсё-ткі, родная мая,
твае жаданні не збыліся,
і не з пакорай ціхай я
на доўгі шлях жыццёвы вышаў.

І вузкі шнур зямлі дзяліць
між трох сыноў табе не трэба,
у нас усё: лясы, палі,
мары і рэкі, нават неба.

Мы над зямлёй і над вадой
з табой гаспадарамі сталі,
і шчаслівей за маладосць
сягоння, маці, твая старасць.

Бо ўпершыню на ўсім жыцці,
за ўвесь свой век, мая ты маці,
ты шчасце здолела знайсці,
ты навучылася смяяцца.

І горкіх дум не носіш ты
за лёс жабрачы свайго сына,—
яму, без пуцявін крутых,
да шчасця светлы шлях адчынен.

м. Ветрына.

*Макар Паслядовіч*

# БІКФОРДАЎ ШНУР

Страшная смерць пазірала на Максіма Пілуя з васьмі наведзеных на яго вінтовак. Салдаты стаялі нерухома, толькі доўгія крысы іх шынеляў час-ад-часу надзімаліся ветрам. Шумеў несціхана алешнік. „Уцякай!—здавалася Максіму, зваў лес. —Усе мае сцежкі ты добра ведаеш“... Час-ад-часу глуха ўздрыгвала зямля і ў гэтых уздрыгах адчуваў Максім гэткі-ж голас заклiку да выратавання...

Рэдкія белыя воблакі павольна плылі ў сіняй бездані неба. Праляцеў, цяжка махаючы крыллем, бусел. Вось ён павярнуў на Зязюльчыкаў двор, але не асеў на гняздо—вялізную кучу ламачча і кары на вяршаліне хвойкі—а зноў крутнуўся назад, каб яшчэ раз праляцець над Максімам, над выстраенымі ў рад салдатамі. Адзін жаўнер апусціў вінтоўку і пакутліва зірнуў на асуджанага да смерці. Яшчэ два жаўнеры прыставілі прыклады да нагі. Гэта было жахлівае парушэнне законаў фронта, гэта была здрада словам прысягі. Але маўчаў капітан Андрус—высокі жаўтушны афіцэр.

Максім Пілуй глядзеў, куды паляціць бусел. Вось закружыўся ён, як гэта часта рабіў, над Воўчай градою, кружыў нізка, ледзь не кранаючы недарэчна выцягнутымі чырвонымі нагамі вяршалін дрэў. Потым выраўняўся і сазлізнуў уніз, на балотца за разгатаю зялёнай сцяною. Там ён будзе хадзіць, высокі і паважны, можа поўгадзіну, а можа і больш...

Максім Пілуй зноў павярнуў твар у бок жаўнераў. Цяпер ужо ўсе яны спусцілі вінтоўкі да нагі. Губы ў аднаго жаўнера збялелі і сударгава трапяталіся. Ён часта адварачваўся ў другі бок, стараўся ўнікнуць позірку Максіма Пілуя. Быў ён яшчэ зусім малады, яго незвычайна худы твар яшчэ не зведаў вострага ляза брытвы. Толькі ледзь прыметным пушком валасоў абростала верхняя губа. Такія вусікі часта бываюць у чарнявых жанчын. Салдаты звалі гэтага жаўнера „дзецкам“, а імя яму было—Бартусь.

І ўсё цяпер паўстала перад Максімам у карцінах нейкай да болю вострай адчувальнасці. Яго, Максіма, ужо не будзе, сырая зямля навечна схавае яго ад людзей, ад сонца, якія не перастануць жыць. І заўтра, і праз тыдзень, праз многія гады несціхана будзе шумець алешнік на выгане. І заўтра, і можа яшчэ не адзін дзесятак год кожны дзень будзе выводзіць на выган каня аднарукі Мартын Жыбурт, наракаючы, што не слухаюцца дзеці. Заўтра бусел зноў закружыць над Воўчай градою, павольна і няўхільна пойдуць па сінім небе белыя, як снегавыя гурбы, воблакі. Усё будзе

ў руху, у жыцці, калі ад яго застанецца ўжо адно толькі імя ды і тое змыецца часам, імклівай хадою жыцця...

— Ведаеш, Зеня,—сказаў Максім толькі месяц таму назад жонцы, калі яна бедавала, што ён захварэе і памрэ ад начнога жыцця ў лесе.—Мне цяпер толькі трыццаць год, але я адчуваю сябе такім здаровым, што магу дажыць да дзевяноста год. Я не смяюся. Косці ў маіх бацькоў моцныя. Некалі дзед за Жылінскага поўрубля тры разы пераплыў Лукамльскае возера без адпачынку. Гэта пятнаццаць вёрст! Каб які слабы на яго месца трапіў—у той дзень здох-бы... Вось пачнуць наступаць чырвоныя, дык мы, „лясуны такога жару зададзім белапалякам з тылу, што адзін пылок пойдзе!..“ Ён не сказаў жонцы, што вінтоўкі ёсць, патронаў стае, дынаміту шэсць пудоў прызапашана. Гэта будзе страшная нечаканасць на дарозе панскага адступлення...

Нерухома стаялі салдаты Толькі адзін Бартусь, крыху авалодаўшы сабою, пазіраў то на Андруса, то на вёску, абкружаную жаўнерамі. Кідаў туды час-ад-часу позіркі і капітан. Мусіць, нешта было не гатова, можа неставала нейкай маленькай шрубкі ў гэтай тупой і бязлітаснай машыне знішчэння? Можа што новае загадаюць з штаба дывізіі, які размясціўся ў яго, Максімавай, хаце? Пілуй ведаў: якая-б не вышла зацяжка—яму больш гэтага дня не пражыць! Ці ўзыйдзе заўтра яснае сонца, ці хмурная раніца будзе сачыцца на зялёную траву цёплым веснавым дажджом—толькі жоўты пясок магілы застанецца, як памяць аб ім!

Ён уявіў сябе на месцы свайго сына, які да гэтага часу адчуваў пяшчоты бацькі: сын бачыў яго то суровым і задуменным, згорбленым над плугам, то смяшлівым і дураслівым, як малое дзіця. Памятае ён, Максім, калі быў яшчэ сам у гадах свайго сына Вадзіка. Ён лічыў тады бацьку за самага разумнага, самага дужэйшага ў вёсцы. Ніхто так не ўмеў вывудзіць старых самоў з таямнічых і страшных, як чорная ноч, вiроў Балачанкі. Ці ведаў хто другі ў вёсцы, што на вялікі крук трэба чапляць жабу, ці дзікую качку? Ніхто не ведаў! Бацька браў Максіма з сабою на рэчку і там, рыхтуючы смяротную прынаду для вялізнай рыбіны, расказваў сыну многа цікавага. Часта, нават вельмі захоплены рыбацтвам, ён не забываўся папярэдзіць: „не падыходзь, Максімка, так блізка да берагу. Тут два сажні глыбіні“. Аднойчы бацька ўзяў Максіма на кірмаш у мястэчку. Гэта было дзівоснае падарожжа для хлапца. Свет, аказваецца, не такі ўжо маленькі, як маленькія матузы. Праехалі Воўчую грэблю, узгоркі, засеяныя аўсом, бульбай, убачыў Максім новую вёску з вельмі падобнымі на матузоўскія хатані, убачыў новых людзей. Але не было канца свету Краявід разгортваўся шырэй, яшчэ праехалі адну вёску, дабраліся да мястэчка. Там Максім убачыў вялікае дзіва: некалькі хат былі пастаўлены адна на адну і ўсе пад адною страхою з бляхі.

— Трохпавярховы дом,—растлумачыў бацька.—Тут жыве прыстаў Бізунчык. Такі, з выпучанымі, як у бугая, вачыма...

Бацька яшчэ сказаў, што ён бачыў і не такія дамы, калі служыў у войску. Там гэткіх Бізунчыкавых дамоў трэба дзесяць. Пойдзе Максім у школу, вырасце, тады пабачыць які цікавы гэты

свет. Ёсць велізарныя азёры, ёсць акіяны, па якіх будзеш ехаць некалькі сутак і не ўбачыш сухапуцця-зямлі. Усё вада і вада. Велічныя караблі плаваюць па моры... Бацька купіў тады Максіму размалёваны ружовымі фарбамі пернік, падобны на каня. Пернік той быў такі салодкі, што здаецца ніколі Максім пасля не еў нічога смачнейшага.

Былі ў вёсцы Максімавы аднагодкі-сіроты. Максім бачыў, як тужліва цямнелі, набракалі слязмі іх вочы, калі глядзелі, як пестуе Максіма яго бацька. Ён уяўляў на момант, як-бы жахнуўся ён, каб адышоў у небыццё гэты бясконца-блізкі і дарагі яму чалавек!..

А цяпер ужо яго сына Вадзіка спасцігне такі лёс... Ніколі ўжо не ўзніме яго бацька на свае плечы, не пагладзіць шорсткай, але ласкавай рукою па галаве! Прышлі з далёкага чужога краю людзі, якіх ніхто не запрашаў, і сказалі: „даволі табе жыць!..“ Адабралі ў чалавека, у сям'і тое, што не давалі...

— Каты!.. Грабежнікі!—вырваўся хрыпаты голас.

Афіцэр устрапянуўся і хуценька ступіў да Максіма.

— Здаецца, пан нешта сказаў? Пан перадумаў?—запытаў, гайдаючы рукою аголеную саблю.

— Так, я перадумаў... Я ўсё скажу. Вядзіце ў штаб...

— Можа пану развязаць рукі?—запытаў капітан, спушчаючы саблю ў ножны.—Бартусь! Цыбульскі!

Рыжы жаўнер, які стаяў з правага флангу, перадаў вінтоўку суседу і падышоў да Максіма. Бартусь не скрануўся з месца. Усёроўна як і не было для яго загаду. Жаўнеры пераглянуліся і пачалі выпіхаць яго з раду. Ён адбіваўся маўкліва, баяўся сысці з месца, быццам перад ім была бездань. Вялікае здзіўленне застыгла на твары Андруса. Нарэшце ён пазваў голасам сухім і жорсткім:

— Бартусь!?

Такім тонам клічуць паляўнічыя сваіх сабак, калі яны знаровяцца і не захочуць падаваць застрэленай дзічы. Максім бачыў, як палахліва і недаўменна заблішчэлі вочы „дзецка“. Нешта невядомае зрабілася з ім. Можа ён што жахлівае ўспомніў, ці ўбачыў і адчуў тое, чаго не адчуваў ён, Максім, не адчувалі жаўнеры і жаўтушны афіцэр?

— Галган!—вылаяўся Андрус.—Оддай зброен Каролю. Выйдзі са строю...

Рыжавусы жаўнер запхнуў вяроўку, якую адвязаў ад Максімавых рук, у кішэню, вырваў вінтоўку з рук Бартуся. Абкружаны штыкамі, Максім Пілуй павольна рушыў у вёску. Афіцэр ішоў ззаду і гаварыў цераз галовы салдат да асуджанага:

— Няхай пан спяшаецца. За шчырасць можа быць падаравана жыццё. Упартасць і маўчанне ледзь не загубілі пана. Няхай пан цяпер пакажа і раскажа пра ўдзельнікаў атрада... Мы наўмысля зацягнулі выкананне...

Максім Пілуй не слухаў. Гэтая адцяжка дала яму вельмі многае. Ён яшчэ пастараецца супакоіць гэтага „дзецка“ Бартуся. Ён яшчэ раз убачыць свайго сына, тых, хто насіў вінтоўкі, дынаміт. Дынаміт збіралі доўга: прыносілі праз фронт з-за Бярозы, даставалі па

фунту, па два—на месцы. Сабралі шэсць пудоў. Шэсць пудоў страшэннага полымя нянавісці!..

Салдаты, якія маўкліва стаялі ў канцы вёскі каля кулямёта, выцягнуліся ў струнку, згледзеўшы капітана Андруса. Матузоўская вуліца адкрылася перад Максімавымі вачыма ў незвычайным руху. Каля хаты солтыса Цыбульскага стаяў натоўп сялян, абкружаны непарыўным колцам жаўнераў. Іх прыганялі сюды групамі і па аднным. Беглі за мужыкамі бабы, за бабамі дзеці. Яны на хаду тыцкалі арыштаваным торбачкі з ежаю, і рукавом выціралі слёзы. Некаторыя жанчыны крычалі роспачліва і страшна. Іх адганялі прыкладамі.

Максім ведаў: палякі зганялі сялян капаць акопы над Балачанкай, на Высокай гары. З кожным днём усё цяжэй уздыхала зямля ад гарматных стрэлаў. Міне яшчэ некалькі дзён і ўсё тут закіпіць упартым і бязлітасным боем. І яму да болю стала крыўдна, што ў гэты час ён ужо не павядзе ў бой людзей, якіх падбіраў з такою асцярогаю, людзей, якіх навучаў цярплівасці, мужнасці...

Чужыя людзі, апранутыя ў чужую форму сустрэлі яго на яго-ж дварэ. Некалькі правадоў пранізалі сцяну і схаваліся ў хаце. Гэтую хату Максім выбудаваў пасля рэволюцыі. За гэтую хату ён павінен быў заплаціць як прышлі палякі паўтары тысячы марак памешчыку Жылінскаму: „На што сек мой лес?“ Такой сумы наяўнымі ў Пілуя не знайшлося, дык забралі каня, карову, усіх авечак і свіней. І гэтага не ставала—тады выграблі з засеку усё да зярняці...

Цяпер ужо гэтае нішто не патрэбна Максіму Пілую! Хоць-бы яно было напоўнена золатам, або вялікім россыпам шчасця для яго. Жонку і сына выгналі з хаты ў першы-ж дзень арышту. Хата спатрэбілася для штаба дывізіі, якая рыхтавала сустрэчу Чырвонай арміі.

Ганарыстыя паручнікі і палкоўнікі снавалі з хаты на двор, спыняліся каля варывенькі, дзе на доўгай лаўцы сядзела некалькі афіцэраў. На з'яўленне Максіма азірнуліся нязначным позіркам, як-бы гэта быў не чалавек, а прайшла жывёла.

— Пан генерал у штабе?—запытаў у аднаго афіцэра капітан Андрус.

Афіцэр кіўнуў галавою. Андрус прызвычаена скочыў на парог. Ён з'явіўся на дварэ толькі хвілін праз пяць і загадаў рыжавусаму зноў звязаць Максімавы рукі.

Генерал—нізенькі і сухі, як смарчок—сядзеў у плеценым з лазы крэсле. Чорныя з белымі ніткамі сівізны валасы яго былі звільгочаны і гладка прычасаны.

Кім быў генерал там, далёка? Дырэктарам банка? Памешчыкам? Ёсць у яго сям'я, дзеці? Звернецца ён з вайны дахаты і дзе-небудзь ва ўтульным кругу, у часе вясёлай бяседы раскажа пра „слаўныя“ паходы на большэвікоў. Можа нават прыгадае незначны факт расстрэлу селяніна, якога злавілі з бікфордавым шнурам у нейкіх матузах. У селяніна знайшлі яшчэ наган і спісы афіцэраў дывізіі, камандзірам якой быў ён. Дзе дастаў партызан бікфордаў шнур, спісы—было невядома... Так, можа расказаць...

— Я хочу яшчэ раз пабачыць сына,—не чакаючы, пакуль што скажа генерал, заявіў Максім Пілуй.

— Так,—неазначальна адказаў генерал і не крануўся з месца.

— Я хочу, каб мне далі курыць.

Генерал падняў крыху ўгару белую з буйнымі сінімі жылкамі руку. Аднекуль з-за максімавай спіны ў момант вытаркнулася рука з цэлай пачкай папярос і карабком запалак.

— Я не магу ўзяць... Развяжыце рукі.

Ён праказаў гэтае, як загад, і ўжо не здзівіўся, што гэты яго загад быў неадкладна выканан усё тым-жа рыжавусым салдатам.

У хаце нічога не пакінулі ад максімавых прымудраванняў. Ложак і палок былі выкінуты на двор. Засталіся адны голыя сцены з развешанымі на іх картамі. Карты былі на сталах, стаялі ў трубках каля акна. Час-ад-часу нечакана для Максіма рэзка і коратка звякаў званок тэлефона. Дзяжурны штаба знімаў трубку і маўкліва і напружана ўслухоўваўся ў гуды, якія даносілі да яго здалёку стальныя шнуры. Шнуры былі на двары начэплены на плот, цягнуліся на загуменне і зніклі ў сіняй смузе за рэчкай—у тым баку, адкуль даходзілі сюды цяжкія ўздыхі зямлі.

— Хто вам даў спісы афіцэраў войска польскага?—зварухнуўся генерал.

— Я знайшоў іх на вуліцы каля солтысавай хаты. Там ляжаў і бікфордаў шнур. Усё гэта я хацеў перадаць вам.

— Вы зноў упарта ўхіляецеся. Якеж то дзецко згубіла такон забавкэн?—усміхнуўся генерал.

Максім Пілуй уздрыгануўся, але ў момант авалодаў сабою. Праз акно ён зглядзеў на двары Бартуся. Малады жаўнер стаяў адзінока, прыткнуўшыся к плоту гародчыка, дзе быў пасаджан табак мультан. Максім Пілуй ведаў: дрыжэлі ў польскага салдата-комсамольца рукі ад таго, што яго прымушалі страляць у чалавека, якому ён перадаў спісы афіцэраў дывізіі. У чалавека, з якім сустракаўся не раз, якому не раз перасыпаў з сваіх кішэнь дынаміт, перадаў другі скрутак бікфордавага шнура. Бачыў Максім Пілуй, як жахнуўся Бартусь ад таго, што партызан перадумаў і з'явіўся ў штаб, каб выдаць усё, што было з такімі пакутамі сабрана і арганізавана.

„Ён мог у мяне выстраліць. Забіць, калі я сказаў, што перадумаў і ўсё цяпер пакажу,—пальцы максімавых рук адразу пахаладзелі ад гэтай думкі.—Забіць, асцерагаючыся маладушша і здрады. І ніхто-б не папракнуў яго за гэты адзіночны стрэл у мужыка. Але затое было б выратавана падпольная арганізацыя палка, партызанскі атрад... Многія кулямёты маглі-б раптам сапсавацца і не страляць па чырвоных у часе атакі...“

Максім Пілуй адчуў вялікую радасць, што Бартусь не здагадаўся ў яго стрэліць. Гэта было б правільна, але... бескарысна. Пілую ў тую хвіліну прагна захацелася жыць. Не дзень, не год, а значна больш! Каб ведалі яго і суседзі—вяскоўцы і гэтыя, чужыя людзі, якім пашчасціць выбрацца з гэтага абрабаванага краю. Каб заўсёды ведаў яго сын, жонка... Ён пакажа панам, як схован дынаміт! Толькі каб жыць! Каб яшчэ раз пабачыць сына!..

— Я скажу, хто мне даў дынаміт і спісы,—гучна праказаў Максім, згледзеўшы зласлівыя аганькі ў вачах генерала.—Толькі раней я хочу пабачыць сына, жонку.

— Прывесці сюды іх?

— Не, не трэба. Я сам павінен пайсці да іх. Сын спалохаецца ўсяго, што тут робіцца ў нашай хаце. Я хочу, каб мае рукі таксама не былі звязаны.

Яго вялі пад моцным канвоем. Вуліца была ўжо амаль пустая ад сялян—усіх пагналі капаць акопы. Толькі ў дальніх ад штаба хатах часамі мільгалі за вокнамі твары заплаканых дзяцей і старых. Яго сын быў у цесця на самым канцы вёскі. Ён сядзеў каля налітага вадою цэбра і кідаў у яго яблыкі-ападкі. Яблыкі ныралі амаль да самага дна, але хутка зноў выскаквалі на паверхню, як жывыя. Гэта забаўляла малога.

— Карабель!—ускрыкваў ён і махаў ручкаю сляпому дзеду.— Нарві, дзед, яшчэ караблікаў!..

І раптам ускрыкнуў:

— Татка! Татка!

Нешта пякучае разанула ў максімавых грудзях. Ён падхапіў сына на рукі і ўзняў высока. Чатыры жаўнеры уздрыгануліся і, трымаючы на спагатове вінтоўкі, адступілі крыху ад арыштаванага. Андрус стаяў каля студні. Праходзілі вуліцаю салдаты. Некаторыя спыняліся каля варот і моўчкі пазіралі ў двор. Рэзкім узмахам рукі капітан загадваў ім праходзіць далей.

— Яшчэ высока!—камандаваў Вадзік Максіму.—Я хочу ў неба!

Ён нават забыўся спытаць, дзе бацька быў гэтулькі часу. Такая дзіцячая натура, каб забывацца на тое, што мінулася. Але ведаў Максім: міне яшчэ год, два і пачне сын, гледзячы на ласкі другіх бацькоў, распытваць у маці, дзе яго бацька, чаму так доўга не прыходзіць?.. Часцей будуць набракаць тугою гэтыя вось, такія блізкія ясныя вочы... Вось каб рынуцца цяпер у гэты праход аховы, перамахнуць цераз плот у садок! Там, за дрэвамі поле... і халодны бляск штыкоў. Перш, чым ён ступіў на двор—уся сядзіба была акружана жаўнерамі! Яны стаялі і адкрыта і стаіўшыся за кустамі вішнёўніку, сцераглі за будынкамі.

Непрыметна ён ляпнуў па кішэні. Папяросы і запалкі былі там. Галоўнае цяпер для яго—запалкі. Гэта яго ратаванне і жыццё!

— Я паеду па гасцінцы для цябе,—сказаў ён сыну і адчуў, як задрыжэў яго голас.—Я прывязу табе многа гасцінцаў. Толькі ты не плач. Добра?

— Добра! А гэтыя дзядзі з табою па гасцінцы?—паказаў Вадзік ручкаю на салдат.

— Са мною... Яны павязуць мяне...

— І я хочу з вамі! Я хочу ў сваю хату...

— Максім?—пазваў зяця цесць, пазіраючы на яго з ганку невідучымі вачыма.—Гэта ты прышоў?

— Я.

— Выпусцілі, гадаўё?.. Хадзі сядзь тут каля мяне.

З якою радасцю заходзіў Максім у гэту хату сем год таму назад, калі Зеня прашаптала горача: „прысылай сватоў!“ Найвялік-

шым пачуццём поўнілася тады яго сэрца. Ці думаць яму было ў тую хвіліну, ці гадаць, што здарыцца з ім праз сем год? Што наляціць аднекуль здалёку зграя, бязлітасна і навечна раздушыць яго мары аб шчасці, аб радаснай будучыні?

Зласліва і нясціхана загудзела кроў у жылах. Яшчэ раз абмацаў запалкі ў кішэні, як-бы яны ў кожную хвіліну маглі нечакана знікнуць. Ён падманіў паноў! Яму зусім непатрэбны былі папяросы—ён-жа ніколі не курыў! Яму не хацелася курыць і цяпер! Смярдзючы дым яго не супакойваў, а яшчэ больш трывожыў галаву. Увесь час зацягваўся і апасаўся: хаця каб не сказалі: „давай сюды запалкі..." План узнікнуў у яго яшчэ перад тым, як вялі расстрэльваць. Цяпер больш не павядуць!..

Генерал усё гэтак-жа сядзеў у крэсле. Здавалася, ён не мяняў позы праз увесь час, пакуль партызан развітваўся з сынам і цесцям. Толькі не было ўжо на двары, насупроць акна, „дзецка" Бартуся. Ён недзе знік.

— Спісы афіцэраў перадаў мне ваш адзін афіцэр.

Быццам шыпучая бомба падкацілася пад ногі пана генерала. Ён ускочыў з крэсла.

— Назвіско?—прашапталі пакарэжаныя ад збянтэжання губы.

— Не ведаю. Памятаю твар. Ён казаў, што мае нейкія адносіны да штаба.

Пан генерал кінуўся да акна.

— Сярод гэтых, што на двары—няма яго? У якім ён чыне?

— Не памятаю адзнак, але ведаю ў твар.

Таўсты нізенькі палкоўнік стаяў пасярод двара і нешта смешнае расказваў згрудажаным каля яго афіцэрам. Быў гэта анекдот, ці падзея, якая адбылася ў гэтым краю—Максім не ведаў. Палкоўнік канчаў гаворку і сам рагатаў першым. Рогат быў нейкі брахлівы, з хрыпатою. „Артылерыст тут,—узрадавана падумаў Максім. Яшчэ адзін палкоўнік трапіўся яму на вочы: з выпучанымі грудзьмі і тонка падцягнутым жыватом, ён сядзеў каля варывенькі і, здавалася, не цікавіўся тым, што адбывалася на двары. Гэта быў улан.

— Яго тут няма,—пералічыўшы афіцэраў, адвярнуўся ад акна Максім Пілуй.

— Зараз мы то зробімы—узварухнуўся пан генерал.—Гэта справа сур'ёзная. Проша пана сядаць. Паклікаць Франка.

Ад'ютант ускочыў у хату і замёр каля дзвярэй.

— Ходзь ту!

І ўжо нецікава было цяпер для Пілуя, што шаптаў пан генерал Франку. Якія-б гэта ні былі сакрэты—не перадаць іх сваім хлопцам, што засталіся ў лесе, што па лясных нетрах шнуруюць ноччу праз польскі фронт да Чырвонай арміі. Таварыш Зорын напэўне даведаўся аб яго арышце і не пакінуў атрад без камандзіра...

Паімчаліся ад штаба дывізіі ў розныя бакі коннікі, затарахцелі матory аўтамабіляў і матацыклаў. Высокі палкоўнік, што сядзеў каля варывенькі, устрапянуўся. Яго клікаў ад'ютант пана генерала. Максім бачыў праз акно, як палкоўнік ускочыў з лаўкі, абцягнуў

свой мундзір і торапка падаўся ў хату. Праз хвіліну паклікалі ў хату і артылерыйскага палкоўніка.

Незвычайнае ажыўленне запанавала на дварэ. З'яўляліся новыя афіцэры. Яны віталіся з тымі, што ўжо даўно тут былі, і кідалі дапытлівыя позіркі на акно штаба дывізіі. Збіраліся групкамі. Здавалася Максіму, што яго двор не змесціць гэтага форсістага і фанабэрыстага варання. Ён стаяў каля акна і ўсё гаварыў.

— Не, не гэты. Не.

Здалёку даходзілі сюды ўздрыгі зямлі. Адзін раз глуха бумкнула ад гэтых уздрыгаў шыбіна ў кутнім акне. Здалося Максіму, што гэта сігнал. Ен адвярнуўся ад акна, як раз у гэты момант і прыпыніўся наход афіцэраў.

— Дзе зброя? Кулямёты?—пачаў траціць цярплівасць пан генерал.—Не магу я зараз адарваць ад часцей усіх афіцэраў.

— Зброя на гэтым дварэ.

— Хлусіш! Усё тут перавярнулі...

— І не знайшлі. І не знойдзеце,—Максім Пілуй стараўся надаць свайму твару як мага больш абыякавасці. Яму трэба патаргавацца, каб быць упэўненым у поспеху свайго плана.

— Пан Андрус абяцаў, што мне даруюць жыццё, калі я выдам усе сакрэты. Ці будзе так?

— Як бога кохам!—крыкнуў пан генерал.—Зброю, прозвішча партызан, здрадніка арміі польскай—і вы вольныя.

— Мяне пусцяць зусім?

— Слово гонору!

— Нас дзвесце сорак пяць чалавек. Спісы схованы тут на гэтым дварэ. Ёсць планы нападу. Я хачу за гэтае дзесяць тысяч марак! Хочу, каб пакаралі тых, хто сек мяне шампаламі, і вырвалі ў мяне чатыры пазногці з левай рукі ў часе допыту.

— Зробімы!

Абяцанні пан генерал даваў надзвычай лёгка. Здавалася Максіму Пілую, што каб папрасіў ён у пана генерала ўсю Польшчу,—ён бы ахвотна аддаў яе яму. Трэба было канчаць гульню... канчаць дарагою цаною!

— Хадзем,—кінуў Максім Пілуй ні да каго не звяртаючыся. Але гэтага хапіла, каб жаўнеры з рэвальверамі забеглі наперад, а два пайшлі следам за ім.

Пан генерал многазначна падміргнуў палкоўнікам.

...і заўтра, як і сёння, калі вялі Пілуя расстрэльваць, усё будзе ў руху. І заўтра ўзыйдзе сонца. Яно будзе ўзнімацца высока па чыстым сінім небе. Вывядзе, наракаючы на дзяцей, Мартын Жыбурт каня. Вывядзе і ахне ад радасці. Кіне каня, замахае адзінай рукою высока і ўсхвалявана. Вадзік у гэты час можа будзе яшчэ спаць, калі з'явяцца абкураныя порахам людзі з чырвонымі зоркамі на шапках...

Прыткнутая да сянец варывенька сустрэла Максіма Пілуя знаёмым пахам вільгаці, непраніклым змрокам. Нехта пстрыкнуў за спіною Максіма электрычным ліхтаром. Жоўтае святло пацякло па сценах, грудку бульбы. За гэтым грудком—сховішча. Святло ліхтара слабела. Пан генерал гукнуў на двор, каб далі ліхтар з новай

батарэйкай, каб падалі некалькі ліхтароў. Пакуль чыркнулі запалку. Чыркнуў запалку і Максім Пілуй. Узяўся за іржавы цвік і пацягнуў да сябе. Запалка згасла. Тады ўся цемра напоўнілася чырканнем, успыхамі дрыготкіх аганькоў, зрывістым дыханнем людзей. Бярвенца выпала, адкрываючы шырокую шчыліну пад падрубы сенцаў. Трымаючы запалкі Максім Пілуй спрабаваў адвярнуць другое бярвенца, каб пашырыць праход. Яго пальцы нервова лапалі па той бок сцяны. Які страшэнны боль! Здавалася, што пальцы шаруюцца па вострым наждаку. Вось, ёсць канец. Кароткі бікфордаў шнур. Ён звісае ад мяшка з дынамітам. Ужо блісnуў за людскімі спінамі востры прамень ліхтара. Зараз пасвецяць у гэтае сховішча і тады... Адапхнуць яго і палезуць самі... Тады не ўзарвець Максіму гэтага сховішча, не знішчыць штаба! А сіла ў гэтым сховішчы такая, што ніхто і на дварэ не застанецца жывы!

Запалка, здалася Максіму, аж выстраліла. У тую хвіліну пырснуў каля рук блакітны дым, забіў уніз шыпучым струменьчыкам... Трухлявыя сцены варывенькі ўздрыгануліся ад звярыных крыкаў. Натоўп афіцэраў рынуўся да вузкіх дзверцаў, пачулася лаянка, удары, стрэл. Нехта працягнуў руку, стараючыся абарваць шнур. Максім Пілуй адштурхнуў руку. Яго пачалі адцягваць ад шчыліны, таўклі кулакамі па галаве. Ён адбіваўся нагамі, стараючыся загарадзіць усім сваім целам доступ да шнура.

— Помніць будзеце, сволачы!..

Кроў гудзела ў вушах, нястрымана білася ў жылах. У нейкім страшэнным забыцці адбіваўся ён ад ворагаў. Яму здавалася ўжо, што гэтаму не будзе канца. А калі згасне шнур? Ён баяўся, што пасля такога напружання ён аслабне і здасца. Выдасць таварышоў, „дзецка“ Бартуся... Зараз ад гэтых будынкаў, ад штаба—нічога не застанецца! Махае ручкаю Вадзік... Зеня недзе капае акопы... Як холадна ..

І раптам нешта пякучае таўханула яго ў спіну, у свядомасці на момант успыхнулі тысячы зорак і адразу згаслі.

Над штабам высока ўзвіхрыўся слуп чорнага дыму.

Гэтага Максім Пілуй ужо не бачыў.

*В. Глазырын*

# СМЕРЦЬ ПАГОДЫ

Хто не ведаў Пагоду? Міколу Пагоду? Пагода—гэта мянушка. Хто даў гэтую мянушку—Пагода сам не памятаў. Але яна назаўсёды прыстала да яго. На сваё сапраўднае прозвішча ён як быццам і забывацца пачаў; ды і ніхто яго не ведаў апрача пісара Міхася Абрамавіча.—Міхась Абрамавіч—пісар паштовай станцыі, кожны месяц складаў ведамасць на пенсію і супроць „6 руб 00 кап." штомесячнай пенсіі, дзе Мікола Пагода стаўляў з года ў год, з месяца ў месяц тры звычайныя, крыжыкі, значылася: „Возчык троечны Шуткін Мікола Касьянаў".

А мянушка „Пагода" да Міколы Пагоды пасавала. Умеў возчык Мікола Шуткін разгуляцца непагодаю, на тройцы гнедых як віхор праімчацца. Ніхто так порсткую паштовую тройку з усяго разбегу не асаджваў, як Пагода. Ніхто з такім асаблівым шыкам коней пад паноў не падаваў. Першы возчык быў на Шчукінскай паштовай станцыі. Не здарма гаспадар Яграф Шчукін хваліўся Пагодам усім і ўсякаму: „Не возчык, а ерой, Расея ў армяку возчыцкім". І ніводнае мяшчанскае вяселле ў горадзе Слабажаеве не абыходзілася без Пагоды. Пагодавы гнедыя „Вясёлыя" заўсёды пад маладых ішлі.

Імчыцца Пагода праз горад—увесь горад глядзіць, прахожыя спыняюцца, дзівуюцца і на возчыка на статнага, на спрытнага, і на коней на пісаных, на порсткіх, што агонь гарачых. І возчык, і коні, ні даць ні ўзяць,—малюнак сыцінскі лубачны. Ведаў Пагоду ўвесь горад і любіў. Да мінулай восені Пагода пяць рублёў у месяц атрымліваў, і вось аднойчы выклікаў яго да сябе гаспадар станцыі Шчукін і рубель набавіў. Пасля Пагода „ўспрыскі" возчыкам з радасці за надбаўку наладжваў—траячку прапіў. І заўсёды пагодавы коні пад самых важных паноў ішлі. Ці земскі выязд робіць — Пагода. Ці кіраўнік з заводаў Паклеўскага-Козел едзе—абавязкова Пагода. Раз нават самога віцэ-губернатара, што прыязджаў у Слабажаеўскі павет па нейкай спешнай справе, ва ўвесь дух імчаў. Увогуле быў Пагода ў павятовым гарадку Слабажаеве выдатным чалавекам. А пасля віцэ-губернатарскай паездкі аўтарытэт яго падняўся яшчэ вышэй.

Колькі было Пагоду гадоў, бадай ён і сам не ведаў. Ды ніхто пра гэта ў яго і не пытаў ніколі. А сам лічыць ён не любіў. Ідуць гады—ну і добра. Адно памятаў—як будавалі новы дом пад казначэйства, яму трынаццаць гадоў было, а пасля гэтай падзеі колькі

гадоў прайшло—пятнаццаць ці восемнаццаць—не мог сказаць, бо не было патрэбы лічыць гады дамоў казённых.

Пенсія хоць і нікчэмная была, але чаявых Пагоду перападала. Ашчадна і ўмела вядучы свой бюджэт Пагода, бадай, і сабраць мог-бы тое-сёе. Тым болей што быў нежанаты. Нежанаты і адзінокі—бацькі забыўся, калі памерлі. Самому ўжо нешта каля пяці дзесяткаў было. Ды вось тое бяда, што казёнка-манаполька супроць паштовай станцыі была—„само цягне"—казаў Пагода. І выпіваў ні многа ні мала: стопачак пяць за дзень. Піў і ніколі не п'янеў. Любіў і таварышоў часамі пачаставаць. І маёмасці не было ў яго: штаны плісавыя ды сарочка чырвоная, а шапка, з гербам дзяржаўным—медзянай бляшкай, гаспадарская была.

Ведалі Пагоду ўсе праезджыя чыноўнікі, станавыя і іншыя паны не менш як у паветах трох.

І здарыўся аднойчы сумны выпадак. Выпадак, пра які месяцы два гаварыў увесь Слабажаеў. Гэта было таго году, калі памёр сябра Пагодаў, рымар Павел Кормшчыкаў. За год да германскай вайны.

Пайшлі чуткі: павядуць хутка з губерніі к Слабажаеву чыгунку. Пры ўсёй славе возчыка зухаватага, удалага, Пагода быў маўклівы. З прыроды ўжо ў яго такая натура была. З гнедымі сваімі больш прывык гаварыць, чым з людзьмі. З дзяцінства быў не гаваркі.

Нават ахвочым да слоў праезджым скупа адказваў: „але", „не". А прыдзе на стайню да „Вясёлых" сваіх—адкуль і словы бяруцца: „мілыя мае, саколікі, сокалы мае",—стаіць ля трох конскіх галоў у стайні і мармыча. І коні любілі Пагоду; ён стаіць каля іх, а яны ласкава чухаюцца, труцца мордамі аб яго плечы, фыркаюць яму ў твар і слухаюць уважліва незразумелую гутарку Пагодаву. Упарта пачалі гаварыць пра чыгунку, што пагоняць яе хутка пабудовай ад губернскага горада к Слабажаеву... Словы хадзячыя са справай усё-ж так і не разышліся. Прыехалі інжынеры розныя, людзей наймаць пачалі—насып сыпаць, зямлю капаць, лес секчы, і іншыя работы, якія трэба, рабіць. І стаў з таго часу Мікола Пагода ахвочым да слоў. З кім-бы Пагода не спаткаўся, толькі і гаворкі, што пра чыгунку. Каго-б Пагода не вёз— гутарка пра чыгунку. Не зычліва ставіўся да гэтай справы Пагода.

— Ды куды-ж, ды хіба, рабяты, можна. К нам чыгунку—ды куды-ж дзенешся, возчыкі паштовыя. Браткі вы мае, прападзе возчыцкая сасловія, як лапцем у душу, прападзе. Вось ты, Шыхалеў Мікіта, у цябе пяцёра голых, босых, што-ж ты рабіць будзеш? Больш, як возчыкам быць ты нічога і не ведаеш і ўсяму твайму пакаленню ў возніцтва дарога. Ды што гэта, возчыкі дзяржаўныя, паштовыя, за жызня будзе—на конях не праімчыся... Ды куды-ж я без „Вясёлых" сваіх дзенуся, ды як я жыць буду. Эх, рабяты, прапалі мы... Прапала возніцтва,—і апусціўшы галаву ішоў да „Вясёлых", гладзіў іх па грывах і нудзіўся. Здавалася яму, што нясе чыгунка пагібель на возніцтва, жабрацтва невыноснае, жах немінучы. Хоць і што за шчасце—прафесія возніцкая, але ўсё-ж за жабрацтва вышэй і нейкае прывольнае званне гэта, з пакалення ў пакаленне возчыкі паштовыя ідуць. Пасля пасылаў па штоф, ча-

ставаў возніцкую брацію, пасылаў па другі—троху п'янеў, зноў ішоў на стайню да коней і горка там плакаў.

А калі вёз паноў, дапытваўся ў іх пра чыгунку. Гутарку асцярожна пачынаў.—І, знацца, ваша высокаблагародзь, мясцовасць наша для чыгункі не падхадзяшчая: лясы ды яры, ваша высокаблагародзь, хіба гэта мясцовасць?! Ды і народ у нас цёмны, ды й вывозіць няма чаго, няма сэнсу выдаткі рабіць—чыгунку да нас падцягваць,—таму без карысці...—А сам прыслухоўваўся, што адкажа сядак.

Седакі мала калі згаджаліся з Пагодам. Хто сам сабе падумае: „Ні чорта ён, дурань, не разумее", а другі, каб вясялей было ў дарозе, пусціцца ў довады пра карысць чыгунак у дзяржаве. А Пагода ўжо не слухае, ведае, што гутарка не ў яго карысць.

І вось аднойчы вёз ён інжынера аднаго, сына акцызнага чыноўніка Вінаградкіна, з горада Слабажаева. Ён быў на апошнім курсе пуцейскага інстытута, давучваўся і быў прыкамандыраваны на пабудову чыгункі. А паколькі дарога будавалася ў яго роднай мясцовасці быў ён заўзятым патрыётам пабудовы гэтай. Ды Пагода якраз гэтага і не ведаў. Быў Пагода ў дрэнным настроі. Злосны быў. Ну і пачаў ён пасажыру свае довады пра чыгунку выкладваць. І не паспеў да паловы гутарку давесці...

А возчыкі з панамі гутараць так—седзячы да іх спіной, бо гутарка, гутаркай, а коньмі кіраваць трэба.

А студэнт Вінаградкін здаровы быў з выгляду, тоўсты, угадаваны. Твар чырвоны, шчокі аж блішчаць. Тоўсты. Дарма што росту быў невялікага, выглядаў не горш за самага сапраўднага сталічнага пана. Бывала па горадзе Слабажаеве ідзе—гарадавыя і пажарнікі казыраюць, хоць і не павінны былі чэсць аддаваць панам-студэнтам усялякім. Выгляд павагу выклікаў.

... Чуе Пагода: бабах яго пасажыр ззаду. Па шыі. Бабах раз, другі... Закіпела ў Пагоды сэрца, ды не таму, што шыя балела, а крыўдна. З роду Пагода ад людзей не плакаў, а тут слёзы горкія адкуль узяліся.

Як закрычыць студэнт Вінаградкін:—Я табе, сукінаму сыну, сем скур спушчу, высеку, у часць засаджу. Да губернатара адпраўлю.

Начытаны быў студэнт, з кніг ведаў як з простым народам размаўляць. Але Пагода крыку не спужаўся, толькі гарчэй горкага ў яго на душы стала. І не да чаявых было. Завезці-б хутчэй седака. Ды разабрацца—што-ж гэта здарылася? Бач якія справы! Эх, да стана-б хутчэй—выпіць саракоўку ў адзін дух ды „Вясёлым" выплакаць сваё гора. Эх ты, жызня! Крыжам у спаса!

Таго-ж вечара ў купецкім клубе акцызнага Вінаградкіна сын, інжынер няпоўны, расказваў пра здарэнне з возчыкам, хваліўся, як адлупцаваў яго. А на другі дзень, праз шасцёрак клубных*) навіна па горадзе прайшла. І, здавалася, страціў Пагода ўвесь свой аўтарытэт возчыцкі, выдатнасць сваю паштовую, дзяржаўную.

---

* Афіцыянтаў.

* * *

Але перамога на Пагодавым баку асталася. Пачалася руска-германская. Дарогу, не дабудаваўшы, кінулі. А недабудавана было самае глупства. Узяў верх Пагода. Пасля здарэння з панам Вінаградкіным яго і не відаць і не чуваць было, жыхары быццам і забывацца на яго пачалі. А тут зноў Пагода паказаў і тутэйшым і праезджым, што зухаватасць яго не памерла, што жыва яшчэ возчыцкае саслоў'е. Толькі манапелькі не было. Затое самагонка з'явілася, ды брагі хмельнай хлебнай, хоць да смерці заліся, па патаемных шынках было!

* * *

Стаіць перад камісарам Гіацынтавым чалавек і шапку ў руках возчыцкую камечыць, толькі шапка тая без бляшкі меднай. Паляцелі арлы царскія к чорту, уніз галавой, не асталіся яны і на возчыцках шапках. Асталося на тых шапках з аксаміту таннага, дзе быў арол, месца не злінялае ад сонца плямай вялікай. І каб колер падраўняць, ганебнай плямы каб не было, возчыкі некаторыя пляму тую каламаззю замазалі: каламазь якраз пад колер брудназялёнага аксаміту. Стаіць Пагода перад камісарам Гіацынтавым, шапку ў руках камечыць і пугу ў руках трымае. Не патрэбна ўжо болей пуга Пагоду, а па прывычцы трыццацігадовай ніяк з ёю расстацца не можа. Няма ўжо возчыкаў паштовых, няма ў РСФСР ніякіх возчыкаў, і ніякага возніцтва. І вось лёгка-ж расстаўся Пагода са сваім возчыцкім званнем, шапкай нават на развітанне не памахаў. Зразумеў Пагода тлумачэнне былога возчыка Ваські Чубава, што вярнуўся з германскай вайны. „У возчыках толькі тады ёсць патрэба, як паны ў сіле, а няма паноў, дык і возніцтва скасаваць".

Перад гэтым быў яшчэ такі выпадак. Было гэта перад вялікімі Кастрычніцкімі днямі. Варочаўся Пагода ў Слабажаева з завода Паклеўскага-Козелл, вазіў туды нейкага апошняга чыноўніка. Вазіў без былой заліхвацкасці, паводле абавязку. І чыноўнік гэты на чыноўніка, на пана не падобны быў. Сядзеў суслікам зашыўшыся ў куток брычкі і на пагодаву спіну з асцярогаю пазіраў. Пагода скаса разы два зірнуў на седака і, сплюнуўшы, вылаяўся:— „Ну і чыноўнік пайшоў—ні табе выгляду, ні табе чаго іншага... Адным словам і гаварыць няма пра што". Варочаўся Пагода ў горад поражнем і быў ужо ў палавіне дарогі, як сустрэў двух чалавек—насустрач яму пехатою йшлі. Апрануты як быццам нішто, мяшкі толькі за плячыма карычневыя, быццам ні тое, ні сёе. Адзін мужчына, значыць, а спадарожнік у жаночай вопратцы. Апрануты, абуты нішто, а пехатой ідуць. Дзівіцца Пагода, спыніўся. Спыніліся і сустрэчныя. І пачаў Пагода ад цікаўнасці пытаць, маўляў, што, як і адкуль?

Мужчына засмяяўся і кажа:—„Таварыш, пакуль нас дзяржава не прызнала, паштовых коней не даюць. Мала, паштовых не даюць, але ў горадзе ледзь не арыштавалі.

— Не заарыштавалі?—здзівіўся ўголас Пагода.

— Так, мы большэвікі...

— Ідзі ты... большэвікі?..

— А што, таварыш? Скора мы самі коней паштовых будзем прызначаць, гаспадарамі будзем самі,—засмяяўся большэвік, а жанчына ўслед за ім заўсміхалася.

Спадабаліся большэвікі Пагоду, першы раз ён большэвікоў бачыў.

— Дык вы на завод?—пацікавіўся Пагода.

— Так, таварыш...

Пагода на хвіліну задумаўся і, рашуча трасянуўшы галавой, завярнуў коней.

— Садзіцеся,—праказаў Пагода. А пасля дадаў:—Таварышы...

Імчаў ён па-заліхвацку. Па-сапраўднаму, па-возчыцкаму... Ад чаявых і платы адмовіўся. Большэвікі паціскалі яму руку і проста сказалі:

— Дзякуем, дарагі таварыш.

Гэта быў яго апошні заліхвацкі возчыцкі рэйс. Варочаючыся, ён усю дарогу думаў пра большэвікоў і колькі разоў паўтараў словы большэвікоў:—дзякуем, дарагі таварыш...

Пісар Міхась Абрамавіч, як прыехаў Пагода на станцыю, патрабаваў тлумачэння, дзе ён прападаў, бо для Міхася Абрамавіча расклад быў усё.

— Расклад парушаеш, возчык, парушэнне ствараеш руху паштовага прагону,—бурчэў пісар.

Пагода мармытнуў у адказ:—Пайшоў ты к ліху. Гэткае то начальства. Расклад? Падумаеш—расклад. Паляцяць скора ўсе вашы расклады каню пад хвост.

Быў цяпер Пагода нарадчыкам у Утрамоце. Уся былая шчукінская паштовая станцыя галоўнымі кадрамі ў Утрамот увайшла.

Перад арганізацыяй трамота на паштовай станцыі старшыня павятовага выканкома выступіў і прамова яго зводзілася вось да чаго:

— Трамот ёсць арганізацыя пролетарска-совецкая. Значыцца, з сёнешняга дня возчыцтва ніякага быць не можа. Ты, грамадзянін, таварыш Шуткін, таму як герой працы і пролетары, маеш усе правы на павагу і іншае, старшым, значыцца будзеш нарадчыкам.

Спачатку Пагода думаў, што не да яго звяртаюцца, а да нейкага таварыша Шуткіна. Хто гэта Шуткін? І ледзь-ледзь да свядомасці яго дайшло, што ён і ёсць гэты таварыш Шуткін. Ён—Пагода.

Сумаваў спачатку Пагода: лёгка сказаць—трыццаць год у возчыках... І на другі-ж дзень на новую пасаду заступіў. І адразу, з першага дня арганізацыі стаў сапраўдны парадак у Утрамоце,—былым паштовым стане,—лепшы чым раней парадак стаў. І былы пісар Міхась Абрамавіч, не Пагодам нарадчыка пачаў клікаць, як звяртаўся да яго, а „таварышок Мікалай Касьяныч“.

Пагода, як стаў нарадчыкам трамотаўскім, самагонкі ў рот а ні-ні.—Становішча мае не дазваляе, таму, калі самагонкай буду захапленне мець, распуста розная ў трамоце атрымацца можа,—гаварыў Пагода. І трамотчыкаў ганяў за п‘янства.

Прышло паведамленне ў выканком з цэнтру—чыгунка пабудоваю будзе заканчвацца, вылучыць на пабудову кіраўнікоў з мясцовых сіл. Першую і галоўную задачу ветцы гэтай вызначылі: вываз дроў—апалу для прамысловасці.

Вось з гэтае прычыны і стаяў перад камісарам Гіацынтавым былы паштовы возчык Пагода, а цяпер нарадчык Утрамота, таварыш Шуткін.

Пагода глядзеў на Гіацынтава, Гіацынтаў на Пагоду. Гіацынтаў хмыкае і ніяк не зразумее, што яму Пагода сказаць хоча. Пра дарогу ўсё Пагода разважае, а толкам да справы так і не дойдзе.

— Дык вось, друг-таварыш Гіацынтаў, значыцца быў той час возчыцкі, ну адным словам возчыку дарога поперак горла станавілася, а цяпер значыцца, калі возчыкаў скасавалі і сталі возчыкі роўнапраўныя грамадзяны, значыцца мы за тое, каб дарогу...

— Ды мы ведаем, што праца для вас родная справа, што ты мне гэта даводзіш,—і Гіацынтаў усё хмык-хмык, а вочы на твары прышчаватым, з моцнымі надсківіччамі са здзіўленнем глядзяць на Пагоду.—Ты мілы чалавек вітаць мяне ці што прышоў...

— Ды я на гэта не вельмі здатны, а вось... значыцца...

— Ды ты не воськай, а кажы адразу, час у мяне не свой, а дзяржаўны—кажы ў чым рэч...

Нецярплівы быў камісар Гіацынтаў. Усё жыццё нецярплівы быў. Усё спяшаўся некуды. І ўсё жыццё пражыў спяшаючыся. Паходжаннем быў з самага сапраўднага рабочага роду. На заводах, на уральскіх, гадоў дваццаць сноўдаўся. Больш чым год нідзе не працаваў. На адзін завод паступіць, а ўжо на другі пераходзіць збіраецца. Шукаў—дзе лепш. Так і не знашоў. У Кастрычніцкія дні ў горадзе адным губернскім савецкую ўладу ўстанаўляў, знаходзячыся ў складзе чырвонагвардзейскага экспедыцыйнага атрада. І тут таксама нецярплівы быў—кадэтаў спяшаўся хутчэй ліквідаваць.

Пагода думаў, думаў і выпаліў; ад хуткай гаворкі ён ледзь не захліпнуўся, на ілбе паказаліся буйныя кроплі поту, пуга цяпер была заткнута ў высокую халяву бота. Пуга перашкаджала пераконваць таварыша Гіацынтава.

— Ты, таварыш Гіацынтаў, не падганяй мяне, я хачу, значыць, на пабудову чыгункі, разумееш, памагаць вам, бо як паноў к...

Тут маленькія вочкі на прышчаватым твары Гіацынтава заўсміхаліся:

— Дык чаго-ж ты мямліў, мямліў, агітаваў, гэтак-бы і сказаў.

Свае людзі адказныя Гіацынтаву для пабудовы чыгункі да зарэзу патрэбны былі.

* * *

Ці варта расказваць як, прыклаўшы сваю энергію возчыцкую неўгамаваную, таварыш Шуткін Мікалай памагаў па-сапраўднаму дабудоўваць чыгунку. Ён быў ужо комуніст, праўда, распісацца ён і цяпер яшчэ не ўмеў, не было пакуль часу грамаце навучыцца. Але гаварыць ён навучыўся, умеў сялян за жывое крануць словамі возчыцкімі простымі. І ішлі сяляне чыгунку будаваць. Кулаччо

Пагода на пабудову праз камбеды гнаў. Умеў і з інжынерам галоўным ладзіць. Быў ён ні больш, ні менш як наменнік прараба веткі.

Першы спробны поезд пусцілі і адразу-ж чыгунцы выпала задача тактычна-баявая. На гэты час падышоў зусім блізка к гораду фронт. Падступілі белыя, калчакаўцы. Па чыгунцы пачалі перавозіць войска, знарады, прыпасы і іншае, што патрэбна для абароны тэрыторыі совецкай.

Не па нутру прышлася чыгунка камандванню беламу. У фланг яна ўпіралася белай арміі—парушала планы арміі вярхоўнага кіраўніка Сібіры адмірала Калчака. І наважылася белае камандаванне мост галоўны на чыгунцы, праз раку Баравую, зніштожыць, а тым самым спыніць рух па дарозе.

Мікалай Шуткін, скончыўшы пабудову, так на чыгунцы і астаўся. Начальнікам аховы веткі прызначан быў загадам з губерніі.

* * *

Экспедыцыйны атрад палкоўніка Дракахруста, спусціўшыся з заходніх увалаў Паўночнага Урала, павінен быў абкружыць левы фланг Чырвонай арміі. У атрадзе былі хуткарухавыя лыжна-штурмавыя каманды. Па лясной глухамані, замёрзлых балотах, рэдка заходзячы ў населеныя пункты, атрад бліжэй і бліжэй пасоўваўся к флангу арміі, абыходзячы яго з поўначы.

Невялікі атрад былых маракоў, узброены больш гераізмам, чым ручнымі гранатамі і патронамі, пад камандай таварыша Шаронцага, раскіданы невялікімі заставамі па фронту, быў адзінай аховай левага фланга.

Была лютая зіма. Дрэнна апранутыя, у падраныя бушлаты і кажушкі, байцы стойка трымалі фланг арміі. Палявалі на белых на самімі зробленых лыжах. Адкрытая барацьба ператварылася зімой у паляванне—заставы бесперапынна рухаліся па сваіх участках, падпільноўваючы белага звера. Але хіба ўсё ўпільнуеш на такім вялікім франтавым участку. Не было магчымасці ні фізічнай, ні гераічнай. Лыжныя каманды белых пралазілі цераз фронт часта без бою, не трацячы ніводнага патрона.

Пагроза навісла над чыгуначнай веткай. Не сёння—заўтра белыя выйдуць на палатно. Парвецца сувязь фронта з тылам—пагібель. Праўда белым тут не ўтрымацца, бо лінія іхняга фронта не дапушчае такога далёкага заскоку ўперад. Але чыгунка будзе бяздзейнічаць і гэта будзе на руку агульным стратэгічным планам белай арміі.

Фронт замёр на адным месцы. Камандарм таварыш Горын аддаў загад. Загад быў катэгарычны і ясны, строгі і зразумелы: „Назад, далей ні на крок“. З гэтай лініі фронта распрацоўваўся план вясенняга наступлення Чырвонай арміі.

* * *

У напаленай да гарачыні сялянскай хаце, расшпіліўшы мундзір, у адных кальсонах, разглядаючы трохвёрстку сядзеў палкоўнік Дракахруст. На стале шумеў даўно нечышчаны медны самавар.

Шклянка моцнага чаю стыла перад яго высокаблагароддзем. Тут-жа на чайным сподку ляжалі акуркі англійскіх сігарэт. У кутку дзяншчык зашываў палкоўнікавы брукі-брыджы. Яго высокаблагароддзе недзе ў лесе аб сук зачапіў задам брукі.

— На што сукно японскае моцнае, а не вытрымала рускага сучка,—бурчэў дзяншчык, крэкчучы, пыхкаючы, пацеючы і мабілізуючы ўсё сваё ўмельства каб зашыць як лепш брукі іх высокаблагароддзя.—Іголка не лезе, а тут аб сук,—працягваў шкадаваць салдат.

Палкоўнік рабіў адразу тры справы: піў чай вялікімі конскімі глыткамі. Пры кожным глытку палкоўніцкі кадык вывальваўся на брудную сарочку і култыкаў. Пасля кожнага глытка зацягваўся пахучым дымам з тоўстай сігарэты і разглядваў карту, поўзаючы па ёй сінім алоўкам.

— Скора ты там з штанамі, Берднікаў?

— Зараз жа, ваша скародзь, ніяк іголка не лезе.

— Што-ж я паноў афіцэраў без штаноў прымаць буду?

Паноў афіцэраў у атрадзе было чалавек дванцаць. Скора яны ўсе сабраліся ў палкоўніцкую штаб кватэру. На павестцы дня афіцэрскай нарады стаяла адно пытанне: „Вылучэнне каманды для знішчэння маста праз раку Баравую“.

Мост на Баравой ад стаянкі атрада быў кілометраў за трыццаць.

Начальнік каманды, на погляд палкоўніка Дракахруста, павінен быць дабраахвотны. Вось гэтае пытанне і трэба было паставіць перад панамі-афіцэрамі. Патрэбен быў ахвотнік.

Пасля таго як палкоўнік абвясціў гэта, усе затоена і насцярожана змоўклі. Дзе дзелася ўся белая адвага! Паны афіцэры, якія да таго жвава размаўлялі, адразу перасталі глядзець адзін аднаму ў вочы. Кожны хоць-бы дыханнем баяўся выдаць сваю прысутнасць. Маўклівасць з насцярожанай перайшла ў адчуванне няёмкасці. Каму ахвота, адарваўшыся ад атрада, ісці некуды за трыццаць вёрст, а пасля назад варочацца, шукаць у неабдымнай глухой тайзе атрад. І была-б ахвота, ды жадання няма. Па дыспазіцыі штаба атрад больш за суткі аставацца на адным месцы не мог, і апошні тапаграфічны пункт стаянкі—вёска Табольшына, дзе сёння атрад начаваў, быў крайнім пунктам, куды трэба было зайсці атраду ў абход фланга чырвоных. Шукай пасля атрад. Не, пан палкоўнік, дурняў няма—думаў кожны. А тут разведвальныя партыі гэтага чорта Шароніцкага—сустрэча з імі не з прыемных і шляху да павышэння не адкрывае.

Маўчанне дайшло да апошняй граніцы няёмкасці. Без штаноў, схаваўшы гэта ад афіцэраў апранутай проста на бялізну саксачай бякешай, ліхі палкоўнік Дракахруст ужо наважваўся напомніць пра афіцэрскі гонар, слаўную белую доблесць, геройства і іншыя, натхняючыя воінаў, традыцыі, якія малакроўна захаваліся ў арміі Калчака, як раптам у хату ўвайшоў афіцэр, апрануты ў дублены кажушок. Па пагонах можна было пазнаць, што гэта быў паручык інжынерных войск. Гэта быў прыкамандыраваны к атраду, на час экспедыцыі, сапёр.

— Пан палкоўнік,—афіцэр выцягнуў перад палкоўнікам сваё кароткае, але тоўстае тулава. Голас яго гучэў горда, бадай нават, задзірыста. Ён абыякава, не хаваючы іроніі, цераз плячо, пеглядаў на афіцэраў,—дазвольце вас прасіць назначыць мяне ў налёт на мост на рацэ Баравой.

Няёмкае маўчанне разрадзілася. Афіцэры зашапталіся. Пачуліся нават жарты. Нехта ў куце прыглушана вымавіў:—Дурняў не сеюць, не жнуць, яны самі родзяцца.—Панам-афіцэрам стала адразу весела.

Палкоўнік меркаваў: не зусім зручна адзінага сапёрнага афіцэра пасылаць на аперацыю. Паводле агульнага правіла ён можа паслаць з складу сапёрнай каманды ўнтэраў. Сапёр—спецыяльнасць дэфіцытная. Але ў іншым выпадку трэба агітаваць афіцэраў. Можна, вядома, і загадаць.—А ды ну іх, то-ж афіцэры—ні сумлення, ні гонару, падумаў палкоўнік Дракахруст і ў душы быў рад, што гонар мундзіра рускага афіцэрства ўсё-ткі падтрыман, праўда, нейкім сапёрным афіцэрам, а ўсё-ткі падтрыман.

Як афіцэры пайшлі і астаўся толькі паручык інжынернай службы, Дракахруст, нацягваючы залатаныя к гэтаму часу брукі, прабурчаў:—Не афіцэры пайшлі, а рамізнікі,—а потым заплікнуў брукі на ўсе гузікі, падышоў да паручыка ў кажушку і, паціснуўшы яму руку, сказаў:

— Дзякую вам паручык, у выпадку поспеха, прадстаўленне да ўзнагароды і павышэння я зраблю ў штаб вярхоўнага асабіста.

* * *

Раніцаю з Табольшына вышла каманда ў складзе трыццаці салдат. Каманду вёў інжынерны паручык у дубленым кажушку. Пры ім былі два сапёрныя ўнтэр-афіцэры. Калона ішла на лыжах і вельмі расцягнулася. У хвасце яе везлі на саннай устаноўцы „Максіма". Прайшоўшы дарогаю з поўвярсты каманда звярнула ў лес. Паручык, зірнуўшы на карту, упэўнена ўзяў кірунак і хуткім крокам павёў лыжнікаў лесам. Крыху далей ён вылучыў дазорных і талкова растлумачыў ім маршрут.

Мароз шчыпаў салдат у твары. Высокія елкі і сосны падпіралі маўклівымі верхавінамі блакіт неба. Ішлі ў адзін след. Кулямётныя санкі глыбока выціскалі паўз лыжныя сляды дзве вузкія палоскі.

Паручык ішоў наперадзе каманды і насвістваў нейкі лёгкадумны аперэтачны матыўчык. Выраз яго твару і ўпэўненыя рухі паказвалі, што ён добра ведае мясцовасць. Часамі на яго твары прабягала ўсмешка. Яна была загадкавай і разам з тым выражала самазадавальненне. Падобна было на тое, што ён ішоў не на аперацыю, а рабіў пагулянку па знаёмым лесе.

На першым-жа прывале паручык растлумачыў салдатам задачу. Салдаты не здзівіліся і ні пра што не папыталі, твары іхныя былі абыякавыя, спакойныя. Больш жвавасці ім надала каманда: „—Ускрыць на двух адну каробку кансерваў, узяць кансервы з ранцаў другіх нумароў".

* * *

Гэтае начы камісар Гіацынтаў перадаваў па тэлефону начальніку аховы веткі Шуткіну загад: „Атрад палкоўніка Дракахруста ў тылу. Белыя могуць зрабіць налёт. Загінуць, але не папусціцца, сам на масту сядзі. Дарога загіне—гораду гібель, фронту—прарыў.—Загад Гіацынтаў перадаваў па прывычцы скарагаворкай, спяшаўся.

— Ды ты не спяшайся, Гіацынтаў, гавары выразней...

— Вось я і кажу, Шуткін, умры сам на масту... На масту сам, кажу, сядзі. Рота заўтра на падмацаванне на ветку выйдзе з армрэзерва—праз сутак паўтары—двое будзе.

Гэтае начы камісар Адзінцоў загадаў камісару Гіацынтаву кожныя дзве гадзіны даносіць, ці не паказаліся каля палатна чыгункі партыі белых.

Гэтае начы начальнік аховы Шуткін з маста званіў на ўсе пасты сямідзесяцівёрстнай веткі:

— Глядзіце, лешыя, у абодвы, белыя могуць... званіць адразу калі што якое... трымайцеся, бо на палатно ніяк нельга белых дапусціць. Ды не пужайцеся, чэрці, гэта не самая галоўная сіла, а так, невялічкія часткі... Заўтра рота на дапамогу прыдзе.

Гэтае начы гераічныя маракі Шароніцкага, якім не страшны былі ні мароз, ні кулі, натрапілі на атрад палкоўніка Дракахруста і гналі яго ў увалы уральскіх адгор'яў. Палкоўнік Дракахруст бою прыняць не хацеў. Увільнуўшы ад маракоў, заблытаўшы сляды, ён зноў наважваўся выйсці к вёсцы Табольшына.

І гэтае-ж начы, не дайшоўшы пяці вёрст да чыгуначнага маста, што на рацэ Баравой, інжынерных войск паручык, ля вогнішча, у лесе, абмяркоўваў план налёту і падрывання маста. Пасля гэтага ён агледзеў толавыя шашкі. Яны былі раскладзены ў трох брызентавых мяшках-чамаданах. Кожны мяшок быў гатовым узмоцненым зарадам. Чатырохсотдзесяціграмавыя шашкі растопленага толу былі падобны да кускоў шэрага казанскага мыла. Паручык глядзеў на шашкі. Казанскае мыла мела да паручыка нейкае дачыненне. Бадай не зусім прыемнае. Ён быў яшчэ гімназістам, здаецца, у шостым класе. Такім каваклам мыла арудавала на бялізне ў іх дома на кухні маладая прачка. Звалася яна, здаецца, Надзяй. Так, Надзяй. Чорнавокая, поўнатварая, з пышнымі грудзямі. Яна мыла ў іх сям'і бялізну заўсёды. Ён ужо даўно да яе прыглядаўся. І вось аднойчы, калі дома нікога не было, ён прыйшоў на кухню. Надзя была каля ночваў. Ён падышоў да прачкі, што схілілася над ночвамі. Сэрца білася, ён чуў кожны ўдар. Стрымацца ён не мог, непакойны стук сэрца загадваў... Далей падзеі пайшлі такім парадкам: гімназіст быў аглушан бязгучным ударам квадратнага кавалка мыла па твары. Рука прачкі была празмеру дужая—мыла з сілаю ўрэзалася ў твар. Ён і цяпер памятае, як зашчыпала правае вока—мыла папала ў вока. Душыла злосць. Злосць была пякучая, нясцерпная... Не дужа прыемнае адчуванне—слізкасць мыла на твары і злосць—усё гэта раздражняла да непрытомнасці. Душа гімназіста шукала выхаду і задавальнення...

Гэтым вечарам ён, пераапрануўшыся тайком ад сваіх у цывільную вопратку брата, разам са сваім сардэчным сябрам, таксама

гімназістам, купецкім сынам Сяргеем Баландзіным, ішоў к салдацкай Слабадзе. У маткі з пісьмовага стала была ўкрадзена траячка. Віктар Вінаградкін з траячкай і Баландзін з пяцёркай гэтым вечарам наведалі патаемную ўстанову з вясёлымі дзяўчатамі. У сапраўдны дом цярпімасці ісці было небяспечна—засыплешся. „Установа", куды яны пайшлі, была ў мяшчанскім доміку на ўскраі салдацкай слабодкі. Утрымлівала яе славутая Амалія Карлаўна. „Прадпрыемства" прадбачлівай Амаліяй Карлаўнай утрымлівалася галоўным чынам з разлікам на гімназістаў старшых класаў, рэалістаў і семінарыстаў.

Гадзіна, якую ён прабыў у пакоі Анюткі—„Папоўны", уціхамірыла злосць гімназіста, упершыню пакаштаваўшага ад забароненага плада.

На другі дзень маці ўсё ранне шукала знікшыя тры рублі. Была западазрона прачка. Яна была амаль адзіным чалавекам у кватэры пасля абеду. Праўда, быў яшчэ ён, але хіба магла маці падумаць, што ён, Віктар, мог украсці гэтыя няшчасныя тры рублі. Было вырашана прачцы Надзі ад мыцця бялізны адмовіць.

Салдаты драмалі каля вогнішчаў.

План налёта і падрыва маста быў вырашан паручыкам канчаткова. Сапёрныя унтэры нарыхтавалі запалы. Кулямётнае аддзяленне правярала „Максіма".

* * *

Гэтае ночы камісар Адзінцоў, пад сваім наглядам снараджаючы роту для абароны веткі, што злучала стаянку армейскага рэзерва з фронтам, чамусьці ўспомніў горад Слабажаеў і яшчэ ўспомніў, як ён з Аўгустай Герц ішоў з гэтага горада трактам на завод Паклеўскага-Козелл. Яны спяшаліся на завод паводле задання губпаркома. Вялася ўзмоцненая падрыхтоўка рабочых да паўстання. З паўдарогі іх давёз павярнуўшы тройку назад, нейкі паштовы возчык. Успомніў і ўсміхнуўся. А пасля ён пазваніў у Губком Аўгусце Герц. Была ноч. Губком працаваў дзень і ноч. Ніхто не адрозніваў ночы ад дня. Людзі памяталі адно: „белыя і фронт". Адзінцоў пазваніў Аўгусце Герц і пачаў расказваць ёй пра возчыка, што вёз іх на завод. Аўгуста Герц пракрычала ў трубку:—Нашоў час для ўспамінаў. Ты можа яшчэ пра кветкі гаварыць будзеш.—Адзінцоў вельмі, да хваравітасці, любіў кветкі.—Няма часу, таварыш Адзінцоў...—і павесіла трубку. І каб Адзінцоў бачыў твар Аўгусты Герц у той момант, як яна вешала трубку, дык ён на стомленым і бледным ад бяссонных начэй яе твары разглядзеў-бы ўсмешку. Камісар Адзінцоў так і не перадаў Аўгусце Герц—сваёй жонцы—самага галоўнага: што ён сам выязджае на чале роты гэтае ночы на ветку. Турбаваць і адрываць ад работы таварыша Герц—званіць другі раз ён не хацеў.

Была пры роце медыцынская сястра таварыш Табакова. Таварыш Табакова разам з байцамі падрыхтавалася да пахода. Хлопцы ўвіваліся каля сястрыцы. Адзін зух-хлопец вельмі заўзята за сястрыцай ухажываў у вагоне, ды справа да адбою з трэскам дайшла.

— Вы, хлопцы, хочаце дружна жыць са мной, рукам волі не давайце. У мяне нядоўга і да ляшча па фізіяноміі. Бо я вам не якая-небудзь, а Чырвонай арміі медыцынская сястра.

Чырвонаармеец, аматар лёгкага флірту, вымушан быў рэтыравацца ў цёмны куток на ніжніх нарах. Братва рагатала.

— Быў у мяне выпадак,—працягвала таварыш Табакова.—Маладая я яшчэ зусім была, прачкай па панах хадзіла. Гімназіст адзін быў прычапіўся, дык я яго па рожы кавалкам мыла...

* * *

Белых змецілі адразу. Крадучыся па лагчынах і між бугроў яны ціхом паўзлі да маста. Пяхотны афіцэр налёт на мост хітрэй-бы зрабіў. Каманду вёў сапёр. Унтэры ўмяшацца не адважыліся. Каманда паўзла адной калонай.

Шуткін засеў каля маста з кулямётам. Страляць пакуль што не даваў загаду: хай белякі думаюць, што не бачым іх. Абодвы берагі ракі былі прыяўзнятыя. Мароз і цішыня напаўнялі паветра звонам. Раніца была ясная. За лагчынай паручык каманду спыніў, загадаў кулямёту стаць на абрэз бугра, выслаўшы к масту шасцёх чалавек.

Шэсць чалавек перапаўзалі бугор.

Кароткая кулямётная чарга разрэзала паветра. Стрэлы рэзка застукалі. Стук быў падобны на звон метала. Рэха глуха застагнала і завыла ў лесе. На снягу ляжалі чатыры салдацкія целы. Двое белых, узняўшыся на ўвесь рост і кінуўшы лыжы, уцякалі па масту і схаваліся за бугром.

У гэты час адказала кулямётная чарга з-за бугра. Яна была для Шуткіна нечаканай. Кроў двух таварышоў афарбавала белы снег. Адзін быў забіт напавал, другі ціха стагнаў. Знакамі Шуткін прымусіў людзей з кулямётам адцягнуцца на другі бок бугра. Цяпер мост быў таксама добра відаць і яны былі закрыты ад абстрэлу з фланга.

Паручык выпаўз на ўзгорак. Для яго наяўнасць на масту моцнай узброенай аховы таксама была нечаканай. Паручык агледзеў мост і мясцовасць. Ён адразу ацаніў абставіны. Калі людзям удасца праскочыць спад бугра, сажэняў пятнаццаць—дваццаць— яны ад абстрэла будуць закрыты і падыйдуць да паляў маста. Бераг іх закрые ад праціўніка. Кулямёт будзе адцягваць увагу чырвоных. Другой магчымасці заняць мост няма. Мост можна падарваць ля ніжніх паляў. Мост зробіць асадку і напалову згарыць. У галаве ліхаманкава вырысоўваўся новы тэхнічны разлік. Формула яго свежасцю лічбаў гарэла ў галаве сапёрнага афіцэра ў дубленым кажушку. Першы разлік каля вогнішча ў лесе быў складзен на верхнія палі. Новы разлік. Так, вядома, новы. Вырашана.

— У яго ў трох мяшках узрыўчатага казанскага мыла... тьфу, чорт толу 48 кілограм. Апошнюю, у выпадку няўдачы, спробу зробіць ён сам. Кулямёту абыйсці з другога боку.

Зноў забрахаў кулямёт белых. Забрахаў з другога боку. Зноў сунуўся адзін баец таварыша Шуткіна тварам у снег.

Па масту бегла восем чалавек. Яны спяшаліся праскачыць адлегласць у пятнаццаць—дваццаць сажняў. Тут быў і сапёрны ўнтэр з зарадным чамаданам. Але наст не ўсюды быў моцны і мясцінамі не вытрымліваў цяжару чалавечага цела, правальваўся.

Доўгая чарга, прапеўшы смяротную трэль, укрыла мёртвымі і раненымі людзьмі снег, дадаўшы да забітых раней кучу знішчанага ворага. Паручык назіраў. Цяпер ён мацюгаўся. Ім авалодваў непакой. Дарога да маста, выходзіць, толькі цераз кінжальны агонь чырвоных.

Шуткін перавёў сваіх людзей на ранейшую пазіцыю. Была небяспека абыходу белымі яго другой пазіцыі.

Дзесяць чалавек з другім сапёрным унтэрам зноў беглі па снягу, і, недабегшы да груды мёртвых і раненых салдат, як зрэзаныяляглі пад кулямётам Шуткіна на снягу. Адны з іх супакоіліся адразу, другія ціха стагналі.

У камандзе белых засталася з афіцэрам дзесяць чалавек.

Шуткін астаўся сам-пяць ды яшчэ тэлефаніст, што ў каравульным памяшканні. Тэлефаніст быў шосты.

* * *

Камісар Гіацынтаў не адыходзіў ад тэлефоннага апарата. Ён толькі што перадаў па тэлефону:

„Трымайцеся,—выйшла асобым эшалонам рота; сам Адзінцоў вядзе роту“. Потым, як на злосць, сувязь парвалася. Тэлефаніст падзьмуў хвілін пяць у трубку, вылаяўся і, узяўшы вінтоўку, пайшоў на далучэнне да Шуткіна. Але далучыцца яму так і не ўдалося. Каравульнае памяшканне і сцежка па снягу ад яго к мосту былі як на далоні ў белых. Праспявала з паўдзесятка ружэйных стрэлаў і тэлефаніст, здзіўлена ўзмахнуўшы рукамі, сеў на зямлю. Пасля ён пагразіў кулаком у прастору і лёг.

Паручык інжынернай службы прыняў трэцяе рашэнне. Ён загадаў абыйсці нізінай мост і з дальняй дыстанцыі пачаць абстрэл аховы. Трэба-ж адцягнуць яе ўвагу — ашукаць. На бугры, з мяшком толу, шнуром і запалкамі, ён астаўся адзін. Ён адважыўся на небяспечную рызыку. Ён быў упэўнен, што выканае свой апошні план.

Сонца ўзышло вышэй і пад яго промнямі снежная роўнядзь здавалася срабрыста-белым і слепячым вочы вялізным абрусом. Сонечныя промні коса падалі на бугор, дзе заселі чырвоныя і ўзгорак, дзе сядзеў паручык, з боку чырвоных быў відаць не зусім выразна; калі ён будзе перабягаць па спаду бугра, то ўпэўненасці ў наводцы па адным чалавеку ў аховы маста не будзе, а могуць і не ўбачыць. Кулямёт адцягне ўвагу чырвоных ўправа.

Кулямёт белых зноў пачаў стральбу. Цяпер ён ужо біў з вялікай дыстанцыі. Першыя кулі ўзнялі невялікія ўсплёскі навеянага на масту снегу. Пагода сам узяўся за кулямёт. Пачалася гураганная перастрэлка. І кроў яшчэ двух таварышоў афарбавала ўтаптаны вакол кулямёта снег.

Паручык быў упэўнен, што мост ён знішчыць. Ён гэта зробіць. Толькі трэба крыху адвагі, рашучасці. Фляга са спіртам апынулася каля рота. Рух, якім паручык паднёс флягу да губ, быў для паручыка прывычны і зроблен быў аўтаматычна, амаль бессвядома. Паручык не піў усю дарогу ад самага Табольшына, але зараз, для ўпэўненасці... Некалькі глыткоў. Далоў знаражэнне. Далоў пояс. Трэба захаваць максімальную вольнасць рухаў. Далоў кажушок. Яшчэ глыток. Яшчэ. Мяшок за плечы. Ён мост узарве. Тол падобны на мыла. Т-так. Мост ён і знішчыць. Павышэнне на штабс-капітана. А то дык і на капітана. У будучым ён інжынер-пуцеец. Як прагоняць чырвоных, мост адновяць. Можа нават ён адновіць або пабудуе новы... Раз-два-тры... Круглае, маленькае цела паручыка мячыкам заскакала па снягу. Пакацілася па спаду бугра к мосту.

— Ага, так і ведаў - не сочаць,—ён быў ужо каля ніжніх пляў.

Думкі паручыка працавалі з хуткасцю маланкі.

— Умацаваць для скрыжавання балак. Чамадан прывязаць вяроўкай. Ёсць. Утапіць крыху ў снег зарад. Гатова. Бікфордаў шнур. Дэтанатар. Гатова. Запальную труб...

... Кулямёт белых біў бесперастанку, узнімаючы вакол чырвоных белыя дымкі снегу. Шуткін даваў сустрэчны агонь кароткімі чаргамі. Награваўся ствол кулямёта... У галаве начальніка абароны ўсплывалі абрыўкі думак і ўспамінаў. Усплывалі мімаволі, апроч жадання. Гэта-ж ён калісьці быў супроць чыгункі, а цяпер б'ецца з ворагам за права яе існавання. Аднойчы ён вёз па тракту комуністаў...

— Таварыш Шуткін, чалавек к мосту прабег па касагору, ча-ла-а-век к палям,—закрычаў амаль у вуха адзін з апошняй адважнай тройкі байцоў.

... Мігам Шуткін скаціўся з крутога бугра к рацэ, да паляў...

... Падпалка ў руках паручыка-сапёра чыркнула крэменем і кнот ярка ўспыхнуў.

Ворагі амаль у адну і тую-ж секунду ўбачылі адзін аднаго. Рака была вузкая. Берагі блізка скочваліся адзін к другому. Афіцэр выбраў цэнтральны пераплёт паляў. Шуткін скаціўся амаль на паручыка. Два счарнелыя твары скрыжаваліся на мгненне позіркамі нянавісці. Гэта цягнулася не больш адной секунды. У двух чалавек былі аднолькавыя шансы і на жыццё і на смерць...

... Кулямёт чырвоных сціх. Апошняя прыслуга, раскідаўшыся ў перадсмяротнай агоніі, нерухома ляжала каля астылага цела „Максіма".

... І два рэвольверныя стрэлы зліліся ў адзін гук. Тройка „Вясёлых" гнедых прамільгнула перад Пагодам, яна імчалася неймаверна хутка на бязмежных снежных прасторах, рабілася ўсё меншай і меншай і, ператварыўшыся на далёкім гарызонце ў кропку, знікла.

... Ворагі расстралялі адзін аднаго ва ўпор. Прамахнуцца на паўтарасажнёвай дыстанцыі было нельга.

На снягу ляжалі два трупы і наган. Афіцэрскі парабеллум паручык, падаючы грудзьмі, накрыў сваім тулавам. Ля бярвення паляў недарэчна вісеў паблісківаючы медная апраўай, запал грымучай ртуці і ў снягу, тупым канцом угару, тырчэла падпалка ваенна-інжынернага абразца з абгарэлым кнотам.

Кулямёт белых працягваў сатанець доўгімі чаргамі. Зусім блізка, у лесе, пачуўся паравозны свісток. Ён быў нечаканы. У марозным, паветры ён гучэў прарэзліва, рэзка. Кулямёт, быццам спужаўшыся свістка, адразу сціх.

Унтэр паглядзеў на салдат, яны глядзелі ні то спалохана, ні то з запытаннем. Унтэр меў магчымасць адвесці салдатаў у лес. Але ён, не сказаўшы ні слова, спяшаючыся дастаў з кішэні брудную белую салдацкую хустачку і прывязаў яе да штыка вінтоўкі. Салдаты, як па камандзе ўваткнулі вінтоўкі штыкамі ў снег. Рэшткі каманды сапёрнага паручыка пайшлі к мосту, падняўшы ўгору рукі.

Камісару Адзінцову здалося, што твар начальніка аховы маста яму знаёмы. Ён стараўся ўспомніць дзе ён гэты твар бачыў. Байцы паздымалі шапкі. Камісар не сказаў прамовы. Ён пазнаў у начальніку аховы маста возчыка, што вёз яго на завод разам з Аўгустай Герц. Толькі барада ў возчыка больш чым тады срабрылася сівізной. Па шчацэ ў камісара скацілася сляза. Байцы слязы не заўважылі. Цела Шуткіна камісар загадаў палажыць у свой вагон.

На ветцы была пакінута для аховы палова роты.

Як эшалон ішоў назад, Адзінцоў ціха плакаў. Цяпер як ніколі ён хацеў-бы бачыць возчыка жывым, каб зусім па асабліваму яшчэ раз сказаць яму слова—таварыш, хацеў-бы везці яго так, як той вёз яго і Аўгусту Герц на завод паштовым трактам.

Надзя Табакова расказвала ў вагоне байцам:

— Я вам гаварыла, хлопцы, што мяне гімназіст адзін абляпіў, а я яго мылам—бачыла я гэтага гімназіста сёння.

— Як бачыла? Дзе бачыла?—пасыпаліся пытанні.

— Афіцэр-жа забіты ён самы і ёсць. З горада нашага Слабажаева, былога акцызнага Вінаградкіна сын.

Пагоду хаваў увесь гарнізон. Два аркестры ігралі герою траурны марш. Апошні салют трохразовым залпам далі сто дваццаць вінтовак. Апошнюю прамову на магіле сказала Аўгуста Герц. Прамова яе скупая і простая, але сагрэтая гарачым пачуццём глыбока ўвайшла ў сэрцы байцоў і ўсіх прысутных. Людзі не плакалі. Страта была мацней за слёзы і вышэй, чым смерць.

* * *

З таго часу прайшлі гады.

* * *

Поезд прайшоў мост і стаў. Я высунуўся ў акно. Невялікая чыстая станцыя. Вадакачка. За вокнамі вагона праплыў доўгі састаў пляцформаў, гружаных лесам. Каля станцыйнага будынку невялікі садок. У садку кветкі: астры, геаргіны, анюціны вочкі, гіацынты... Начальнік станцыі бяжыць да паравоза з жэзлам. З-за бяроз не відаць назвы станцыі. Свісток. Поезд рушыць з месца. Якая гэта станцыя? Вагон параўняўся з станцыйным будынкам. На белай шыльдзе чорнымі літарамі ясна і строга напісана: „Шуткіна". Надпіс не чытаецца—надпіс урачыста гучыць. Напамінае пра гераічныя дні мінулага.

*Вл. Кандраценя*

# КАПА СЕНА

На захадзе ў павольна бляднеючай ружовасці канаў дзень, а з процілеглага боку, з-за зялёнага хвойніку, высоўвалася цёмная палавая хмара, здалёк даносіўся, нібы з-пад землянога скляпення, густы і цяжкі гул.

Грымоты разганялі палахлівую перадвавальнічную цішыню.

Астап пакінуў каня, чамусьці не распрогшы, а сам марудным крокам накіраваўся да хаты. Аднак нечакана выразна пачуў далёкае раскацістае грукатанне і гэта, нібы гарачым вуголлем, апякло нутро, а думкі пабеглі з шалёнай хуткасцю, яшчэ мудрэй пераблытваючыся. „Трасца яго матары...—кіпеў ад злосці Астап.—Распарадчык знайшоўся... Было-б каго слухаць!..“

Нервовае раздражненне не давала цвяроза глянуць на сёнешні учынак, які перарос у цэлую падзею і заўладаў думкамі... Увесь свет, нібы от перад дажджом, раптам страціў каляровую шматграннасць і стаў перад чалавекам у нудных шэрых танах.

У хаце шарэў паўзмрок. Каля саганоў зухавата ўвіхалася Тэкля. Астап моўчкі прысеў на лаве і абыякава стаў глядзець на мятушэнне жонкі, нават ясна не ўсведамляючы, што яна робіць. Але калі Тэкля разагнула спіну ад саганоў і запытала, ці звазілі сена, ён пачуў гэта з асаблівай выразнасцю. Па немаладым твары Астапа прайшлася пакутная збянтэжанасць, і неяк адмыслова варухнуўся чорны вус. Ён паспешна буркнуў, што сена звазілі, і пасля таго ўжо зусім выразна даходзілі да яго свядомасці нараканні жонкі.

— Гэта-ж трэба думаць,—на ўсю хату разышлася Тэкля,—гэта-ж думаць, што творыцца! Ніяк не сцерагуцца, каб па дарозе сена не раскідаць. А яшчэ—гаспадары!.. Дык вас-жа брыгадзір, каб аштрафаваў за такую работу... Ці вы маеце лад?.. Унь каля леванцовых бяроз цэлую капу наабціралі з вазоў, як галінамі чапляла!

„Зноў капа... Гаворыць, усё роўна як ведае... А можа сказаў хто?.. Дык хай-бы ўжо пачынала без прысказкі“...

— Ці гэтак-жа робяць сапраўдныя гаспадары? Я мо‘ поўкапы нагрэбла пад бярозаю да ў гумно ўкінула...

„Ага, то капа была, а гэта ўжо поўкапы... Мала таго, дык і яна яшчэ з капою...“

—... а такі-ж раскідаючы дабро, то што-ж будзе?..

Астап моўчкі падняўся з лавы, не адказаў на запытанне жонкі, куды пойдзе, адно моцна грукнуў дзвярамі, што аж здрыгануліся сцены і тоненька зазвінелі шыбкі ў вокнах.

* * *

Вярнуўся Астап не раней як праз поўгадзіны; рубашка вымакла ўся ім да нітачкі і прыліпла да плеч, непрыемна халодзячы цела. За вокнамі бліскала маланка, ляскаў гром, па шыбках наўскасяк стукалі цёмныя струмені, у змрок хаты прасочваўся тлусты і працяжны шум.

Дождж ліў, як з вядра.

Астап пераадзеўся ў сухое і сказаў Тэклі, каб дала чаго з'есці. Але ён, сказаць па праўдзе, амаль не вячэраў: укусіў разоў са два і аб гэтым лёг.

За дзень-такі напрацаваўся, у самы раз было адпачыць пад сонны шэпт дажджу і гулкія грымоты, а тут нешта сон не браў, не мог аніяк заснуць, варочаўся з боку на бок у душнай пасцелі— нічога не памагала: надта ўжо моцная была ўсхваляванасць,—гэта яна не давала ўціхаміруцца і спакойна задрамаць. У галаве снавалі назойлівыя думкі, нібы дробная машкара палескіх балот. „Пакуль тое праўленне, то што брыгадзір скажа?.. Быў лепшым калгаснікам, а тут—на табе! штуку такую падстроіў... А і праўда яно—навошта была ўся гэтая спрэчка?.. Каб сказаў ворагава работа, дык—не... Які-ж з мяне вораг: з двума дзесяцінамі ў калгас прыйшоў..."

Яны былі неадчэпныя—гэтыя думкі—і няўмольныя, як кара за несправядлівасць...

* * *

Гарачае і млоснае лета.

Даспявае жыта, кіпіць на ветры светла-шэрымі хвалямі... Да долу хіліцца буйны колас. Зелянеюць шырокія разлегласці аўсоў і паціху шушукаюцца вусатыя ячмені. Адцвітае гарох; ападаюць густа налітыя ружовасцю пялёсткі, і ўжо пракідаюцца сям-там зеленкаватыя лапаткі струкоў. Пад сонцам сохнуць чорныя грудзі канюшынішча і чакаюць плуга: канюшына ўжо звезена ў гумны; недзе недалёка грукоча трактар, пакідаючы за сабой тлустую раллю.

На дальнім участку, што прыпіраецца к зялёнаму хвойніку, стаяць нязвезеныя копы сена. За вузкаю бліскучаю палоскай рэчкі аж да кашлатага зялёнага хвойніку распасцерлася голая выкашаная сенажаць. Па сена з канём туды не пад'ехаць: грузне па чэрава. А таму ўжо здаўна так павялося, што высушанае сена клалі ў вялікія копы і саматугам выносілі на насілках на тупкі грудок каля зялёнага хвойніка.

З самага ранку брыгадзір паслаў па сена пяць падвод на гэты грудок. Плячысты Кірыла ўзбіваў на вілкі ледзь не па поўкапы і запэўняў, смяючыся, што каб тронак ад вілак вытрымаў, дык ён па цэлай-бы капе ўскідваў на калёсы: усё-б поспех большы.

— На тваю жылу гэта можна: не лопне,—рагаталі мужчыны, і разам з усімі весяліўся Кірыла, забываючы ранейшы смутак адзінокай адчужанасці і каторы то ўжо месяц носячы ў сэрцы хвалюючарадаснае пачуццё дружнай працы калектыва.

Пасля поўдня стала нешта паказваць на дождж. Было нясцерпна горача і парыла. З дарогі відаць было, як зусім нізка, ледзь

не дакранаючыся да травы, шмыгалі над голаю паплавінаю лёгкія і вёрткія з вілачкападобнымі хвосцікамі ластаўкі.

Мужчыны наспех паабедалі і яшчэ больш пачалі завіхацца каля астатніх коп. Над зялёным хвойнікам выплыла цяжкая палавая хмара, а гарачыня станавілася нязноснай, а на цёмным фоне хмары пагражаючы бліскала маланка.

— Дождж будзе.

— Хоць-бы ўправіцца...

— Ды ўправімся: колькі-ж тут тых коп засталося! Эгэ... Ды зірні-тка,—аж прыўзняўся з голых драбін Кірыла.—Хто там каля лесу бярэ?

— Астап, ці што.

— Ён-жа воз накладае, а капу ад лесу пакінуў!

Кірыла заехаў на наступны ад астапавага радi, паскідаўшы з драбін вяроўкі і рубель, прыняўся накладаць воз.

Тут яму ўзбегла на вочы адзінокая капа і ён гукнуў да Астапа.

— Чаму-ж ты пакінуў?

— Забяруць,—няўважліва кінуў Астап. Турбавацца табе нечага...

— Як так не турбавацца?.. А чыя-ж галава будзе балець за наша дабро?.. А цяпер от апошнія вазы накладаюць,—хто-ж па адну капу паедзе ў дождж?

— Ты мне не ўказвай...

— Калі-ж бо ты не па правілу робіш!

— Уга! Заранне ты стаў парадкі свае наводзіць!.. Учора прышоў у калгас і ўжо бярэшся распараджацца...

— От трэба-ж табе плявузгаць, што на язык узбяжыць!

— Ведаем як рабіць! Круглы год ужо раблю са ўсімі, а ніхто ні слова, каб на мяне...

— Год робіш, а рабіць не ўмееш...

— Ну і вучыцца ў цябе не буду!

— Я не прашу, каб ты вучыўся. Але капу забяры, Астап, а то сена прападзе пад дажджом. От-жа любіць чалавек упірацца! Ну, каб я там жыў, што на праўленне перадам: хай там разбяруцца на чыім баку праўда. Да гэткае-ж сена—ні аднае каплі дажджу не бачыла...

— Ці то варта вам з-за капы сварку падымаць,—не выцярпела-такі таптальніца.

Тымчасам Астап уцiснуў воз, завязаў кольцамі за канец рубля вяроўку-вужышча, лёгка саскочыў з воза і за аброць павёў каня на дарогу, выбіраючы раўнейшыя месцы. Кірылу ён пакінуў на грудку. „От мядзведзь! Кіпеў ад злосці зачэплены за жывое Астап.—Парадкі прышоў наводзіць!.. Трасцу я па капу паеду!.. Без цябе ведаем, як рабіць!.. Калі на тое пашло дык чорт яе бяры тую капу... Мядзведзь чортаў!..“

* * *

... Прышла такая хвіліна, калі ацвярожаны ад абурэння Астап гатоў быў правалiцца скрозь зямлю. Праўда, яго прабуджанае сумненне крышачку заспакойвалася тым, што ён-жа памыкаўся хоць напаследак змыць чорную пляміну ганьбы, але от не пашан-

цавала... Як-бы сабе там не было, ён рашыўся быў паехаць па тую капу. З усіх сіл гнаў каня... Над самою галавою зянацку нешта суха трэснула, а ў наступны момант гулка рассыпаліся грымоты... Як не намагаўся прыспець, як не гнаў каня, на паўдарозе, каля моста, засцігнуў дождж і Астап незразумелым пякучым болем тузануў за адну лейчыну, заварочваючы назад...

Цяпер, лежачы ў ложку, ён страціў надзею заснуць. Ужо і дождж пераціх, заглухлі ў далечыні грымоты, толькі час-ад-часу міргала ў акне маланка, а ў яго нутро нібы які чорт улез і не даваў спакою. Пачалося ўсё са спрэчкі, якая ў самым пачатку зачапіла ў яго нешта падобнае на гонар, і ён, паддаючыся хвілёваму пачуццю, стаў гаварыць наперакор, не маючы для таго патрэбных матываў. Чым далей у лес, тым больш дроў, і от, як сумны вынік гэтага канфлікта,—пакінута без дай прычыны капа. А на праўленні старшыня нешта скажа... і брыгадзір... Ды яно і крыўдна трошкі: ні аднаго дня не скруціў з самае вясны, дзень-у-дзень ішоў на працу... лепшы, значыцца, у калгасе работнік і на чырвонай дошцы і ўсё такое... працадзён больш як у людзей, а тут—на-тка, вазьмі..."

* * *

Назаўтра аралі канюшынішча. Апоўдні як паілі каля калгаснай студні коней, Кірыла абазваўся першы:

— Астап.

Коні паўтыкалі ў доўгае карыта морды і цягнулі ваду.

— Чаго ты?..—збянтэжыўся пануры Астап. Ён недарэчна тузануў за повад сваіх каней:—Ну!.. Жлукціце, каб на вас...

— Хай п'юць, вады хваціць,—заўважыў Кірыла і ўжо перамірліва загаварыў:—Ты, брат, не сярдуй, не надзімай губы (бачу-ж я). Такая ганарыстасць, яна, брат, як пыл: чуць дзьмухні—от тымчасам яе і няма. Сярдуй на мяне, бо трэба-ж адзін другому паказаць, дзе якая шчылінка робіцца... Не сярдуй, свае людзі—памірымся. А тую капу я ўсё-ж забраў, хоць з возам насілу ў гумно ўехаў... Аж перадок калёс у варотах падняўся, як страха націснула,—гэтакі воз нафураваў—але больш такіх фокусаў не паказвай. Ты-ж не абы які гаспадар; сам знаеш, што калі станем адзін на другога пальцамківаць, то нас і куры заграбуць...

— Да яно-ж так, калі ўзяць да розуму,—хаваючы ў пышныя чорныя вусы звадыяцкую ўхмылку, праказаў Астап і павёў на канюшню сваю парку буланых. „Праўду кажа мядзведзь, ліха яго галаве!"—весела падумаў ён, і з сэрца яго нібы хто сапхнуў цяжкі камень. І неяк аж свет паяснеў, і сонца пачало ласкавей казытаць твар; і размінаючыся на сцежачцы з маладою дзяўчынаю не змаўчаў, кінуў смяхотлівы жарт у яе бок. Гэта-ж толькі падумаць: такая прыкрасць нечакана сышла гладка!

Але Астапа падсцерагала калючая вестка.

Каля калгаснай канцылярыі сабралася стракатая кучка ішоўшых з працы мужчын і жанчын. Зацікавіўся і Астап.

На сцяне вісела аб'ява, што сёння будзе праўленне, а ўнізе сярод тых, каму „яўка абавязкова", негадана-нечакана Астап убачыў сваё прозвішча.

Яго як іголкаю хто кальнуў... Ён пачуў, што кроў прылівае к твару. „От нягоднік!.. Ці трэба-ж было перадаваць?.. Хіба я і так не адхварэў?..“

Вечарам жонка не пераставала дапякаць сваімі распытваннямі. Тыя разы і словам не абмовіцца: выклікаюць на праўленне—хай сабе выклікаюць, не вялікі ёй клопат, а гэта-ж... на беднага Макара і шышкі валяцца...

— Чаго цябе завуць?

— Мне адкуль знаць...

— От ужо ўдача!.. З людзьмі баіцца пагаварыць... Мурмыль нейкі! даслужыўся недзе!... Ды будзем бачыць. Як дзеці пазасынаюць, то і я прыду.

— Патрэбна ты там... Цябе-ж не звалі...

— Звалі ці не, а от-жа паслухаю, як цябе сарамаціць будуць. Жонка вядзе ў полі ўдарнае звяно, а мужыка—на пасмешышча.

На паседжанне праўлення Астап не спяшаў, хоць і рупіла яму быць там, каб хутчэй перанесці цяжкі ўдар, і дома ён не знаходзіў сабе месца.

У канцылярыі было ўжо шмат людзей, але пад столлю не плаваў традыцыйны сіні дым ад самакрутак: у рахункавода балелі грудзі, усе пра гэта зналі і без ніякае там аб'яўкі неяк ужо так павялося, што абы толькі пераступіў парог,—кідай папяросу. У дзвярах паказаўся брыгадзір, прывітаўся з заднімі мужчынамі і хітра падміргнуў Астапу:

— Трымайся! І пра цябе тут пару слоў...

Брыгадзір хацеў сказаць яшчэ штосьці, але з-за стала падняўся старшыня калгаса і абвясціў пачатак паседжання. Наступіла цішыня. Астап пакутна чакаў, калі чарга дайдзе да яго... Ён не шукаў сабе апраўдання. Астап асабліва востра адчуў і зразумеў усю нікчэмнасць і бруд таго, што ён зрабіў у апошні дзень сенаўборкі. І як толькі сказалі яго прозвішча, ён усім целам падаўся наперад з цвёрдым намерам устаць і загаварыць пра сваю памылку...

— Урбанскі Кірыла, Шумскі Астап... праўленне хоча прэміяваць... за ўдарную сумленную працу, за датэрміновую ўборку сена і канюшыны... Слова даецца брыгадзіру...

Астап не зусім давяраў вушам... Аднекуль праз духату ён убачыў, як смяюцца бліскучыя вочы Кірыла.

— Ну, што-ж,—падсеў поруч Кірыла,—паўлітра, брат, з цябе! Папрацавалі,—няма чаго сказаць...

— Паўлітра дык паўлітра, абы было-б за што!—гэткім-жа жартам адказаў Астап. Ад ранейшай адчужанасці не засталося і следу. Праз адчыненае акно дыхнула начная свежасць, нясучы з сабою водырныя пахі невядомых кветак. Астап лёгка уздыхнуў.

І мроілася яму:

Звініць лета... Высока зіхаціць сонца...

Даспявае жыта, кіпіць на ветры шэрымі хвалямі, к долу гнецца буйны колас...

Багаты ўраджай нясе лета!

**Сталічы,**
**ліпень 1936 г.**

*Б. Каваленка*

# ПРАБЛЕМЫ ПРОЗЫ

Барацьба супроць фармалізма, натуралізма, эстэцтва,—усяго таго, што скажае совецкую рэчаіснасць, вобраз яе людзей стаіць у цэнтры ўвагі пісьменніцкай грамадскасці.

Трэба ўсяляк вітаць ініцыятыву „Правды", што ўзняла гэтую барацьбу на вышыню не толькі літаратурнага, але і палітычнага значэння. Натуралізм і фармалізм ідуць ад буржуазнага мастацтва часоў яго заняпаду і несумяшчальны з соцыялістычнай прыродай літаратуры совецкай.

Фармалістычнае штукарства ў канкрэтнай практыцы совецкай літаратуры часта узнікае тады, калі пісьменнік не ведае жыцця. Тады замест паказу характэрнага і тыповага вынікае пустая літаратурная выдумка, замест насычанага соцыяльным зместам вобраза—літаратурнае штукарства. Фармалістычнае штукарства, выдумка для выдумкі нічога агульнага не маюць з творчай фантазіяй, якая з'яўляецца адзнакаю сапраўднага мастака. З дапамогаю фантазіі мастак сінтэзуе матэрыял рэчаіснасці, працягвае тэндэнцыі развіцця рэчаіснасці ў напрамку мажлівага, стварае на жыццёвым матэрыяле абагульняючыя вобразы. Некаторыя пісьменнікі памылкова вызначаюць літаратурную вартасць твору яго чытабельнасцю.

Не заўсёды „чытабельнасць" з'яўляецца доказам мастацкасці твору. Нават у гісторыі совецкай літаратуры мы мелі прыклады, калі досыць папулярныя ў свой час кніжкі праз некалькі год забываліся, адыходзілі ў літаратурнае небыццё.

Часамі такая нядоўгая папулярнасць якога-небудзь твору тлумачыцца тым, што пісьменнік паставіў у ім актуальную праблему, але недасканала, а часам і не зусім правільна яе развязаў.

Сучасны чытач з вялікаю цікавасцю і пачуццем ставіцца да літаратуры, якая падае вобраз совецкай рэчаіснасці і вобраз совецкіх людзей.

Асабліва вялікая зацікаўленасць да класікаў.

Тое, што часта класікаў чытаюць нават больш, чым совецкіх пісьменнікаў зусім не гаворыць аб тым, што ёсць упадак зацікаўленасці да совецкай тэматыкі. Наадварот чытач вельмі ўважліва сочыць за новай літаратурай, часам наўпярок прафесіянальнай крытыцы „даведваецца" пра новых пісьменнікаў і забяспечвае ім вялікія тыражы (так было, напрыклад, з Н. Остроўскім). Але ад совецкіх пісьменнікаў чытач вымагае вялікай мастацкай якасці.

У пачуцці гэтай мастацкай якасці перш за ўсё ўключаецца выяўленне галоўнейшых бакоў працэсаў жыцця. Соцыялістычная эстэтыка базуецца не проста на сцверджанні дасканалай літаратурнай формы, але на прынцыпе спалучэння формы з соцыяльназначным зместам. Нам патрэбна літаратура вялікіх соцыяльных вобразаў, вялікіх пачуццяў і страсцей.

Пісьменнікі альбо паэты дробнай тэмы, не гледзячы на сваю часам высокую кваліфікацыю ў справе літаратурнай формы, не карыстаюцца масаваю папулярнасцю. І, наадварот, тыя з іх, што пішуць без асаблівых фармальных выкрунтасаў, але на багатым фактычным матэрыяле раскрываюць праўду жыцця, становяцца агульна-вядомымі.

Літаратура Совецкага Саюза стварыла ўжо шэраг кніг, якім не пагражае заўчасная старасць. „Разгром“ Фадзеева, „Чапаеў“ Фурманава, „Паднятая цаліна“ Шолахава паказалі настолькі важныя бакі рэволюцыйнай рэчаіснасці і настолькі значныя, сапраўды народныя, ствараюць на гэтым матэрыяле вобразы, што цікавасць да такіх твораў не паслабне і тады, калі паказаныя ў іх падзеі адыйдуць у далёкую гістарычную перспектыву. Бо карціны гераічнай барацьбы пролетарыята заўсёды будуць хваляваць совецкага чытача тым больш, што ў вялікіх вобразах рэволюцыйнага мінулага хаваюцца рысы сучаснага і будучага, а з незабыўных старонак барацьбы на світанні соцыялістычнага грамадства вырастае вобраз рэволюцыянера нашага часу, вобраз новага чалавека.

А на гэтым эпахальным матэрыяле (вобраз чалавека новага тыпу) можна стварыць мастацкія палотны, якія пераўвысяць усё лепшае з класічнай спадчыны, што нам засталася.

Непараўнальна вышэй, чым папярэднія грамадскія фармацыі соцыялістычны лад, непараўнальна вышэйшыя яго героі, багацейшая іхная псіхалогія, благароднейшыя матывы іхных паводзін (барацьба за вызваленне працоўнага чалавецтва).

Барацьба за рэволюцыю і за развіццё соцыялістычных узаемаадносін, вобраз новых людзей, вось цэнтральная тэма нашай літаратуры і асабліва прозы, бо проза як і драматургія мае найбольшыя мажлівасці ў справе стварэння шырокіх абагульняючых вобразаў.

Нам патрэбна літаратура шырокіх соцыяльных абагульненняў і вялікага рэволюцыйнага пафасу. Тэма рэволюцыйнай рэчаіснасці і новага чалавека развівалася ў украінскай совецкай літаратуры на працягу ўсяго яе існавання, пачынаючы ад рэволюцыйных навел 1922—25 г. праз вершы, палотны раманаў і аповесцей аднаўленчага і рэканструкцыйнага перыяду аж да твораў апошняга часу. У гэтым працэсе актыўны удзел браў чытач, як літаратурны крытык літаратурнай прадукцыі. Адкідаючы усё хваравітае і класава-варожае, што стаяла на шляху совецкай літаратуры, чытач актыўна падтрымліваў совецкія літаратурныя кадры, іхныя творы часам не зусім дасканалыя, з пункту гледжання сучаснага узроўню літаратуры. „Бур‘ян“ Галоўко, лепшыя аповесці Кірыленкі, раннія п‘есы І. Мікітэнкі былі для свайго часу законамерным і пазітыўным з‘явішчам. Але вялікай памылкай было-б кананізаваць гэтыя творы і выстаўляць іх за ўзор соцыялістычнага мастацтва.

І чытач, і пісьменнік, асабліва калі браць нашы дасягненні ў маштабе ўсяго Савецкага Саюза, значна выраслі ў параўнанні з совецкай літаратурай ранніх этапаў яе развіцця. Героі ў жыцці перараслі герояў літаратурных. Пісаць па-старому, паўтараючы ўстаноўленыя раней літаратурныя прыёмы, нельга.

Мастацкі ўзровень літаратуры аднаўленчага перыяда зусім недастатковы для паказу ўсяго багацця нашага сёння і нашага заўтра. Ды і да паказу мінулага трэба падыходзіць з кваліфікаванымі мастацкімі сродкамі, выпрацаванымі ў працэсе развіцця літаратуры.

У тым-жа арсенале мастацкіх сродкаў, якімі аперыруе значная частка сучасных празаікаў, шмат ад мінулага, у прыватнасці, прымітыўнага натуралізма.

Натуралізм—гэта не толькі злоўжыванні біялагічнымі і эратычнымі момантамі, гэта няўменне за вонкавасцю падзей паказаць іх сапраўдную сутнасць, гэта звядзенне ўсяго багацця класавых калізій і канфліктаў да абмежаванага бытавізма. Таму і барацьбу супроць натуралізма трэба ўвязаць з барацьбою за падвышэнне ідэйнага і мастацкага ўзроўню літаратуры.

Мы маем значныя дасягненні ў галіне прозы, якія выяўляюцца ў павароце значнай часткі пісьменнікаў да цэнтральных праблем сучаснасці, у тэматычным і жанравым узбагачэнні літаратуры. Значна глыбей распрацоўваецца псіхалогія герояў, падвышаецца культура мастацкай мовы.

Усе гэтыя пазітыўныя бакі развіцця сучаснай прозы мы адзначаем не для таго, каб заклікаць да „пачывання на лаўрах“, а каб з большаю сілаю выявіць слабыя бакі, якія перашкаджаюць далейшаму росту пісьменніка.

Найхарактэрнейшым недахопам значнай часткі навейшых празаічных твораў з'яўляецца бытавізм.

Паказ быту ёсць неадлучная частка літаратурнага твору, асабліва рэалістычнага. Але тады калі праз быт раскрываецца класавая псіхалогія персанажаў, даецца характарыстыка грамадскіх узаемаадносін, толькі пры гэтай умове быт становіцца не самамэтай, а сродкам шырокай характарыстыкі класавай сутнасці персанажаў і іх жыццёвай практыкі. Акрамя таго, з мастацкага погляду паказ быту трэба ўвязваць з сюжэтнымі калізіямі, а не падаваць як апісальны статычны матэрыял, які толькі абцяжвае дзею твору.

Вялікую ўвагу надаваў быту Дзікенс. Ён, вядома, не ставіў сабе задачай раскрываць глыбіню класавых супярэчнасцей ва ўзаемаадносінах герояў сваіх раманаў. Затое ён, як мастак, нават на сугуба бытавым матэрыяле выявіў шмат досыць характэрных бакоў псіхалогіі, маралі і класавай практыкі англійскага буржуа.

Раман „Домбі і сын“ пачынаецца з сугуба бытавых сітуацый, часам залішне дэталізаваных.

У лонданскага камерсанта нараджаецца сын. Паказваюцца „агульна-чалавечыя“ бацькаўскія пачуцці самога містэра Домбі, перажыванні яго сям'і, блізкіх. Але бытавы матэрыял падаецца так, што паступова, часам на драбніцах, але досыць выразна раскрываюцца класавыя пружыны самых інтымных эмоцый і перажы-

ванняў персанажаў рамана. Домбі радуецца нараджэнню сына, але для яго важна не тое, што нарадзілася дзіця, а тое, што з'явіўся на свет законны наследнік і кампаньён фірмы „Домбі і сын", што будзе каму прадаўжаць гандлёвыя аперацыі, якія становяць непарушную аснову жыцця Домбі

Інтарэсы фірмы—такі непарушны „сімвал веры" Домбі, што вызначае цэлы яго сямейны „уклад", выпрацаваныя гадамі погляды і звычкі. На канкрэтным моманце (нараджэнне сына) Дзікенс раскрывае гэтую глыбокую класавую аснову быту Домбі і наогул жыцця.

У святле такога абагульнення набываюць асаблівае значэнне далейшыя перыпетыі сямейнага жыцця Домбі, яго адносіны да блізкіх і наогул да людзей, з якімі ён сустракаецца. Домбі ведае толькі тое, што карысна яго фірме. Сваю дачку ён разглядае як нізкую непаўнацэнную істоту, „фальшывую манету", якую нельга ўкласці ў прадпрыемства.

Наймаючы маладому Домбі карміліцу, сваякі Домбі цынічна аглядаюць яе, нібы якую жывёліну, а сам гаспадар перш за ўсё засцерагае, што ён заплаціць жанчыне грошы за выкананне пэўнай функцыі і што чалавек простага роду не можа прэтэндаваць на якія-небудзь чалавечыя пачуцці да дзіцяці, не павінна нават успамінаць пра свайго выхаванца, калі мінецца патрэба ў яе паслугах.

З вялікім майстэрствам Дзікенс дэманструе ўсю сілу ўлады над сямейным жыццём Домбі са слоўных звычак і забабонаў, непарушных нават тады, калі справа ідзе пра жыццё любімага сына. Карміліца адважылася пабыць на сваёй радзіме недзе ў рабочай трушчобе і ўзяла з сабой малога Поля. Гэтага было досыць, каб зволіць яе з работы, адабраць у хлопчыка блізкага чалавека, які замяняў яму памёршую матку, засудзіць дзіця на кволае безрадаснае існаванне.

Выхаванне ў закрытых арыстакратычных пансіёнах давяршыла тое, чаго не дакончыў сямейны быт Домбі.

Пазбаўлены радасцей дзяцінства, замардаваны непасільным схаластычным навучаннем і без таго кволы хлопчык траціць усякую цікавасць да жыцця.

Бяздушная сістэма буржуазнага быту, выхаванне, маралізаванне забівае не толькі юнака Домбі. Яна разбурае сям'ю яго бацькі, ператварае блізкіх людзей у заядлых ворагаў, прымушае жонку і дочку Домбі ўцякаць з дому. Так рушыцца непахісны парадак, створаны гадамі і пастаўлены Домбі над усім.

У гэтым паказе класавай асновы быту жыццёвая праўда рамана Дзікенса. Праўда, сам Дзікенс намагаецца змякчыць вострыя вывады, якія можна зрабіць з яго рамана, вялікаю дозаю сантыменталізма, штучнымі і шчаслівымі развязкамі. Але ўся гэтая паэзія цвыркуной на печы і святочных пірагоў—найслабейшы бок яго творчасці. Яна не ідзе ні ў якое параўнанне з элементамі крытычнага рэалізма, які раскрывае класавую сутнасць грамадскіх узаемаадносін і быту буржуазіі.

Уменне на бытавым матэрыяле раскрываць соцыяльную сутнасць узаемаадносін персанажаў і іх псіхалогіі ўласціва не толькі Дзі-

кенсу. Можна прыгадаць „Анну Карэніву“ Талстога, „бытавыя раманы“ Стэндаля, Бальзака і іншых класікаў.

Але гэтае ўменне нічога агульнага не мае з статычным, апісальным бытавізмам, элементы якога ў большай альбо меншай ступені трапляюцца ў многіх сучасных пісьменнікаў.

Нядаўна вышла другая частка рамана І. Кірыленкі „Аванпосты“—„Вясна“.

Творчасці І. Кірыленкі ўласціва актуальнасць праблематыкі. Большасць яго раманаў і аповесцей прысвечана важнейшым пытанням совецкай рэчаіснасці, у прыватнасці паказу вобразаў совецкіх людзей.

Такі і раман „Аванпосты“, які дае шырокую карціну класавай барацьбы на вёсцы на раннім этапе калгаснага руху. Характэрныя формы і праявы кулацкага сабатажу, арганізацыі совецкага актыва сялянства на барацьбу за выкананне хлебанарыхтовак, метады партыйнай работы і партыйнага кіраўніцтва—усё гэта пададзена ў рамане „Аванпосты“ як і належыць пісьменніку-рэалісту, які добра ведае матэрыял. Нядрэнна паказаны эпізоды класавай барацьбы, каларытныя постаці прадстаўнікоў кулацтва.

Затое, пазітыўныя героі—калгаснікі, аднаасобнікі, комсамольцы, хоць пададзены яны і ў тыповых сітуацыях класавай барацьбы, але ў значнай меры схематычна. Асабліва гэта стасуецца паказу асабістага жыцця персанажаў, іх інтымных перажыванняў.

Другая кніга І. Кірыленкі „Вясна“ бярэ этап арганізацыйнага замацавання калгасаў пасля ліквідацыі кулацкіх элементаў. Натуральна, што ў цэнтры ўвагі аўтара стаіць праблема выхавання і перавыхавання людскога матэрыялу, далейшага росту пазітыўных герояў, тое, над чым трэба было-б Кірыленку асабліва многа працаваць, маючы на ўвазе слабыя бакі рамана „Аванпосты“. Ды і наогул стварэнне абагульняючых вобразаў совецкіх людзей—праблема дужа складаная, і шмат празаікаў або за яе як след не бяруцца (абмяжоўваюцца павярхоўнымі нарысамі), або не могуць перамагчы схематызм.

Цэнтральную задачу, якая павінна была стаяць перад Кірыленкам—паказ далейшага росту сваіх герояў, выведзеных у „Аванпостах“, трэба было развязваць перш за ўсё на матэрыяле класавай практыкі. Сёе-тое ў гэтым напрамку зроблена, напрыклад, у характарыстыцы Варвары Нежурбіды. З маладой маласвядомай комсамолкі, якая толькі пачынае ўдзельнічаць у класавай барацьбе („Аванпосты“), Варвара выростае ў кіраўніка сельскага маштаба. Яна ўмее працаваць, арыентуецца ў складаных абставінах, мае аўтарытэт сярод калгаснікаў.

Усе гэтыя новыя параўнальна з „Аванпостамі“ ўласцівасці сваёй гераіні аўтар дае адчуць у эпізодзе, дзе Варвара бярэ ў работу сына кулака Доўбню, збівае самаўпэўненасць „кавалера“, пераконвае, што спроба абдурыць сялянскую дзяўчыну Олянку (Олянка зацяжарыла ад Доўбні) яму так не пройдзе. У новых ролях кіраўнікоў і перадавых актывістаў калгаснага будаўніцтва выступаюць і другія персанажы „Аванпостаў“—Марко Обушны, Андрэй Міколюк, радавы комсамолец, цяпер сакратар комсамола,

Ваня Крупко (шофер), Коля Краўчанка і інш. Ідзе на вучобу ў горад адзін з галоўных герояў „Аванпостаў"—комсамолец Паўло Матора (трымае сувязь з вёскай), перавыхоўваецца дачка высланага кулака, ворага калектывізацыі—Кацярына Сутуга.

Усе гэтыя персанажы толькі павярхоўна паказаны на рабоце ў грамадскім жыцці і сітуацыях, якія найпаўней раскрывалі-б іх далейшы рост як актыўных удзельнікаў соцыялістычнага будаўніцтва. Таму і гэтыя новыя ўласцівасці псіхалогіі выяўлены недастаткова.

Пазітыўныя героі „Вясны" паказаны пераважна ў бытавых сітуацыях, прычым асабліва злоўжывае аўтар каханнем. Перыпетыі, звязаныя з каханнем, уласна кажучы, складаюць аснову рамана. Варвара Нежурбіда выходзіць замуж за Паўлу Матору, Ваня Крупка любіць Полю Краўчанка, Андрэй Мікалюк — Кацярыну Сутугу, Юля Малачай (брыгадзір трактарыстаў) улюбляецца ў Марку Обушнага, як толькі ён паказаўся на вёсцы.

Не ідуць далей бытавых калізій і праявы класавай барацьбы. Кулак Сцяпан Доўбня фігуруе як герой любоўнага трыкутніка Олянка—Ліза (дачка лекара, знаходзіцца пад уплывам буржуазнай „патэфоннай культуры") —Доўбня. Дадаткова ў Лізу ўлюбляецца трактарыст Сенька. Разлагаючая злачынная роля Доўбні таксама ілюструецца на бытавым матэрыяле Доўбня параконвае Олянку, што тая можа пазбавіцца дзіцяці выпіўшы сулемы і Олянка гіне. Сулему Доўбня крадзе ў другой сваёй каханкі—Лізы. Сітуацыі класавай барацьбы ў рамане „Вясна" прыметна звужаюцца параўнальна з „Аванпостамі".

Да абмежавана-бытавых матываў зводзіцца цэнтральная для „Вясны" праблема вясёлага заможнага жыцця калгаснікаў (новы гарнітур, патэфон, калгасны банкет).

Наіўнае супастаўленне таго, як выкарыстоўваюць патэфон у сям'і чырвонага партызана калгаснага актывіста Маторы (іграе ўлюбёную партызанам песню „За Сібірам сонца ўсходзіць") з патэфонным фокстротам, пад які разлагаецца лекарава дачка Ліза і малады Доўбня („хоць я тангі і не ўмею, але з вамі з усім маім задавальненнем прайсціся магу").

Звядзенне ўсяго багацця класавых калізій да бытавых звужае характарыстыку як пазітыўных, так і негатыўных персанажаў.

Калі характарыстыка негатыўных персанажаў вытрымана ў духу вульгарнай меладрамы і з другога боку, прымітыўнай натуралістычнай сатыры, то сітуацыі, якія раскрываюць душу савецкага чалавека, паказаны з празмерным падсалоджаным сантыменталізмам (вядома, у абодвых выпадках у аснову пакладзены вузка пабытовыя сітуацыі).

У падкрэслена сантыментальным плане паказаны не толькі перажыванні закаханай моладзі, але і наогул усе пазітыўныя героі рамана. Апрача таго, стары большэвік Марко Обушны ні сваімі пачуццямі, ні спосабам іх выяўлення не адрозніваецца ад празмеру сантыментальных комсамольцаў.

Як нельга ўсё багацце рэальных жыццёвых сітуацый і калізій звесці да побыту, таксама нельга ўсю рознастайнасць пачуццяў

соцыялістычнага чалавека абмежаваць сантыменталізмам. Больш таго, гістарычныя ўмовы ўзнікнення сантыменталізма ў літаратуры (прыгадайце французскую „слязлівую камедыю“) гавораць пра тое, што сантыменталізм—уласцівасць слабых, і з'яўляецца ён тады, калі клас яшчэ не можа змагацца за свае інтарэсы. Сантыменталізм у совецкай літаратуры супярэчыць яе цэнтральнай задачы—стварэнню моцных, валявых вобразаў людзей, якія не толькі ўмеюць марыць, але і змагацца за свае мары. Замест раскрыцця ўсёй паўнаты думак і пачуццяў соцыялістычнага чалавека, сантыменталізм спрашчае яго вобраз, зводзіць да тэндэнцыйнай схемы. Каб у гэтым пераканацца, варта прыгадаць характэрную і для рамана „Аванпосты“ і для „Вясны“ схему ўвязкі або, наадварот, барацьбы „асабістага“ з „грамадскім“, калі, напрыклад, мужны партызан Матора, які ўмее глядзець смерці ў вочы, пачынае развязваць „праблему“, што яму піць—„малачко ці гарэлку“. Таксама штучна і надумана ў рамане „Вясна“ перададзена лірычная сцэна, калі Кацярына Сутуга дае згоду выйсці замуж за Андрэя Мікалюка.

Схема ціснe на характарыстыку перажыванняў герояў „Вясны“, яна звязвае іх учынкі, збядняе пачуцці.

Калі Обушному трапляецца выпадак выратаваць ад мяшчанскага разлажэння доктараву дачку Лізу, павярнуць яе да грамадска-карыснага жыцця, ён нібы саромяецца сваёй „турботы за долю невядомай яму дзяўчыны“ і спецыяльна падкрэслівае, што ён кіруецца ў сваім учынку толькі сугуба палітычнымі меркаваннямі. „Яна можа прынесці карысць грамадству. Сапраўды, трэба дапамагчы старому ўладзіць гэтую справу. Душэўная раўнавага ў доктарскай рабоце багата значыць“. Як быццам калі-б не душэўная раўнавага лізінага бацькі, совецкага доктара, то можна было-б зусім не цікавіцца маладой дзяўчынаю, якую можна яшчэ выхаваць у належным духу. Тэндэнцыйная схема прыводзіць да празмернай дэкларацыйнасці ў характарыстыцы герояў, калі асаблівасці іх характару выяўляюцца не ў дзеі, не ў паказе канкрэтных праяў гэтага характару, а праз апісанне ад аўтара.

„Шматгадовая партыйная работа дала яму вялікую школу ведання людзей, навучыла інтуіцыйна адрозніваць сапраўдную дружбу ад фальшывай, шчырасць ад хлусні, павагу ад падхалімажу“.

Усе гэтыя ўласцівасці Обушнага—партыйца, лепш было-б выявіць на практыцы, а не проста падаць як нешта апрыорнае, тады-б не давялося злоўжываць аднастайнымі і досыць бескаляровымі прамовамі на мітынгу калгаснікаў („На плошчы радасці“), не давялося-б і калгаснага каня Гайка прымушаць радасна іржаць, калі Кацярына прыносіць яму новую папону, а захоплены гэтым яе ўчынкам Андрэй парыўчата абымае яе і горача цалуе.

Наогул проста назваць якое-небудзь з'явішча яшчэ не значыць яго паказаць, і таму такія рэмаркі, як „агульны шум, рогат, вясёласць“ слаба перадаюць сапраўдны настрой і эмоцыю людзей, пра якіх гэта напісана.

Злоўжыванне апісальным статычным бытавізмам, які „не грае“ ў разгортванні падзей і мала што дае для раскрыцця псіхалогіі і

класавай практыкі персанажаў уласцівы не толькі Івану Кірыленку, але і іншым сучасным пісьменнікам.

Часам гэты бытавізм набывае формы натуралістычнага пратакола, калі аўтар не ўмее адрозніць значнае ад другараднага і перагружае дзею лішнімі дэталямі, будуе сваё разгортванне на заштампаваных, неарыгінальных сітуацыях, а характарыстыку псіхалогіі персанажаў на агульнавядомых палажэннях.

Усе гэтыя ўласцівасці знайшлі сабе месца ў рамане Г. Кацубы „Новыя берагі“.

У сваіх раманах Кацуба, як правіла, распрацоўвае актуальны матэрыял (Днепрабуд, праблема яравізацыі), выводзіць значную колькасць герояў. На першы погляд і фактычны матэрыял, і персанажы ўзяты з жыцця (інжынеры, рабочыя, аграномы і г. д.), але асноўная памылка пісьменніка заключаецца ў тым, што, апрацоўваючы фактычны матэрыял, ён у многіх выпадках не ідзе далей вядомых палажэнняў у паказе падзей і людзей. Раманы Кацубы не даюць чытачу нечага новага, арыгінальнага, што дапамагло-б лепш пазнаць совецкую рэчаіснасць. У постацях яго герояў мала таго характэрнага, што становіць індывідуальныя асаблівасці тыпу і адрозніває яго ад іншых.

А што раманы Кацубы да таго-ж яшчэ і празмерна апісальныя, перагружаныя другараднымі і зусім непатрэбнымі дэталямі, дык гэта надае ім яшчэ большую аднастайнасць і бескаляровасць. У другой кнізе „У новых берагоў“ Кацубу трэба паказаць спатканне двух сваіх герояў—Канушэвіча і Чэмерыцы. Для гэтага дэтальна апісваецца „парыўчаты, буйны вецер“, які намагаецца спыніць крокі Канушэвіча (Канушэвіч ідзе ў госці да Чэмерыцы), даюцца пратакольныя даведкі пра цяперашнюю і мінулую работу Чэмерыцы, пра дрэнных адміністратараў, у супастаўленні з якімі Чэмерыца яшчэ больш выграе. Вядома, уласцівасці Чэмерыцы не паказваюцца ў дзеі, а проста пераказваюцца ад аўтара, ці ад іншага героя (у даным выпадку ад Канушэвіча).

Усё, пра што піша Кацуба ад імя Канушэвіча, бывае ў рэальным жыцці, уласцівасці Чэмерыцы можна бачыць у многіх совецкіх работнікаў, у прыватнасці гаспадарнікаў. Але ўсе гэтыя ўласцівасці толькі пераказаны, але не паказаны ў дзеі.

Чытач спадзяецца, што гэтая апрыорна пададзеная характарыстыка Чэмерыцы, як грамадскага работніка, будзе, прынамсі, стаяць у цэнтры ўвагі аўтара, калі ён, нарэшце, „звядзе Канушэвіча і Чэмерыцу“. Але і ў гэтым выпадку мае месца бездапаможнае апісанне, дзе важнае губляецца ў масе статычнага слоўнага матэрыялу.

Аўтар дакладна апісвае як Канушэвіч вітаецца з Чэмерыцай у яго хаце, як Чэмерыца запрашае распранацца, а Канушэвіч разглядае яго рабочы пакой, як яны размаўляюць пра ўсякія дробныя справы, п'юць чай з электрычнага чайніка (матыў культурнага побыту), слухаюць радыё і плятуць вульгарызатарскія развагі з повада арыі Ленскага.

З надуманых сентэнцый на тэму „Еўгеній Онегін і сусветная буржуазія“ не відаць, каб сам Чэмерыца меў сур'ёзнае ўяўленне

пра Пушкіна, або шмат узяў з чытання яго твораў „на сон грядущий" (паводле ўласнага выразу Чэмерыцы).

Але статычны і па сутнасці безідэйны бытавізм, хоць бы і перасыпаны маралізагарскімі сентэнцыямі, не становіць яшчэ мастацкага вобраза. Шэрая натуралістычная апісальнасць—адна з найсур'ёзнейшых хібаў сучаснай прозы, якія маюць месца, у прыватнасці, у раманах Кацубы. Вядома, нельга гэтыя хібы прыпісваць усім пісьменнікам наогул, у тым ліку і маладым. Сярод маладых празаікаў мы маем такіх, якія шмат не без поспеху працуюць над сабою (О Кундзіч, А. Шыян, Н. Рыбак, П. Мельнік). Але гэтыя пісьменнікі яшчэ не авалодалі ўмельствам мастацкага абагульнення. Іх раманы і аповесці няроўныя ў сэнсе важкасці свайго матэрыялу і ў сэнсе глыбіні трактоўкі матэрыялу.

У многіх выпадках гэта няроўнасць тлумачыцца непераадоленымі элементамі бытавізма. „Навальніца" А. Шыяна задумана як шырокае палатно. Жыццё дарэвалюцыйнага мястэчка, розныя класавыя тыпы, іхныя ўзаемаадносіны, барацьба беднаты супроць мясцовых багатыроў—крамніка, уласнікаў саматужных і напоўсаматужных прадпрыемстваў, эпізоды імперыялістычнай і грамадзянскай вайны,—такія асноўныя моманты твору.

Не зважаючы на тое, што фактычны матэрыял „Навальніцы" толькі ў незначнай меры мог быць непасрэдна знаёмым яшчэ маладому па ўзросту аўтару, па асобных дэталях ён здолеў аднавіць малюнак шырокіх працэсаў. Пісьменніцкія здольнасці Шыяна выявіліся ва ўмельстве будаваць калізіі, ствараць вобразы, у досыць высокім узроўні мастацкай мовы (лірычныя пейзажы, псіхалогія герояў). Нядрэнна пададзены соцыяльныя эпізоды і тыпы (сцэна провадаў на фронт, афіцэрскі халуй Тэрэнь і інш.).

Але чым далей учытваешся ў тэкст рамана, тым больш пераконваешся, што аўтару нехапіла паўнаты творчага дыхання, нехапіла матэрыялу, які характарызаваў-бы найбольш важныя працэсы дарэвалюцыйнай рэчаіснасці. І іменна ў тых выпадках, калі нехапае поўнацэннага соцыяльнага матэрыялу, аўтар пачынае злоўжываць пабытовымі сітуацыямі, паўтараючы тыя-ж самыя матывы кахання, рэўнасці, замах на забойства (пры аналагічных абставінах да таго ж).

А паколькі Шыян хоча пазбегнуць статычнага бытавізма, дык ён завастрае бытавыя калізіі авангурнымі момантамі і элементамі псіхалагізма, вытрыманага ў стылі Дастаеўскага.

Усё-ж да канца гэта справа не выратоўвае, і празмерна бытавы матэрыял абцяжвае дзею твору, стрымлівае развіццё класавых калізій. Апрача таго, псіхалагізм у духу Дастаеўскага надае вобразам рамана адценне штучнай, літаратурнай стылізацыі. Па-першае, манера Дастаеўскага надзвычай спецыфічная, каб не пазнаць наследванне ёй з боку маладога аўтара, па-другое, метад Дастаеўскага выпрацоўваўся на паказе хваравітых, часта паталагічных бакоў псіхікі прыдушанага капіталізмам разгубленага дробнага буржуа. Вось таму асабліва штучнымі здаюцца спробы некаторых сучасных аўтараў прыстасаваць гэты метад да паказу совецкіх людзей, якім арганічна чужая псіхалогія герояў Дастаеўскага.

Каштоўная ўласцівасць О. Кундзіча, уласцівая, нажаль, далёка не ўсім празаікам,—апавядаць сцісла і змястоўна. Невялічкі раман, (праўдзівей было-б назваць яго аповесцю) „Моцарт і батакуды" закранае шэраг цікавых праблем, сканцэнтраваных навакол асноўнага—паказу тыпаў маладой совецкай інтэлігенцыі.

Не абмяжоўваючыся вобразамі рабочай моладзі, О. Кундзіч паказвае і выхадцаў з „іншых", якія перавыхоўваюцца ў актыўных удзельнікаў соцыялістычнага будаўніцтва.

Кундзіч апавядае ў сваім рамане пра тое, як з шэрага данецкіх шахцёраў вырастаюць маладыя таленты—паэты, музыканты, інжынеры. Ён паказвае соцыялістычную дружбу пакаленняў рабочых, цёплую ўвагу, якую аддаюць сваім дзецям старыя майстры вугалю, звязвае тэму новай інтэлігенцыі з барацьбой супроць рэшткаў капіталістычных элементаў і іх уплыву на совецкую моладзь (праз супроцьстаўленне турэцкага марша Моцарта матыву „шымібатакуды" набывае значэнне больш шырокага абагульняючага вобраза барацьбы совецкай культуры і буржуазна мяшчанскай „культурнасці"). Уводзяцца ў тэкст рамана і свае асаблівыя „устаўныя навелы"—адступленні, прысвечаныя гераічным эпізодам барацьбы супроць белых, не дрэнна паказаны вытворчы фон, на якім разгортваюцца падзеі.

Вытворчых пейзажаў не надта багата ў украінскай совецкай прозе і таму працу О. Кундзіча ў гэтай важнай для літаратуры справе трэба ўсяк вітаць. Пры ўсім тым усе цікавыя і актуальныя моманты рамана Кундзіча недастаткова распрацаваны. Цэнтр увагі ў паказе канфлікта совецкага культурнага актыва і рэштка буржуазнай інтэлігенцыі зноў-жа такі перамяшчаецца ў бок побыту, а самы канфлікт паказваецца наіўна-тэндэнцыйна. Ужо ў спецыяльна падабраных прозвішчах персанажаў (Люба Светошава, совецкі культурны работнік, і Ала Прысмерк—фактратыстка (разлагаючы тып) мы адчуваем надзвычай аголеную тэндэнцыю. Гэтая ж тэндэнцыя акрэслівае і сітуацыі рамана. Масавічку парка культуры і адпачынку Светашову намагаецца ўзяць пад свой уплыў акружэнне Алі Прысмерк з тым, каб выкарыстаць яе мастацкія здольнасці ў сваіх інтарэсах. Любу прымушаюць танцаваць не імправізацыі на мелодыі Шумана, а істэрычныя каціныя фактроты, тым самым здзекваюцца з яе таленту і з класічнай спадчыны, якую Люба паважае. На гэтых разлагаючых вечарынках сустракаецца рабочы Коля Буровы і паэт Сташко Верхавінец (выпадкова зайшоў).

Павярхоўна і не без уплыву меладраматычнага псіхалагізма паказан канфлікт між совецкай моладдзю і прыхільнікамі Прысмерк. Не толькі гэты канфлікт разгорнут на вузка-бытавым матэрыяле (схема старога і новага побыту), але і псіхалагічныя змены совецкіх персанажаў абгрунтованы досыць наіўнымі бытавымі матывамі.

З агідаю да Алі Прысмерк і яе прыхільнікаў выходзіць Люба на вольнае паветра ў парк, і каб даць выхад новым пачуццям, проста ў бальнай сукенцы пачынае прарабляць гімнастычныя практыкаванні на турніку (моў у здаровым целе—здаровы дух).

Не абы якую ролю ў маральнай эвалюцыі Колі Буровага адыгрываюць .. рудыя бакенбарды. Пачынаецца з таго, што праз

гэтую прыкмету „буржуазнага перараджэння“ Колі яго не пазнае лепшы друг Сташко Верхавінец.

Бакены Колі Буровага робяць такое ўражанне на Сташка, што ён, пазнаўшы, нарэшце, Колю разам з другім яго таварышам Яшам, пачынае чытаць мараль на тэму „калі пролетарый пачынае насіць такія ненармальныя бакены...“ то „ён перастае даваць норму“ і дарэмна Буровы апраўдваецца перад сябрамі, што яго бакены глупства і што ёсць справы важнейшыя.

Далей на дапамогу Верхавінцу прыходзіць аўтар. З далейшага развіцця дзеі чытач дазнаецца, што Коля з яго злашчаснымі бакенамі сапраўды падпадае пад варожыя ўплывы і наведвае вечарынкі ў Прысмерк, нядбайна ставіцца да работы, тэхнікі бяспекі.

Але з разгортваннем падзеі, калі „пролетарская свядомасць“ зноў бярэ верх у Колі, і калі ўжо складваюцца перадумовы для паварота гэтага героя на правільны шлях (разам з Верхавінцам і Светашоваю) Коля дэманстрацыйна пакідае вечарынку ў Прысмеркаў, „польскія“ бакены робяцца нечым чужым і лішнім для Колінай фізіяноміі, самі просяцца, каб іх зрэзаць.

З дробных бытавых дэталей Кундзіч хоча зрабіць шырокія вывады і гэтыя яго „абагульненні“ ўражаюць перш за ўсё наіўным спрашчэнствам. Толькі ў канцы рамана аўтар, нарэшце, вырываецца з замкнутага кола абмежавана-бытавых матываў. Ён паказвае аварыю на шахце, якая здарылася праз нядбайства Колі, намякае на ўдзел у гэтай справе шкоднікаў, пэўна, кагосьці з аматараў „шымі-батакуды“. На гэтым, больш удзячным з погляду разгортвання сур'ёзнай соцыяльнай інтрыгі, матэрыяле пачынае выкрысталізоўвацца вобраз пролетарскага гераізма (сцэна ў завале), мужнасці кадравых шахцёраў, колішніх байцоў Чырвонай арміі, якія не разгубіліся ў цяжкіх умовах.

Гэтыя постаці выгадна кантрастуюць з тымі лёгкадухімі, якія тым часам, праўда часова падаліся панічным настроям (да іх належыць і ўласнік бакенбардаў).

На глыбока трагічным матэрыяле сапраўды можна стварыць вобразы вялікага соцыяльнага пафаса. І сапраўды эпізод з завалам і ратаваннем рабочых (астатнія дакументальна ўзяты з канкрэтнага выпадку на адной з шахт)—наймацнейшае месца рамана.

Кундзіч скончыў тым, з чаго яму трэба было пачаць—з разгортвання соцыяльна вызначаных калізій, а ўжо на аснове такіх калізій можна было-б выкарыстаць элементы побыту, не зводзячы толькі да бытавых момантаў такую важную праблему, як тэму старой і новай інтэлігенцыі.

Крэн у бок бытавых калізій, звядзенне да іх больш шырокіх і складаных пытанняў звузіла дыяпазон рамана. Зжыццё бытавізма цесна звязана для сучаснай прозы з задачай паглыблёнага паказу псіхалогіі персанажаў. У гэтым сэнсе ў нашай прозе таксама не ўсё зроблена. Глыбокі псіхалагічны аналіз у многіх пісьменнікаў падменьваецца павярхоўным апісаннем, пералікам штампаваных адзнак. Калі-ж аўтар і намагаецца глыбей раскрыць псіхалогію свайго героя, ён часта разумее гэтую глыбіню, як адыход ад тыповага ў бок вышуканых нерэальных сітуацый. Гэтым трэба тлумачыць

уплыў на творчасць рада празаікаў, старэйшых і малодшых, метаду Дастаеўскага.

Праблема глыбокага і ў той-жа час рэалістычнага псіхалагічнага аналіза ў творах сучасных празаікаў набывае вялікае значэнне, таму з асаблівай увагаю трэба сачыць, як за ўдалымі, так і за няўдалымі спробамі ў гэтай галіне.

Сярод, умоўна кажучы, псіхалагічных раманаў і аповесцей апошняга перыяда значнае месца займае раман Ол. Капыленкі „Дужа добра."

Псіхалогіяй новага совецкага чалавека Капыленка цікавіўся і раней. Тыпы маладой совецкай інтэлігенцыі ён вывеў у рамане „Нараджаецца горад" (тэма будаўніцтва новага соцыялістычнага горада). Але ў гэтым рамане мае месца агульная хіба прозы тагачаснага перыяду—схематычнасць вобразаў герояў (асабліва пазітыўных). Як іншыя празаікі таго часу, аўтар абмяжоўвае сваіх герояў пераважна грамадскімі інтарэсамі, да таго ж досыць схематычна паказанымі, і ігнаруе індывідуальныя асаблівасці іхняй псіхалогіі.

Героі рамана „Нараджаецца горад" (рабочыя, маладая тэхнічная інтэлігенцыя), пераважна дзейнічаюць масай, яны яшчэ мала індывідуалізаваны.

Адзін з персанажаў, рабочы, размаўляючы з маладым тэхнікам Таняю Кааб на палітычныя тэмы, просіць яе пераказаць яго думкі замежным інжынерам, якія тут-жа прысутнічаюць і зазначае пры гэтым: „Скажыце ад імя рабочага Івана, а хвамілія не важна".

Жадаючы падкрэсліць, што яго героі—прадстаўнікі пролетарскай масы, аўтар пазбаўляе іх не толькі ўласнага імя, але і біяграфіі: „біяграфіі людзей цяпер простыя, як звычайна бывае ў франтавікоў, і кожнага чалавека ведаюць, і кожная творчая адзінка—герой. Так найлягчэй: біяграфія не патрэбна чалавеку". (словы пазітыўнага героя Сашкі Неіжмака).

Спрошчаныя, пазбаўленыя асабовага героі, на думку аўтара, найбольш адпавядаюць ідэалу пролетарскага калектывізма. Таму падкрэслена пагардлівае „нігілістычнае" стаўленне Тані Кааб да асабістага жыцця, да кахання, сям'і, дэкларацыя пра тое, што яе цікавіць выключна работа, адгэтуль і злоўжыванні аўтара паказам такіх элементаў грамадскай практыкі сваіх герояў, як сходы, нарады, дыскусіі на агульна палітычныя тэмы.

Але з дапамогаю гэтых яшчэ досыць абмежаваных сродкаў характарыстыкі пазітыўных герояў Капыленка ўмее перадаць дужа характарную ўласцівасць іхняй псіхалогіі—жыццёвы аптымізм, радасць, упэўненасць у свае сілы. І валявыя, загартаваныя ў барацьбе бальшэвікі і моладзь, якая толькі пачынае жыць свядомым палітычным жыццём,—усе аднолькава захоплены вялікаю непераможнаю радасцю рэволюцыянераў.

Аўтар так захоплен гэтаю рысаю сваіх герояў (радасць), што пераносіць яе на „неодушевленный" матэрыял. Не толькі людзям, але і цаглінам на будаўніцтве весела, бо ім „так цікава паўсці ўгару па ленце, танцуючы адна перад другою на месцы".

Такая канкрэтызацыя тэмы радасці ідзе яшчэ ад схематызма, таксама як і празмерная ідэалізацыя пазітыўных герояў (нават

з фізічнага боку яны мацнейшыя, прыгажэйшыя за персанажаў негатыўных). Але наўпярок гэтым элементам схематызма Капыленка ў сваім рамане выявіў і характэрныя рысы псіхалогіі совецкага чалавека.

Тэме совецкага чалавека, а іменна працэсу яго фармавання (рэч ідзе пра вучняў) прысвечаны другі раман Капыленкі „Дужа добра", прысвечаны совецкай школе. У гэтым рамане аўтар параўнаўча з папярэднім значна паглыбляе аналіз псіхалогіі герояў. Псіхалогія пры тым бярэцца не сама па сабе, а ў шырокім кантэксце класавых узаемаадносін і ўплываў.

Капыленка не абмяжоўваецца малюнкамі вучобы і побыту дзяцей у школе, ён паказвае іх сямейнае акружэнне, паказвае розныя, у тым ліку класава-варожыя ўплывы на маленькіх совецкіх грамадзян. Барацьба за душу дзіцяці праводзіцца не толькі па-за школаю, але і ў працэсе навучання, бо і сярод настаўнікаў траплююцца добра замаскаваныя варожыя элементы. Сваіх маладых герояў аўтар не абмяжоўвае рамкамі чыста дзіцячых інтарэсаў. Праз своеасаблівыя дзіцячыя ўспрыйманні ён паказвае „вялікае жыццё", працэсы класавай барацьбы.

Колішні белы афіцэр Чарнуха выкарыстоўвае школу для прапаганды антысовецкіх поглядаў. У форме ўспамінаў пра старую гімназію і проста анекдотаў ён спрабуе прышчапіць дзецям класава-варожыя погляды, у прыватнасці антысемітызм. Але совецкая дзетвара адразу адчувае контррэволюцыйную сутнасць чарнухавых апавяданняў, з абурэннем выступае і супроць настаўніка і супроць паасобных вучняў, якія спачуваюць яму.

Паказваючы як фармуецца свядомасць вучняў, аўтар не забывае, што перад ім дзеці. Ён умее перадаць не толькі наіўную непасрэднасць, але і вастрату рэагавання дзяцей на тое, што яны назіраюць або чуюць. Вучаніца 7-га класа Кіра Коваль робіцца сведкай няладу паміж сваімі бацькамі.

Маці Кіры пакідае мужа, пролетарыя-рэволюцыянера і сыходзіцца з чалавекам выпадковым, прасякнутым мяшчанскай напышлівасцю і эгаізмам, маральна разбэшчаным.

Выпадкова на вуліцы сустракае Кіра маці з яе новым мужам і адразу па зусім нязначных адзнаках (выгляд, паводзіны) разумее, што яе маці нешчаслівая, што ёй цяжка з нікчэмным агідным чалавекам.

Аўтар паказвае як у дзяцей, што робяцца падлеткамі, развіваецца класавае чуццё, як яны вучацца пазнаваць ворага і чужака па асобных рысах яго паводзін.

Капыленка паказвае і крытычны пералом псіхалогіі юных персанажаў, калі пад уплывам жыццёвых абставін і перажыванняў дзіця раптам адчувае, што яно ўжо дарослае, зменьваюцца погляды, пашыраецца кругагляд, фармуецца свядомасць, выпрацоўваюцца грамадскія паводзіны.

„За адзін дзень Кіра вырасла, можа цэлы год звычайнага жыцця не меў такога значэння для яе нясталай душы, як гэты восеньскі дзень".

Якасны перадом у псіхалогіі дзяўчыны адбыўся пад уплывам абураючай гісторыі з яе таварышам Аркадзіям Траянам: класава-варожыя элементы настаўніцтва дамагліся выключэння яго з піонераў. Разгортваецца барацьба ў школе. Ворагі працягваюць разбураючую работу. Бяруць пад свой уплыў групу дзяцей, звязаных з дэкласаваным злачынным элементам. Канчаецца тым, што Аркадзій Траян робіцца ахвяраю панажоўшчыны.

Гэтая падзея (Аркадзій паранен) прыводзіць да пераломy ў яго псіхалогіі. Знікае хлапчыная нязграбнасць, грубаватасць. Дзіця робіцца ўдумлівым, чулым падлеткам.

„Надзейка не магла часамі пазнаць свайго сына, у яго знаходзілася для яе багата слоў бадзёрых і моцных, бязмерная колькасць непасрэднай, захапляючай дзіцячай разважлівасці. Аркадзій цяпер ставіўся да яе, як да жанчыны—з падкрэсленым рыцарствам, даваў парады і нават суцяшаў. У ім прачнуліся да мацеры зусім іншыя пачуцці, ён заўзята намагаўся стаць яе абаронцай і дарадцай. Усё гэта трохі смяшыла Надзейку, але разам з тым і радавала".

Так вырастае савецкая моладзь, яна не адрозніваецца прынцыпова ад сваіх настаўнікаў, асабліва ад маладых педагогаў, выхаваных савецкаю ўладаю. Тыя і тыя энтузіясты савецкага грамадства.

Упэўненасць у свае сілы, пралетарская салідарнасць, бадзёры аптымізм, радасць жыцця, такія галоўныя рысы новага тыпу чалавека, якога Капыленка паказвае ўжо на вышэйшым узроўні з большай глыбінёй псіхалагічнага аналізу, чым у сваім папярэднім рамане „Нараджаецца горад".

Нельга сказаць, што абсалютна ўсё добра зроблена ў апошнім рамане Капыленкі. Перш за ўсё аўтар, як і багата іншых празаікаў, незаўсёды ўмее адабраць каштоўны матэрыял, што мае непасрэднае дачыненне да паказу росту новага чалавека, ад другараднага і не характэрнага. Адсюль злоўжыванне ўсякімі ўводнымі эпізодамі і тыпамі, часам проста літаратурным анекдотам (колішні настаўнік латынскай мовы з сваім праектам латынізацыі рэвалюцыі). Увогуле ў рамане замнога персанажаў і сюжэтных сітуацый. Колькасць выкарыстанага матэрыялу ідзе за кошт якасці яго распрацоўкі. Да таго-ж і псіхалагічны аналіз часам збіваецца на адшуканні нечага асабліва вострага і арыгінальнага. Выяўленне характэрных рыс псіхалогіі і паводзін персанажаў часам падмяняецца надуманым хваравітым псіхалагізмам у стылі Дастаеўскага (людзі дна і г. д.). Многапланавасць рамана, лішнія тыпы і эпізоды прыводзяць да таго, што асноўная сюжэтная лінія, працэс фармавання маладога чалавека нашага часу перарываецца іншым матэрыялам.

Дзіцячая псіхалогія паказваецца неаднолькава глыбока. Часам аўтар знарок прымітывізуе, падкрэслівае праявы „дзіцячага" ў свядомасці сваіх герояў, спускаецца да сантыменталізма.

Увогуле багата празаікаў памылкова думаюць, што сантыменталізм з'яўляецца найлепшым спосабам выяўлення спачування аўтара свайму станоўчаму герою (рэч ідзе пра савецкага чалавека або спосабам паказу лірычных бакоў псіхалогіі герояў). Сантыменталізм і лірызм далёка не аднолькавыя рэчы. У нашы часы санты-

менталізм зніжае соцыяльны пафас твору, ён па сваёй прыродзе чужы моцным валявым людзям совецкай рэчаіснасці. Наадварот лірызм, які сапраўды гэты пафас барацьбы перадае, падкрэслівае веліч герояў, можа быць спалучаны з рэалістычнаю асноваю. У „Апошнім з Удэге“ Фадзееў паказвае тагочасны этап рэволюцыі. Буржуазія з дапамогаю чэхаў захоплівае ў свае рукі ўладу, палонных пролетарыяў вядуць паўз будынкі капіталістаў. Буржуа святкуе сваю перамогу. Хаду палонных байцоў аўтар паказвае з натхненным лірызмам, які падкрэслівае сілу пролетарскай рэволюцыі, гарачую любоў рабочай масы да сваіх братоў.

„Военный комиссар рабочих был пленен и связан, и двести человек в черно-серой колонне шли, скованные сталью штыков, зачумленные от порохового дыма, едва волоча ноги. Юноши, пожилые, совсем уже старики—они шли, плененные грузчики, металлисты, каменщики, резчики по дереву. Их руками были сделаны мостовая, по которой они шли, дома с балконами, мимо которых они шли, ружья, которые были направлены на них, крейсера и пушки, направленные на них, одежды, погоны и серьги на людях, смотревших на них в бинокли. Они шли мимо набившего балконы жирного, накрашенного и напудренного мяса, полного ненависти к ним и страха перед ними. Могучее дыхание любви десятков тысяч таких же грузчиков, каменщиков, металлистов, чьи спины искривились от труда, чьи дети чахли от недоедания, чьи жены старились над стиральной доской,—их мощное теплое дыхание окутывало и согревало пленных и устилало им шаг“.

Прыгадаем другую сцэну, якая з'яўляецца псіхалагічным працягам першай. Тою-ж вуліцаю паўз тыя-ж буржуазныя асабнякі праходзіць другая працэсія рабочых, якія хаваюць сваіх таварышоў, што загінулі ў баю супроць белых.

Лена Кастынецкая (тып інтэлігенткі, якая набліжаецца да рэволюцыі) кінула ў працэсію букет кветак. Адзін з рабочых хацеў падхапіць букет, але раптам убачыў, што кветкі кінулі з балкона дома Гімераў (мясцовы капіталіст) і ён з сілаю адкінуў іх ботам у бок да ног чэшскіх салдат, што стаялі шэрэнгаю ўдоўж вуліцы.

Манера разгортвання Фадзеева ў „Апошнім з Удэге“ пазбаўлена наўмыснай тэндэнцыйнасці, але эпізоды рамана, дзе перадаецца героіка рэволюцыйнай барацьбы, насычаны сапраўдным лірызмам і гэты лірызм не мае нічога супольнага з сантыментальным сюсюканнем. Ён не змякчае драматычнае напружанне дзеі, а яшчэ больш яго завастрае. Нам патрэбна літаратура вялікіх страсцей, моцных характараў. Класы мінулага стварылі ў мастацтве багата яскравых вобразаў сваіх людзей. Мы павінны стварыць моцныя характары нашага часу. У гэтым сэнс шэкспірызацыі літаратуры, якую так горача ў свой час адстойвалі Маркс і Энгельс, і гэта невыпадкова, што іменна ў совецкіх умовах драматургія Шэкспіра займае такое выдатнае месца ў рэпертуары нашых тэатраў. Значна большае, чым на сваёй бацькаўшчыне.

Мы павінны стварыць вобразы герояў, якія-б увасабілі лепшыя бакі нашай сучаснасці і выяўлялі перспектыўныя лініі іх развіцця, каб па гэтых героях маглі раўняцца людзі нашай краіны. А для

гэтага патрэбны вобразы шырокага абагульнення і вялікага пафаса, тое, што ўваходзіць у паняцце соцыяльнага характару. Для таго, каб такія вобразы стварыць, трэба спалучыць глыбокае веданне жыцця з высокаю мастацкасцю. Веданне матэрыялу не заўжды спалучаецца з умельствам уцелавіць гэты матэрыял у мастацкія вобразы. З другога боку—пісьменнікі, якія валодаюць мастацкім словам, часам не маюць пра што пісаць. Таму барацьба за мастацкую якасць літаратуры павінна яднаць у сабе гэтыя два элементы.

За апошнія гады украінскія совецкія пісьменнікі далі некалькі празаічных твораў высокамастацкай каштоўнасці. Можна для прыкладу назваць „Коннікі“ Ю. Яноўскага, „Маці“ Галаўко. Высокая культура мастацкага слова спалучаецца ў гэтых творах з соцыяльна значным матэрыялам.

Упартая работа Ю. Яноўскага і А. Галаўко над моваю, вобразам, стылістычнай дэталлю можа быць узорам для іншых пісьменнікаў. Хаця, вядома, і Яноўскага і Галаўко ёсць за што крытыкаваць, нават і за мову твораў, увогуле кваліфікаваную. У „Правде“ была змешчана рэцэнзія чытача на „Коннікаў“ дзе трапна зазначалася на празмерную складанасць будовы сказу ў Яноўскага, што перашкаджае ўспрыйманню ходу думак аўтара. Даючы вобразы байцоў і камандзіраў Чырвонай арміі ў прыўзнята патэтычным плане, Яноўскі мала іх індывідуалізуе. Таму камандзір Чубенка нагадвае камандзіра Адаменка і наадварот.

У другім варыянце рамана „Маці“ (тэма 1905 г. на вёсцы) А. Галаўко значна перарабіў тэкст параўнаўча з першым варыянтам, узмацніў рэалістычную аснову твору, зняў штучную схему маці і трох сыноў, унікнуў элементаў сімволікі ў трактоўцы вобраза маці.

Але ён без патрэбы зменшыў лірычную афарбоўку рамана, хаця лірызм у спалучэнні з рэалістычнай трактоўкай матэрыялу, як мы бачылі на прыкладзе з „Апошнім з Удэгэ“ Фадзеева дае вялікі мастацкі і эмацыянальны эфект.

У другім варыянце свайго рамана Галаўко далей адышоў ад сюжэтнай схемы аповесці „Фата Маргана“ Кацюбінскага (раней Галаўко сям-там працягваў сітуацыі і вобразы Кацюбінскага), дадаў новыя эпізоды, дапоўніў характарыстыку персанажаў. Схема Кацюбінскага, хоць і арыгінальна распрацована, усё-ж звязвае творчую ініцыятыву аўтара, прымушае яго выходзіць з папярэдне дадзеных сітуацый.

І Галаўко і Яноўскі, якія па праву належаць да лепшых мастакоў сучаснай прозы, маюць усе дадзеныя стварыць яшчэ больш яскравыя і поўнацэнныя вобразы рэволюцыйнай рэчаіснасці, чым тыя, што створаны імі на сёння. У гэтым (незадавальняцца тым, што ўжо дасягнута, а ісці далей) натуральны закон творчага росту кожнага перадавога мастака і совецкай літаратуры цалкам.

Пра творчасць Яноўскага і Галаўко напісана нямала, таму возьмем прадукцыю малодшых празаікаў і прасочым яе вядучыя тэндэнцыі. Яшчэ у 1930—31 г. у украінскай совецкай прозе былі моцны традыцыі натуралістычнага адбіцця, спалучанага, як правіла, з нізкім узроўнем мастацкай мовы („Турбіны“ В. Кузьміча, „Інтэграл“

Івана Ле). Гэтыя традыцыі і рабілі ўплыў на літаратурную моладзь. На сёння сярод маладых празаікаў пераважае тып пісьменніка, які шмат раue і над паказам псіхалогіі герояў і над падвышэннем мастацкасці сваіх твораў. Лепшыя маладыя пісьменнікі клапоцяцца не так пра колькасць, як пра якасць сваіх твораў і гэтым тлумачыцца, што на змену пухкім псеўда-манументальным „эпапеям" на 30 друкаваных аркушаў прыходзяць параўнальна невялікія, але пазбаўленыя літаратурнай вады раманы і аповесці, дзе вядзецца работа над сюжэтам, калзіямі, псіхалогіяй персанажаў, над стылістычнаю дэталлю.

Калі чытаеш раман „Моцарт і батакуды" Кундзіча, „Кіеў" Рыбака, зборнік апавяданняў П. Мельніка („Цёплы вецер") адчуваеш, што гэта ўжо не сыравіна, не хаатычнае награмаджэнне часам нават цікавага, але няўмела пададзенага, неапрацаванага матэрыялу. Пісаць сцісла, выходзячы з меркаванняў мастацкай эканоміі, гэта ўжо ёсць перадумова для сур'ёзных творчых дасягненняў. Не выпадкова пачынае адраджацца незаслужана забыты нашымі празаікамі жанр малай празаічнай формы. У гэтым сэнсе надзвычай паказальны зборнік навел П. Мельніка „Цёплы вецер".

Навелы П. Мельніка пабудованы не на літаратурным анекдоце, а на соцыяльна-значнай падзеі ці выпадку. Яны прысвечаны людзям, а не механічнаму збегу сюжэтных сітуацый. Гэтыя навелы Мельніка псіхалагічныя, яны раскрываюць важныя бакі псіхалогіі герояў і ўзнімаюць сур'ёзныя праблемы.

Тонкасць псіхалагічнага аналізу спалучаюцца ў большасці выпадкаў з востраю інтрыгаю. Праз псіхалогію персанажаў Мельнік раскрывае тое новае, што ўносіць у чалавечыя ўзаемаадносіны рэволюцыя і што адбіваецца на свядомасці герояў.

Чырвоныя байцы варочаюцца з франтоў грамадзянскай вайны. Сярод іх і колішні вулічны акрабат Адрыян Потэр, які выпадкова з вандроўнаю трупаю заехаў перад рэволюцыяй у Савецкі Саюз і пасля рэволюцыі далучыўся да чырвонаармейскага эшалона. Рабочыя і радавыя сяляне толькі што вышлі з баёў і па разбітых, напоўзруйнаваных калеях чыгункі варочаюцца дахаты ў розныя канцы рэспублікі. І ў першую чаргу найхарактэрнейшай для рэволюцыйных байцоў з'яўляецца рэволюцыйная мара, што ўцелаўляецца ў вобразе квітнеючага сада будучага.

„Было найгалоўнейшае—рэволюцыя і вайна, якія, нібы навальніцы, пасля якіх расцвітаюць паплавы і сады...

Пад'язджалі да Тамбова. У акно пракуранай цяплушкі дзьмухнула цёплым ветрам і Адрыянавы ноздры затрымцелі. Закіпеўшы беларужоваю шумаю над усім горадам, цвілі яблыні. Уласна, горада не было. Быў сад, суцэльны квітнеючы сад, што праходзячыя па ім вятры пературарыліся ў хвалі ап'яняючых пахаў". Пад уплывам гэтага пейзажа, сваіх мар пра будучае Адрыян Потэр вырашае стаць садоўнікам. „За шэсць гадоў, на радасць Галацы, які арганізаваў у паўднёвым стэпу чырвонафлоцкую комуну „Аврора", імя Адрыяна Потэра—смелага садавода і маладога вучонага—было ўжо многім вядома". („Зварот Адрыяна Потэра").

Выпадак (замежнае падарожжа ўдарнікаў) зводзіць Потэра з тым акружэннем, у якім ён рос дзіцем і пачынаў сваё працоўнае

жыццё. І гэтая сустрэча з п'яўкаю іхняй вёскі рудым Максам, з галоднаю, змучанаю беспрацоўем раднёю, лепш за ўсякія славесныя дэкларацыі дае адчуць розніцу між светам эксплаататарскай уласнасці і совецкай рэчаіснасцю. Адрыян Потэр зайшоў на колішні двор сваіх бацькоў, сустрэў там новага гаспадара рудага Макса. Даведаўшыся, што незнаёмы яму чалавек ёсць той Потэр, які астаўся ў большэвікоў, руды Макс, ні слова не кажучы, ляпнуў каліткаю і праз колькі хвілін вярнуўся з пакункам лістоў, якія Адрыян пісаў сваім родным з фронта грамадзянскай вайны. „У калітцы зноў з'явіўся руды Макс, нясучы ў руках папяровы пакунак, накрыж перавязаны шпагатам".

Падышоўшы да Адрыяна, ён моўчкі падаў яму гэтыя паперы, і сурова сказаў, чырванеючы ад натугі.

— На, гэта твае! Я н-не люблю атрымліваць лістоў з таго свету!.."

Калі абстрагавацца ад пэўнай дозы асабліва недарэчнага ў даным выпадку сантыменталізма, сустрэча яго з Максам дужа выразна перадае бездань між капіталістычным светам і совецкай уладай, шалёную нянавісць уласніка да соцыялістычнай рэволюцыі. Гэтая калізія выяўлена Мельнікам праз арыгінальныя псіхалагічныя дэталі без залішняй тэндэнцыйнасці і схематызма. Тэматыка навел Мельніка досыць рознастайная. Аўтар не паўтарае сваіх сітуацый і вобразаў, але заўсёды астаецца ўважлівым псіхолагам, заўжды псіхалагічная калізія яго навел робіць уражанне нечага новага, не шаблоннага і не заштампаванага.

Навела „Зялёны завулак" паказвае жыццё мірнай рабочай сям'і (удава трамвайнага рабочага Харытына ды яе дачка Наталка). Наталка заяўляе маці, што заўтра выходзіць замуж. У ўяўленні Харытыны праходзяць гады яе цяжкога сямейнага жыцця, нялюдскіх здзекаў, бойкі, прыніжэнне чалавечай вартасці. Да тых успамінаў далучаецца страх страціць адзінага блізкага чалавека, застацца на старасці ў адзіноце. Увесь гэты комплекс перажыванняў набывае асаблівую вастрыню, калі невядомы хлопец, Наталчын муж, прыязджае на грузавіку з групаю моладзі і забірае дачку.

Харытына застаецца адна і гэтая нязвыкласць да новага становішча перадаецца праз псіхалагічную дэталь—старая хоча пагладзіць падушку на ложку дачкі, але заўважае, што і ложка ўжо няма (павезлі на кватэру маладога мужа). Засмучоная бабуся выходзіць на вуліцу, задумліва глядзіць на сляды ад шын аўто і тут падаецца новая дэталь. „Суседаў хлопчык, белагаловы Коцька—выглянуў з-за каліткі і весела крыкнуў:

— Баба Харыцька, учарашняга дня шукаюць!

Спынілася і здзіўлена перапытала:—Учарашняга дня?.."

Так да свядомасці бабулькі даходзіць адчуванне той змены, якую ўнесла ў яе жыццё замужжа дачкі.

Такіх псіхалагічных дэталяў у зборніку П. Мельніка не мала. Не гледзячы на асобныя зрывы ў бок наіўнага сантыменталізма і занадта вышуканых сітуацый, гэты зборнік з'яўляецца дакументам сур'ёзнай работы над мастацкім словам, іменна тым, што найбольш патрэбна нашай літаратуры.

І другая канечная ўмова росту совецкай літаратуры і прозы ў прыватнасці—паглыбленае вывучэнне жыцця.

У нас дужа мала пісьменнікаў, як я-б працавалі паводле прыкладу Шолахава—вывучаючы сваіх герояў у жыцці, а пасля ўжо фіксуючы іх вобразы (вядома не метадам фатаграфіі, а мастацкага абагульнення) у сваіх творах.

Пэўныя дасягненні мы маем у галіне гістарычнага рамана. Раман З. Тулуп „Людаловы“ напісаны на аснове багатага фактычнага матэрыялу, сабранага пісьменніцай з розных гістарычных вытокаў. На дакументальным матэрыяле базуецца нават і другарадная дэталь рамана. Напрыклад, у адным з эпізодаў другой часткі „Людаловаў“ З. Тулуп паказвае перагаворы Сагайдачнага і казацкай дэлегацыі з прадстаўнікамі польскага камандавання ў справе так званага рэестра казацкіх войск і розных іншых момантаў (спыніць паходы на Крым і Турэччыну таксама).

Выводзіцца дэталь: у Сагайдачнага настолькі важкі погляд, што нават найбольш хвастлівыя польскія магнаты адводзяць свае вочы ўбок. Тлумачыцца гэта не нейкімі там „звышчалавечымі“ дадзенымі Сагайдачнага, а чыста біялагічнымі прычынамі, якія пацверджаны гістарычнымі дадзенымі (блізка пастаўленыя зрэнкі, што і стварае ўражанне надзвычайна засярдкаванага, упартага погляду).

Справа, вядома, не толькі ў праўдзівасці гістарычных дэталей (гэта таксама мае значэнне), але і ў праўдзівай перадачы гістарычных абставін і ў шырэйшым разуменні слова: у паказе тыповых вобразаў розных класаў, якія ў тую эпоху змагаліся. Што датычыцца гэтага, З. Тулуп разгарнула шырокае палатно, у якім фігуруюць і польская шляхта розных праплastаванняў і казацкая старшына ды бедната, розныя прапластаванні мясцовага насельніцтва, духоўніцтва таксама.

У мастацкім паказе соцыяльных узаемаадносін той эпохі найбольшая каштоўнасць рамана. З гэтага погляду яго трэба і крытыкаваць, не абмяжоўваючыся паасобнымі дробязямі (ці мог мець Сагайдачны кішанёвы гадзіннік).

І не толькі крытыкаваць post factum пасля выдання рамана, але і ў працэсе работы над ім. Вялікая праца, якую паклала аўтарка на збіранне і высвятленне гістарычнага матэрыялу, заслугоўвае і таго, каб яе творам зацікавіліся знаўцы гісторыі Украіны, каб яны далі сваю думку наконт адпаведнасці вобразаў рамана таму гістарычнаму перыяду, які ў ім паказан.

Трэба ведаць матэрыял, пра які пішам. Тады не будзе таго ненармальнага і недапушчальнага для совецкай літаратуры з'явішча, калі аўтар досыць дасканала аперыруе рознымі фармальнымі прыёмамі, але ўсё яго ўмельства павісае ў паветры, бо яму бракуе поўнацэннага матэрыялу. Гэтай разбежкі між мастацкімі сродкамі і матэрыялам трэба ўнікнуць. Веданне жыцця соцыялістычнай рэчаіснасці—канечная ўмова росту кожнага совецкага пісьменніка. Абыйсці бокам гэтую асноўную для нашай літаратуры праблему нікому не ўдасца. Чытач адчуе фальш і штучнасць, „игру плетенных словес“ замест сур'ёзнай работы і гэтая суровая, але заслужаная крытыка будзе вырашальнаю для ацэнкі літаратурнага твору.

*М. Бекер*

# КНІГА ВЯЛІКАЙ ШЧЫРАСЦІ

Кніга Астроўскага стала сапраўды народнай кнігай. Няма такога кутка ў нашай краіне, дзе гэта кніга не сустрэла-б гарачага і хвалюючага водгуку. Аб ёй гавораць скрозь і ўсюды.

Але дзіўна: крытыка наша, якая сустрэла кнігу Астроўскага „змовай маўчання" (па выразу рэдактара „Комсомольской правды") усё яшчэ працягвае захоўваць „алімпійскі спакой". Крытыка не падаравала нам ні аднаго разгорнутага артыкула аб рамане Астроўскага, не кажучы ўжо аб спецыяльных даследваннях. Між тым, чытач даўно адчувае вострую патрэбу ў такой рабоце, якая дапамагла-б яму глыбока асэнсаваць твор Астроўскага.

Гэтым артыкулам мы імкнуліся па-першае, павярнуць нашу крытыку на шлях канкрэтнай ацэнкі выдатнага рамана Астроўскага і, па-другое, дапамагчы нашаму чытачу разабрацца ў кнізе, якая стала любімай кнігай мільёнаў.

## ВОБРАЗ СОВЕЦКАГА ПІСЬМЕННІКА

Нікалай Астроўскі шырока вядомы як чалавек гераічнай загартоўкі. Яго мужнасць выключна ярка праяўляецца ў самым факце стварэння кнігі. Астроўскі пісаў свой твор, не зважаючы на параліч, на лютую хваробу, якая прыкавала яго да пасцелі.

Хворы Гейне пакутваў сем год у сваей „матраснай магіле", не страціўшы зроку і магчымасці пісаць. Але прачытайце вершы, што звязаны з тым перыядам. Якая трагічная асуджанасць адчуваецца ў іх! Якая змрочная безнадзейнасць!

Твердят цветы, что больше мне
Не жить уж радостно вполне.
Что ложу смертному обреченный,
Я только труп непогребенный.

Творчасць Гейне таго перыяду характарызуецца рэзкім зніжэннем грамадскага пафасу. Т э м а  п а м і р а н н я  пануе ў лірычных раздзелах „Рамансеро", у „Песнях Лазара".

Как должен я завидовать им *)
Семь лет уже в муке ужасной.
В горчайших страданиях корчусь я
И смерти все жду напрасно.

*) Г. зн. здаровым.—*М. Б.*

Цяпер параўнайце поўныя гаркоты радкі Гейне з мужнымі прамовамі Астроўскага, які заклікае пісьменніка „працаваць на поўную магутнасць"!— і вы адразу адчуеце „пафас дыстанцыі", розніцу двух эпох.

Зразумела, нікому не прыдзе ў галаву параўноўваць Астроўскага з тым ці іншым класікам Самае павучальнае ў нашай аналогіі— гэта розныя паводзіны і самаадчуванне пісьменнікаў розных эпох, якія пастаўлены сілай трагічных абставін у падобныя ўмовы фізічнага быцця.

Нікалай Астроўскі атулены цеснай сям'ёй чытачоў, палкіх сяброў, якія саграюць яго сваімі клопатамі, сваёй пяшчотай, сваёй таварыскай увагай. Нікалай Астроўскі ацэнены ўрадам і партыяй, якія ўзнагарадзілі яго вышэйшай узнагародай—ордэнам Леніна.

Можна назваць рад пісьменнікаў (комуністаў і беспартыйных), якія, пры няроўных, але трагічных умовах праяўлялі і праяўляюць найвялікшую сілу мужнасці і самаўладання. Наўпадоб вялікаму Дзержынскаму, яны аддаюць вякам „сэрцы на разрыў". Наўпадоб палкай Клары Цэткін яны не выпускаюць пяра да апошняга ўздыху.

Ёсць у нас рад пісьменнікаў—ветэранаў грамадзянскай вайны, якія ўпарта прадаўжаюць змагацца літаратурнай зброяй, не гледзячы на кепскі стан здароўя. Але ў стасунку да ўсіх гэтых пісьменнікаў Астроўскі двойчы і тройчы герой. Бадай, да яго ўпаўне стасуецца тая высокая ацэнка, якую Шмідт даў чэлюскінцам. Спаборніцтва, пачуццё радзімы, палітычная свядомасць, бальшэвіцкая мужнасць,—усе гэтыя якасці можна прасачыць у нашай штодзённай рабоце і ў любым напрамку. Але справа ў тым, што гэтыя рысы найбольш ярка, поўна і скандэнсавана выпуклены ў эпапеі чэлюскінцаў.

Яснасць мэты, непахіснасць волі, мужнасць, любоў да соцыялістычнай радзімы, уменне працаваць над сабой, скромнасць якасці, характэрныя для новага тыпа пісьменніка, можна прасачыць у многіх прадстаўнікоў совецкай літаратуры. Але справа ў тым, што ў Астроўскім гэтыя рысы атрымалі ярчэйшае і завершанае выражэнне. Астроўскі—тып пісьменніка, які можа існаваць толькі ў нас, тып пісьменніка-бальшэвіка, для якога радок і „сцяг і бомба".

„Мы, пісьменнікі,—казаў ён,—не маем права адставаць ад жыцця... мы павінны працаваць на поўную магутнасць, г. зн. з напружаннем усіх духоўных творчых сіл, каб наш чытач атрымаў кнігі, вартыя яго".

Вось гэтая энергія, што бурапеніць у грудзях Астроўскага, апаляе нас, здаровых, відушчых, прымушае старыкоў, якія чытаюць яго кнігу, перажываць „другое нараджэнне", а маладых—удзесяцерыць свае намаганні. Гэтая энергія—прадукт найглыбейшай любові да партыі, да соцыялістычнай радзімы і нянавісці да яе ворагаў, прадукт барацьбы, у якой гартавалася сталь, выпрацоўваліся звычкі незвычайнай трываласці, вытрымкі і мужнасці, барацьбы, якая перамагае ўсе і ўсякія нормы...

## КНІГА СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА ПАФАСУ

Той-сёй схільны растлумачыць поспех Астроўскага ягонай незвычайнай біяграфіяй, якая выклікае да сябе напружаную цікавасць. Гэта, вядома, нікчэмная лухта. Каб Астроўскі напісаў слабую кнігу, мы-б яму сказалі аб гэтым проста, і адкрыта. Але гэтага не здарылася. Кніга Астроўскага, пры ўсіх яе недахопах (кампазіцыйных і стылістычных), значная літаратурная падзея.

У чым-жа каштоўнасць рамана Астроўскага?

Мастацкі твор пэўным чынам выхоўвае, „арганізуе“ чытача, але ён-жа ўзбагачае яго новымі ўяўленнямі аб рэчаіснасці. Чым р э а л і с т ы ч н е й твор, тым больш у ім грамадска-каштоўнага матэрыялу, перятвораных і мастацка абагуленых фактаў.

Твор Астроўскага мае вялікае п а з н а в а ў ч а е значэнне, як мастацкі дакумент эпохі. Грамадзянская вайна на Украіне—такі гістарычны фон рамана. На гэтым фоне выступае буйным планам Ленінскі комсамол і яго барацьба. Партыя паставіла перад усімі намі задачу—уважліва вывучаць гісторыю. Зусім відавочна, што комсамолец не павінен быць Іванам няпомнячым у адносінах да той арганізацыі, якая дала яму „пуцёўку ў жыццё“. Падрастаючае маладое пакаленне павінна не толькі добра п а з н а ц ь, але і глыбока п р а ч у ц ь асноўныя этапы барацьбы Ленінскага комсамола. Тут, вядома, не абыйсціся без мастацкай літаратуры, якая не замяняе гісторыі, але надзвычай яе дапаўняе.

Элементы гісторыі комсамола мы знаходзім у творах Н. Багданава, Г. Шубіна, А. Безыменскага, Б. Карнілава, А. Жарава, М. Коласава, Б. Гарбатава, Г. Буткоўскага. Але паўней за ўсё выяўлена работа комсамола ў рамане Астроўскага „Як гартавалася сталь“. З пэўнымі агаворкамі гэты раман можна назваць „мастацкай гісторыяй“ комсамола Украіны. Узнікненне першых ячэек, работа комсамольцаў з беспартыйнай моладдзю, іхны ўдзел у грамадзянскай вайне, у мірным будаўніцтве, першыя з'езды комсамола, барацьба з трацкізмам, усё гэта знайшло паслядоўнае адлюстраванне ў рамане.

Зразумела, Астроўскі мог занядбаць частку фактычнага матэрыялу, які ўяўляе непасрэдную цікавасць для г і с т о р ы к а. Але затое ён праўдзіва паказаў п р а ц э с ф а р м а в а н н я Ленінскага комсамола, працэс яго ідэйнага росту і класавай загартоўкі, а галоўнае, схапіў дух той эпохі, зрабіў рад мастацкіх абагульненняў.

Астроўскі пераканаўча паказаў, што сапраўднай школай, якая фармуе новага чалавека, з'яўляецца ш к о л а к л а с а в а й б а р а ц ь б ы. Бяручы ўдзел у ёй, комсамолец загартоўвае свой характар і становіцца сапраўдным большэвіком.

Героі Астроўскага ў поўнай меры адчуваюць „прыемнасць“ актыўнага быцця ў рэволюцыі, актыўнага ўдзелу ў яе баях. Самае жудаснае для Карчагіна гэта ўсведамленне таго, што ён можа аказацца няздольным змагацца ў першым шэрагу байцоў. Самае радаснае—усведамленне таго, што ў чырвоным сцягу, які афарбаваны крывёю рабочых і сялян, ёсць і ягоная кропля крыві, што не вычарпана магчымасць барацьбы.

Зразумела, барацьба можа быць і бяскроўнай. Комсамольцы, якія ўдзельнічалі ў разгроме ворагаў совецкай улады, паказваюць узоры геразма і на працоўным фронце. Гэта „мірная“ работа, як і барацьба на фронце, з'яўляецца экзаменам на большэвіцкую вытрымку. Не ўсе вытрымліваюць гэта выпрабаванне. Выяўляюцца трусы, дэзертыры, няўстойлівыя. Але ядро застаецца і прадаўжае барацьбу. У працэсе гэтай барацьбы адбываецца адбор чалавечага матэрыяла, лепшых людзей рэволюцыі, якія складаюць яе залаты фонд, яе каштоўнейшы капітал.

У той-жа час Остроўскі паказаў, што класавай загартоўцы комсамольцаў спрыяе барацьба з дробнабуржуазнымі плынямі, у першую чаргу з контррэволюцыйным трацкізмам—за чыстату ленінскага вучэння.

Лягчэй за ўсё было-б пературарыць герояў у нейкія „рупары ідэй“, але гэта азначала-б, што Остроўскі, правільна арыентаваны ў палітыцы, ігнаруе ж ы в у ю  м а с т а ц к у ю  п л о ц ь.

Комсамольцаў Остроўскага яднае барацьба, супольнасць класавых інтарэсаў; яны ўсвядомілі значэнне большэвізма, як адзінай сілы, што разбурае з усёй бязлітаснасцю капіталістычны свет. Але гэтыя комсамольцы н е  п а д с т р ы ж а н ы  п а д  а д з і н  г р э б е н ь. Яны розныя па ўзроўню развіцця і сваіх індывідуальных асаблівасцях.

Вось комсамолец Хараводзька. Ён прывёў у райком усю ячэйку, здзівіўшы таварышоў сваёй ваеннай выпраўкай. Аказваецца,— Хараводзька правакаваў мабілізацыю комсамольцаў, каб гэтым шляхам праверыць баявую гатоўнасць сваіх рэбят. Яму ўказваюць на недапушчальнасць падобных метадаў работы, але ён не згодны, рашуча не згодны.

— Што ты мне кажаш!—Гэта-ж самая зручная праверка. Тут табе без падману кожнага відаць. Я іх для большай важнасці хацеў у акругу цягнуць, ды прытаміліся хлопцы. Няхай ідуць дадому. Толькі ты, Карчагін, скажы ім прамову абавязкова, а то як-жа без прамовы, не падыходзіць... Скажы маўляў, мабілізацыя адменена, а ім за геройства гонар і слава“.

Наіўнасць Хараводзькі відавочна. Але іх багата было прыгожых у сваёй наіўнасці хлапцоў, прагнучых гераічнага подвіга, барацьбы. Наўпадоб мецерлінкоўскім душам з „Сіняй птушкі“, якія жадалі нарадзіцца датэрмінова, і рваліся на вольны свет, насуперакі стрымліваючай іх сіле, яны гарэлі жаданнем—як мага хутчэй атрымаць баявое хрышчэнне.

Побач з Хараводзькам мы бачым комсамольца Разваліхіна, які не супроць пабразгаць зброяй. У думках параўноўваючы сябе з адным з герояў Купера, ён ішоў на шпацыр у лес, узброены з ног да галавы, адкрываў страляніну па варонах, спыняў адзінокіх праходзячых і, як запраўскі следчы, дапытваў: хто, адкуль і куды трымае шлях. Паблізу горада Разваліхін разбройваўся, вінтоўку соваў пад сена, рэвальвер у кішэню і ў акругком комсамола ўваходзіў у сваім звычайным выглядзе.

Як непадобна гэта парадная рэволюцыйнасць і ўяўная пільнасць Разваліхіна на шчырую, хоць і наіўную дэманстрацыю баявой гатоўнасці ячэйкі і яго, Хараводзькі.

Тэмпераментны комсамолец Жаркі, Хараводзька, развяжлівая, разумная Усціновіч, Карчагін (аб ім гутарка пойдзе асобна),—гэтыя комсамольцы неаднолькава добра акрэслены, але яны ствараюць багатую і маляўнічую групу.

Арганізавана кіруе партыя ростам гэтых комсамольцаў: яна паказвае ім прыклады бясстрашнасці, арганізуе іхную вучобу, лечыць ад хвароб „дзіцячай левізны“. І зноў-такі, працэс кіраўніцтва партыі комсамолам атрымаў у рамане канкрэтнае мастацкае выражэнне.

Жухрай вучыў Карчагіна англійскаму боксу. Гэта навука дасталася яму нялёгка. Не раз ляцеў ён потырч, збіты з ног ударам кулака Жухрая, але ў канцы-канцоў аўладаў боксам, які так добра спатрэбўся ў далейшай барацьбе.

Перад намі маленькая дэталь, але яна ўдала падкрэслівае якасці кіраўніка-большэвіка, які выхоўвае ў Карчагіну мужнасць. Карчагін з дзіцячых год паказваў баявы тэмперамент, але Жухраю важна было пераключыць „задзірыстасць“ Карчагіна на рэйкі арганізаванай барацьбы. Пры гэтым Жухрай падкрэслівае: „біцца наогул не шкодзіць, толькі трэба ведаць—каго біць і за што біць“.

Н. Остроўскі не пазбегнуў некаторага схематызма ў паказе комуністаў, але яму ўдалося паказаць наглядныя і канкрэтныя формы кіраўніцтва партыі ростам асобных комсамольцаў і комсамола ў цэлым.

* * *

„Бывай, родны гаралзішка, прыземісты, з непрыгожымі дамішкамі і каравым шасэ. Бывайце, блізкія, бывай, Валя, бывайце, таварышы, пайшоўшыя ў падполле. Насоўваюцца чужыя, злаславыя, якія не ведаюць літасці, бела-паляцкія легіёны“.

Н. Остроўскі з вялікай мастацкай сілай паказаў аджываючы стары свет, яго подласць і агідную ўчэплівасць. Ворагі рознай масці, аб'яднаныя зоалагічнай нянавісцю да рэволюцыі, ствараюць у рамане багатую галерэю. Тут петлюраўцы, пільсудчыкі, буржуі, кулакі, абываталі, мяшчане.

Асабліва добра паказвае Остроўскі залатую моладзь, буржуазных сынкоў, якія логікай свайго развіцця ператвараюцца ў закончаных фашыстаў.

Сухарка, які збіраецца вудзіць рыбу з Тоней, убачыў, што месца яго паненкі „занята“ Паўкам.

— Зматвай вудачкі зараз-жа,—звярнуўся Сухарка да Паўкі.— Ну, хутчэй, хутчэй,—казаў ён, бачучы, што Паўка прадаўжае спакойна вудзіць.

Гэта рэпліка трапна адлюстроўвае пошлы эгаізм гімназісціка, які адчувае сябе гаспадаром не толькі ў дэпо, дзе верхаводзіць яго бацька, але і ў сусвеце.

Асобае месца займае ў рамане паказ дырэкторыі і „слаўнага“ воінства Петлюры.

Петлюраўскія атаманы і старшыны робяць выгляд, нібы яны прадаўжаюць традыцыі Запарожскай сечы. Палкоўнік Голуб урачыста

ўехаў у Шэпетаўку на вараным жарабку і, нягледзячы на цёплае красавіцкае сонца, быў у каўказскай бурцы і ў смушковай запарожскай шапцы.

Але Маркс даўно заўважыў, што гісторыя паўтараецца ў першы раз як трагедыя, а ў другі раз як фарс. Гульня петлюраўскіх старшын у запарожцаў дужа патыхае фарсам, разыграным у дадатак сродкамі правінцыянальнага балагана.

Остроўскі бязлітасна выкрывае практыку Петлюры, паказваючы яе адкрытую кулацкую сутнасць. Нездарма-ж дывізія, якая ахоўвае важнейшы для дырэкторыі стратэгічны пункт, напалову складаецца з кулацкіх элементаў. На вечары, які наладзіў Голуб, прысутнічала верхавінка петлюраўскай інтэлігенцыі: папоўны, украінскія настаўнікі, эсэраўскія паследышы, служачыя графа Патоцкага, кучка мяшчан, якая называла сябе „вільнім козацтвом".

З жахлівай праўдзівасцю малюе Остроўскі карціну пагрома. Натхніцель пагрома, паручык Палянцаў, які імянуе сябе Паляніцай, паказаны ва ўсім разгоне яго брудных і крывавых спраў. Цынізм гэтага да канца дэмаралізаваўшагася галаварэза выяўляецца ў здзеклівай заўвазе аб неабходнасці „даць казакам палёгку", г. зн. магчымасць рабаваць і гвалціць.

Пан Голуб непасрэдна ў пагромах не ўдзельнічае (ахвота яму пэцкаць рукі!). Апасаючыся магчымых непрыемнасцей, ён выязджае на час з горада. Невыгодна было Голубу праславіцца пагромшчыкам і ў сувязі з уступленнем у... эсэраўскую партыю. Якая бездань брыдот, двудушніцтва ва ўсім гэтым маскарадзе! Аб'ектыўна Голуб больш гнусны, больш пошлы за свайго ад'ютанта, які не маскуецца і адкрыта паказвае свой агідны твар.

Ярка, прытым упершыню паказаны „сам" Петлюра. Як і належала чакаць, паміж палкоўнікам Голубам і галоўным атаманам — невялікая дыстанцыя. Сымон Петлюра—толькі больш хітры, значыць—больш **ілжывы** і **двудушны** вораг працоўнага народу, хоць ён і драпіруецца ў мантыю „шчырага дэмакратызма". Пошлая двудушнасць галоўнага атамана вытыркаецца асабліва ярка ў яго рэпліцы буржуазнай яўрэйскай дэлегацыі, што прасіла абароны ад пагромшчыкаў.

— Мая армія —рэзка абарваў яго Петлюра,—пагромамі не займаецца. Вы гэта павінны запамятаць.

* * *

Сіла твору Остроўскага не толькі ў праўдзівым паказе класавай барацьбы на Украіне, але і ў яго **ідэйнай насычанасці**. Твор ставіць і вырашае рад пытанняў, якія маюць першаступеннае прынцыповае значэнне.

Ёсць катэгорыя пісьменнікаў, якія стараюцца ставіць у сваіх творах вялікую колькасць „злобадзённых" пытанняў. Але гэтыя творы нагадваюць нейкі „універмаг" праблем. Паглыбленае вырашэнне падмяняецца ў іх аматарскім дылетантызмам, а сапраўдная тэндэнцыйнасць—прэснай і нуднай дыдактыкай.

Нічога падобнага мы не бачым у Остроўскага.

Ён не займаецца ілюстратарствам, г. зн. прыдумваннем палажэнняў, якія павінны растлумачваць тую ці іншую думку. Як правільна заўважае Дабралюбаў, „мастацкі твор можа быць выражэннем вядомай ідэі не таму, што аўтар заняўся гэтай ідэяй пры яго стварэнні, а таму, што аўтара яго ўразілі такія факты рэчаіснасці, з якіх гэта ідэя выцякае сама па сабе“.

Вось іменна: ідэі „не прыцягнуты за валасы, яны арганічна выцякаюць з ходу апавядання, у працэсе якога Остроўскі паказвае сваё ўменне зліваць у адно „факт і пункт гледжання“.

Няма патрэбы спыняцца на ўсіх пытаннях, што ўзняты ў кнізе Остроўскага, але некаторыя з іх неабходна вылучыць.

„Мудрэц ні аб чым не думае менш, чым аб смерці“,—кажа Спіноза. Нам, хто любіць зямлю і барацьбу, хто будуе шчаслівае новае жыццё, часам некалі думаць аб смерці, вялікі філосаф! Але калі нам даводзіцца думаць аб смерці, дык мы яе асэнсоўваем зусім па-інакшаму.

Остроўскі паказаў надзвычайную мужнасць большэвікоў, якая праяўляецца з асаблівай сілай у іх адносінах да смерці.

Андрашчук ведае, што „наша задача не гінуць, а жыць“ (кажучы словамі паэта), але „паміраць калі ведаеш за што—асобая справа. Тут у чалавека і сіл набіраецца. Паміраць абавязкова трэба з цярпеннем, калі за табой праўда адчуваецца“.

Незадоўга да пакарання смерцю комсамольцаў, адзін з асуджаных, Сцяпанаў, казаў:

— Не трэба слёз. Плачце тут, каб не плакаць там. Нечага сабак радаваць. Усёроўна літасці нам не будзе, усёроўна гінуць прыходзіцца. Няхай ніхто з вас не поўзае на каленях. Таварышы, памятайце: паміраць трэба добра.

Цікава адзначыць тут пераклічку Остроўскага з Фурманавым, які пісаў у „Мяцежы“:

„Калі быць канцу—значыць трэба яго ўзяць такім, як лепш нельга. Гінучы пад кулакамі і прыкладамі, памірай агітацыйна. Так памры, каб ад смерці тваёй была карысць. Памерці па-сабачаму з віскатам, трымценнем і мольбамі—шкодна. Памірай добра“. „Набярыся сіл, усё выверні з нутра свайго, усё мабілізуй у сябе—і ў мазгах, і ў сэрцы—не шкадуй, што багата растраціш энергіі, бо гэта твая апошняя мабілізацыя. Памры добра!“

У гэтых двух абзацах сфармулявана бясстрашнасць пролетарыята, які проста глядзіць смерці ў вочы ў імя праўды новага ладу, якую ён нясе з сабой і заваёўвае ўпартымі баямі.

Кніга Остроўскага дае багаты матэрыял і для асэнсавання праблемы шчасця.

Бальзак гаворыць:

„Нішто не дасканала ў гэтым свеце апрача няшчасця“.

З ім пераклікаецца Андрэ Жыд, які пісаў у „Дзённіку“:

„Мне важна не самому трапіць у рай, а прывесці другога. Невыносна тое шчасце, якім няма з кім падзяліцца... А што тады сказаць аб шчасці, прыдбаным за кошт другіх...“

Аб‘ектыўны сэнс гэтых фармулёвак адзін: у свеце эксплаатацыі, дзе „чалавек чалавеку воўк“, шчасце можа быць здабыткам „ба-

ловней судьбы“. Але гэтае, з дазволу сказаць, шчасце базуецца на трагедыі мільёнаў людзей, даведзеных да становішча рабства і галечы.

Ключы шчасця знаходзяцца ў руках пролетарыята, які змагаецца і перамагае ва ўпартай барацьбе. Пролетарыят, а не хто-небудзь другі можа вырашыць праблему шчасця на станоўчай аснове, ствараючы прадпасылкі для шчасця мільёнаў. Практыка будаўніцтва соцыялізма ў нашай краіне з'яўляецца таму яркім пацверджаннем.

Астроўскі паказаў у сваім рамане глыбокую радасць барацьбы, у працэсе якой пролетарыят здабывае сабе шчасце. Але што застаецца рабіць маладому чалавеку, выбітаму з калеі жыцця страшэннай хваробай? Падначаліцца? Адрасціць сабе бараду і жыць на пенсіі? Не, Карчагін кідае выклік свайму лёсу. Ён напружвае свае сілы і вяртаецца ў строй жыцця з новай зброяй. Іншымі словамі, Астроўскі паказаў, што нават глыбокая інваліднасць не адбірае ў людзей права на шчасце. Не выпадкова сляпы пісьменнік Разанцаў назваў сваю кнігу „Светлаю цьмой“. У гэтым сімвалічным загалоўку сказалася новае пашыранае разуменне шчасця, якое свеціць і для людзей невідушчых, для тых, хто з'яўляецца ў краінах капітала грамадскім адкідам.

Рознастойнасць пытанняў, што ўзнімае Астроўскі, не выклікае ў чытача адчування таго, што перад ім „крышанка“ праблем. Адказнасць комсамольца за паводзіны яго сясцёр і братоў (эпізод з Валынцавай), барацьба з распушчанасцю ў побыце (эпізод з Файло), мужнасць, сяброўства,—усе гэтыя пытанні, па сутнасці кажучы, з'яўляюцца пытаннямі аднаго парадку, пытаннямі большэвіцкай этыкі.

Барацьба за новыя адносіны паміж людзьмі, за новыя нормы паводзін, за этыку соцыялізма, якая з'яўляецца адначасова барацьбой з перажыткамі капіталізма, займае вялікае месца ў нашым жыцці. Вось чаму, у прыватнасці, кніга Астроўскага так хвалюе чытача, бярэ за жывое.

Яна хвалюе яшчэ і таму, што ўчарашні дзень пераклікаецца ў ёй з нашай цяперашняй работай і барацьбой.

Зразумела, каласальнае значэнне мае той факт, што Астроўскі напісаў свой твор у 32-м годзе. Практыка соцыялістычнага будаўніцтва дала магчымасць Астроўскаму глыбока ўскрыць працэсы аднаўленчага перыяду і глыбока паставіць праблемы комуністычнага выхавання моладзі.

Бачучы маўклівую ўпартасць, з якой людзі пракладвалі жалезную дарогу, Патошкін пытаўся ў сябе:

— Што гэта за людзі? Што за незразумелая сіла? Бо калі надвор'е пратрымаецца яшчэ хоць дзён восем—дык мы падыйдзем да лесараспрацовак. Выходзіць—век жыві, век вучыся і на старасці дураком застанешся. Гэтыя людзі сваёй работай б'юць усе разлікі і нормы. (Падкрэслена намі.—*М. Б.*)

Рэпліка аб людзях, якія „б'юць усе разлікі і нормы“, гучыць для нашага вуха магутнай музыкай. Яна мімаволі напамінае аб людзях стаханаўскага руху, што ўстанавілі сваёй работай сусветныя рэкорды.

Галоўны інжынер збянтэжаны. Чым растлумачыць добраахвотнае імкненне рабочых да чыстаты цэха? Прыбіранне-ж вытвараецца ў нерабочы час?

На гэтае шчырае неўразуменне Карчагін адказвае:

— Пачакайце, мы гэту справу разгорнем шырэй. Вам яшчэ будзе на што паглядзець і падзівіцца.

Гэта рэпліка выкліча ў суча нага чытача цэлы рад асацыяцый. Чытач у думках акіне нашу будоўлю, яму ўявяцца на міг велічныя карпусы, фабрыкі, заводы, новыя гарады-гіганты, цудоўныя палацы культуры, камфартабельныя кватэры для рабочых і многае іншае, што можа быць не снілася нават Карчагіну. Галоўнае—тыя новыя пачуцці, аб якіх апавядаў Астроўскі, як аб зялёных, што толькі нараджаюцца (пачуццё радзімы, соцыялістычнай уласнасці і г. д.), сталі глыбокімі, змястоўнымі пачуццямі мільёнаў людзей эпохі Леніна—Сталіна.

## ПАВЕЛ КАРЧАГІН І ПРАБЛЕМА ГЕРОЯ

Бясспрэчнай заслугай Астроўскага з'яўляецца стварэнне вобраза станоўчага героя, у якім абагулены лепшыя рысы маладога пакалення бальшэвікоў.

Канкрэтнае мастацкае ўвасабленне вобраза Карчагіна не абыйшлося без недахопаў. Але Астроўскі бліжэй за многіх пісьменнікаў падыйшоў да стварэння станоўчага героя; яго раман далёка пакідае за сабой спробы некаторых, нават задужа кваліфікаваных пісьменнікаў і ўносіць прынцыпова новае ў трактоўку вобраза маладога чалавека.

Тут дарэчы будзе ўспомніць хоць-бы „Строгого юношу“ Алешы. Вуснамі Грышы Фокіна, героя гэтай кіно-п есы, Алеша прапануе комплекс душэўных якасцей, які павінен выхоўваць у сабе кожны комсамолец. Скромнасць, шчырасць, вялікадушнасць, шчодрасць, цэламудранасць, жорсткія адносіны да эгаізма, сантыментальнасць—такія гэтыя якасці. Але бяда ў тым, што ўсе гэтыя маральныя катэгорыі не напоўнены канкрэтным класавым зместам. Абстрактнасць Алешы адчуваецца ў больш чым „арыгінальнай“ трактоўцы сантыментальнасці („Каб не толькі маршы любіць, але і вальсы“).

Следам за Алешай Эрэнбург высоўвае вуснамі Мезенцава патрабаванне эмацыянальнасці. „Калі ў Тургенева людзі шмат адчувалі, дык мы павінны ў сто разоў больш адчуваць“. („Не пераводзячы дыхання“.)

Але ні Эрэнбург ні Алеша не адчувалі інтэлектуальнага пафасу новага пакалення, якое ажыццяўляе зараз з найбольшай паўнатой „рэволюцыйны паход у навуку“. А галоўнае, Эрэнбург і Алеша кладуць на асобныя палічкі розум і пачуцці, не бачачы іхняй злітнасці ў рэальным працэсе выхавання новага чалавека.

Характэрна, што ў комплексе Алешы не засталося месца для класавай нянавісці. Але комсамолец, які не ўмее ненавідзець—хіба гэта комсамолец? Нянавісць, глыбокая класавая нянавісць, яна павінна быць у крыві новага чалавека, бо „той, хто нянавісці не нараджае, не мае права на любоў“.

Комплекс Олешы, нягледзячы на яго арыгінальнасць, аказваецца на праверцы зборам туманнасцяй, пазбаўленых класавага акрэслення.

Не такі комплекс прапанавалі нам лепшыя сярод лепшых людзей чалавецтва, благароднейшыя розумы рабочага класа. На запытанне дзяцей—якую вартасць ён больш за ўсё цэніць у людзях, Маркс адказаў:

— Прастату.

— Якая ваша адразняльная рыса?—спыталіся дзеці ў Маркса.

— Адзінства мэты,—адказаў Маркс.

— Ваша ўяўленне аб шчасці?

— Змагацца,—адказаў Маркс.

— Назавіце ваш любімы занятак?

— Корпацца ў кнігах.

Аб адзінстве мэты і радасці барацьбы казаў нядаўна і таварыш Сталін у сваім прывітанні туркменскім коннікам, што прыехалі ў Маскву з далёкага Ашхабада.

„Толькі яснасць мэты, настойлівасць у справе дасягнення мэты і цвёрдасць характару, якая ломіць усе і ўсякія, перашкоды, маглі забяспечыць такую слаўную перамогу. Партыя комуністаў можа павіншаваць сябе, таму што іменна гэтыя якасці культывуе яна сярод працоўных усіх нацыянальнасцяй нашай неабсяжнай радзімы“.

Адказ К. Маркса на „анкету“ дачок і словы прывітання таварыша Сталіна месцяць у сабе цэлую праграму фармавання соцыялістычнага характару, комплекс уласцівасцей, якія павінен развіваць у сабе новы чалавек.

Варта ўважліва прыглядзецца да Паўла Карчагіна і мы ўбачым у ім ярка выяўленыя гэтыя рысы.

Яснасць мэты, настойлівасць у дасягненні мэты і цвёрдасць характару—вось што з'яўляецца галоўным у Карчагіну.

Мужнасць не пакідае Карчагіна на ўсіх этапах яго жыцця і барацьбы, нязменна праяўляючыся ва ўчынках глыбокага волевага значэння. З незвычайнай упартасцю ён наносіць удары ворагу, з выключнай мужнасцю ён пераносіць цяжкасці барацьбы, сваю хваробу, прадаўжаючы заставацца скрозь і ўсюды, пры любых умовах,—байцом.

Надзвычай ярка выяўлена ў Карчагіну класавая нянавісць. На сваім кароткім вяку Карчагін бачыў разбурэнне, жабрацтва, задаволенасць сытых паноў, бачыў зганьбаванне восемнаццацігадовай Фросі, якую прадаваў яе саслужывец па буфету, бачыў лакейства ў самай пачварнай форме. Пазнаўшы несправядлівасць, Карчагін з дзіцячых год убіраў у сябе нянавісць да эксплаататараў, якая з гадамі расла і спела ў ім, дасягаючы высокага гарту. Гэта нянавісць вылілася ў подвігі храбрасці, доблесці і геройства на франтах рэволюцыі.

Тэме нянавісці прысвечаны цэлы рад твораў. Аднак, распрацоўка гэтай тэмы вымушае жадаць лепшага. Многія пісьменнікі эмпірычна трактуюць нянавісць, абмяжоўваючы яе сферай інстынктыўнага і падспуднага. Нават таленавіты Шухаў пераважна паказвае гэтую форму нянавісці.

Карчагін ненавідзіць не толькі фізічных класавых ворагаў, што выступаюць з адкрытым забралам. Ён глыбока ненавідзіць мяшчанства, індывідуалізм, абыватальшчыну, бюракратызм, пошласць, рашуча ўсё, што пярэчыць духу пролетарскага рэволюцыянера.

Аднойчы Карчагіну давялося пачуць разбэшчана-цынічнае апавяданне Файло аб тым, як ён спакусіў дзяўчыну і лёгка расквітаўся з ёю. Карчагін ускіпеў ад абурэння і абазваў Файло жывёлінай. У адказ на гэту абразу Файло ўдарыў Карчагіна кулаком. Ён быў пад хмелем. Карчагін схапіў дубовы табурэт і адным ударам зваліў Файло на зямлю. Пасля, выступаючы перад партыйным актывам, Карчагін казаў аб гэтым інцыдэнце так:

— Адбылася аварыя, і, раней, чым я зразумеў гэта, Файло атрымаў па чэрапу. За некалькі апошніх год у мяне гэта адзіны выпадак партызанства і я яго асуджаю, хаця аплявуха па сутнасці правільная... Я не магу зразумець, ніколі не паміруся з тым, што рэволюцыянер, комуніст можа быць у той-жа час і пахабнейшай жывёлінай, і нягоднікам“.

Такі Карчагін. Ён ненавідзіць пошласць усімі фібрамі сваёй істоты. Але хіба пошласць—абстрактная катэгорыя? Карчагін добра разумее, што пошласць, дзе і як-бы яна не праяўлялася, палітычна шкодна.

У адзін і той-жа час Карчагін здольны на сапраўдную чуласць і любоў да таварышоў па класу. Гэта любоў не сантыментальная, яна не ў словах, не ў клятвах-запэўненнях, яна дзейсна і праяўляецца ў актах сапраўднага сяброўства, тварыскай увагі і клопатаў.

Ці трэба яшчэ казаць аб прынцыповасці Карчагіна? Гэта рыса пануе ў яго характары.

Комсамолец Фідзін зламаў дарагі амерыканскі свердзел. Гэта не магло здарыцца, калі-б Фідзін заліваў свердзел маслам і не стаў-бы працаваць „на сухую“.

Што рабіць з такім комсамольцам?

Цветаеў прапануе абмежавацца вымовай. Карчагін ставіць пытанне аб выключэнні Фідзіна з комсамола за недбайнасць да работы. Бюро правальвае яго прапанову. Карчагін не спыняецца, ён узнімае пытанне перад бюро парткалектыва і дабіваецца свайго.

Аднак, галоўнае ў гэтай павучальнай гісторыі—не самы факт выключэння з комсамола, а тыя вывады, якія зрабіў Карчагін. Выступіўшы спачатку на бюро комсамола, а потым на сходзе парткалектыва, ён паказаў з лічбамі ў руках, што асобныя комсамольцы і члены партыі працуюць горш за беспартыйных, спазняючыся на работу, прагульваюць і сістэматычна дапускаюць брак. Настайваючы на выключэнні Фідзіна, ён патрабаваў асвятлення гэтага пытання ў насценнай газеце, мабілізацыі ўвагі ўсіх комуністаў вакол задач вытворчасці.

Ідэйнасцю Карчагіна прадыктавана яго любазнаўчасць.

Карчагін чытае з вялікім захапленнем мастацкую літаратуру, наладжвае сваю палітвучобу, вывучае Маркса. І ў гэтай яго рабоце над сабой відаць м э т а н а к і р о в а н а с ц ь р э в о л ю ц ы я н е р а.

У прыватнасці, знаёмства з мастацкай літаратурай з'яўляецца для яго актыўным працэсам. Чытанне „Авадня“ дапамагло яму

фармаваць сябе як рэволюцыянера і з'яўлялася цэлай вехай у яго развіцці. Тут-жа хочацца адзначыць цікавую дэталь: Карчагін не толькі сам чытае раман „Авадзень“, але і прапагандуе яго сярод чырвонаармейцаў. Калектывізм стаў яго другой натурай.

Падкупляе ў Карчагіну яшчэ яго юнацкі аптымізм, які не мае нічога супольнага з заўчаснай заспакоенасцю, а тым больш ула-годжанасцю.

Стары каморнік упэўнівае яго, што праз дваццаць год будуць суцэльныя межы, недзе будзе сеяць.

Стары каморнік толькі-што бачыў прыкры ўзлёт аднаасобніц-кіх страсцей, бачыў, як сяляне пабіліся на смерць за межы.

Карчагін таксама назіраў гэтае пабоішча. Больш таго,—дзякуючы яго ўмяшанню, яно было ліквідавана. Але Карчагін не „раскіс“, не паспяшыў далучыцца да думкі аграномa.

— Праз дваццаць год у нас ні адной мяжы не застанецца, та-варыш каморнік,—кажа ён.

Зразумела, аптымізм гэты не выпадковы. Ведае Карчагін: у Паддуб-цах сяляне б'юцца за шматок зямлі, а ў Буданаўцы ёсць узорны калгас.

Глыбокі аптыміст, Карчагін пераконаны ў тым, што не толькі межы, але і граніцы будуць знесены з твару зямлі. Інтэрнацыяна-лізм—адна з асноў яго светапогляду і паводзін. Ён глыбока ўсхва-лёваны, калі бачыць спачуванне польскага вартавога.

— Сябра! Пад салдацкім шынелем у яго б'ецца сугучнае ка-лоне сэрца. Карчагін адказвае ціха па-польску.

Вітанне, таварыш!

Яснасць мэты, настойлівасць у дасягненні мэты, цвёрдасць ха-рактару, якая ломіць усе перашкоды, глыбокая нянавісць да во-рага і цёмных сіл старога свету, большэвіцкая прынцыповасць і непрымірымасць, інтэрнацыяналізм, скромнасць, прагнасць да ведаў, аптымізм і творчыя турботы—такія асноўныя рысы Карчагіна, сапраўднага героя комсамола. Ці няпраўда, як мала падобны гэты комплекс, рэалізаваны ў жывой плоці і крыві героя, на катэхізіс „Строгого юноши“!

Гаворачы аб задачах Саюза моладзі, Ленін падкрэсліў важнасць барацьбы за комуністычную этыку, якая „вынікае з інтарэсаў кла-савай барацьбы пролетарызма“ і „зусім падначалена“ гэтым інта-рэсам. Павел Карчагін з'яўляецца жывым увасабленнем гэтай, па-ленінску зразуметай, комуністычнай этыкі, але, на шчасце, ён не ператвораны Остроўскім у хадзячую дабрачыннасць, у комуністыч-нага Праўдзіна.

Адбылося так таму, што, па-першае, Остроўскі прачуў „адзіны пафас“, які ляжыць у аснове ўсёй духоўнай сутнасці Карчагіна, па-другое, здолеў паказаць комуністычную сутнасць свайго героя ў канкрэтных рознастайных учынках, і, па-трэцяе, паказваў свайго героя ў руху, у працэсе яго паступовага развіцця і росту.

Каб не быць голаслоўнымі, прывядзем некалькі прыкладаў.

Паўка Карчагін рашыў „абясшкодзіць“ нямецкага лейтэнанта. Для гэтага ён пранікае ў кватэру Ляшчынскіх і, рызыкуючы жыц-цём, скрадае выдатны дванаццацізарадны рэвальвер лейтэнанта. У гэтым учынку праявілася наіўнасць юнага рэволюцыянера, які

шукае выйсця сваёй нянавісці да нямецкіх акупантаў, але які не ведае форм арганізаванай класавай барацьбы. Выратаванне Жухрая ад петлюраўцаў—другі па ліку пераічны ўчынак Карчагіна, але гэты ўчынак ужо сведчыць аб больш высокім узроўні класавай свядомасці Карчагіна.

Другі прыклад: начальнік штаба загадаў Карчагіну злезці з каня. Камандзіры і ваенкомы батальёнаў усеабучу не павінны мець коней, яны абавязаны праходзіць манеўры пешша. Карчагін спасылаецца на дрэннае становішча здароўя („ногі распухлі"). Але камандзір няўмольны.

„Калі вы інвалід, дык я не вінаваты, што вы знаходзіцеся на ваеннай службе".

Карчагіна нібы сцебанулі бізуном. Тузануў каня за ўздзечку, але моцная рука Гусева стрымала яго. У Паўла некалькі мінут змагаліся два пачуцці: крыўда і вытрымка. Але Павел Карчагін ужо быў не тым чырвонаармейцам, што мог перайсці з часці ў часць не думаючы. Карчагін быў ваенком батальёна, гэты батальён стаяў за ім. Які-ж прыклад дысцыпліны паказаў-бы ён яму сваімі паводзінамі. Не для гэтага-ж хлышча ён выхоўваў свой батальён. Ён вызваліў ногі са стрэмяў, злез з каня і, перамагаючы вострую боль у суставах, пайшоў да правага фланга.

Гэта дэталь добра падкрэслівае рост класавай самасвядомасці Карчагіна. Не так даўно Карчагін зрабіў партызанскі ўчынак: нягледзячы на забарону начальства, ён самохаць перайшоў у будзёнаўскую часць. Цяпер Карчагін гэтага не стаў-бы рабіць. Ён разумее: большэвіцкая дысцыпліна выпрацоўвалася не для таго, каб яе парушаць, ды тымі людзьмі, якія павінны служыць прыкладам.

Нарэшце, мужныя, пераічныя паводзіны Карчагіна ва ўмовах пасцігнуўшай яго фізічнай катастрофы ўспрыймаюцца як натуральны вывад з усяго яго папярэдняга жыцця, поўнага прыкладаў доблесці і адвагі. Астроўскі паказаў працэс тэрмічнай апрацоўкі волі камсамольца, якая загартоўваючыся ў баях, набывае цвёрдасць і трываласць сталі.

Вось чаму верыш у Карчагіна. Перад намі не схема, а канкрэтна распрацаваны соцыялістычны характар.

А ўрэшце, лепшым сведчаннем жыццёвасці Карчагіна з'яўляецца той факт, што моладзь (ды ці толькі моладзь!) шчыра палюбіла Карчагіна і гатова браць з яго прыклад.

Дэлегат Х з'езда комсамола П. М. Корнеў (сакратар гарадскога камітэта комсамола Хабараўска) расказваў нам:

„Мы накіроўвалі комсамольцаў на лесараспрацоўкі, хлопцы ў сваёй пераважнай большасці ішлі на гэту справу з ахвотай. Але былі пэўныя комсамольцы, якія ўхіляліся ад гэтай справы. Тады мы звярнуліся да аднаго з іх з пытаннем:

— А ты чытаў „Як гартавалася сталь"?

— Чытаў.

— А ты памятаеш, у якіх умовах Карчагін будаваў вузкакалейку ад станцыі да лесараспрацовак. Б'юць нягоды. Не было дзе жыць... Нехапала будаўнічых матэрыялаў... На абед елі посную сачыўку... Пагражалі банды... А ўсё-ж як працавалі?

Комсамольцу робіцца сорамна за сваю маладушнасць. Ён гатовы неадкладна выправіць сваю памылку.

Такая сіла кнігі. Такая чароўнасць героя.

## ОСТРОЎСКІ ЯК МАСТАК

Таленавітасць Остроўскага ні ў каго не выклікае сумнення. Аднак, нашы крытыкі ахвотней за ўсё гавораць аб „матэрыяле" кнігі, але мала, вельмі мала адзначаюць яе мастацкія вартасці. Дэкларацыйныя заявы аб таленавітасці аўтара, не падмацаваныя разборам яго мастацкіх сродкаў, нічога не даюць ні пісьменніку, ні—тым больш—чытачу, які не заўсёды разбіраецца ў спецыфіцы літаратуры.

Зразумела, ні аб якім завершаным майстэрстве не можа быць і гутаркі. Дараванне Остроўскага—яркае, свежае, але маладое дараванне. Закрываць вочы на недахопы яго кнігі не варта.

Остроўскі творча прагны. Ён уключае ў сваю арбіту шырокі круг людзей, вялікую колькасць фактаў. Але колькасць не заўсёды пераходзіць у якасць. Остроўскі не здолеў надзяліць усіх герояў той жыццёвасцю, якая надае кожнаму вобразу індывідуальны і канкрэтны выраз. Акім, Сегал, Міхайла і многія другія застаюцца ў межах схемы.

Але нават Карчагін, які абрысаваны ў цэлым ярка і пуката, патрабуе дадатковай рэтушы. У кнізе паведамляецца, што Карчагін чытаў Маркса і працаваў над павышэннем свайго тэарэтычнага ўзроўню. Але гэты цікавы і змястоўны працэс толькі названы.

Мова няроўная. Тут і там сустракаюцца газетныя і штампаваныя выразы, якія сушаць стыль апавядання.

„І вялікі, дужы чалавек, пераконаны большэвік, абветраны морскімі шквaламі, член РСДРП з 1915 года расказваў жорсткую праўду жыцця маладому качагару, які глядзеў на яго зачараванымі вачыма".

Остроўскі выпускае цэлую абойму эпітэтаў (вялікі, дужы, пераконаны), не заўважаючы, што гэткі пералік не спрыяе канкрэтызацыі вобраза. Так, раман Остроўскага не бездакорны. Яго недахопы відавочны. Але відавочна і другое: перад намі не толькі здольны, але і высокаадароны малады пісьменнік. Велізарная творчая энергія б'е з усіх часцін таленавітага рамана.

Кажуць,—матэрыял — палова таленту. Але не ўсякі, нават здольны пісьменнік добра ўладае гэтай „паловай". Майстэрства мастака праяўляецца ў размяшчэнні матэрыяла, яго арганізацыі, а галоўнае—у адборы. Як часта лыжка літаратурнага дзёгцю псуе бочку мастацкага мёду!

Остроўскі мог-бы значна сапсаваць раман, калі-б унёс у яго здаровае тэматычнае асяроддзе рад другаступенных момантаў. Але гэтага не здарылася. Раман не расквечан таннай экзотыкай і не абцяжаран натуралістычнай бытаўшчынкай.

Матэрыял мастацтва—людзі, іх учынкі, перажыванні, узаемаадносіны. Аб адаронасці пісьменніка будзем меркаваць, як ярка ён выяўляе людзей і іх характары. Але мы ўжо бачылі, што Остроўскі нядрэнна спраўляецца з гэтай задачай. Яму ўдалося

падслухаць думкі і пачуцці цэлага пакалення людзей і расказаць аб іх з падкупляючай шчырасцю. У абмалёўцы цэлай галерэі вобразаў (не толькі комсамольскіх) Остроўскі паказаў сябе назіральным мастаком з немалым псіхалагічным тактам.

Чытач, канешне, добра памятае сцэну ля агня. Спачатку Остроўскі радам удалых штрыхоў апісвае знешнія абставіны:

„Шавеліць рыжымі лахманамі агонь. Бурымі кольцамі, спіраллю ўгору ўзнімаецца дым. Не любіць дыму машкара: носіцца яна шпаркім роем, імклівая, непаседная. Воддаль, вакол агню, веерам разлягліся байцы. Агонь фарбуе ў медзяны колер іх твары.

Ля агня ў блакітным попеле прыгрэліся казанкі. У іх пузырыцца вада. Вырваўся з-пад гаручага бервяна зладзеяваты язычок полымя і лізнуў па верху чыёйсьці віхрастай галавы. Галава адхінулася, нездаволена буркнуўшы.

— Цьфу, гарыць.

Вакол засмяяліся.

Паджылы чырвонаармеец у суконнай гімнасцёрцы, з падстрыжанымі вусамі, толькі-што праглядзеўшы на святле руль вінтоўкі, прабасіў:

— Вось хлапец у навуку ўдарыўся—і агню не чуе.

— Ты нам, Карчагін, расказаў-бы, што там вычытаў.

Малады чырвонаармеец, абмацваючы шматок асмаленых валасоў, усміхнуўся.

— Сапраўды, кніжка што называецца, таварыш Андрашчук. Як дабраўся да яе, адарвацца ніяк не магу.

Сусед Карчагіна, курносы юнак, старанна працуючы над раменчыкамі падсумка, перакусваючы зубамі сураву́ю нітку, з цікавасцю запытаўся:

— А пра каго там пішуць?—І, зматваючы на ўкалотую ў шлем іголку абрывак ніткі, дадаў:—Дужа цікаўлюся, калі пра каханне.

Вакол зарагаталі. Матвейчук узняў сваю стрыжаную ёжыкам галаву і, кпліва шчурачы хітрае вока, звярнуўся да юнака.

— Што-ж, каханне рэч добрая, Серада. Ты хлапец прыгожы, карцінка! Ад цябе куды ні прыдзеш, дзеўкі з ног збіваюцца. Вось толькі маленькі дэхвект у цябе, нос пятачком. Ды гэта паправіць можна. На ўскрай носа дзесяціфунтоўку Навіцкага падшукаць, за ноч адцягне данізу.

Ад рогату спуджана ўсхрапнулі прывязаныя да кулямётных тачанак коні.

Серада ляніва павярнуўся.

— Не ў прыгожасці справа, а ў кацялку,—выразна стукнуў ён сябе па ілбу.—Вось язык у цябе як крапіўка, а сам ты даўбня даўбнёй. І вушы ў цябе халодныя.

Гатовых счапіцца таварышоў разняў аддзялённы Татарынаў.

— Ну-ну, рэбята, чаго кусацца? Няхай лепш Карчагін пачытае, калі што вартае.

— Сып, Паўлуша, сып!—раздалося з усіх бакоў.

Карчагін прысунуў да агню сядло, усеўся на яго і разгарнуў на каленях невялікую тоўстую кніжку.

Наўрад ці стане хто аспрэчваць мастацкую выразнасць гэтай сцэны. Наяўнасць дэталяў, характэрных для абставін таго часу („Карчагін падсунуў да агню сядло“), умелы падбор эпітэтаў (імклівая, непаседная машкара, зладзеяваты язык полымя), поўны гумару дыялаг, прыёмы ўскоснай характарыстыкі з'яў (ад рогату спуджана ўсхрапнулі коні), вызначаючаяся індывідуалізацыя персанажаў, дынамічнасць апісання,—усё гэта разам узятае абумовіла мастацкасць урыўка.

Асобна трэба сказаць аб мове рамана.

Ёсць рад твораў, якія напісаны зусім літаратурна пісьменна, часам нават віртуозна. Але стыль гэтых твораў пакідае роўнадумным чытача, не хвалюе, не кранае. У ім многае ад „літаратарства“, ад гладкапісу, але зусім мала ад сапраўднай мастацкасці.

Мова Астроўскага не дасканалая, месцамі наіўна лубачная і прымітыўная. Але ў асноўным—гэта мова мастака, а не „літаратарствуючага“ маладога чалавека.

Звярніце ўвагу на мову Карчагіна. Яна ў глыбокай меры індывідуальная. І, калі кажуць „стыль гэта чалавек“, дык моўны стыль Карчагіна з'яўляецца квіт-эсенцыяй яго псіхалагічных асаблівасцяй.

Карчагіну трэба падкрэсліць няшчырасць Цветаева, які ўхіляецца ад простага адказу. Ён кажа:

— Кінь, Дзімка, ездзіць на рэсорах.

Гэты сказ глыбока арганічны ў вуснах Карчагіна, рабочага падлетка, у якога язда на рэсорах асацыіруецца з пэўнымі буржуазнымі звычкамі.

Карчагін не скажа: „Я ўсё яшчэ хварэю“. Ён піша Арцёму: „Жыццё прадаўжае цясніць мяне на фронце барацьбы за здароўе“. Ён не скажа: „Я гатовы перанесці ўсё, абы толькі ачуняць“. Ён піша: „Я гатовы перанесці ўсё, абы толькі вярнуцца ў строй“.

Усе гэтыя звароты, узятыя з ваеннага ўжытку, зноў-такі натуральны для чалавека, які загартоўвае свой характар у непарыўнай барацьбе. Невыпадкова прыхільнасць Карчагіна да дзейснага энергічнага дзеяслова.

Астроўскі паказвае, як паступовы рост Карчагіна адбіваецца і на яго моўных сродках. На пытанне Клімкі „А што гэта палітыка азначае“—Карчагін адказвае:

— А чорт яго ведае!—Кажуць, калі хто супроць цара, ідзе, дык „палітыкай“ завецца.

Колькі трапнасці і правільнай інтуіцыі! ў гэтай слоўна наіўнай формуле.

Юны Карчагін часам „задыхаецца“ ад недахопу слоў, але з гадамі прыходзіць умельства вольна выказвацца. У яго мове адчуваюцца літаратурныя ўплывы (глядзі яго пісьмы да Арцёма, прамовы на сходах), але заўважце: Карчагін не гаворыць чужых слоў, не церпіць банальных выразаў, шаблонных сказаў. Яго мова насычана трапнай вобразнасцю і поўна ўнутранай дынамікі.

Астроўскі падлавіў моўныя асаблівасці розных соцыяльных груп. Мы выразна ўспрымаем трусліва-абывательскі гаварок, і манерна-юрлівы стыль залатой моладзі, і блытаную, уяўна-украінскую мову петлюраўскіх галаварэзаў, і адкрыта-блатны жаргон.

Астроўскі беражліва данёс да чытача песні і прыпеўкі, якія распяваліся ў баявой абстаноўцы і ў гадзіны адпачынку „Смела, таварышы, у ногу“. „Ліся ў даль, наш напеў“. „Ой, на гары, там жніцы“. „Нелюдзіма наша мора“. „Ад тайгі да брытанскіх марэй“—гэта далёка не поўны пералік песень, якія прыведзены ў кнізе.

Побач з гэтымі агнявымі песнямі, якія адлюстроўваюць дух эпохі, якой мізэрнай, ублюдачнай здаецца вось гэта песня петлюраўскіх ваяк!

Што за шум, што за гам
Учыніўся.
То Петлюра на Украіне
Заявіўся.

Сапраўды, гэта вульгарная песенька варта петлюраўскага балагана. Яе бездарнасць з'яўляецца мерай „творчых магчымасцяй“ петлюраўскіх ваяводаў.

Усё гэта гаворыць аб тым, што перад намі мастак і безумоўны мастак, хоць далёка не заўсёды Астроўскі скарыстоўвае да канца свае творчыя рэсурсы.

Савецкая літаратура ведала кнігі аб моладзі, якія, як метэоры, з'яўляліся на літаратурным небасхіле і шпарка патухалі.

Не такая кніга Астроўскага „Як гартавалася сталь“. Поспех яе не мае нічога супольнага з таннай сенсацыяй. Гэта—сапраўдны фундаментальны поспех, разлічаны на доўгія гады.

„Як гартавалася сталь“—кніга вялікай шчырасці, кніга глыбокага сацыялістычнага пафасу і аптымізма, кніга смелых ідэй і яркіх пачуццяў, кніга, авеяная рамантыкай і героікай рэвалюцыйнай барацьбы, кніга, якая вучыць жыць.

Аб'ектыўна кажучы, ні „Мяцеж“, ні „Чапаеў“ Фурманава не з'яўляюцца беззаганнымі творамі з пункту гледжання кампазіцыі, сюжэта, майстэрства выяўлення характараў і мастацкай формы. Але заслужаная слава гэтых твораў не слабее з гадамі. Маючы вялікае пазнаваўчае значэнне, як дакументы эпохі, яны да гэтых пор хвалююць вострай сацыяльнай праблематыкай.

Н. Астроўскі прадаўжае традыцыі Фурманава. Адлюстраванне росту індывідуальнасці ў рэвалюцыі, падкрэсліванне арганізуючай ролі партыі ў гэтым, імкненне да мастацкай прастаты, шчырасць і праўдзівасць—усё гэта родніць Астроўскага з Фурманавым. Але ён уносіць і нешта прынцыпова новае ў савецкую літаратуру, ставячы перад нашай грамадскасцю шырокі круг праблем на надзвычай вострым і хвалюючым матэрыяле.

Вось чаму кніга Астроўскага карыстаецца такім поспехам у чытача. Але наперадзе яшчэ большы поспех. Армія чытачоў Астроўскага будзе расці, і расці не толькі ў нас, але і за-граніцай, дзе кніга Астроўскага набывае палкіх сяброў. І думаецца нам: людзі надыходзячых пакаленняў, якія захочуць атрымаць яркае ўяўленне пра нашу гераічную эпоху і яе выдатных людзей, не пройдуць міма рамана Астроўскага. І ці трэба ў гэтым сумнявацца? Раман натхняе тысячы людзей у іх барацьбе, вучыць іх будаваць і перамагаць.

*А. Кучар*

# „РАДАСНЫ БУДЗЕНЬ“ УЛАДЗІМЕРА ХАДЫКІ

> Таму й дажджом праменняў веснiх
> Прыемна змыць трывог акно,
> І цёплых слоў сабе на песню
> Браць залатое валакно.

Падбор вершаў у гэтым зборніку Уладзімера Хадыкі нельга лічыць удалым. У ім не змешчаны некаторыя лепшыя вершы паэта, аднначасова надрукавана частка рытарычных, слабых і пазбаўленых вялікага і шчырага пачуцця твораў, асабліва ў пачатку зборніка.

Агульнае ўражанне ад зборніка такое: кніга—паказчык даўно чаканае нашай грамадскасцю, моцнае, але запозненае перабудовы паэта.

Сапраўды, у самыя суровыя дні нашага змагання супроць буржуазнага нацыяналізма (напрыклад, у гады 1930—32) Уладзімер Хадыка не толькі не дапамагаў нам у барацьбе, а сам быў пад значным уплывам нацыяналістаў.

І вось толькі ў гады 1934—1935 у паэта з'яўляюцца грозныя словы супроць нашых ворагаў, супроць нацыяналістаў. Як і кожны паэт у перыяд сваёй перабудовы Хадыка не заўсёды яшчэ глыбока і пачуццёва ставіцца да нашай рэчаіснасці і ў зборніку даволі такі многа агульных фраз на адрас ворагаў або публіцыстычных радкоў, услаўляючых пролетарыят, які ўзняў „жалезнае права свае дыктатуры“.

У адрозненне ад іншых зборнікаў нашай паэзіі ў гэтай кнізе няшмат тэм, больш таго, тут можа няма ніякае тэмы, апрача аднае— самога паэта. Менавіта, сам паэт, яго дачыненні да ўсіх падзей эпохі з'яўляюцца тэмай кнігі. Гэта кніга лірыкі. І ўся яна з'яўляецца споведдзю паэта, напісанай з болем, з вялікім пачуццём на ўвесь сапраўдны талент Уладзімера Хадыкі. Яна, гэта споведзь напісана горача і пафасна, то ў ласкава-шчырых тонах, то ў мужных радках аб правадырах рэволюцыі, то ў кволых пейзажах, то нават у прымітыўных радках публіцыстыкі пра наш „поступ і рост“. Уся гэтая споведзь накіравана да нашае радзімы-маці. Кніга Хадыкі—адзін вялікі верш ва ўсіх вышэй пералічаных адценнях і варыяцыях.

Наша крытыка агулам дрэнна бачыць тое, што адбываецца ў літаратуры, не заўважыла яна і перабудовы Уладзімера Хадыкі.

У некаторай частцы твораў гэтай кнігі Хадыка загаварыў совецкай палітычнай мовай у лепшым сэнсе гэтага слова, такой мовай, якой ён да гэтага часу ніколі не гаварыў.

Кажуць, што Хадыка піша такім чынам, што яго цяжка зразумець. Гэта, праўда, і ў вельмі вялікай ступені праяўляецца ў многіх творах паэта. Мы бачым у яго строфы ў якіх зусім супроцьлеглыя думкі: першыя два радкі страфы не адпавядаюць другім двум. Кампазіцыя верша раскіданая, логіка лірычнага пачуцця непаслядоўная, варыяцыі яе нечаканыя. Вельмі часта да гэтага дадаецца і вялікая доля сумбура. Усё гэта праўда. І яно вынікае ад унутранага неспакою паэта, ад пэўнае разгубленасці ў светапоглядзе, якая прымушае яго, не скончыўшы пейзаж прыроды ў першых двух радках страфы, кідацца да сацыяльнага палажэння ў другіх двух, а затым пераскакваць да іроніі над сваёй любай, над самім сабою. Гэта вынікае ад рэшткаў ідэйнай разгубленасці паэта, якая дазваляе яму бачыць рэчаіснасць не цэльна, а асобнымі адценнямі і дэталямі.

Але кніга, як мастацкае цэлае з асобных адценняў і дэталяў складае нейкую цэльную, мастацкі моцную лірычную дэкларацыю паэта. Сапраўды такую лірычную дэкларацыю і дае нам зборнік „Радасны будзень". Пра што пяе паэт у складаных, якія знаходзяцца ў не зусім звычнай для нас сувязі, строфах.

Рытарычныя радкі, прысвечаныя нашаму будаўніцтву, услаўленню жалезнага пролетарыята, калгаснага лада пераплятаюцца і перарываюцца размовай паэта з нейкім чалавекам (часцей гэта яна), блізкім яму ў мінулым, але класавыя шляхі якога са шляхам паэта разышліся. Вялікая колькасць песень і строф, накіраваных супроць нашых ворагаў, асабліва супроць белапольскіх акупантаў, нацыяналістаў, пераплецены з радкамі пра сваю песню, пра яе „жывую плынь", пра тое, як яна магутна спее ў грудзях паэта.

Тонкасць у перадачы пачуццяў, звязаных з прыродай, малюнкі прыроды пераплятаюцца, перабіваюцца грамадскімі матывамі, юмарам у дачыненні да быта, іроніяй над сваёй каханай, горкай іроніяй над мінулым сумным лёсам самога паэта.

Такія настроі чаргуюцца з філасофскімі развагамі пра спадчыну, успамінамі пра дні белапольскай акупацыі, імперыялістычнай і грамадзянскай вайны.

Вось сэнс абагульняючае паэтычнае дэкларацыі Уладзімера Хадыкі на адрас нашай соцыялістычнай радзімы.

Цяпер пяройдзем да ілюстрацыйнай часткі нашага артыкула.

Пачнем з рытарычнасці.

Сапраўды, у пачатку зборніка мы сустракаем вельмі багата агульных месц, мала-прачуленых, дзіўных нават для такога паэта, як Хадыка.

Галоўныя думкі тут у паэта настолькі элементарныя, настолькі неглыбокія, што яны праходзяць па-за свядомасцю чытача. Гэта, пераважна, агульныя словы пра наш „уздым, рост", пра тое, што мы вышлі „з цемры да яснаты". Зразумела, агульныя рытарычныя радкі ў працэсе творчае перабудовы Ул. Хадыкі мелі для яго пэўнае значэнне, але чытача яны не могуць задаволіць у 1935 годзе, а пісаны яны ў 1934 годзе. Агульныя і непераканаўчыя словы мы бачым і ў вершах, накіраваных супроць нашых ворагаў. Здзіўляе незвычайная беднасць і аднастайнасць вобразаў, эпітэтаў, якімі

Ул. Хадыка характарызуе ворагаў—белапалякаў, беларускіх буржуазных нацыяналістаў (груганы, цені, ваўкі, жываглоты, астатні зброд, „звера люты гнеў“, „хто выняў разбойніцкі шворан“, „няхай там лютуе жандар з тупою мордай чорны воран“, „стухлі воўчых вачэй агні“, „на касцях сваёй зрынутай славы памірае варожая сіла“, „я дбайна нож аб нож тачу, калі падходзіць звер“ і г. д.).

Прыемнае выключэнне складае верш „Суседка“, накіраваны супроць „еўрапейскае прастытуткі“ белапанскай Польшчы; верш напісаны з велізарнай злосцю, велізарным сарказмам.

> Любіць вельмі свет прыгод
> І сябе яе асоба.
> Скаліць свой шчарбаты рот
> Сам удалы пан Заглоба.
> Не здаецца стары псюк,
> Брацца вучыцца за грудкі...
> З смелым дзедам смелы ўнук
> Цісне градус польскай вудкі.

Але гэта выключэнне. Рэшта-ж твораў, накіраваных супроць ворагаў, вельмі агульныя, неяркія таксама, як багата неяркіх радкоў, услаўляючых наша будаўніцтва ў пачатку кнігі.

> І зараз тупяцца мячы,
> І марны іх крывавы старт:
> Нікому ў свеце не змагчы
> Рэвалюцыйны авангард.

або:

> З кайданаў цемрадзі астрожнай
> Да светлых дзён прышлі яны.

або:

> Нашых постацей гордых працоўную знаць...
> Хто любіць можа болей краіну такую,
> Дзе сцяною выростае простая *раць*(?!)

і г. д. і г. д.

Але ўжо і праз гэтыя агульныя і бясцветныя радкі прабіваецца вельмі часта ў паэта шчырае пачуццё радасці за перамогі нашай радзімы і гэта з'яўляецца галоўным у зборніку Ул. Хадыкі, тым, што вызначае дамінанту кнігі. Вось, напрыклад, з якімі словамі ён звяртаецца да краіны:

> Каб ў час, тваю узняўшы рань,
> Быць ля старна крутых падзей—
> І крыкнуць ўсёй зямлі:—Устань,
> І кроўным правам валадзей.
> Твой плён і лёс мой на раду
> Адзінай зоркай зіхацяць.
> Ты—дужых рук, вялікіх дум
> Маё працоўнае дзіця.

Такія радкі, напісаныя ў 1934 г., былі прадвеснікамі з'яўлення твораў Ул. Хадыкі „За строем дат і рубрык“ і „Пры святле тваіх усмешак“.

Асабліва выйгравала рэволюцыйная патэтыка ў абрамленні і перапляценні з лірыкай прыроды, а Ул. Хадыка глыбока адчувае прыроду, і арыгінальна выражае пачуцці, звязаныя з прыродай. Напрыклад, на стар. 8-й кнігі сярод бясцветных радкоў пра „ўдарнай працы баявік“ мы знаходзім раптам такое цудоўнае адчуванне „смерці зімы“:

Гудзіць і вые шторм абапал...
Так з гор узнятая зіма
Збягае ўніз пакласці лапу
У снег, каторага няма.

З другога боку Ул. Хадыка вельмі шмат, нават залішне шмат, піша вершаў пра свае вершы. Піша ён пра рост сваіх паэтычных прыкмет „ударных, як праблема кадраў акрэсленых, як родных свет“, з кімсьці спрачаецца за сваю песню і заўсёды гэтыя радкі пра свае творы адценяюцца ледзь чутнай іроніяй:

Калі падкутай рыфмай выб'ю
Я іскры мёртвай пекнаты,—
Мой вырыс песні песняй рыб'яй
Завеш з вялікім правам ты.
Ты лірыкі маёй не любіш
За рэбус і за фарбаў тло...
Ты мой наступны дзень галубіш,
Якому роўных не было.
А я люблю твой светлы эпас,
Твой зрок суровы п'ю да дна...
Душа не параная рэпа,
Жывым агнём гарыць яна.

Возьмем другое больш складанае пытанне, пытанне пра сувязь строф і радкоў у паэзіі Хадыкі. Парушэнне лагічнага сэнсу ў страфе, г. зн. неадпаведнасць першых двух радкоў страфы з наступнымі ў Уладзімера Хадыкі заўсёды, бадай, звязана з патрэбай надаць страфе іранічнае або юмарыстычнае адценне. І от, для зніжэння думкі, ён перабівае яе ці іранічнымі радкамі пра прыроду, пра свае ўласныя вершы, або пра паэтычны быт. Напрыклад:

Інакшым ладам быў закон,
Падрыхтаваны ў друк.
Я быў сапраўдны плытагон,
Зганяў плыты на брук.

Або:

Так прагне верш да формы сціслай,
Калі разыйдзецца рука,
Так пеніцца старая Свіслач,
Неўціхамірная рака.

Верш „Трывога будняў“ яшчэ яскравей ілюструе гэтую з'яву. Бяром дзве страфы побач і бачым, што думка перарываецца ледзь адцененай іроніяй прыроднай дэталяй.

Вярсту галоўнага сутыку
Прабегла будняў талака.
І просяць вусны ў рэштках крыку
Вады азёр, як малака.

Вось перакрыжаванне іроніі з адчувальнасцю ў дачыненні да прыроды, з сваімі асабістымі пачуццямі і складаюць гэтую цяжкую для ўспрыймання сувязь паміж радкамі ў Ул. Хадыкі. Вазьміце такія радкі:

Сякуць падкованыя коні
Празрысты сум... Ты іх спыні:
Як верасень, на падваконні—
Прысядзь, са мной пагамані.
Як верасень, прыдзі і ляпні
Ў спакой перакананы шыб...
Гуртом да вобразаў не трапных
Ніколі рыфмы не дайшлі-б.

Асабліва апошнія два радкі з'яўляюцца вельмі характэрнымі для паэта. Гэта манера перабіваць рэалістычную думку іроніяй над вершамі, адцяняюць умоўнасць, неіснасць усяе карціны. Неісным становіцца ўсё: і прыход яе і запрашэнне сесці, „як верасень на падваконне“ і „пагаманіць“ з паэтам.

Такім чынам мы прыходзім тут да важнага вываду: умоўнасць усіх, на першы погляд, рэалістычных дэталяў, у паэзіі Хадыкі, знішчэнне рэалізма гэтых дэталяй іроніяй. Па праўдзе кажучы, у кантэксце твораў чытача гэта незвычайна раздражняе, нервуе, бо тонка і глыбока пачатая дэталь раптам узлятае на вецер праз іронію, па волі самога паэта:

Вось прыклады:

Праз грані дум прайду у негаць
Прыгонных продкаў, курных хат,
За ўласным ценем мне не бегаць,
Не зводзіць вершамі дзяўчат.

Або:

Ты чорная, як смоль, як вугаль,
Ты светлая, як сон, як май.
К а л і  х л а п ц а  н е  в о з ь м е  з р у г а,
Т ы  н а  г а р э л к у  з а п р а ш а й.

Зразумела, што ў Хадыкі ўсё гэта вынікае ад адсутнасці цэласнага погляду на свет. І здаецца нават, што ён не ўсур'ёз ставіцца да рэчаіснасці. Ён сам падкрэслівае ўмоўнасць усіх паэтычных дэталяй, ён гуляе гэтымі паэтычнымі дэталямі, іранізуе над імі.

Ул. Хадыка паэт пераважна сялянскага складу, з грузам нацыяналістычнага светапогляду, ён на працягу многіх год, аж да канца 1934 года, заставаўся адзін на адзін з сваім унутраным светам, а ўнутраны духоўны свет яго быў даволі такі абмежаваны: у яго ўваходзілі паэтычнае ўяўленне, уменне выражаць псіхалагічна-складаныя адчуванні самога паэта, кніжныя, раней створаныя паэтычныя вобразы і нарэшце, быт, можа нават разам з чаркай гарэлкі.

Нельга сказаць каб гэты зборнік Уладзімера Хадыкі, у які ўвайшлі і шэраг старых вершаў Хадыкі (1928—29 гады), таго перыяду, калі паэт стаяў на нацыяналістычных пазіцыях, быў вызвалены ад гэтых старых настрояў і поглядаў. Сур'ёзнае абвінавачванне трэба тут прад'явіць Уладзімеру Хадыку за тое, што ён арыентаваў сваю паэзію на вузкае кола інтэлігентаў, ён свядома адмяжоўваў, адгараджваў сваю паэзію ад шырокіх народных мас,

ставіў упор на выяўленне сваіх асабістых утрыраваных настрояў і адчуванняў. Гэта галоўным чынам выражана ў яго вершах 1927—28, 29 г., але яшчэ часткова адчуваецца і ў лепшых рэволюцыйных творах Уладзімера Хадыкі, такіх, напрыклад, як „за строем дат і рубрык", дзе аднак сам Уладзімер Хадыка імкліва ідзе да прастаты, адмаўляючыся ад сумбурнай паэзіі. Вазьміце такі лірычны верш Уладзімера Хадыкі як „Пад вакном злавіла кошка мыш"? (1928 г.) Каму з мас чытачоў могуць быць суладны настроі, якія выражаны ў гэтым вершы? Паэт спрачаецца з сваёй любай, раіць ёй „паглядзець у люстэрка роднай плыні", з пагардлівасцю заяўляе, што ён не хоча „мітынгаваць" і „агітаваць" і нарэшце—заключае:

..Пад сталом злавіла кошка мыш,
Хруст касцей напоўніў морак хаты.

Ясна, што ў гэтым вершы стаўка на свае індывідуальныя, прычым дробныя, хваравітыя пачуцці, адмаўленне ад прастаты, рэалізма ў паэзіі. І гэта стаіць у поўнай адпаведнасці з упадніцкімі нацыяналістычнымі настроямі Уладзімера Хадыкі ў тыя гады.

Разбурэнне рэалістычнай дэталі ў спецыфічнай для Хадыкі сувязі радкоў, прыводзіла яго да „зауми", да строф, у якіх ужо нічога, бадай, не зразумееш:

Адказ на дум напластаванне
Кладзе свой нож, каб спосаб даць...
Другія плодзяцца пытанні
Адмерці, выжыць, расцвітаць.

Зразумела, можна толькі дагадвацца, што тут ідзе гаворка пра цяжкае напластаванне дум, якое трэба разрубіць. Але пра гэта можна дагадвацца. Тут мы прыходзім да таго пункта, дзе ў паэта яшчэ жывуць рэшткі ўпадніцкіх сумненняў. Праяўляюцца гэтыя рэшткі ўпадніцкіх сумненняў, а то і буржуазнага нацыяналізма і ў некаторых вершах 1931 года—у супроцьстаўленні вёскі пролетарскаму гораду, у незвычайна абмежаваных і прыкрых радках, дзе паэт вылівае свой сум з прычыны тае, што яму не давядзецца „паехаць на начлег" з такімі добрымі хлапцамі, што „зімы ў хлюпаце адлег каля жалезнай пройдуць брамы" і „вёсны ўзглушанай ганні" і „леты ў штучным бляску камня", што „больш заціснуты ў мурах ён гучных вёсен не пачуе".

Гэта ўсё нагадвае нешта даўно забытае нашай паэзіяй—есенінскае супроцьстаўленне вёскі гораду.

Праяўляецца яно і ў такіх іранічных радках на адрас нашай рэчаіснасці, праўда прыкрытай „тогай нявіннасці":

Усё жыве на свеце,
Каму права дадзена.
Завінуўся вецер—
Вось і песня складзена.

Але часамі і ў пазнейшых вершах Уладзімера Хадыка сумбур у спалучэнні з рэшткамі непераможанага нацыяналізма прыводзіць да нецікавых рэзультатаў.

Так, у цыкле вершаў „Трывога будняў" паэт зусім неправільна разумее нашу рэчаіснасць, паказвае яе ў крывым люстры. Мы ўжо

ў свой час казалі пра ўпадніцкую канцэпцыю гэтага верша, які канчаецца ўяўным самагубствам паэта:

Вятры па горле галасістым
Прагоняць вір крыві і хмар.

Але цікава прасачыць адкуль у паэта такая ўпадніцкая канцэпцыя. А гэта нам раскрывае твор. Ён, паэт, будзе змагацца за сваю паэзію, якая будзе дагаварваць тое „што не дагаварыў народ нялюдны“, ён уяўляе літаратурнае савецкае асяроддзе, як такое, якое змагаецца супроць яго паэзіі, а таму ён будзе:

Змагацца з невядомым
Ісці благому насустрэк.

І калі ў гэтым змаганні не пераможа—тады „паэтычнае самагубства“, а „кайстру сваіх дум“, тое нават, што стойваў ён „перадасць другому майстру, другому сэрцу“.

Такім чынам мы бачым, што ў гэтым творы (1932 г.) Уладзімер Хадыка яшчэ па нацыяналістычнаму супроцьстаўляе сябе савецкай грамадскасці.

Цікава, што чым энергічней адбываецца перабудова Хадыкі, чым бліжэй ён становіцца да нашай соцыялістычнай рэчаіснасці, тым паэзія яго ўсё больш становіцца простай, радзей ён звяртаецца да іроніі, тым больш ён бярэ рэалістычную дэталь і пачынае гаварыць паэтычна—пафаснай мовай, знікае і пакаёвы быт, над якім іранізаваў паэт, і калі іранізуе ён яшчэ над чым, дык над сабою, над сваёй песняй.

Гэта прыметна ўжо і ў дэкларацыйных радках Уладзімера Хадыкі пра сваё месца ў будаўнічай рабоце эпохі, а яшчэ ў большай ступені ў моцнай паэме „За строем дат і рубрык“

Тут кон праўдзівасці прачутай
Раскідала мая далонь,
Мая апошняя пакута,
Лірычная мая аблонь.
Развязаны шляхоў шарады,
На выспрабаваны узор.
Ёсць і маёй тут частка ўлады,
З краінай кроўны дагавор.
Ён для мяне, як след сукрыты,
Як матцы роднае дзіця.
Суровай ніткаю прашыты
Старонкі смерці і быцця.

Тут пачынаецца ўжо Хадыка—савецкі паэт, савецкі лірык.

Нарэшце апошнюю частку нашага артыкула прысвецім самому моцнаму заключнаму акорду ў лірычнай тканіне Уладзімера Хадыкі, які называецца „за строем дат і рубрык“, і што разам з паэмай „Пры святле тваіх усмешак“ складае, бадай, самае моцнае з усяго, што напісана Хадыкам.

Паэма „за строем дат і рубрык“ ёсць выяўленне глыбокіх і хвалюючых пачуццяў паэта ў дачыненні да свае радзімы. Яна, як і іншыя паэмы Уладзімера Хадыкі, складаецца з асобных дэталяй, раскіданых у парадку, прызвычаеным для Хадыкі.

Пачынаецца паэма з цудоўнага пачуцця прыроды, менавіта не апісання прыроды, а паэтавага пачуцця прыроды:

Вятры пяюць, прастор узняты спевам,
Празрысты рух блакітавых глыбінь.
Ступіць бы сну на халадок пад дрэвам,
Ці целу рынуцца-б на хвалі ўплынь.
Ўлагоджанай вады жывое срэбра
Разбіць, рассыпаць бы на ўзмах рукі...
Вярбы старой тарчаць сукі, як рэбры,
Адбітыя ў люстраным шкле ракі,—
Там вільгаць п'е галля шчарбаты рот,
Там мые дзень свой залаты жывот.
Ён шмат гадоў, што йшлі праз крык тугі
Да першай радасці грымот вясенніх...

Далей гэта адчуванне стромкае ракі, усяго, што звязана з успрыйманнем ракі ў гарачую пару ў Уладзімера Хадыкі па нечаканай, але паэтычна глыбокай асацыяцыі пераходзіць у самыя моцныя строфы ў кнізе, прысвечаныя правадырам большэвізма. Мы іх прыводзім, бадай, поўнасцю:

Няхай жыве, хто край узняў на бітву
З эпохай чорных дзён і горкіх рут.
Няхай жыве, хто ў збродлівую замяць
Быў полымем, што растапляла лёд...
Іх зберажэ давеку наша памяць,
Зямлі адноўленай, адноўлены народ,
У сэрцах нясучы вялікія імёны
Правадыроў сваіх. З імглы будзённай
Сівой мінуўшчыны на голас іх
Ішлі змагацца цвёрдаю ступою—
За ротай рота армій баявых,
І за героямі ішлі героі.
Ім—сонца вечнай славы, іх крыві...
Вадою срэбнай, светлы дзень, плыві.
Няхай гурчыць крутой ракі струмень
Бярэ ён даль нечутнымі нагамі,
Нясе з сабой твой залаты прамень.
Бадзёра гутарачы з берагамі.

Няхай чытач зверне ўвагу, які арганічны тут пераход ад услаўлення, тых хто „быў полымем, што растапляла лёд“ да „вадою срэбнай, светлы дзень, плыві“—пераход нечаканы, але, бадай, што нячутны. У гэтым сапраўдная паэзія:

Ім—сонца вечнай славы, іх крыві...
Вадою срэбнай, светлы дзень, плыві.

Не менш бліскучыя па форме і шчырыя па пачуццю радкі прысвечаны „постацям ахвяр“, якія загінулі за рэволюцыю. Гэтыя радкі ідуць ад Уладзімера Маякоўскага, ад яго слоў пра комунараў, якія ў магіле трывожацца за лёс рэволюцыі, за лёс комуны, што павінна быць дабудавана з „святла і сталі“.

Душа праймецца глыбінёй яскравай—
Жыць будуць у словах постаці ахвяр,
І словы загавораць нашай явай.
Тут кожны рух авеяны навек
Іх слаўным днем і слаўнай барацьбою,
Іх маладосць хадзіла па траве...

І, можа быць пад гэтаю вярбою
Не раз туліў юнак лятунак свой,
Каб потым быць павешаным на ёй.
Боль ліхалецця... Плынь крывавых рэк...
Шумлівага лісця суровыя напевы...
Стаіць на беразе старое дрэва.
Як дум уладар—упарты чалавек.
Як барацьбіт сівы над плёнам былі,
Яно ўзнялося горда над усім,
Што ўпершыню навек мы палюбілі...
І хочацца загаварыць мне з ім
Пра бурны час без хлеба і без сну,
І пра яго і пра маю вясну.

І ў гэтым урыўку размяшчэнне лірычных частак, лірычнага пачуцця арганічнае; тут праз лірычную плынь паэта працякае тая-ж рака, але пры ўспаміне „болі ліхалецця“, „постацяў ахвяр“ гэта „ўжо плынь крывавых рэк“. Апраўданы тут і пераход паэта да інтымнае прамовы пра свае пачуцці к „постацям ахвяр“ і да свае вясны.

У гэтай-жа паэме Уладзімер Хадыка дае ледзь адценены іроніяй, гумарам бытавы малюнак у перапляценні з прыродным.

На росны поплаў мяккі след кладзе
Празрысты вечар. Вецер—гарманіст
Абходзіць круг залатакосых хмарак.
Так круг дзяўчат, калгасніцкіх даярак
Абходзіць часам ўдалы трактарыст.

Вельмі добрая дэталь. А добрая яна асабліва ў вершах Хадыкі да незвычайнасці ачышчаных ад усялякага быту, а добрая яна таму, што параўнанне гарманіста з ветрам адцяняе ўмоўнасць, уяўнасць усяе гэтае карціны. А ўсё гэта разам ёсць сапраўднае адчуванне спецыфічнасці паэзіі, у адрозненне ад прозы, дзе гэтая дэталь магла-б быць у існым, а не ва ўмоўным плане.

Нават зазвычай абстрактныя вершы Хадыкі, прысвечаныя сваім-жа вершам, у гэтай паэме набываюць палітычны змест.

Цікава тое, што жывая плынь ракі, якая праходзіць праз усю паэзію нячутна, прысутнічае і тут. У гэтых радках, ад паэтычнага густу ідзе іронія, якая так адцяняе сур'ёзнасць наступных слоў, бо сапраўды без іроніі ўжо цяжка было-б апраўдаць пісанне зноўку вершаў пра вершы:

Пі, радок,
Пі прагна радасць выбранай паэмы,
І дбайна рэй вядзі за крокам крок.
Я атуліў цябе сваёй турботай,
Аддаў давеку цела і душу.
Хай дзівяцца яшчэ якая цнота,
Што аб табе не першы раз пішу.
Хай булькае даўгіх прамоў вада—
Нам у жыцці ўсё гэта не наўда.
Не за сябе і не за свой куплет,—
Трывожыць нас і дзень і ноч другое:
Знайсці такое слова залатое,
Каб пець народжаны ў змаганні свет,
Каб з новай эраю вітаць зямлю,
Якую сэрцам слаўлю і люблю.

Такія словы пра нашую соцыялістычную радзіму, пра правадыроў рэволюцыі, пра „постаці ахвяр“, пра свае ўласнае месца ў рэволюцыйных буднях,—якія сказаў Уладзімер Хадыка ў паэме „За строем дат і рубрык“ не могуць быць нешчырымі словамі. Таму мы верым, што прышоўшы да такіх радкоў пра нашу рэволюцыю, паэт здабыў сваю другую маладосць.

Як золак летні сонца і бярозкі—
Ўстае мая другая маладосць
Ёсць толькі ёй уласцівыя настроі,
З пражытым часам горды пераклік:
Грыміць мой край—рэволюцыйны воін,
Расце мой край—сусветны будаўнік.

Асноўнай задачай, якая цяпер паўстае перад Уладзімерам Хадыкам—далейшае змаганне за прастату, яснасць, даступнасць народным масам паэзіі—гэта задача цэльнага твору—цэльнага верша, цэльнае паэмы. Цікава, што за выключэннем такіх твораў, як „За строем дат і рубрык“, „Пры святле тваіх усмешак“, у творах паэта багата яркіх строф, мясцін, расчыненых у радках сярэдніх, якія ў творы маглі-б адсутнічаць. Менавіта—асобных паэтычных строф і мясцін, часамі пры агульнай нясталасці ўсяго твору.

І зразумела, чым больш будзе крышталізавацца, умацоўвацца савецкі светапогляд Ул. Хадыкі—тым больш паэт будзе ісці да цэльнага твору, гэтак сама як паэтычная дэкларацыйнасць будзе ўступаць месца перадачы глыбокіх пачуццяў новага соцыялістычнага чалавека, простасці, яснасці.

Мы адрозніваем вельмі добра ў зборніку Хадыкі рэшткі нацыяналізма у ранейшых творах, а таксама мёртвы пафас, мёртвую публіцыстыку, ад пафаса жывога, пафаса савецкага.

Гэты жывы пафас ужо гучыць на ўвесь голас у многіх творах Уладзімера Хадыкі са зборніка „Радасны будзень“.

Такім чынам Уладзімер Хадыка хоць і з вялікім зрывам у мінулым, а таксама некаторымі памылкамі ў сучасным прышоў да пазіцый савецкай літаратуры

Не бачаць гэтага або сляпыя, або тыя, якія знарок хацелі-б штурхаць паэта на старыя шляхі.

# БІБЛІЯГРАФІЯ

## „Байцы“

*Альманах другі „Байцы“*
ДВБ Менск, 1936 г., Сектар ваеннай літаратуры, стар. 57, цана 2 р.

Аб важнасці абароннай літаратуры гаварыць не трэба. Ужо кожнаму зразумела, якое велізарнае выхаваўчае значэнне маюць такія кнігі, як: „У агні“ Барбюса, „Ціхі Дон“ Шолахава. Вялікаю папулярнасцю сярод чытача карыстаюцца „Коннікі“ Яноўскага, „Одиночество“ Вірта. Моладзь, якая не памятае часоў грамадзянскай вайны, вучыцца па гэтых кнігах пазнаваць гераічнае мінулае нашых доблесных барацьбітоў чырвонаармейцаў. Гэтыя кнігі папулярны і любімы таму, што ў іх апісана вялікая праўда, і гэтая праўда падана ў высокіх вобразах канкрэтных людзей.

Перад намі другі альманах „Байцы“, выданы Белдзяржвыдавецтвам. У альманаху побач з маладымі пачынаючымі чырвонаармейскімі пісьменнікамі змешчаны ў перакладзе на рускую мову вершы беларускіх паэтаў—А. Александровіча, П. Броўкі, М. Хведаровіча і інш.

Уключэнне лепшых беларускіх абаронных твораў у альманахі трэба безумоўна вітаць. Аднак пераклады гэтых твораў ніяк задаволіць нас не могуць. Толькі пераклад Галоднага верша „Ноч у разведцы“ А. Александровіча стаіць на сярэднім узроўні. Такія строфы, як:

*Знал Серго секрет не даром,*
*Полк отвел к реке тайком,*
*Цепь врага прорвал ударом,*
*Забросал лихим огнем.*

Альбо:

*Дети сел к нам шли навстречу,*
*Шли навстречу старики,*
*Опускался тихий вечер*
*На усталые полки.*

Перакладзены Галодным добрасумленна з захаваннем арыгінальнай свежасці страфы і гучання рыфмы. Есць і няўдалыя асобныя строфы, у некаторых мясцінах з-за паспешнасці страчана рыфмоўка:

*И в атаку на поляков,*
*На окоп штыками в лоб,*
*Наступали, сталью брали*
*Белорусский перекоп.*

Ёсць няўдалыя метафары і параўнанні, ужытыя перакладчыкам.

Урывак з паэмы „1914“ Броўкі ў перакладзе Шарапава ў некаторых мясцінах траціць сваю мастацкую сілу і гучыць рытарычна і надумана:

*Как щелчок проворный*
*Вспыхнул серной спичкой:*
*— На царя на батюшку*
*Хулу не возводи...*

Слаба зроблены пераклад верша М. Хведаровіча „Гібель камэска Гусарава“. Перакладчык пастараўшыся дасканальна перадаць сэнсавы бок, выпусціў такую важную дэталь як мастацкае гучанне. Дрэнна зроблен пераклад верша Півавара „Смерць камендора“, перакладчык Шарапаў.

*Когда день взорвется,*
*Как динамит*
*И скорчится*
*Словно подпаленный корч.*

Хіба падпалены корч можа скурчыцца? Гэта проста перакладчыка падвяло алітэрацыйнае гучанне. Альбо:

*И орден на сердце,*
*Как пламень,*
*Как жар.*

Цяжка ўявіць сабе сэрца, на якое прывінчаны ордэн. Ордэн з'яўляецца вышэйшай узнагародай СССР і мы тут разумеем і аўтара і перакладчыка. Аднак трэба кіравацца і тым, каб параўнанні і

метафарычнасць не была адцягнутай, а заўсёды адпавядала той праўдзе, якая павінна быць кіруючым стрыжнем у кожным мастацкім творы.

*На потном теле*
*Сорочка промокла,*
*Кровью и ветром*
*Надулись жилы.*

Калі жылы надзьмуцца ветрам чалавек адразу паміpае. У дадзеным прыкладзе наадварот і аўтар і перакладчык мелі на ўвазе паказаць матросаў у дзейнасці, момант высокага напружання энергіі і працы.

Трэба і нада лей перакладаць абаронныя творы беларускіх пісьменнікаў для альманаха. Аднак падшуканне пэўнага штата добрасумленных перакладчыкаў—першая ўмова, якую можна паставіць перад рэдкалегіяй.

З арыгінальных вершаў вызначаецца балада А. Шарапава. Апавядаючы пра геpаічную смерць двух таварышаў Кліма і Яна, аўтар атуляе гэтыя звычайныя факты рамантычнай канцоўкай. Верш напісаны пачуццёва. Аднак нельга не адзначыць, што аўтар мала звяртае ўвагі на мастацка-фармальныя сродкі.

*Идут караулом года патрули,*
*Сменяет зарю—заря.*
*Работал в полеском подпольи Клим,*
*Был польским солдатом Ян.*

Акрамя бяссэнсіцы першага радка аўтар рыфмуе „зара“ з словам „Ян“. Такіх рыфм шмат, яны амаль сустракаюцца ў кожнай страфе.

Верш т. Шапавалава „Ночной полет“ надзвычай слабы. Гэта проста звычайная рыторыка, пазбаўленая паэтычнай мастацкай сілы. Куды лепей Шапавалаву ўдаецца празаічная творчасць. Урывак з аповесці „Большэвікі граніцы“, які надрукованы ў гэтым альманаху, чытаецца з вялікай цікавасцю.

Цікавы верш „Дорога“ Сцяпана Хадыкі. Аднак трэба адзначыць надуманасць некаторых радкоў, няведанне матэрыялу:

*Путь дорогу окружают лозы*
*Зол и дерзок посвист ветровой,*
*Провожают хмурые березы*
*По Владимирке шагающий конвой.*

Мусіць рэч ідзе пра дарогу бальшак, абапал якой стаяць бярозы. Лозы растуць ля рэчак і на балоце. Якім-жа чынам яны могуць расці ды яшчэ абкружаць шлях, па якім ідзе канвой? Тут-жа, аўтар кажа, таксама раслі і кедры:

*Ветер дул медовый, росный*
*Кедры многолетние качал...*

Вось так аўтар з усяго пакрысе іншы раз гародзіць вершаваную страфу.

Два вершы Дудзіна „Ночной поход“ і „Рябина“ звяртаюць на сябе ўвагу асобнымі ўдалымі радкамі:

*Пляшут кони по дороге*
*Черной ночи вороней.*
*(„Ночной поход“)*

Альбо:

*Когда рябиновыми красками*
*На каске звездочка цветет.*
*(„Рябина“).*

Аднак яшчэ адчуваецца ў аўтара слабая паэтычная культура. Большасць параўнанняў, метафар дзесьці падслуханых і прачытаных з паэтычных зборнікаў. Дадаўшы яшчэ адну загану, што па свайму зместу вершы мала арыгінальныя, трэба зрабіць такі вывад, што аўтару трэба больш працаваць над павышэннем свайго культурнага ўзроўня, каб змагчы стварыць хвалюючыя радкі. А ўсе магчымасці для гэтага ў аўтара ў наяўнасці.

Невядома як у альманах трапіў такі слабы верш, як „В отпуску“ Сейнава. Дапамагаць пачынаючаму аўтару ствараць сапраўды высокамастацкія творы—гэта вядома таксама задача альманаха.

Аднак верш „В отпуску“ не заслугоўвае ніякай крытыкі. Мусіць рэдкалегія скарачала гэты твор, бо невядома чаму ў некалькіх мясцах сустракаюцца як сэнсавыя, так і рытмічныя правалы. Прывядзем дзве чарговыя страфы з гэтага верша:

*Шопот ветра ловить учись,*
*Без труда его можно понять.*
*И тогда про любую жизнь*
*Ты сумеешь стихи написать.*

І далей:

*Застала ночь в дороге*
*Манил на отдых лес,*
*А отдых многим, многим*
*Был нужен, позарез.*

Хіба можна, каб у абаронным альманаху змяшчалася такая прымітыўная пісаніна, якая нічога не дае ні розуму, ні сэрцу.

Трэба сказаць, што і празаічныя творы не вызначаюцца паказам глыбокіх пера-

жыванняў пэўных людзей. За выключэннем урыўка з аповесці І. Шапавалава, навелы Глазырына і Садоўскага вельмі маіўныя па свайму зместу і прымітыўныя па свайму мастацкаму імкненню. „Сакрэт пана Тадэуша" Вл. Глазырына напісаны пад уплывам творчасці Шолам Алейхема. Другая навела „Паэма о дружбе" напісана зусім у другім стылі— стылі „Коннікаў" Яноўскага. Такая рознастайнасць стыляў і ўплываў кажа аб тым, што пісьменнік яшчэ не валодае самастойнай творчасцю. А такія абзацы, як:

„*Время шло. Шло время и молчание насупленное раздражало людзей*". „*По тревоге, внезапно, еще вечеринка не окончилась, из деревни снялись*". „*Волжанин был самолюбив, а Камский парень— шутлив, с юмором*". „*А по зелено-защитному полю рубахи суконной красноармейской — разливалось возле пряжки металлической пятно темнокрасное*" кажуць аб малай літаратурнай культуры і несур'ёзных адносінах аўтара да свае творчасці.

Апавяданне „Дело Несвижа" Е. Садоўскага надзвычай схематычнае. Паводзіны галоўных герояў Скорба і Несвіжа малаапраўданы. Характэрным у гэтых адносінах будзе ўказаць на „девушку в шелковой блузке", аб якой нічога больш у апавяданні і не сказана, хаця яна некалькі разоў упамінаецца ў апавяданні. Што-ж будзе, калі гэтая дзяўчына перадзене блузку? Тады яна знікне з апавядання, як штучная прыфастрыгованая асоба, да пэўнага дыялага. Ўражанне такое, што альманах „Байцы"—гэта зборнік пачынаючых пісьменнікаў, якія пішуць на ваенную тэму. Калі і так падыходзіць да гэтага зборніка, дык мы павінны ў сувязі з гэтым ставіць цэлы шэраг практычных патрабаванняў.

Аднак мы бачым адваротнае. Альманах выдаецца абароннай секцыяй пісьменнікаў і пратэндуе на носьбіта мастацкай літаратуры абароннага характару. Калі гэта так, дык мы чакаем ад наступнага нумара такіх твораў, якія-б па праву маглі насіць высокую назву—абароннай літаратуры.

*С.С—к*

# ХРОНІКА

## ЛІТАРАТУРНАЕ ЖЫЦЦЁ Ў БССР

☐ Праўленне ССПБ абмяркавала пытанне аб удзеле беларускіх пісьменнікаў у альманаху „Дзве пяцігодкі“, які выпускае рэдакцыя „Праўды“ да XX гадавіны вялікай пролетарскай рэволюцыі.

На паседжанні праўлення т. Галавач падзяліўся з прысутнічаючымі зместам сваёй новай аповесці „Носьбіты нянавісці“.

У гэтай аповесці на матэрыяле аб трагічнай пагібелі 14 партызан, якія выконвалі заданне падпольнага бальшэвіцкага камітэта, пісьменнік малюе гераічныя ўчынкі партызан у перыяд белапольскай акупацыі.

Вырашана таксама падрыхтаваць фальклорны матэрыял для тома „Двух пяцігодак“—„Творчасць народаў СССР“.

Падрыхтована да друку кніга аб советскай Грузіі. Яна з'явілася вынікам паездкі брыгады беларускіх пісьменнікаў Э. Самуйлёнка, М. Хведаровіча, В. Вольскага, Кавальскага, Б. Мікуліча на радзіму вялікага Сталіна—Совецкую Грузію.

Другая кніга „Пагранічнікі“—раскажа чытачу аб гераічных учынках нашых доблесных байцоў, якія ахоўваюць рубяжы нашай радзімы.

☐ **Беларускія пісьменнікі працуюць над зборнікам па гісторыі грамадзянскай вайны на тэрыторыі Беларусі.** На адным з паседжанняў праўлення тав. Лынькоў расказаў аб тым, як ідзе работа па напісанню гісторыі грамадзянскай вайны. Над гэтым матэрыялам працуюць пісьменнікі: Кузьма Чорны, Змітрок Бядуля, Хв. Шынклер, Барыс Мікуліч, Макар Паслядовіч, Міхась Лынькоў і інш.

☐ **Пушкін і Міцкевіч.** Цішка Гартны рыхтуе вялікую работу аб дружбе двух вялікіх паэтаў Пушкіна і Міцкевіча.

У гэтай рабоце прыводзіцца цікавы факт аб тым, як рэагаваў Міцкевіч на смерць Пушкіна.

Міцкевіч паслаў Дантэсу выклік на дуэль,—Дантэс ухіліўся. У сваёй працы Цішка Гартны выкрывае шавіністычныя ўстаноўкі польскіх даследчыкаў, якія ўсяляк скажаюць факты аб дружбе двух паэтаў. Частка гэтай работы надрукавана ў газеце „ЛІМ“.

☐ **Выстаўка творчасці А. С. Пушкіна.** Урадавы беларускі пушкінскі камітэт вырашыў арганізаваць у Менску пры дзяржаўнай бібліятэцы імя Леніна рэспубліканскую выстаўку творчасці А. С. Пушкіна.

Выстаўка твораў А. С. Пушкіна будзе таксама адчынена пры гарадскіх бібліятэках у Магілеве, Віцебску, Гомелі і Бабруйску.

Акрамя таго будуць працаваць чатыры перасовачныя выстаўкі па калгасах і соўгасах рэспублікі.

## У БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ

**Кузьма Чорны** закончыў раман „Люба Лук'янская“. Зараз пісьменнік працуе над матэрыялам па гісторыі грамадзянскай вайны.

**Андрэй Александровіч**—выдае зборнік вершаў і паэм за перыяд 1933—36 г. г. Зараз тав. Александровіч працуе над паэмай „Салавей“. Выходзіць з друку зборнік вершаў Александровіча ў перакладзе на рускую мову ў Маскоўскім выдавецтве ГІХЛ.

**Янка Купала**—складае аднатомнік, у які ўвойдуць новыя вершы паэта. Аднатомнік выйдзе ў Дзяржлітвыдавецтве СССР на рускай мове. Зараз Янка Купала працуе над шэрагам лірычных вершаў пра Чырвоную армію і перакладае „Медный всадник“ Пушкіна.

**Эдуард Самуйлёнак**—канчае раман, які напісаны на матэрыялах з паездкі ў Грузію. Раман называецца „Будучыня“.

**Мікола Хведаровіч**—выдае зборнік вершаў „Усім сэрцам“. Зараз працуе над паэмай аб стракапытаўскім паўстанні. Паэма будзе наывацца „Стракапытаўшчына“, таксама перакладае „Кавказский пленник“ Пушкіна.

**Аркадзь Куляшоў**—здаў у друк паэму „Людзі прагнуць“. Зараз працуе над перакладам паэмы Пушкіна „Цыгане“.

**Алесь Дудар**—падрыхтаваў да друку зборнік вершаў „Палесскае лета“ і перакладае паэму Пушкіна „Еўгеній Онегін“.

**Тодар Кляшторны**—выдае зборнік вершаў „Песні пачуццяў“, здаў у друк зборнік „Выбраныя вершы“. Закончыў пераклад паэмы Пушкіна „Каменны госць“. Працуе над перакладам другой паэмы Пушкіна „Скупой рыцарь“.

**Сяргей Знаёмы**—скончыў першую частку аповесці „Безбацькавіч“. Зараз працуе над II часткай гэтай аповесці.

**Васіль Сташэўскі**—закончыў п‘есу „Мікола Гоман“, якую ставіць смаленскі рускі тэатр. Гэтая-ж п‘еса ў хуткім часе будзе пастаўлена Беларускім Дзяржаўным III тэатрам.

## ІСПАНСКІЯ ПІСЬМЕННІКІ НА РУСКАЙ МОВЕ

☐ Дзяржлітвыдат, пачынаючы з 1932 года выпусціў усяго 10 кніг іспанскіх пісьменнікаў: „Вольфрам“ Сесар Вальехо, „Крестьяне“ Хоакін Ардэрнуса, „Донья Перфекта“ Беніто Перэс Гальдос, „Бедняки против богачей“ Сесар Арконада, „Испанские крестьяне“—вершы Рафаэля Альберці, „Арена Иберийского цирка“ Валье Інклана і тры кнігі Рамон Х. Сендэра: „Магнит“, „Семь красных воскресений“ і „Общественный порядок“.

Зараз Дзяржлітвыдат рыхтуе да друку новую кнігу Сендэра—„Мистер Уитт“ і нядаўна вышаўшую ў валенсійскім выдавецтве „Вердад“ аповесць іспанскага рэвалюцыйнага пісьменніка Вальдэса „Астурия“.

„Астурия“—гэта апавяданне пра перажытае ў час кастрычніцкага паўстання гарнякоў у Іспаніі.

Кніга гэта ўваскрашае дзесяткі і сотні вобразаў герояў, якія змагаліся за справу рэвалюцыі. Вядучы персанаж аповесці—комуніст Рыос.

## НЯМЕЦКІЯ РЭВОЛЮЦЫЙНЫЯ ПІСЬМЕННІКІ Ў МАСКВЕ

☐ Нямецкі рэволюцыйны пісьменнік Густаў Рэглер, які быў нашым госцем на першым усесаюзным з‘ездзе совецкіх пісьменнікаў, зноў прыехаў у СССР.

Гэтыя два гады ён правёў у Парыжы ў напружанай творчай рабоце. Нядаўна ён закончыў вялікі гістарычны раман—„Сев“. Тэма рамана—сялянскія паўстанні ў Эльзасе, у царстваванне Максіміліана (1495—1501 гг.).

Раман Густава Рэглера „Сев“ перакладаецца на рускую і французскую мовы. У нас ён будзе выдадзен Жургазаб‘яднаннем у серыі „Всемирная библиотека“. На французскай мове раман выйдзе ў Парыжы.

☐ 7 жніўня ў Маскву прыехаў з Парыжа нямецкі літаратар-эмігрант Альфрэд Кантаровіч.

А. Кантаровіч эмігрыраваў у 1933 годзе з Германіі у Парыж, дзе ён стаў адным з заснавальнікаў і сакратаром „Таварыства нямецкіх літаратараў“.

Ён з‘яўляецца таксама генеральным сакратаром „Нямецкай свабоднай бібліятэкі“ і адным з сакратароў нямецкай секцыі міжнароднай асацыяцыі пісьменнікаў і артыстаў у абарону культуры.

У гэтых трох арганізацыях згуртавана ўсё культурнае жыццё немцаў-эмігрантаў.

Таварыства нямецкіх літаратараў мае свае секцыі ў Бельгіі, Скандынавіі, Швейцарыі, Чэхаславакіі. Звыш 200 нямецкіх пісьменнікаў-эмігрантаў, якія жывуць у розных краінах, з‘яўляюцца членамі гэтага таварыства, сярод іх—вядомыя пісьменнікі: Генрых Манн, Берт Брэхт, Ліон Фейхтвангер, Оскар Марыя Граф, Эрнест Толлер, Анна Зегерс, Клаус Манн, Густаў Рэглер і інш.

У невялікім памяшканні на бульвары Араго, у Парыжы, знаходзіцца „Нямецкая свабодная бібліятэка“. Гэта бібліятэка „спаленых“ у Берліне кніг, узнікла ў Парыжы 10 мая 1934 г. Чытачамі яе з‘яўляюцца ўсе нямецкія эмігранты—рабочыя і інтэлігенты. Багаты архіў фашысцкіх і антыфашысцкіх дакументаў складаюць галоўнейшае багацце бібліятэкі.

На яе кніжных паліцах сабрана асноўная навукова-марксісцкая і мастацкая антыфашысцкая літаратура. Побач з кнігамі лепшых нямецкіх пісьменнікаў стаяць кнігі М. Горкага, А. Талстога, М. Шолахава, І. Бабеля, І. Эрэнбурга і шмат іншых совецкіх пісьменнікаў.

## УКРАІНСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ ХРОНІКА

☐ Украінскі дзяржлітвыдат разгарнуў вялікую работу па выпуску кніг сучасных украінскіх, рускіх совецкіх і замежных пісьменнікаў, класікаў украінскай, рускай і сусветнай літаратуры, а таксама сучаснай і класічнай літаратуры братніх народаў СССР.

Асаблівую ўвагу ўдзеляе выдавецтва выданню на украінскай мове твораў геніяльнага майстра мастацкага слова А. М. Горкага.

Дзяржлітвыдат выдае поўны збор твораў вядомага грузінскага класіка Нікалая Бараташвілі (1816—1845) у перакладах на украінскую мову паэта Івана Кулыка.

Друкуюцца пераклады раманаў Л. Талстога „Вайна і мір" і „Анна Карэніна". Выйшлі „Севастопальскія расказы" Л. Талстога.

Шмат зварачваецца ўвагі перакладам Тургенева. Амаль усе яго творы перакладзены на украінскую мову.

Нядаўна вышлі з друку аднатомнікі Чэхава, Гогаля і п'есы Астроўскага.

З рускіх сучасных пісьменнікаў выйшлі на украінскай мове: другая кніга „Похищение Европы" К. Федзіна, „Иностранный легион" В. Фінка, раман Івана Шухава „Бацькаўшчына". У друку—том баек і вершаў Дзем'яна Беднага ў перакладзе Н. Тэрэшчанкі.

Дзяржлітвыдат Украіны падрыхтаваў для друку серыю аднатомніка лепшых совецкіх пісьменнікаў Украіны. Друкуецца зборнік выбраных вершаў Міколы Бажана і зборнік вершаў М. Рыльскага „Лета".

Вышлі з друку зборнікі маладых паэтаў Украіны Фаміна, Гардзеева.

Дзяржлітвыдат СССР выпускае раман І. Кірыленка „Аванпосты".

☐ **Першае выданне „Кабзара".** Антыкварна-букіністкі магазін Краснадарскага аддзялення кнігацэнтра набыў першае рэдкае выданне „Кабзара"—Тараса Грыгоравіча Шаўчэнкі. Кніга выдана ў Пецербурзе ў 1840 г., дзякуючы дапамозе мастака Брулева, паэта В. А. Жукоўскага і іншых перадавых людзей таго часу ў друкарні Е. Фішэра.

Царская цэнзура, настроеная яўна супроць рэволюцыйных твораў геніяльнага украінскага паэта, усе творы, якія змешчаны ў гэтай кнізе („Кабзар"), злосна скраціла. У „Кабзары" надрукованы лепшыя творы паэта „Думы мае, думы мае!", „Перебендзя", „Кацярына", „Тополя", „Думка", „До Основененька", „Іван Підкова" і „Тарасова ніч".

☐ **Аўтографы Івана Франка у бібліятэцы Акадэміі навук УССР.** Бібліятэка Акадэміі навук СССР у сваім аддзеле мае невялічкую, але каштоўную калекцыю твораў Франка, пісаных яго уласнай рукою (аўтографаў). На сёнешні дзень гэтая калекцыя налічвае 39 асобных нумароў і складаецца з навуковых літаратурна-крытычных артыкулаў і мастацкіх твораў, пісаных вершам і прозаю.

З мастацкае прозы маецца толькі адно апавяданне „Гава"—з жыцця прыкарпацкага народу, надрукованае ў часопісу „Киеўская старына" ў 1888 г.

Аўтографаў паэзіі Франка ў калекцыі бібліятэкі Акадэміі навук знаходзіцца да 30, тут ён прадстаўлены выключна як паэт-перакладчык еўрапейскіх класікаў XV—XIX ст.—Лесінга, Гетэ, Віктара Гюго.

Значная частка гэтых аўтографаў да гэтага часу нідзе не апублікавана.

☐ **Зборнік выбраных вершаў буйнейшага паэта Совецкай Арменіі Эгішэ Чарэнца выходзіць у Дзяржлітвыдавецтве.**

„Выбраныя вершы"—першая кніга паэтычных твораў Чарэнца на рускай мове. Яна ахапляе больш, чым дваццацігадовы перыяд творчай работы паэта.

Пераклад зроблены Барысам Пастэрнакам, П. Антакольскім, А. Ахматавай, Б. Кузьміным і інш.

☐ **Песні Саят-Новы.** Прафесар Ачаран расшыфраваў шэсцьдзесят цюркскіх песень Саят-Новы, якія да гэтага часу немагчыма было прачытаць (напісаны яны армянскімі літарамі на цюркскія словы). Праф. Ачаранам песні гэтыя перакладзены на новы цюркскі алфавіт (латынскі) і перакладзены на армянскую мову. Пераклад цюркскіх песень у вершах на армянскую мову даручан паэту Гегаму Сар'яму.

Цюркскія песні (таксама як армянскія і грузінскія) Саят-Новы увойдуць у акадэмічнае выданне песень, якое падрыхтоўваецца Дзяржлітвыдавецтвам да друку.

☐ **У ліпені месяцы ў Татарыю выехала тэрмінам на тры месяцы брыгада узбекскіх пісьменнікаў у складзе Гафур Гуляма, Шакіра Сулеймана, Маджыджы, Абдулаева, Амін-Умары.**

Пісьменнікі напішуць вялікую кнігу аб новай соцыялістычнай Татарыі, у якой пакажуць поспехі ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі. Кніга выйдзе на татарскай, узбекскай і рускай мовах.

З такім-жа заданнем у пачатку верасня ў Узбекістан прыедзе брыгада татарскіх пісьменнікаў, якая напіша кнігу аб Узбекістане. Праўленне саюза совецкіх пісьменнікаў СССР арганізавала падобныя брыгады па ўсіх рэспубліках.

☐ **„Песні аб тайзе".** Студэнт ленінградскага інстытута народаў Поўначы эвенк з Індзігіркі тав. Тарабукін напісаў кнігу вершаў „Песні аб тайзе". Свае вершы паэт прысвяціў памяці Алексея Максімавіча Горкага. Кніга выпускаецца на эвенкейскай мове ленінградскім аддзяленнем выдавецтва „Мастацкая літаратура".

□ **„Сто паэтаў Азербайджана“.** Так называецца літаратурна-мастацкі зборнік, які надрыхтоўваецца да друку літаратуразнаўцам Салманам Мумтазам. Зборнік ахапляе перыяд з XIV стагоддзя да Кастрычніка і змяшчае паэтычны матэрыял ста пісьменнікаў, іх біяграфіі і партрэты.

Выпускаецца зборнік Дзяржлітвыдатам Азербайджана.

□ **Альманах Калмыцкай літаратуры.** Саюз пісьменнікаў Калмыцкай рэспублікі рыхтуе да XX гадавіны Кастрычніка альманах калмыцкай мастацкай літаратуры на калмыцкай і рускай мовах. Для рэдагавання альманаха створана група ў складзе т. т. Мацакова (старшыня), пісьменнікаў Басангола, Джымбінова, Манжэнова і Інджыева.

Выданне альманаха на рускай мове ўзяў на сябе Дзяржлітвыдат.

□ **Грузінскія пісьменнікі на французскай мове.** Перад тым, як пакінуць межы Грузіі, Андрэ Жыд доўга гутарыў у Сухуме з суправаджаўшымі яго грузінскімі совецкімі пісьменнікамі—Тіцыанам Табідзе, К. Лордкіпанідзе і Д. Дэметрадзе. Гутарка датычылася выдання выбраных твораў грузінскіх пісьменнікаў на французскай мове.

— Усё тое, што я чуў у Маскве пра грузінскую паэзію і з чым я паспеў пазнаёміцца ў часе майго прабывання ў Грузіі, прыводзіць мяне да думкі пра неабходнасць паставіць добра справу выдання грузінскіх пісьменнікаў у Парыжы. Пра гэта я буду гаварыць з сваімі сябрамі і з выдавецтвамі.

Саюз совецкіх пісьменнікаў Грузіі паабяцаў Андрэ Жыду скласці спіс твораў грузінскай класічнай і сучаснай літаратуры, якія было-б пажадана перакласці на французскую мову.

Для французскага выдання грузінскіх аўтараў Андрэ Жыд напіша прадмову і сам перакладзе некалькі вершаў і празаічных твораў.

Андрэ Жыда вельмі зацікавіла паведамленне грузінскіх пісьменнікаў пра французскі празаічны пераклад бяссмяротнай паэмы Руставелі—„Носящий тигровую шкуру“, які зрабіў у свой час нябожчык акадэмік М. Бросее і які знайшлі нядаўна ў яго архіве. Французскі пісьменнік прасіў сваіх грузінскіх таварышаў пераслаць яму копію пасля таго, як пераклад будзе зверан у Камітэце Руставелі.

□ **Вялікі рэволюцыйны французскі пісьменнік Андрэ Жыд зрабіў вялікую паездку па Закаўказзю і Крыму.** Андрэ Жыд з сваімі спадарожнікамі французскім пісьменнікам П'ер Эрбарам і Жэфа Ластам азнаёміліся з г. Тіфлісам. Андрэ Жыда і яго спадарожнікаў суправаджалі грузінскія пісьменнікі Тіцыян Табідзе, К. Лордкіпанідзе і інш. Усюды, дзе прыязджаў вялікі рэволюцыйны пісьменнік працоўныя масы Закаўказзя выказвалі да яго вялікую любоў і пашану. Яны прыпадносілі кветкі, запрашалі наведаць іх калгасы і прадпрыемствы.

Андрэ Жыд таксама наведаў Ялту, Севастопаль, Сімферопаль і шэраг іншых гарадоў Крыма.

Развітваючыся перад ад'ездам тав. Андрэ Жыд пераслаў пісьмо сакратару ЦК Закаўказзя Л. Берыя, у якім ён піша:

„Кажучы аб прыгажосці Грузіі, я назваў яе прыгажосць абяцаннем шчасця. Быць можа ў ніякай другой краіне, сярод тых, якія я ведаю ў свеце, шчасце не здаецца больш блізкім, больш улавімым, ніж ў гэтай краіне“. Сваё пісьмо ён канчае наступнымі славамі:

„Нажаль я пакідаю гэтую цудоўную краіну, цёплы прыём гаспадароў, які мне аказалі ў Грузіі і суправаджаўшым мяне на працягу самай прыгожай часткі майго падарожжа, здаваўся чалавечым выразам прыгажосці і велічча краіны“.

□ **Калгаснікі чытаюць напамяць паэму Шота Руставелі.** Калгаснікі і працоўныя Лагадзкага раёна ўзмоцнена рыхтуюцца да святкавання 750-ці годдзя з дня нараджэння Шота Руставелі.

Пры раённай газеце „Борьба за табаководство“ пад старшынствам тав. Эмедадзе створан камітэт па вывучэнню бяссмяротнай паэмы геніяльнага паэта. Такія-ж камітэты створаны ў буйных калгасах: імя Тэльмана, „X з'езд ВЛКСМ“, „Оцнябр“, „Шлях Сталіна“ і інш. У чытальнях і бібліятэках большасці калгасаў маюцца па 2—3 экземпляры паэмы Руставелі „Вепхвіс Ткаосані“. У палявых брыгадах вылучана 270 чтецоў—слухачоў літгурткоў, якія рэгулярна праводзяць чытку паэмы ў часе адпачынку.

На занятках літаратурных гурткоў многія слухачы-калгаснікі выступаюць і напамяць чытаюць асобныя главы паэмы.

□ **Выбраныя вершы Т. Табідзе** выходзяць на рускай мове ў Маскве. Пераклады вершаў зроблены паэтамі: Барысам Пастэрнакам, Н. Тіханавым, П. Антакольскім, С. Спаскім і Б. Бойкам.

□ **Бурат-мангольскія пісьменнікі ў Маскве.**—тт. Хоца Намсараеў, Дамбіноў (Салбонэ Туя), Дамба Дашынімаеў і Бато Базарон былі прыняты 16 жніўня нам. заг. аддзелам культурна-асветнай работы ЦК ВКП(б) т. Ангаравым. У часе сяброўскай гутаркі, у якой прынялі ўдзел т. Жэзлаў, Кірпоцін, Гарадзінскі,

Тамаркін і Стаўскі, пісьменнікі Бурат-Манголіі расказалі пра сваю творчую работу.

Тав. Ангараў падрабязна спыніўся на задачах, якія стаяць перад пісьменнікамі Бурат-Манголіі і абяцаў аказваць ім дапамогу.

У той-жа дзень пісьменнікі Бурат-Манголіі наведалі праўленне саюза совецкіх пісьменнікаў СССР, дзе сустрэліся з тт. Стаўскім, Караваевай, Карнійчукам і інш. пісьменнікамі.

☐ **У маскоўскай арганізацыі ССП.** У дні суда над трацкісцка-зіноўеўскай бандай совецкая пісьменніцкая грамадскасць разам з усім народам нашай вялікай краіны выказала сваё абурэнне да фашысцкіх забойцаў і патрабавала іх расстрэла. А калі быў вынесен прыгавар, прэзідыум саюза совецкіх пісьменнікаў у сваёй рэзалюцыі адзначыў:

— рашэнне суда—ёсць наша рашэнне. Яно выражае непрымірымую цвёрдасць працоўных мас Совецкага Саюза ачысціць ад рэшткаў фашысцкай нечысці нашу партыю і краіну...

Вядома, што адзін з расстрэляных фашысцкіх бандытаў Пікель быў членам саюза совецкіх пісьменнікаў і нават атрымаў творчую камандыроўку на Шпіцберген, упаўнаважаным нова-сібірскага аддзялення літфонда быў трацкіст Вегман, які ператварыў мясцовы літфонд у харчавальны пункт для сваіх злачынных аднадумцаў.

У маскоўскай пісьменніцкай партыйнай арганізацыі выкрыты зброяносцы трацкісцка-зіноўеўскай банды—Г. Серабракова, Грудская, Тарасаў - Радзіонаў, Селіванаўскі, Трошчанка і інш.

Усе гэтыя трацкісцка-зіноўеўскія бандыцкія падпявалы выключаны з партыі і членаў Саюза совецкіх пісьменнікаў.

☐ **Абароннай секцыяй ССП СССР падрыхтован да друку альманах чырвонаармейскай творчасці.** У яго ўвайшлі лепшыя творы—вершы, апавяданні—маладых аўтараў, якія адлюстроўваюць жыццё Чырвонай арміі.

Закончана работа над калектыўнай кнігай „Очаг Буденного"—так называецца калгас станіцы Платаўскай. У кнізе паказаны годы грамадзянскай вайны і сёнешняе жыццё станіцы.

☐ **А. Н. Талстой перапрацоўвае для цэнтральнага дзіцячага тэатра сваю аповесць „Залаты ключык".** Адначасова пісьменнік разам з паэтам Вс. Раждзественскім робіць новае лібрэта для оперы чэхаславацкага кампазітара Сметана „Проданая нявеста".

☐ **15-гадовая гадавіна смерці А. Блока.** 7-га жніўня ленінградская грамадскасць адзначыла 15-гадавіну з дня смерці А. Блока. Ленінградскі радыёкамітэт арганізаваў чытку па радыё паэм Блока „Двенадцать" і „Возмездие". У клубах адбыліся вечары, прысвечаныя памяці паэта. На сцяне дома, дзе жыў і памёр А. Блок, прыбіта мемарыяльная дошка. Выдавецтва „Совецкі пісьменнік" заканчвае выпуск поўнага 12-ці томнага збору твораў А. Блока. У Дзяржлітвыдаце выходзіць том выбраных твораў паэта і яго перапіска.

☐ **Пісьма А. Н. Остроўскага.** Заслужаны дзеяч навукі прафесар-ордэнаносец М. А. Матэлен, які блізка ведаў вядомага драматурга А. Н. Остроўскага паведаміў:

— Пасля смерці А. Н. Остроўскага ўсе яго паперы былі перададзены ў існаваўшы тады ў Маскве Румянцаўскі музей. Затым некаторыя паперы былі перададзены ў Акадэмію навук, а таксама, наколькі я памятаю, у Бахрушынскі музей. Нарэшце, яшчэ нядаўна я перадаў В. Д. Бонч-Бруевічу для Літаратурнага музея некалькі рукапісаў Александра Нікалаевіча, звязаных з яго паездкай па Волзе і іншыя.

Зараз мне ўдалося адшукаць у сябе некалькі невялікіх рукапісаў, напісаных самім Александрам Нікалаевічам, і напісаных для яго, якія датычацца работы, якою ён цікавіўся ўсё жыццё. Я гавару пра работу па збору народных пагаворак, казак, а таксама асобных слоў і выразаў. Я спадзяюся, што ў бліжэйшы час прыведу гэтыя рукапісі ў парадак і перадам іх у літаратурны фонд Остроўскага. Мне ўдалося знайсці таксама некалькі чарнавых запісак Остроўскага пра народныя тэатры. Гэтыя чарнавікі маюць вялікую цікавасць.

---

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР *М. ЛЫНЬКОЎ.*
РЭДКАЛЕГІЯ: *А. Александровіч, Я. Бранштэйн, М. Клімковіч, Я. Колас, Я. Купала, М. Лынькоў, І. Харык, К. Чорны*
АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Совецкая, 68, Дом Пісьменніка. Тэлефон 25-394.**

с.8.

## ЗМЕСТ

*Стар.*



417

